# ПОЛЫМЯ
# РЭВОЛЮЦЫІ








## 26 ЧЭРВЕНЯ

## УСЕ НА ВЫБАРЫ

у Вярхоўны Совет Беларускай ССР!

6

1 9 3 8



# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА
СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР





*КНІГА ШОСТАЯ*







МЕНСК—1938

# РАДАСЦЬ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Радасная вестка з хуткасцю маланкі абляцела Совецкую Беларусь і ўскалыхнула яе ад краю і да краю. Вялікі правадыр народаў Совецкага Саюза, вялікі друг, бацька і настаўнік беларускага народа Іосіф Вісарыёнавіч Сталін даў сваю згоду балатыравацца ў Вярхоўны Совет БССР. Разам з ім далі згоду слаўныя саратнікі і верныя вучні яго: Клімент Ефрэмавіч Варашылаў, Міхаіл Іванавіч Калінін, Вячэслаў Міхайлавіч Молатаў, Нікалай Іванавіч Ежоў, Лазар Майсеевіч Кагановіч, Анастас Іванавіч Мікаян, Андрэй Александравіч Жданаў, Андрэй Андрэевіч Андрэеў. Усе гэтыя імёны, блізкія і родныя кожнаму народу Совецкага Саюза—былі ўвесь час на вуснах рабочых і сялян Беларусі. Шматтысячныя мітынгі на заводах і ў вёсках называлі іх у ліку першых пры вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты нашага першага соцыялістычнага парламента. У радасным напружанні чакаў беларускі народ згоды правадыроў партыі і саюзнага ўрада на шматлікія рэзалюцыі сходаў, мітынгаў і акруговых нарад па выбарах і яго чаканне завяршылася гэтай згодай, выклікаўшы небывалы ўздым энтузіязма і лікавання. Ад буйнейшых гігантаў заводаў, пабудованых двума сталінскімі пяцігодкамі, да самай далёкай палескай вёскі бязмежна ўзрадаваўся беларускі народ за аказаную яму чэсць і довер'е. І першая думка, якая нарадзілася і замацавалася назаўсёды ў душы кожнага працоўнага—быць дастойным гэтай вялікай чэсці і вялікага давер'я, быць дастойнымі сваіх вялікіх абраннікаў—першых дэпутатаў Вярхоўнага Совета БССР.

Імя таварыша Сталіна—непарыўна звязана з гісторыяй барацьбы беларускага народа за сваё нацыянальнае і соцыяльнае вызваленне. Разам з таварышам Леніным таварыш Сталін яшчэ задоўга да рэволюцыі граміў нацыяналістычныя арганізацыі і плыні, якія імкнуліся раз'яднаць нацыянальныя атрады працоўных, каб па аднаму выдаваць іх на расправу царызму, на звярыную эксплаатацыю капіталістам. З першых дзён прадкастрычніцкай рэволюцыйнай буры таварыш Сталін разам з Леніным пасылае ў Беларусь лепшых сыноў партыі, каб дапамагчы беларускаму народу разам з усімі народамі былой Расіі не толькі скінуць рэшткі ненавіснага царызма і панаванне рускай буржуазіі, але і не папасці ў клешчы сваёй уласнай буржуазіі і контррэволюцыйнага кулацтва, не пайсці за абманным флагам нацдэмаўскай контррэволюцыі. Утвараючы маладую дзяржаўнасць народаў, якія, як і беларускі народ, не мелі сваёй дзяржаўнасці ніколі, таварыш Сталін цвёрдай рукой накіроўвае яе ў русло совецкай дзяржаўнасці, у русло Саюза братніх совецкіх рэспублік, у русло ўзброенай барацьбы за сваю незалежнасць ад суседніх і не суседніх капіталістычных акул.

Калі адна з гэтых акул—белапанская Польшча, нацкаваная цэлай зграяй акул большага маштаба, паткнулася на Беларусь, каб захапіць і праглынуць яе, таварыш Сталін асабіста арганізаваў знішчальны адпор ворагу і ажыццявіў гэты адпор. З таго часу Совецкая Баларусь заўсёды адчувала ўвагу і клопаты Іосіфа Вісарыёнавіча. Калі патрэбна была дапамога калгаснікам Беларусі, калі патрэбна было абарваць наглыя дамаганні зараўшыхся нацыяналістаў, забяспечыць росквіт нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу беларускай культуры, калі патрэбна было сталёвай мятлой вымесці з нашай свяшчэннай зямлі нацыянал-фашысцкую і трацкісцка-бухарынскую погань—таварыш Сталін заўсёды быў на варце нашага народа і прыходзіў яму на дапамогу. Як горны арол аглядаў ён нашу радзіму, зоркім вокам сваім бачыў кожную небяспеку, і ў патрэбную хвіліну прыходзіў на дапамогу.

Беларускі народ усёй душой і думкамі сваімі ўпаўнаважвае выбаршчыкаў Прамысловай акругі гор. Менска аднагалосна абраць таварыша Сталіна ў Вярхоўны Совет, бо ён бачыць у таварышу Сталіне нязломную волю сваёй роднай партыі большэвікоў, яе розум, яе бязмежную любоў да ўсіх, хто быў прыгнечаным і зняволеным.

Беларускі народ з вялікай радасцю галасуе за бліжэйшых саратнікаў таварыша Сталіна—за членаў ленінскага палітбюро ЦК ВКП(б). З беларускім народам таварыша Варашылава зрадніла і здружыла наша агульная работа па абароне краіны. Таварыш Варашылаў—часты госць беларускай зямлі, разам з беларускім народам ён замацоўвае яе непарушнасць, ствараючы непрыступную крэпасць на ўсёй працяжнасці нашых заходніх граніц. Так, як калісь ён магутным ударам па белапаляках прадрашыў вызваленне Беларусі з жудасных крывавых лап белапольскага драпежніка, так і зараз ён змагаецца за тое, каб межы совецкай зямлі не мог перайсці ні адзін вораг, ні адзін паслугач ворага. І совецкі беларускі народ з радасцю галасуе за неперамажнага палкаводца лепшай і магутнейшай у свеце Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, пад чыім выпрабаваным вадзіцельствам мы не толькі адаб'ем атакі ворага, але і знішчым яго на яго-ж тэрыторыі.

Таварыш Молатаў і таварыш Калінін, якія на справе ажыццяўлялі і ўмацоўвалі вялікую сталінскую дружбу народаў, горача любімы беларускім народам. У іх асобах беларускі народ бачыць лепшых вучняў і саратнікаў таварыша Леніна, непахісных змагароў за справу комунізма, непахісных большэвікоў, якія разам з таварышам Сталіным і пад яго кіраўніцтвам вялі совецкую вялікую дзяржаву ад перамогі да перамогі.

Таварыш Ежоў і таварыш Кагановіч—адны з найбольш папулярных людзей у краіне. Пролетарыі Гомеля і Віцебска памятуюць самаадданую работу тт. Кагановіча і Ежова ў гэтых буйнейшых пролетарскіх цэнтрах Беларусі ў 1917 годзе, калі яны згуртоўвалі і вялі ў бой за ўладу рабочы клас Беларусі. Пролетарыі і сялянства Беларусі бязмежна ўдзячны ім за ўмацаванне нашай прамысловасці і транспарта, за выкрыццё шкодніцтва і подлых дывер-

сійных намераў ворага і за разгром ворага, якой-бы маскай ён не прыкрываўся. Подлыя з подлых нацыянал-фашысты марылі адарваць Савецкую Беларусь ад Савецкага Саюза, каб зноў запрыгоніць яе польскаму пану і нямецкаму барону. Дзякуючы сталінскаму наркому, кіраўніку нашай слаўнай разведкі—Нікалаю Іванавічу Ежову—яны былі выкрыты і бязлітасна сцёрты з твару зямлі. Іх брудныя цені сталі сінонімам самых чорных злачынстваў.

Таварышы Андрэеў, Жданаў, Мікаян—верныя сыны большэвіцкай партыі і совецкага народа, сваёй адданай работай на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва з'яўляюцца прыкладам для усіх працоўных Совецкага Саюза. І народ Совецкай Беларусі з вялікай любоўю і пашанай абірае іх у Вярхоўны Совет БССР.

Дзень выбараў у першы соцыялістычны парламент з'яўляецца выключным нашым святам, гістарычным днём у жыцці беларускага совецкага народа і гэта абавязвае ўсіх працоўных Совецкай Беларусі спаткаць яго яшчэ больш небывалымі ў нашай гісторыі перамогамі на ўсіх франтах гаспадаркі, навукі і культуры. І мы гэта зробім. Зарукай у гэтым той велізарнейшы ўздым любові і адданасці да нашых правадыроў, да таварыша Сталіна, які адчуваецца зараз па ўсёй Беларусі, тая згуртаванасць і аб'яднанне навокал ленінскай партыі і яе ЦК, які адчувае кожны з нас усюды. Зарукай гэтаму магутны згуртаваны блок комуністаў і беспартыйных, якім ідуць усе працоўныя Совецкай Беларусі да свайго вялікага свята—дня выбараў у Вярхоўны Совет Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.

# ПАСТАНОВА АКРУГОВАЙ ВЫБАРЧАЙ КАМІСІІ

## ПРАМЫСЛОВАЙ ВЫБАРЧАЙ АКРУГІ № 166 ГОРАДА МЕНСКА ПА ВЫБАРАХ У ВЯРХОЎНЫ СОВЕТ БЕЛАРУСКАЙ ССР АБ РЭГІСТРАЦЫІ КАНДЫДАТА Ў ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР

# таварыша ІОСІФА ВІСАРЫЁНАВІЧА СТАЛІНА

Разглядзеўшы паступіўшыя ў акруговую выбарчую камісію дакументы аб вылучэнні кандыдатур у дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР, акруговая выбарчая камісія, устанавіўшы поўную адпаведнасць прадстаўленых дакументаў з арт. арт. 48, 49, 50, 51 і 52 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР“, пастанавіла:

На падставе артыкула 52 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР“ зарэгістраваць для балатыроўкі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Прамысловай выбарчай акрузе № 166 г. Менска вылучаную аб'яднаным перадвыбарчым сходам рабочых, інжынераў, тэхнікаў і служачых машынабудаўнічага завода імя Варашылава, скурзавода „Большэвік“, кандзіцерскай фабрыкі „Комунарка“, швейнай фабрыкі імя Крупскай, завода „Чырвоная зара“, аўтарамонтнай станцыі, МГЭС-2, спіртзавода, байцоў, камандзіраў і палітработнікаў Н-скіх часцей, на якім прысутнічала 8.000 чалавек, кандыдатуру ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР таварыша Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна, нараджэння 1879 года, члена ВКП(б), Генеральнага Сакратара ЦК ВКП(б), пражываючага ў г. Масква—Крэмль.

На падставе арт. 57 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР“ уключыць кандыдатуру таварыша Сталіна Іосіфа Вісарыёнавіча ў выбарчы бюлетэнь па Прамысловай выбарчай акрузе № 166 горада Менска.

У адпаведнасці з артыкулам 56 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР“ пастанову апублікаваць для ўсеагульнага ведама.

Старшыня акруговай выбарчай камісіі В. ДРАБЫШЭЎСКІ.

Намеснік старшыні акруговай выбарчай камісіі Х. РАКСІН.

Сакратар акруговай выбарчай камісіі Л. ТУРЫК.

Члены камісіі: Е. ГОРАГЛЯД, П. РАПАПОРТ, М. ХВАШЧЭЎСКАЯ, Д. НАХМАНОВІЧ, А. КРОТАЎ, К. СІДАРОВІЧ.

ПЕРШЫ КАНДЫДАТ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА
Ў ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА БССР



*Іосіф Вісарыёнавіч* ***СТАЛІН***

# ПАСТАНОВА

## АКРУГОВАЙ ВЫБАРЧАЙ КАМІСІІ ДЗЕРЖЫНСКАЙ ВЫБАРЧАЙ АКРУГІ № 168 ГОРАДА МЕНСКА ПА ВЫБАРАХ У ВЯРХОЎНЫ СОВЕТ БЕЛАРУСКАЙ ССР АБ РЭГІСТРАЦЫІ КАНДЫДАТА Ў ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР ТАВАРЫША

## Вячэслава Міхайлавіча МОЛАТАВА

Разглядзеўшы паступіўшыя ў акруговую выбарчую камісію дакументы аб вылучэнні кандыдатур у дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР, акруговая выбарчая камісія, устанавіўшы поўную адпаведнасць прадстаўленых дакументаў з арт. арт. 48, 49, 50, 51, 52 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР" пастанавіла:

На падставе арт. 52 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР" зарэгістраваць для балатыроўкі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Дзержынскай выбарчай акрузе № 168 горада Менска, выстаўленую аб'яднаным перадвыбарчым сходам рабочых, інжынераў, тэхнікаў і служачых фабрыкі „Кастрычнік", завода імя Мяснікова, завода „Ударнік", завода „Пралетарый", малочнага камбіната, шчотачнай фабрыкі імя Крупскай, хімзавода, байцоў, камандзіраў і палітработнікаў Н-скіх часцей, на якім прысутнічала 7.000 чалавек, кандыдатуру ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР таварыша Вячэслава Міхайлавіча Молатава, нараджэння 1890 года, члена ВКП(б), Старшыню Совета Народных Камісараў Саюза ССР, пражываючага ў горадзе Масква—Крэмль.

На падставе арт. 57 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР" уключыць кандыдатуру таварыша Молатава Вячэслава Міхайлавіча ў выбарчы бюлетэнь па Дзержынскай выбарчай акрузе № 168 горада Менска.

У адпаведнасці з арт. 56 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР" пастанову апублікаваць для ўсеагульнага ведама.

Старшыня акруговай выбарчай камісіі Н. КАШТАНАЎ.
Намеснік старшыні акруговай выбарчай камісіі Е. НІКІФАРАВА.
Сакратар акруговай выбарчай камісіі М. ЛІТВІНАВА.
Члены камісіі: Г. МАЛЕЎ, А. ЗЕЛЕНКА, З. ЛІХАЧОВА, А. СЯРГЕЕНКА, Ш. ЦОІР, П. ШЭЛАГІНАЎ.

---

# ПАСТАНОВА

**АКРУГОВАЙ ВЫБАРЧАЙ КАМІСІІ СТАЛІНСКАЙ ВЫБАРЧАЙ АКРУГІ № 260 ГОРАДА ГОМЕЛЯ ПА ВЫБАРАХ У ВЯРХОЎНЫ СОВЕТ БЕЛАРУСКАЙ ССР АБ РЭГІСТРАЦЫІ КАНДЫДАТА Ў ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР ТАВАРЫША**

## Лазара Майсеевіча КАГАНОВІЧА

Разглядзеўшы паступіўшыя ў акруговую выбарчую камісію дакументы аб вылучэнні кандыдатур у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР, акруговая выбарчая камісія, устанавіўшы поўную адпаведнасць прадстаўленых дакументаў з артыкуламі 48, 49, 50, 51, 52 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР", пастанавіла:

На падставе артыкула 52 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР" зарэгістраваць для балатыроўкі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР па Сталінскай выбарчай акрузе № 260 гор. Гомеля выстаўленую аб'яднанымі перадвыбарчымі сходамі рабочых, інжынераў, тэхнікаў і служачых шклозавода імя Сталіна, камбіната „Спартак", фабрыкі імя Клары Цэткін, клінкернага завода, аўчына-шубнага завода, інструментальнага завода, на якіх прысутнічала 6 тысяч чалавек,—кандыдатуру ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР тав. Лазара Майсеевіча Кагановіча, 1893 года нараджэння, члена ВКП(б), народнага камісара цяжкай прамысловасці і шляхоў зносін СССР, пражываючага ў гор. Масква—Крэмль.

На падставе артыкула 57 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР" уключыць кандыдатуру тав. Лазара Майсеевіча Кагановіча ў выбарчы бюлетэнь па Сталінскай выбарчай акрузе № 260 гор. Гомеля.

У адпаведнасці з артыкулам 56 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР", пастанову апублікаваць для ўсеагульнага ведама.

Старшыня акруговай выбарчай камісіі Г. ЯРЛЫКОЎ.
Намеснік старшыні А. МАСЮКОВА.
Сакратар Ф. ВІГДАРОВІЧ.
Члены камісіі: М. ПЛОТКІН, П. КУНЦЭВІЧ, М. ПРУДНІКАВА, Л. ПЛОТКІН, В. ПАІНА, М. АХРЭМЧЫК.

# ПАСТАНОВА

## АКРУГОВАЙ ВЫБАРЧАЙ КАМІСІІ МОЛАТАЎСКАЙ ВЫБАРЧАЙ АКРУГІ № 161 ГОРАДА МЕНСКА ПА ВЫБАРАХ У ВЯРХОЎНЫ СОВЕТ БЕЛАРУСКАЙ ССР АБ РЭГІСТРАЦЫІ КАНДЫДАТА Ў ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР ТАВАРЫША

## Клімента Ефрэмавіча ВАРАШЫЛАВА

Разглядзеўшы паступіўшыя ў акруговую выбарчую камісію дакументы аб вылучэнні кандыдатур у дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР, акруговая выбарчая камісія, устанавіўшы поўную адпаведнасць прадстаўленых дакументаў з арт. арт. 48, 49. 50, 51, 52 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР", пастанавіла:

На падставе арт. 52 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР" зарэгістраваць для балатыроўкі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Молатаўскай выбарчай акрузе № 161 горада Менска выстаўленую аб'яднаным перадвыбарчым сходам рабочых, інжынераў, тэхнікаў і служачых друкарні імя Сталіна, дрэваапрацоўчага завода імя Молатава, завода ланцугоў Галя, трамвайнага парка, работнікаў Клінічнага гарадка і інш., а таксама байцоў, камандзіраў і палітработнікаў Н-скіх часцей, на якім прысутнічала 10 тысяч чалавек, кандыдатуру ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР таварыша Клімента Ефрэмавіча Варашылава, нараджэння 1881 года, члена ВКП(б), Народнага Камісара абароны Саюза ССР, першага маршала Совецкага Саюза, пражываючага ў гор. Масква—Крэмль.

На падставе арт. 57 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР" уключыць кандыдатуру таварыша Варашылава Клімента Ефрэмавіча ў выбарчы бюлетэнь па Молатаўскай выбарчай акрузе № 161 горада Менска.

У адпаведнасці з артыкулам 56 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР" пастанову апублікаваць для ўсеагульнага ведама.

Старшыня акруговай выбарчай камісіі Г. МАНДРЫК.

Намеснік старшыні акруговай выбарчай камісіі Ф. ПАПОУ.

Сакратар акруговай выбарчай камісіі А. УС.

Члены камісіі: С. КАЦОВІЧ, Е. ПЕЎЗНЕР, П. КАРАЧУН, А. МАРКАЎ, Я. РЭДЗЬКО, Л. КОГАН.

# ПАСТАНОВА

## АКРУГОВАЙ ВЫБАРЧАЙ КАМІСІІ КУЙБЫШЭЎСКАЙ ВЫБАРЧАЙ АКРУГІ № 87 ГОРАДА МАГІЛЕВА ПА ВЫБАРАХ У ВЯРХОЎНЫ СОВЕТ БЕЛАРУСКАЙ ССР АБ РЭГІСТРАЦЫІ КАНДЫДАТА Ў ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР ТАВАРЫША

# Міхаіла Іванавіча КАЛІНІНА

Разглядзеўшы паступіўшыя ў акруговую выбарчую камісію дакументы аб вылучэнні кандыдатур у дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР, акруговая выбарчая камісія, устанавіўшы поўную адпаведнасць прадстаўленых дакументаў з артыкуламі 48, 49, 50, 51, 52 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР,“ пастанавіла:

На падставе арт. 52 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР“ зарэгістраваць для балатыроўкі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Куйбышэўскай выбарчай акрузе № 87 горада Магілева выстаўленую перадвыбарчымі сходамі рабочых, інжынераў, тэхнікаў і служачых шоўкавай фабрыкі імя Куйбышэва, скурзавода імя Сталіна, байцоў, камандзіраў і палітработнікаў Н-скіх часцей, на якіх прысутнічалі 4.500 чалавек,—кандыдатуру ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР таварыша Міхаіла Іванавіча Калініна, нараджэння 1875 года, члена ВКП(б), Старшыню Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР, пражываючага ў горадзе Масква—Крэмль.

На падставе арт. 57 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР“ уключыць кандыдатуру таварыша Калініна Міхаіла Іванавіча ў выбарчы бюлетэнь па Куйбышэўскай выбарчай акрузе № 87 горада Магілева.

У адпаведнасці з арт. 56 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР“ пастанову апублікаваць для ўсеагульнага ведама.

Старшыня акруговай выбарчай камісіі Х. САГАЛ.

Намеснік старшыні І. ВАЙМАН.

Сакратар камісіі А. КАРАСОВА.

Члены камісіі: В. ІВАНОВА, Н. МІТРАФАНАЎ, М. СЕЛЕДЦОВА, Г. РЫСІНА, К. КАРНЕЕЎ.

# ПАСТАНОВА

## АКРУГОВАЙ ВЫБАРЧАЙ КАМІСІІ ЛЕНІНСКАЙ ВЫБАРЧАЙ АКРУГІ № 261 ГОРАДА ГОМЕЛЯ ПА ВЫБАРАХ У ВЯРХОЎНЫ СОВЕТ БЕЛАРУСКАЙ ССР АБ РЭГІСТРАЦЫІ КАНДЫДАТА Ў ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР ТАВАРЫША

## Андрэя Андрэевіча АНДРЭЕВА

Разглядзеўшы паступіўшыя ў акруговую выбарчую камісію дакументы аб вылучэнні кандыдатур у дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР, акруговая выбарчая камісія, устанавіўшы поўную адпаведнасць прадстаўленых дакументаў з артыкуламі 48, 49, 50, 51, 52 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР", пастанавіла:

На падставе арт. 52 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР", зарэгістраваць для балатыроўкі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Ленінскай выбарчай акрузе № 261 выстаўленую агульнымі сходамі рабочых, інжынераў, тэхнікаў і служачых завода „Рухавік рэвалюцыі", крупзавода, млынкамбіната, завода стандартных дамоў, лекавых устаноў, Днепра-Дзвінскага рачнога параходства, палітасветных устаноў, на якіх прысутнічала 7.000 чалавек,—кандыдатуру ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР таварыша Андрэя Андрэевіча Андрэева, нараджэння 1895 года, члена ВКП(б), Сакратара ЦК ВКП(б), пражываючага ў горадзе Масква—Крэмль.

На падставе арт. 57 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР" уключыць кандыдатуру таварыша Андрэева Андрэя Андрэевіча ў выбарчы бюлетэнь па Ленінскай выбарчай акрузе № 261 горада Гомеля.

У адпаведнасці з арт. 56 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР", пастанову апублікаваць для ўсеагульнага ведама.

Старшыня акруговай выбарчай камісіі С. А. ФІЛІПЕК.

Намеснік старшыні А. К. СТАРАСЦЕНКА.

Сакратар Е. М. ГРЫЎНІНА.

Члены камісіі: А. І. ХІМАКОЎ, Б. Э. ЛАБКОЎСКІ, Ф. Л. КРАЕЎСКІ, Ф. Ш. КАЗЛОВА, П. С. КАВАЛЁЎ, І. А. ДАНІЛАЎ.

# ПАСТАНОВА

## АКРУГОВАЙ ВЫБАРЧАЙ КАМІСІІ МАЗЫРСКАЙ ГАРАДСКОЙ ВЫБАРЧАЙ АКРУГІ № 219 ПА ВЫБАРАХ У ВЯРХОЎНЫ СОВЕТ БССР АБ РЭГІСТРАЦЫІ КАНДЫДАТА Ў ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА БССР ТАВАРЫША

# Анастаса Іванавіча МІКАЯНА

Разглядзеўшы паступіўшыя ў акруговую выбарчую камісію дакументы аб вылучэнні кандыдатур у дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР, акруговая выбарчая камісія, устанавіўшы поўную адпаведнасць прадстаўленых дакументаў з арт. арт. 48, 49, 50, 51 і 52 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР“ пастанавіла:

На падставе арт. 52 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР“ зарэгістраваць для балатыроўкі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Мазырскай гарадской выбарчай акрузе № 219 вылучаную агульнымі сходамі рабочых, інжынераў, тэхнікаў і служачых мазырскага фанернага завода „Чырвоны Кастрычнік“, лесазавода „Пролетарый“, фабрыкі „Профінтэрн“, шпаларэзнага завода „Пхоў“, настаўнікамі і студэнтамі Мазырскага педагагічнага вучылішча, на якіх прысутнічала 3.500 чалавек,—кандыдатуру ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР Анастаса Іванавіча Мікаяна, нараджэння 1895 года, члена ВКП(б), члена Палітбюро ЦК ВКП(б), намесніка старшыні Совета Народных Камісараў Саюза ССР, пражываючага ў горадзе Маскве.

На падставе арт. 57 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР“ уключыць кандыдатуру тав. Мікаяна Анастаса Іванавіча ў выбарчы бюлетэнь па Мазырскай гарадской выбарчай акрузе № 219 горада Мазыра.

У адпаведнасці з арт. 56 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР“ пастанову апублікаваць для ўсеагульнага ведама.

Старшыня Мазырскай акруговай выбарчай камісіі
М. Я. ДУБІНСКІ.

Намеснік старшыні І. Л. ГЛУШАК.

Сакратар І. Д. НЕСЦЯРОВІЧ.

Члены камісіі: А. І. ВАЛОНКІН, А. П. ЕСЮТКІН, Н. А. ДАНІЛАЎ, А. Я. САВІЛАВА, І. С. МАЙСЕЕНКА, Ш. І. БЕРМАН.

# ПАСТАНОВА

## АКРУГОВАЙ ВЫБАРЧАЙ КАМІСІІ ЛЕНІНСКАЙ ВЫБАРЧАЙ АКРУГІ № 48 ГОРАДА ВІЦЕБСКА ПА ВЫБАРАХ У ВЯРХОЎНЫ СОВЕТ БЕЛАРУСКАЙ ССР АБ РЭГІСТРАЦЫІ КАНДЫДАТА Ў ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР ТАВАРЫША

# Нікалая Іванавіча ЕЖОВА

Разглядзеўшы паступіўшыя ў акруговую выбарчую камісію дакументы аб вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР, акруговая выбарчая камісія, устанавіўшы поўную эдпаведнасць прадстаўленых дакументаў з артыкуламі 48, 49, 50, 51, 52 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР", пастанавіла:

На падставе артыкула 52 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР" зарэгістраваць для балатыроўкі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Ленінскай выбарчай акрузе № 48 вылучаную агульнымі сходамі рабочых, інжынераў і тэхнікаў, служачых фабрыкі „Сцяг індустрыялізацыі", шчацінната камбіната імя Куйбышэва, ігольнага завода, цагельных заводаў, байцоў, камандзіраў і палітработнікаў Чырвонай Арміі, студэнтаў і педагагічнага персанала Ветзааінстытута, на якіх прысутнічала 9.000 чалавек, кандыдатуру ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР Нікалая Іванавіча Ежова, 1895 года нараджэння, члена ВКП(б), Наркома ўнутраных спраў і воднага транспарту Саюза ССР, пражываючага ў гор. Маскве.

На падставе артыкула 57 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР" уключыць кандыдатуру тав. Ежова Нікалая Іванавіча ў выбарчы бюлетэнь па Ленінскай выбарчай акрузе № 48 горада Віцебска.

У адпаведнасці з артыкулам 56 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР" пастанову апублікаваць для ўсеагульнага ведама.

Старшыня акруговай выбарчай камісіі КЕДРАЎ.

Намеснік старшыні акруговай выбарчай камісіі МАСАРСКІ.

Сакратар ПЕРАЦІНСКАЯ.

Члены камісіі: ЛЕВІТ, ХАДАРЭНКА, МІЛЬЧЫН, МІРКІНА, САМУЙЛАВА, МАЦКЕВІЧ.

# ПАСТАНОВА

## АКРУГОВАЙ ВЫБАРЧАЙ КАМІСІІ ВАЛАДАРСКАЙ ВЫБАРЧАЙ АКРУГІ № 47 ГОРАДА ВІЦЕБСКА ПА ВЫБАРАХ У ВЯРХОЎНЫ СОВЕТ БЕЛАРУСКАЙ ССР АБ РЭГІСТРАЦЫІ КАНДЫДАТА Ў ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР ТАВАРЫША

## Андрэя Аляксандравіча ЖДАНАВА

Разглядзеўшы паступіўшыя ў акруговую выбарчую камісію дакументы аб вылучэнні кандыдатур у дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР, акруговая выбарчая камісія, устанавіўшы поўную адпаведнасць прадстаўленых дакументаў з артыкуламі 48, 49, 50, 51, 52 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР“, пастанавіла:

На падставе арт. 52 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР“ зарэгістраваць для балатыроўкі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Валадарскай выбарчай акрузе № 47 горада Віцебска выстаўленую агульнымі сходамі рабочых, інжынераў, тэхнікаў і служачых фабрыкі „Прагрэс“, Белкомунбудтрэста, студэнтаў, настаўнікаў і навуковых работнікаў медінстытута, байцоў, камандзіраў і палітработнікаў Н-скіх часцей Віцебскага гарнізона, а таксама студэнтаў і выкладчыкаў педвучылішча, педрабфака і хімтэхнікума, на якіх прысутнічала 5.070 чалавек,—кандыдатуру ў дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР таварыша Андрэя Аляксандравіча Жданава, 1896 года нараджэння, члена ВКП(б), Сакратара ЦК ВКП(б) і Ленінградскага абкома і гаркома ВКП(б), пражываючага ў горадзе Ленінградзе.

На падставе арт. 57 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР“ уключыць кандыдатуру таварыша Жданава Андрэя Аляксандравіча ў выбарчы бюлетэнь па Валадарскай выбарчай акрузе № 47 горада Віцебска.

У адпаведнасці з арт. 56 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР“ пастанову апублікаваць для ўсеагульнага ведама.

Старшыня акруговай выбарчай камісіі І. МАТВЕЕЎ.
Намеснік старшыні Н. ВУЛЬФОВІЧ.
Сакратар Е. МАРОЗАВА.
Члены камісіі: К. РЫБАКОЎ, Ф. ШЭЙКІН, Е. КАЗЛОЎ,
А. БАБАШЫНСКАЯ, Э. ЛІДОЎСКІ.

# РАДЗІМЕ І ПРАВАДЫРУ

## *Вершы і песні аб Сталінскай Канстытуцыі*

„Читайте,
завидуйце,
я—
гражданин
Советского Союза".
*Вл. Маяковский.*

*I*

Аб Сталіне-сейбіту песня мая,
А песня ад сэрца і звонка, як медзь,—
Якую ў жніво пяе ў полі жняя,
Якую ў касьбу пяе ў лузе касец.

Багата ўраджаем
Зямля расквітнела,
У будучнасць людзі
Узіраюцца смела.

Аб Сталіне-сейбіту песня мая,
А песня з душы і гартоўна, як сталь,—
Якую пяе арлоў горных сям'я,
Якую пяе пры кавадле каваль.

Арлы-самалёты
Усё неба ўзялі
І волю здабылі
Сабе кавалі.

Аб Сталіне-сейбіту песня мая,
А песня ад сонца, ад зор залатых,—
Якую пяе ўся наша зямля,
Аб сейбіту светлы разносячы слых.

Ён даў для народаў
Асноўны закон,
І дружбу народаў
Навек стварыў ён.

## II

Я з гэтаю песняй, як зоры, высокай,
Выходжу ў прасторы дарогай шырокай,
У думках і марах раблю свой абход
На поўнач і поўдзень, на захад і ўсход.

Я сам гаспадар неабсяжнай краіны
І верны слуга дарагое айчыны,
Народу майго герaічнага сын—
Совецкай рэспублікі грамадзянін.

Са мною гаворыць, як-быццам жывая,
Сагрэтая сонцам зямля маладая,
Імклівыя рэкі, дарог паясы,
Лугі і палеткі, бары і лясы.

Увесь гэты скарб, незлічона-багаты:
Шырокія нівы і светлыя хаты,
Укрытыя лістам і цветам сады,
Залітыя срэбным святлом гарады,

Чыгункі і шахты, палі і заводы,
Глыбокія нетры і плынныя воды,
Высокага неба празрысты блакіт
І гоманы пушчы і шэлест ракіт.

Усё, да апошняй пясчынкі зямлі
На ўзоранай трактарным плугам раллі,
Ад краю—у край, ад заходу—да ўсходу
Належыць майму маладому народу.

І скрозь над усім неабсяжным
прасцягам
Жыццё пурпуровым абвеена сцягам,
Дзе золатам радасці вышыты герб:
У сонечных променях молат і серп.

І скрозь наша доля пад сцягам
чырвоным
Асвечана Сталінскім мудрым Законам,
Дзе кожная літара—шчасцем для нас,
Гарыць, як крыштальна-агністы алмаз.

І вольны народ за жыццё і дзяржаву
Спявае вялікаму Сталіну славу...

* * *

Беларуская краіна,
Твой шырокі шлях!
Над табой у зорнай сіні
Палымнее сцяг.

Гэта ты упартай воляй
На прастор і шыр
Вывеў нас з былой няволі,
Мудры правадыр.

І цвіце мой край чароўных
Пушчаў і азёр
У сям'і свабодных, роўных
Маладых сясцёр.

Гэта ты рукою дужай
Даў народам мір,
Нас навек з'яднаўшы дружбай,
Мудры правадыр.

І ніякія напасці
У самы трудны час
Не парушаць долі-шчасця,
Не падзеляць нас.

Мы ідзем адной калонай,
Бурнаю, што вір,
Пад зарой твайго Закона,
Мудры правадыр.

І сабраўшыся на першы
Незвычайны сход,
У Совет сыноў найлепшых
Выбера народ.

Ты да новай перамогі
На прастор і шыр
Нам паказваеш дарогі,
Мудры правадыр.

III

Між кветак і дрэў на заводскім
дворы.
Сышліся у час перапынку сябры.
І я падышоў і прысеў каля іх.
Сябры гаварылі аб справах сваіх.
Прыемна вясновай лагоднай парой
Сабрацца, пагутарыць паміж сабой.

Здаецца, яшчэ гэта ўчора было,—
Тут ветры гулі, сухазелле расло,
Дзічэлі ў абдымках густой нематы
Спрадвеку пакрытыя пылам кусты.
А сёння тут цуда стварае народ:
Збудованы сонечны горад-завод.

Наўсцяж камяніцы,—іх вырасла шмат,—
Абкружаны шумам кляновых прысад.
З узнятай рукою, як мужнасці кліч,
На плошчы стаіць неўміручы Ільіч.
Ля помніка мудрага правадыра
Вясёлыя песні пяе дзетвара.

Я помню—нас тысячы гэткіх, як я,
На працу пазвала краіна мая
І ў спёку, і ў сцюжу, і ноччу, і днём—
Зямлю абуджаў, не сціхаючы, гром.
Я цэглу за цэглай у сцены ўкладаў,
Я сам сваё шчасце сабе будаваў.

Я знаю, што мне беспрацоўным не
быць,
Што голад не будзе за мною хадзіць.
Радзіма! Яна прад вачыма ўстае,
Нам права на працу і радасць дае.
Гляджу на сяброў,—на шчаслівых
людзей:
Няма ў іх трывогі за заўтрашні дзень.

Сагрэтыя сталінскім сонцам вясны,
Былое жыццё ўспамінаюць яны:
Калісь працавалі з цямна да цямна,
А песціла толькі галеча адна.
Цяпер наша праца—і радасць, і чэсць
А хто не працуе—той і не есць!

Прарэзаў блакітную цішу гудок,
Сябры мае ўсталі, паскорылі крок.
Як добра на поўныя грудзі дыхнуць,
Сваю маладосць баявую адчуць!
І цешыцца сэрца... А хто з нас не рад?
І кожны становіцца зноў за варштат.

Зноў коціцца гул гаварлівых машын,
Зноў праца ўскіпае, і ўсе, як адзін,
З любоўю і ўпартасцю гаспадара
Куюць незлічоныя скарбы дабра.
І я між сяброў за варштатам стаю,
Працую і песню ад сэрца пяю...

* * *

Люблю працаваць я на славу,
Люблю, калі праца кіпіць.
А родная наша дзяржава
Мне права дае адпачыць!
І клікнуць мяне параходы
Праз гоман стэпоў і далін.
Як добра жывецца народу
Шчаслівых совецкіх краін!

Я сталінскай ласкай сагрэты,
Люблю я вандроўнікам быць
І сцежкамі звонкага лета
Прасторам радзімы хадзіць.
Ніколі, ні ў якія годы
Не ведалі гэткіх часін.
Як добра жывецца народу
Шчаслівых совецкіх краін!



Са стрэльбай сваёй за плячыма
Люблю паляваць на зары,
Калі туманамі, як дымам,
Закрыты густыя бары.
Спраўляць з дзетварой карагоды
Люблю я пад шумам рабін.
Як добра жывецца народу
Шчаслівых, совецкіх краін!

Люблю я прыгожасці Крыма,
Каўказскіх аснежаных гор,
Люблю цябе, наша радзіма,
Твой сонцам заліты прастор.
Табе я адданы заўсёды,
Я—родны і верны твой сын.
Як добра жывецца народу
Шчаслівых совецкіх краін!

*IV*

Старая я. Мне шмат гадоў.
Я многа маю расказаць.
Дачок пяцёра, сем сыноў
Мне давялося гадаваць.

Сляза па твары пацячэ,
Калі аб днях успомніш тых:
Устанеш досвіткам яшчэ
Наварыш поліўкі на ўсіх.



Малых—аж цесна у кутку,
Адной іх трэба даглядаць:
На плечы возьмеш, на руку,
На поле пойдзеш жыта жаць.

На шнур паставіш таганы,
Дзяцей паложыш, ды адна,
Не разгінаючы спіны,
Сярпом махаеш да цямна,

Так замардуешся за дзень,
Што ледзь ступаеш ідучы,
Дахаты вернешся, як цень,
Ніхто не скажа адпачыць.

Жанчына чахла без пары:
Бяспраўе скрозь, пакуты, здзек.
Сцвярджаў усім закон стары:
Яна—раба, не чалавек.

Мінулі чорныя гады...
Спявайце, сёстры, вясялей:
Цяпер і яслі і сады—
Усё для матак, і дзяцей.

Шчаслівы дзень! Шчаслівы час!
Наш край, ты казкаю расцвіў!
Вялікі Сталін, бацька наш,
Дзяцей да сэрца прытуліў.

Ён мае шмат дачок, сыноў,
На ўсю зямлю яго сям'я.
Не мала мне, старой, гадоў,
Ды вельмі ганаруся я,

Што з ім жыву адной парой,
Што маладзею я цяпер.
Пілотаў тры ў сям'і маёй,
Дзве трактарысткі, інжынер.

Дарогу кожны адшукаў,
Усіх ён вывеў нас у свет,
Усё правы жанчынам даў,—
Іх выбіраюць у совет.

Прымі, настаўнік, ад жанок,
Ад матак, радасных сясцёр
З вясновых кветак наш вянок,
Абсыпаны агнямі зор.

Ты наша сонца! Нам квітнець
Пад ясным поглядам тваім,

Давайце, сёстры, будзем пець
Аб нашым сонцы дарагім!

Хай наша песня на усход
Ляціць, як птушка да Крэмля...
Як славіць Сталіна народ!
Як славіць Сталіна зямля!

* * *

Ой, шумі ты, радуйся,
Беларускі бор.
Узлятай ты, песенька,
Да высокіх зор.

Праляці над гонанам
Спелых каласоў,
Праляці над плошчамі
Шумных гарадоў,

Над Масквой-сталіцаю
Сокалам кружы,
Раскажы ты Сталіну,
Роднаму скажы,

Што жанкі шчаслівыя
Радасна жывуць,
Што яму ад сэрцайка
Прывітанне шлюць.

Ой, шумі ты, радуйся,
Беларускі бор.
Узлятай ты, песенька,
Да высокіх зор!

## V

Сядзем, сынку, на хвіліну
Ды зірнем наўкола.
Час абраць табе пуціну—
Кліча цябе школа.

Глянь, арлёнак мой шчаслівы.
На свой шлях прасторны:
Лёг ён, ясны ды жычлівы,
Прамяністы, зорны.

Ідзі смела, дзе ты хочаш
І дзе сэрцу люба:
Пала ў вечнасць цемра ночы,
Наш прыгнёт і згуба...

Не было калісьці ходу,
Выхаду з туману:
Замест школ—астрог народу,
А навука—пану.

З нашай працы шмат гімназій
Паны будавалі,
Нас-жа, бедных, у сярмязе
У іх не пускалі

З нашых скарбаў, з роднай мовы
Учынялі здзекі,
Толькі й чулі нас дубровы,
Поле, луг ды рэкі.

Не прасторныя—крывыя
Мелі мы дарогі;
Вандравалі з торбай, з кіем,
Што ні крок—парогі.

Вам-жа, племя маладое,
Дні вясны насталі—
Даў жыццё вам залатое
Родны бацька Сталін!

Вам, здаровым і вясёлым,
Цвет зямлі Советаў,
Збудаваны клубы, школы
Універсітэты.

Пра навуку урачыста
У сваім законе
Сталін сэрцам комуніста
Напісаў сягоння.

Вам, вясёлым сакалятам
Вольнага народа,
Даў ён шчодра і багата,
Каб дабром валодаць;

Каб узброіць вашы сілы
Большэвіцкай воляй,
Каб наш край чырвонакрылы
Узбагаціць болей;

Каб умножыць нашу славу,
Сілу даць айчыне,
Каб мы Ленінскую справу
Узнялі ўвышыні;

Каб узнеслі над зямлёю
Па-над цэлым светам
Край наш грознаю скалою,
Сонцам-яснацветам.

* * *

Прасвятлелі вочы,
Беларусь, твае.
Аб жыцці шчаслівым
Твой народ пяе.

Заквітнелі буйна
Сёлы, гарады,—
Не ясі ты болей
Хлеба з лебяды.

Стала ты багатай,
Станеш багацей.

Сталінскія школы
Маеш для дзяцей.

Ясныя дзянніцы
Глянулі на нас.
Грымнем дружна песню
Пра вясёлы час!

Вольнай Беларусі—
Шырыня, разгон,
Песняю мы славім
Сталінскі Закон.

VI

На чатырнаццаць дзён дамоў
Прыехаўшы з граніцы,
Да дзеда ў госці я прышоў,
Як бліскалі зарніцы.

Абшар арцельнага дабра
Мы ваартаалі з дзедам.
Ужо чаканая зара
Займаецца над светам.

Абходжу разам з дзедам я
Світальныя прасторы.
І мы прышлі да ручая.
У небе гаснуць зоры.

Умыўся дзед. Звініць вада
Празрыстая, лясная.
Яго сівая барада
Увесь ручай займае.

Ідзем на стан. Паважна ён
Дае наказ калгасны:
Ахоўваць Сталіна Закон—
Радзімы розум ясны.

Старонкай з кнігі залатой
Здаецца поле дзеду,
Бо Сталін дбалаю рукой
Зямлю засеяў гэту.

Праходзіць дзед з кійком сваім
І мудры сказ чытае,
І кожны колас перад ім,
Як літара жывая.

Ідуць унукі жыта жаць
Сцяжынкаю зялёнай,
А мы—на стан—адпачываць
Пасля начы бяссоннай.

Турботы дзедавы ў цішы
На хвалях ураджая
Пад жніўны спеў закалышы,
Радзіма дарагая!..

Я ведаю—на цэлы свет
Закон сцвярджае проста:
Жыві, працуй, шчаслівы дзед,
Гадоў за дзевяноста,

Жыві ў пашане сярод нас
На славу ўсёй краіне,—
Цябе дзяржава і калгас
Без хлеба не пакіне.

На чорнаморскі светлы пляж
Паехаць маеш права—
Шануе твой працоўны стаж
Совецкая дзяржава.

Ахоўвае твае правы
У старасці глыбокай
Закон радзімае Масквы
Пад зоркаю высокай.

* * *

Калгаснай сялібай
Праходзяць дзяды,
На іхным шляху—
Маладыя сады.
І яблык з галінак
Здымаюць яны—
І самы даспелы,
І самы буйны.

У лес, што сваім
Называлі паны,
Прыходзяць калгаса
Сівыя сыны.
І кошык сплятуць
Каля светлай вады
І ягад лясных
Назбіраюць дзяды.

А там, дзе калісьці
Балота было,
Арцельнае збожжа
Да неба ўзрасло.
І звяжуць дзяды
Залатыя пучкі:
Ад кожнага поля
Па тры каласкі.

Сустрэнуць іх людзі,
Спытаюць: куды?
— Да Сталіна ў госці!—
Адкажуць дзяды.

## VII

Ідзе правадыр па бязмежным прасторы,
Спакойны і просты, а вочы, як зоры,
Што праменем ясным наскрозь пранялі
І глыб акіянаў, і нетры зямлі.

У сэрца ён кожнаму глянуць умее,
Выполвае злое, разумнае сее—
Вялікі і мудры ў сваёй прастаце,
Дзе гляне, там радасць і слава расце,

Адвагай і мужнасцю поўняцца грудзі,
І подвігі твораць звычайныя людзі,
І край мой—шчаслівы і песняй звініць,
І будзем мы песню грудзьмі бараніць.

Навокал нямала драпежнікаў лютых,
І нашыя песні—ім горай атруты,
І точыць ім сэрца зялёная злосць...
Па смерць сюды прыдзе няпрошаны госць!

Ёсць што бараніць нам і чым бараніцца:
Скала непрыступная—наша граніца,
І пораху хопіць у нас і свінца,
Каб ворагаў знішчыць усіх да канца.

І армія наша абута, адзета,
Вялікай любоўю народа сагрэта;
Яе камандзіры—працоўных сыны,
На смерць за радзіму гатовы яны.

Зямля аж гудзе, як ідуць батальёны,—
Вядзе Варашылаў герояў мільёны,
І кожны—радзімы сваёй патрыёт,
І ворагу сэрца праб'е навылёт.

Над хмарамі грозна ракочуць маторы
Сталёвыя птахі ўзвіліся пад зоры,
Праз вецер і хмары ідуць напралом
У кожнага—ворагу смерць пад крылом.

І я—грамадзянін вялікай краіны.
Яе бараніць у цяжкія хвіліны,
Калі да мяжы падпаўзе гадаўё,—
І мой абавязак, і права маё.

Падхоплены бурным парывам адзіным,
І я разганюся ў палёце арліным
І ворага метка на мушку вазьму,
Каб трапіць у самае сэрца яму.

Мы сілы падвоім, мы храбрасць патроім,
Іх прагнасць мы іх-жа крывёю напоім,—
Як ворану вышэй арла не лятаць,
Так ворагу нашай зямлі не таптаць.

* * *

На золку рана конь заржаў,
Баец з пабыўкі ад'язджаў,
З падругай вышаў за сяло,
Абняў, ускочыў на сядло,—

Бывай, краса мая, бывай!
Я бараніць іду свой край.
Бывай!

Калі настане грозны час—
Радзіма ў бой пакліча нас,
Я клятву верную даю—
Не быць апошнім у баю.

Бывай, краса мая, бывай!
Я бараніць іду свой край.
Бывай!

Насустрач буры і агню
Я смела шпоры дам каню,
За шчасце наша, за красу
Фашысту голаву знясу.

Бывай, краса мая, бывай!
Я бараніць іду свой край.
Бывай!

Чакай—вярнуся жыў-здароў,
Героем я прыду дамоў.
Сустрэць ты выйдзеш за сяло,
Цябе вазьму я на сядло.

Бывай, краса мая, бывай!
Я бараніць іду свой край.
Бывай!

## *VIII*

Сустракай, мая краіна,
Дзень свой урачысты,
Што ідзе к табе гасцінна,
Ясны, прамяністы.

Прыбірайся гожа, дбала,
Упрыгожвай хаты:
Каб ты слаўна святкавала
Гэтакае свята.

З цемры гнёту, здзеку, гора,
З занядбанай долі
Вышла сёння ты ў прасторы
Большэвіцкай воляй.

У ясноты дзён праз хвалі
Бур, вайны, аблогі
Вывеў Ленін, вядзе Сталін
Вернаю дарогай.

У баях з ардой драпежнай,
З панскаю навалай
Стаць краінай незалежнай
Права здабывала.

Здабыла ты гэта права
— Дружбаю народаў.
Усім народам нашым слава!
Слава іх паходам!

На разлог калгасных гоняў
На гмах лесу сіні
Пазіраеш ты сягоння
Вокам гаспадыні;

На дарогі, што па краю
Носяць шум імклівы;
На балоты, дзе буяюць
Маладыя нівы;

На паселішчы, на сёлы,
Гарады, заводы
І на свой народ вясёлы,
На яго прыгоды.

Дык выходзь, мая краіна,
Як сястра да брата,
Высылай дачку і сына,
Свой народ, на свята!

Грамадой, як сталь, з'яднанай
Вышлі самых лепшых,
Самых шчырых і адданых
У парламент першы,

Каб усё сваё стараннe,
Волю, сілу, мэты
Аддалі на красаванне
Сталінскіх советаў.

## IX

Табе, правадыр, мае песні і думы,
І шчырыя шчырага сэрца парывы!
Бо хто калі сніў, ды і хто калі думаў,
Што буду я вольны, што буду шчаслівы.

Бо хто калі думаў, што я жыці буду,
Як птушка, як вецер над нівай квяцістай,
І дзівам дзівіцца вялікаму цуду,
Што вокал мяне так цуднее ўрачыста.

Што ты, правадыр, нібы яснае сонца,
Мне вочы адкрыеш на землі і неба...
Свяціся-ж ты, сонца, ў маё век аконца!
Вітаю цябе я і соллю, і хлебам.

Ісці ўперад будуць вякі, пакаленні,
Законы-ж твае, нібы светач нязгаслы,
Шляхі асвятляць будуць светлым імкненнем,
Знішчаць рабаўласніцтва трухлыя праслы.

Тваіх, правадыр мой, законаў асновы,
Тваёй Канстытуцыі мудрыя сказы
Грудзьмі бараніць у змаганні суровым—
Мой гонар вялікі і мой абавязак.

Табе правадыр, мае песні і думы,
І шчырыя шчырага сэрца парывы!
Бо хто калі сніў, ды і хто калі думаў,
Што буду я вольны, што буду шчаслівы!

*ЯНКА КУПАЛА, ЯКУБ КОЛАС, АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ, ПЯТРУСЬ БРОЎКА, ПЯТРО ГЛЕБКА, КАНДРАТ КРАПІВА, АРКАДЗЬ КУЛЯШОЎ.*

Май, 1938.

*Кузьма Чорны*

# БАЗЫЛЕВІЧАВА СЯМ'Я

**Драма ў адной дзеі**

АСОБЫ:

МАКСІМ БАЗЫЛЕВІЧ—калгаснік, здаровы стары, год 68.
ВОЛЬКА ВАЗЫЛЕВІЧ—яго нявестка, удава, год 48.

МІКАЛАЙ—ваенны інжынер год 28.
ВЕРА—настаўніца, год 23.
ЛЕАНІД—студэнт медыцынскага інстытута, год 20.
} Вольчыны дзеці, унукі Максіма Базылевіча

РЫГОР ПРАНОВІЧ—стары калгаснік, таварыш Максіма Базылевіча.
РЫТВІНСКІ—польскі шпіён.
НАЧАЛЬНІК участка граніцы.

Дзея адбываецца ў прыгранічным калгасе ў 1938 годзе.

У хаце Максіма Базылевіча. Ранні вечар, заходзіць сонца. Пасярод хаты стол, прыгатаваны як для святочнай вячэры. Белы прасаваны абрус звешваецца да самай падлогі, на стале настаўлена ўсялякай яды, стаіць гарэлка і віно. Волька клапоціцца каля стала: расстаўляе талеркі, падсоўвае крэслы, нарэзвае кілбасу. Максім курыць і ўглядаецца ў акно. Мікалай выціраецца ручніком, прычэсваецца перад люстрам.

**Волька** (*да Мікалая*). Што, сынок, табе ўжо мусіць надакучыла чакаць?

**Мікалай**. Надакучыць не надакучыла, але, прызнацца, я нічога не меў-бы супроць таго, каб хутчэй сесці за гэты стол.

**Волька**. І нешта доўга няма Веры і Лявонкі. Можа яны і не прыедуць зусім.

**Мікалай**. От табе і раз. Як гэта не прыедуць. Раз пісалі—значыцца прыедуць.

**Волька**. Вера то ўжо скончыла заняткі ў сваёй школе, цэлае лета будзе вольная.

**Мікалай**. А ў Леаніда ў інстытуце таксама заняткі павінны ўжо скончыцца. Пісаў-жа, што к сёняшнему дню прыедзе.

**Максім**. Чэрці яны абое. Яны маладыя і не думаюць пра тое, як дзеду хочацца з імі выпіць хоць першую чарку. А калі спозняцца, то прыдзецца ім без мяне піць.

**Мікалай**. Чаму?

**Максім**. Сонца заходзіць і зараз я пайду калгас вартаваць.

Знімае са сцяны стрэльбу і правярае. Нехта ў сенцах шукае на дзверах клямкі.

**Волька.** Нехта ідзе! (*Хапае ручнік і шпарка выцірае рукі*).

**Максім.** Гэта нейначай Вера, эмтэзсаўская машына павінна была прысці ўжо з горада. (*Ставіць стрэльбу і накіроўваецца да дзвярэй*).

**Мікалай** (*стараецца забегчы дзеду наперад*). Я першы яе спаткаю.

**Максім.** Не, ты ўжо дай мне старому першаму спаткаць сваю ўнучку.

Мікалай адыходзіцца к сцяне, Максім становіцца каля дзвярэй. Адчыняюцца дзверы і ўсаджваецца сівабароды твар Рыгора Прановіча. Мікалай і Волька зарагаталі, збянтэжаны Максім адступае ад дзвярэй.

**Максім.** Каб ты згарэў, а я думаў, што гэта... (*Рагоча*).

З стрэльбаю за плячыма ўваходзіць Рыгор Прановіч.

**Рыгор.** Э-э, дык ты чакаеш некага, калі так стол прыгатаваў?

**Максім.** Унукі да мяне з'язджаюцца ў госці... А ты гэта вартаваць хіба ідзеш? Сёння-ж мая чарга. Але калі ўжо выбраўся, то і добра: павартуеш сёння за мяне, а я другі раз за цябе. Я хоць з унукамі пасяджу сёння за сталом. Зараз павінны быць.

**Рыгор.** Не, нам сёння ўдвух прыдзецца вартаваць.

**Максім.** Удвух?

**Рыгор.** Наконт гэтага старшыня да мяне прыходзіў... І ён будзе з намі... І яшчэ некаторыя спаць сёння не будуць.

**Волька.** А што такое?

**Рыгор.** Тут такая справа вышла, што... (*Раптам убачыў Мікалая і змоўк*).

**Максім.** Ну, кажы.

**Рыгор** (*мнецца*). Вышла такая справа, што... выйдзем у сенцы, там скажу.

**Мікалай.** Хіба ты мяне, дзед, не пазнаў?

**Рыгор** (*углядаецца ў Мікалая*). А хто цябе, сынку, ведае, што ты за чалавек.

**Волька.** Вы не пазналі майго Мікалая?

**Рыгор.** Дык гэта Мікалай, нябожчыка Паўла сын? Гэта-ж я цябе не пазнаў, каб я жыў. То здароў хіба. (*Падае Мікалаю руку*). Даўно-ж ты, сынку, не быў у нас. Ты ўсё вучыўся. Кім-жа ты цяпер?

**Максім.** Ваенны інжынер... Учора прыехаў.

**Рыгор.** О-о-о! Паўлаў сын! А ваенны інжынер гэта... гэта ён што?.. Хэ-хэ.. (*Бянтэжыцца*). Я, прызнацца, сам ваенным інжынерам не быў, дык добра не ведаю, які ён участак работы трымае.

**Мікалай.** Дык што такое здарылася?

**Максім.** Ты яго не бойся, гавары смела. Ён не так сабе ваенны інжынер, ён комуніст. Так што мы можам яму даваряць. Я за яго ручаюся.

**Рыгор.** Ага... Ты, Міколка, выбачай, што я так спачатку... Можа ў вас там дзе і інакш, а ў нас каля граніцы трэба ўмець як валодаць і вачыма, і вушамі, і языком.

**Мікалай.** О, гэта трэба.

**Рыгор.** Дык такая справа вышла, што... (*зніжае голас*). Учора ўночы нейкі чалавек наткнуўся на граніцы на пагранічніка і ўдалося яму ўцячы назад і скрыцца. І ўсе сляды паказваюць, што ён недзе тут каля нашага калгаса ходзіць. Дзень відаць ён перасядзеў нейдзе ціхом, а ўночы заварушыцца. Прыехала некалькі пагранічнікаў, нашы людзі ўжо вышлі скрозь на дарогі і сцежкі, а мы з табою будзем у самым калгасе глядзець.

**Максім** (*рвануўся*). То давай хутчэй пойдзем.

**Рыгор.** Не, яшчэ з поўгадзіны можам пасядзець. Там яшчэ брыгадзіры і так людзі...

**Максім.** Калі так, то мы з табой, пане-браце, паспеем яшчэ па маленькай чарцы.

**Волька.** А і праўда. Адзін госць ёсць, а Вера і Лявонка зараз з'явяцца. (*Садзіць Мікалая за стол*). Садзіцеся, дзядзька Рыгор.

**Рыгор.** Можна падумаць, што я назнарок явіўся туды, дзе смажаным пахне. (*Садзіцца*). Толькі на адзін момант. Зараз трэба ісці.

Максім налівае чаркі. Волька садзіцца.

**Максім** (*паднімае чарку*). Хачу аднаго: каб так, як цяпер у нас, заўсёды было і было. Што год пройдзе, дык і лепш робіцца жыць. Усё лепш і лепш. Чалавеку воля. Чалавеку ўсюды права дадзена. Такім унукам як у мяне бывала-б і поп і пісар, і пан пазайздросціў-бы.

**Рыгор.** Дык нашага-ж пана сын быў ваенным інжынерам.

**Волька.** Зараз з'явяцца Верачка і Лявонка...

**Максім.** Дык мы давайце і вып'ем.

Выпілі і закусваюць.

**Рыгор.** Памятаеш, Максім, як мы з табою сварыліся за сенажаць. Мне здавалася, што ты ў мяне перакасіў, а табе, здавалася, што я ў цябе перакасіў.

**Максім.** Цьфу, няхай яно згарыць, брыдка ўспамінаць.

**Волька.** Каб не савецкая ўлада, то мае дзеці былі-б парабкамі.

Уваходзіць Вера. Спачатку яе не заўважаюць. Усміхаючыся, яна падыходзіць да стала.

**Усе.** Вера! Верачка! Дачушка! Сястрыца! Унучка!

Усхватваюцца з-за стала, вітаюцца з Верай, абнімаюць яе.

**Рыгор.** Аж зайздрасць бярэ. Каб я жыў, шта напішу сваёй Ганне, каб прыехала ў госці. Вельмі-ж добра дзяцей спатыкаць, калі і ў іх усё добра, і ў цябе ўсё шчасліва... Але яна не прыедзе, у яе заўсёды справаў многа.

**Мікалай.** А дзе ваша Ганна цяпер?

**Рыгор.** Не вельмі далёка адгэтуль, старшыня сельсовета.

**Вера** (*да Мікалая*). Даўно мы з табой, братка, не бачыліся.

**Мікалай.** Гадоў ужо тры напэўна.
**Волька.** За стол... калі ласка...
**Максім.** Не, дзеткі. Вы сабе садзецеся і чакайце весела Лявонкі, а мы з Рыгорам пойдзем.
**Рыгор.** Трэба ісці.
**Максім** (*цалуе Мікалая і Веру*). Гуляйце весела... (*Маўчыць, трасе галавой*). Явіцца Лявонка і... разам... усе... мы ўспомнім, што гэтымі днямі будзе роўна восемнаццаць год, як загінуў ваш бацька... (*Адварочваецца, сцірае слёзы, гаворыць быццам сам сабе*). Мой... сын... Павал...

Моўчкі бярэ на плячо стрэльбу і разам з Рыгорам выходзіць з хаты. Нейкі час усе маўчаць.

**Вера.** Мікола, ты памятаеш тату?
**Мікалай.** Памятаю.
**Вера.** Даўно мы з табой не бачыліся і не ўспаміналі разам яго. Раскажы мне пра яго. Які ён быў?
**Волька.** Сядзьце, дзеткі, за стол.

Усе садзяцца.

**Мікалай.** Ён быў высокі, вясёлы...
**Волька.** Хоць і цяжка было жыць, але ён усё, небарак, жартаваў.
**Вера.** Мне часам здаецца, што я яго магла-б успомніць.
**Волька.** Не, дачушка, табе тады было толькі пяць год.
**Мікалай.** Я памятаю, што тады быў вельмі сухі і гарачы дзень.
**Вера.** Мама, раскажы пра татаву смерць.
**Волька.** Як ён уміраў, я не бачыла.
**Мікалай.** Ён быў партызан і прышоў уночы ў вёску на разведку. Палякі яго злавілі. У жандармерыі да самага дня і пасля цэлы дзень мучылі і дапытвалі. Ён ім нічога не сказаў, ён маўчаў. Ніводнага слова яны з яго не выцягнулі. Наш бацька быў сапраўдны большэвік, герой. І яго павялі на расстрэл.
**Волька.** Яго мучыў і расстрэльваў жандарм Рытвінскі. Я яго ведала добра, ён не раз здзекваўся з мяне, дапытваючыся дзе партызаны.
**Мікалай.** Наш бацька ляжаў непахаваны ў чыстым поле два дні, мы нічога не ведалі. А пасля людзі знайшлі яго.
**Волька** (*ад слёз ледзьве выгаварвае словы*). Памятаеш, сынок, мы з табой засыпалі яго магілу... А пасля ты, Верачка падрасла і пачала насіць на магілу кветкі (*Доўгая пауза. Волька стараецца спыніць слёзы. Сціхае*).
**Мікола.** Што гэта з Лёнькам, пісаў, што напэўна сёння прыедзе?
**Волька.** Верачка, а твае кветкі ўсе цэлыя, растуць перад вокнамі.

Вера паволі ўстае, падыходзіць да цёмнай шыбы, углядаецца.

**Вера.** Цёмна.

Мікалай падыходзіць да Веры, абое ўглядаюцца ў акно.

**Мікалай.** Памятаеш, мы былі малыя і гэты клён ледзьве падніімаўся вышэй агарожы. А гэта ўжо бачыш, якое вялікае дрэва.

**Вера.** І мы з табою, братка, выраслі ўжо вялікія. Мне толькі дваццаць тры гады, а колькі я ўжо дзяцей выпусціла з свае школы!
**Мікалай.** Верачка. Ты тут астанешся з мамай, а я пайду.
**Вера.** Куды?
**Мікалай** (*да Веры*). Тут шпіёна ловяць. Я пайду.

(Адзяваецца, выходзіць).

**Вера.** Мама, і я пайду.
**Волька.** Куды?
**Вера.** Як куды. Тут ловяць шпіёна, а я каб у хаце сядзела?
**Волька.** Без цябе ёсць каму шпіёнаў лавіць.
**Вера.** Не, я пайду (*выходзіць*).
**Волька.** Калі так, то і я пайду. (*Выходзіць*).

Нейкі час сцэна пустая. Пасля адчыняюцца дзверы і ўсаджваецца ў хату Леанідаў твар, на якім яшчэ ў сенцах расплылася ва ўсю шырыню ўсмешка. Агледзеўшы хату, ён зганяе з твару ўсмешку.

**Леанід.** Нікога няма? Дзе-ж яны падзеліся, і навіны няма каму сказаць? А спісваліся-ж з Міколам і Верай разам прыехаць? Можа, пахаваліся дзе? (*Пералазіць цераз парог, ставіць на падлогу цяжкі чамадан*). Эх, дзе вы тут, чэрці?! (*Азіраецца*). Можа, не прыехалі? (*Падыходзіць да стала*). Э-э, прыехалі, пілі і закусвалі і мяне не чакалі. Пачакайце-ж, чэрці, я перад вамі у крыўду не дамся, я сваю частку і без вас вазьму, калі вы такія. І пасля пашкадуеце, што вас не было ў гэты момант, калі я з такой навінай увайшоў у хату. Ну, і навіна! Вось вестачку, дык вестачку старшыня прывёз. (*Садзіцца за стол, разглядае бутэлькі*). Гарэлка? Гм... Ці няма чаго смачнейшага... Віно? О, гэта і хворым даюць. (*Налівае, выпівае і накідваецца на яду*). Панасмажвала маці ўсяго. (*Моўчкі есць*).

Уваходзіць Рыгор Пpановіч.

**Рыгор.** А, Лявонка! Дык гэта ты ўжо з'явіўся, сынок? А тут цябе чакалі, чакалі і ніяк прычакаць не маглі. Прызнацца і я на гэтае чаканне быў трапіў.
**Леанід.** Лезце сюды, за стол.
**Рыгор.** Але-ж ты, браце, і цярэбіш здорава.
**Леанід.** Памагайце, дзядзька Рыгор, кажу вам.
**Рыгор.** Няма, пане-браце часу. Я забег на адну хвілінку напіцца, ваш Мікалай мяне падмяніў. Такая смага мучыць... Тут недзе ў вас квас стаяў. (*Чэрпае з вядра, п'е*).
**Леанід.** Дзед Рыгор, адну ўсяго чарку, кажу вам.
**Рыгор.** А я табе кажу, што не маю часу.
**Леанід.** А што вы дзе такое чэшаце?
**Рыгор.** Хочаш каб я табе так адразу і сказаў?.. Ты комсамолец, ці як?
**Леанід.** Комсамолец.
**Рыгор.** Пабажыся.

**Леанід.** Дальбог, комсамолец.

**Рыгор** (*раздумвае*). Варашылаўскі стралок ці не?

**Леанід.** Стралок.

**Рыгор.** Пакажы знак.

**Леанід.** Вось ён. (*Паказвае на сабе знак*).

**Рыгор** (*падумаўшы, знізіўшы голас да шэпту*). Шпіёна ловім. (*Моцна*). Мы стаім на сваім месцы, а ён не ідзе, халера. А мяне калі апанавала смага. А тут як-раз ваш Мікалай... Ну, забалбатаўся я з табою... (*Пабег з хаты*).

**Леанід.** Гм... шпіёна ловяць? Пабягу і я. (*Усхватваецца, на хаду налівае віна, адным глытком выпівае, пхае ў рот закуску*). Там ім і навіну скажу, толькі каб ведаць дзе яны там. Папацёмку ці знайду, ды можа і не да гэтага будзе.

Пабег. Чуцен стрэл, далёкія галасы, пасля другі стрэл. Зноў галасы ўжо бліжэй, каля самае хаты, пасля ў сенцах. Убягае Волька, шырока адчыняе дзверы. Мікалай і Вера ўводзяць у хату Максіма, падтрымліваючы яго пад рукі.

**Максім.** Чаго вы так мяне трымаеце, я і сам іду.

**Волька.** Мала што сам!

Садзяць яго на ложак, знімаюць з нагі бот. Глядзяць нагу.

**Вера.** Кроў сочыцца.

**Волька** (*падбягае з чыстым палатном, прыкладае да раны*). Гэта каб Лявонка быў дома, ён паглядзеў-бы.

**Максім.** Праз год доктарам будзе... Ой, баліць...

**Мікалай.** Ун-жа яго чамадан каля дзвярэй. Мама...

**Волька.** Пабягу, гукну, можа дзе паблізу. (*Пабегла*).

**Максім.** Дык, напэўна, яго злавілі?

**Мікалай.** Пры мне было. Злавілі.

**Максім.** Калі я яго запыніў, ён кінуўся ўцякаць. Я за ім пабег і закрычаў: „стой, страляць буду“. Ён азірнуўся і стрэліў у мяне з нагана, але я таксама паспеў яшчэ стрэліць. Ён пабег.

**Мікалай.** Там яму загарадзіў дарогу начальнік участка граніцы і ён ужо хацеў страляць, але ззаду яго хапіў за рукі Рыгор Пpановіч.

У хату шпарка ўбягае Леанід.

**Леанід.** Шпіёна злавілі! Вы ведаеце, што я чуў ад старшыні сельсовета па дарозе? Я з ім ехаў.

**Мікалай.** Гэты шпіён дзеда раніў, ідзі глядзі.

Леанід адразу змоўк, падбягае да ложка, на якім ляжыць Максім і глядзіць рану. Уваходзіць Волька.

**Волька.** Не знайшла... А, ён ужо тут.

**Леанід.** Куля сядзіць, але не глыбока, касці не зачапіла. Нічога, зараз дастану. Глупства. (*Кідаецца да чамадана, дастае бінты і хірургічны інструмент*).

**Мікалай.** Інструмент з табой?

**Леанід.** Я з ім ніколі не разлучаюся.

Дастае кулю, забінтоўвае нагу, Максім стогне.

**Максім** (*стогнучы*). Якую-ж ты навіну пачуў?

**Леанід**. Наш бацька жыў!

Усе падступілі да Леаніда і сталі як анямелыя. Максім, сашчаміўшы зубы з болю, сеў.

**Леанід**. Чакай, чакай, зараз забінтую.

Максім лажыцца зноў. Леанід канчае забінтоўваць.

**Максім**. Шануй памяць бацькі, Лявонка, і не жартуй з яго імя.

**Леанід**. Я не жартую. Старшыня сельсовета, з якім я ехаў са станцыі, атрымаў на станцыі пошту. Па дарозе распячатваў яе. У адным пісьме з нейкага завода быў афіцыйны запрос ці сапраўды Павал Базылевіч, які там працуе, родам з нашай вёскі, як ён сам сцвярджае, і ці сапраўды ён быў партызанам, як гэта напісана ў яго старых дакументах.

**Максім** (*рвануўся, зноў сеў, крывячыся з болю*). Не можа быць, мой сын загінуў як герой.

**Вера**. Дзядуля, ты як быццам-бы не рад гэтай навіне? О, каб гэта была праўда!

**Максім**. Як-жа гэта можа быць? Каб ён быў жыў, то чаму-ж ён восемнаццаць год без нас жыў, нават вачэй не паказаў! А калі гэта праўда, то ён, відаць, стаў такім чалавекам, які і дзяцей адцураўся. Можа ён нарабіў такіх спраў... Былі здраднікі. Але ведаючы свайго сына, я не веру гэтаму.

**Волька**. Вы маглі не пазнаць яго мёртвага.

**Леанід**. Жыццё такая складаная рэч, што ўсё можа быць.

Усе маўчаць, усхвалёваны, гледзячы адзін аднаму ў вочы.

**Максім**. Лявон, гэта праўда, што да старшыні такі пакет прышоў?

**Леанід**. Праўда. Пытаюць пра Паўла Максімавіча Базылевіча.

**Максім**. Правяраюць! Нешта там за ім падазронае заўважылі і правяраюць. Калі гэта так?.. Ой-ой... (*са стогнам падае на пасцель*). Лепш-бы вочы мае не бачылі такога сына... Бо інакш—чаго-б ён восемнаццаць год туляўся ад сям'і.

**Леанід**. Такія выпадкі часам ёсць, што былі лжэпартызаны некаторыя і звязваліся з шпіёнамі.

**Максім** (*са стогнам хапаецца за твар*). Гора! Бяда!

**Волька**. Не веру.

**Мікалай**. Не можа быць.

**Вера**. Няхай у нашым сэрцы захаваецца ясная памяць аб нашым бацьку.

**Максім** (*сеў*). Я не паверу, каб мой сын быў шпіёнам!

**Леанід**. Ты ляжы, трэба каб твая нага была ў спакоі.

Кладзе яго на падушку. Запаноўвае маўчанне ўсіх. Вера прыпадае тварам да сцяны і плача, Мікалай садзіцца і маўкліва падпірае твар рукамі. Волька плача, седзячы на краю ложка, дзе ляжыць Максім. Леанід хавае ў чамадан свае інструменты. Нехта ў сенцах шукае на дзверах клямкі, Леанід адчыняе дзверы. Уваходзіць пануры Рыгор Пранавіч, становіцца пасярод хаты і доўга маўчыць. Пасля, заікаючыся, прыцішаным голасам гаворыць.

**Рыгор**. Гэтага шпіёна я хапіў ззаду за рукі, калі ён, раніўшы цябе, адбегся і намерыўся страляць у начальніка участка

граніцы. Ад яго адабралі наган і дакументы. Я стаяў пры гэтым. Начальнік граніцы зірнуў у дакументы і калі прачытаў як ён завецца, дык я за галаву хапіўся. Браткі мае родныя, падумаў я сабе. Гэта-ж... гэта... Ён прачытаў у дакументах—Базылевіч Павал Максімавіч.

Усе павярнулі свае застылыя твары да Рыгора. Максім становіцца на ногі.

**Максім.** Ты выдумляеш!

**Рыгор.** Такую рэч выдумляць, то няхай лепш у маёй галаве мазгі высахнуць.

У сенцах голас начальніка ўчастка граніцы: „вы стойце тут, у сенцах". У адказ голас: „ёсць, таварыш начальнік". У хату ўваходзіць шпіён і за ім начальнік участка граніцы, з наганам у руцэ. Рыгор становіцца з сваёй стрэльбай напроці шпіёна, гатовы ў кожную хвіліну стрэліць.

**Начальнік.** У дакументах яго напісана, што ён якраз адгэтуль родам і прозвішча яго сыходзіцца з вашым.

**Максім** (*кідаецца на пасцель, вачыма да сцяны*). Нават калі ён і быў калі-небудзь маім сынам, то я яго пракляну ў той-жа момант, калі ўбачу, што гэта ён.

**Начальнік.** Як твая нага, стары?

**Леанід.** Нічога, скора зажыве.

Волька, Антон, Вера і Леанід углядаюцца ў шпіёна.

**Начальнік.** Стары, павярніся, глянь на яго.

**Максім.** Лепш-бы мае вочы на свет не глядзелі.

**Начальнік.** Нічога, стары, бывае ўсё на свеце. Глянь, памажы следству.

Леанід падбягае і памагае Максіму павярнуцца. Максім доўга ўглядаецца ў шпіёна.

**Волька** (*дрыжыць ад узбуджанасці і хвалявання*). Гэта ён... ён... ён... той самы!

**Максім.** Пазнаў! Гэта ён! Той самы жандарм, што расстраляў майго сына!

**Волька.** Рытвінскі, жандарм Рытвінскі!

**Рыгор.** І я пазнаю! Той самы! (*Падступае да шпіёна*). А ці памятаеш, пане Рытвінскі, як ты мяне спаласаваў бізуном, што на мне ніводнага жывога месца не асталося... васемнаццаць год таму назад...

**Начальнік** (*да шпіёна*). Ты расстраляў партызана, забраў у яго дакументы, астаўся ў нас і, прыкрываючыся гэтымі дакументамі, шпіёніў тут васемнаццаць год? І цяпер прабіраўся ў Польшчу! Усё ясна. А ну?

**Максім.** Забойца.

**Волька** (*падбягае з кулакамі*). Гад! Згубіцель! Крывапійца!
**Рыгор**. Польскі звер! Панскі сабака!
**Начальнік**. Марш!

Шпіён ідзе з хаты, за ім—начальнік з наганам Рыгор са стрэльбай. У сенцах голас начальніка: „Таварыш начальнік атрада, садзіце ў машыну і ў пагранатрад!" У адказ голас: „ёсць, таварыш начальнік". Чуцен у сенцах тупат ног і стук знадворных дзвярэй. Начальнік уваходзіць у хату.

**Начальнік** (*падыходзіць да Максіма*). Ну, што-ж, да мяне ў машыну і паедзем да доктара?
**Леанід**. Мусіць, што не трэба, куля сядзела зверху, я зрабіў усё як належыць.
**Максім**. Мусіць і праўда што не трэба ехаць. Ён у мяне зараз поўнапраўны доктар будзе. А ў мяне—пабаліць і пакіне. За жыццё я не да такой болі прывык быў. На маім вяку ўсяго здаралася.
**Начальнік**. Ну, дзякую што памаглі нам.
**Максім**. Гэта мы вас павінны дзякаваць, гэта-ж вы нам памагаеце.
**Начальнік** (*садзіцца на край ложка*). У 133 артыкуле Сталінскай Канстытуцыі сказана: „абарона бацькаўшчыны ёсць свяшчэнны абавязак кожнага грамадзяніна СССР". Гэтыя вялікія словы грунтуюцца на народнай волі і сіле, якая так выяўлялася толькі што, калі мы змагаліся з ворагам. Ты ведаеш, якую перамогу мы сёння маем. У гэтага шпіёна былі вельмі важныя матэрыялы, якіх суседняя фашыстоўская дзяржава толькі чакае.
**Максім**. Нічога з гэтага не выйдзе. Мы добра ведаем, што такое панскі хамут на шыі. Жыць зноў у няволлі. Не, дзякуй за ласку... У мяне да вас просьба. Калі маеце вольную часіну, можа-б пабылі крыху ў нас. У мяне, бачыце, сёння ўнукі паз'язджаліся. Пабудзьце ў нас госцем.
**Начальнік**. З вялікай ахвотай.
**Максім**. Лявонка, бяжы пакліч дзеда Рыгора, сёння ўжо няхай старшыня паставіць на варту другога чалавека. (*Леанід пабег з хаты*). Знаёмцеся. Гэта Вера, настаўніца. Гэта Мікалай, ваенны інжынер. А гэты пстрыкун, што пабег па Рыгора—зараз выйдзе за доктара.

Начальнік знаёміцца з усімі. Уваходзяць Рыгор Пранові́ч і Леанід.

*ЗАСЛОНА.*

*Ільля Гурскі*

# НА ВАРЦЕ

**Сцэна ў адной дзеі**

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

ГАЛІНА—маладая дзяўчына, даярка калгаса „Іскры Ільіча".
ДОМНА—яе маці, свінарка.
ДЗЯНІС—яе бацька, конюх.
КАПЫЛЕНКА Астап—пагранічнік.
ПОРХАЎКА Пятрусь—кладаўшчык калгаса.
ЛЮДМІЛА—шпіёнка.
СОКАЛАЎ—камендант атрада.

Дзея адбываецца ў прымежным калгасе на Заходняй граніцы ў 1938 годзе.

Сялянская хата. Печ. Нікеліраваны ложак, на ім гара падушак. Стол засланы абрусам, венскія крэслы. На покуці партрэты правадыроў рэвалюцыі, убраныя вышыванымі ручнікамі, крыху далей ікона. Шафа. Невялічкая паліца з кніжкамі. На сцяне вялікія фота-партрэты лётчыка і казака. На сцэне: Галіна і Домна.

**Галіна** (*перагортваючы кніжку, спявае*).

Спявала дзяўчына
У садзе зялёным,
А вусны гарэлі
Макам чырвоным.

Ой, сокал, мой сокал,
Як сонейка ясны,
Стаіш на граніцы
Рабоча-калгаснай.

Будзь горды, мой сокал,
І ў сцюжу і ў вецер
На варце краіны,
Найлепшай у свеце.

Спявала дзяўчына
У садзе зялёным,
Што мілы на варце
Граніцы чырвонай.

**Домна** (*чысцячы самавар*). Мілы на варце. Ты гэта пра каго? Штосьці Астап зачасціў з заставы.

**Галіна** (*усміхнуўшыся*). Адгадала.

**Домна**. Гэта як-жа так? З Пятрусём заручыны згуляла, пагалоскі на ўвесь свет пусцілі, а зараз у кусты. Браты прыедуць—тэлеграму адбілі, а тут табе ніякага вяселля. Не, ягадка мая. Так добрыя людзі не робяць. У нашай радні такога не было. Бачылі вочы, што куплялі—зараз ешце, хоць павылазце.

**Галіна**. А калі памылілася?

**Домна**. У чым памылілася?

**Галіна**. Калі другога палюбіла?

**Домна**. Палюбіла, разлюбіла. Надта хутка ў вас робіцца. А я думала, што ён па дзяржаўных справах, ажно вось яно што! Каб я ведала, качаргой бы прагнала.

**Галіна**. Кінь мама—пяць дыверсантаў злавіла, узнагароду атрымала—ці-ж гэта хаханькі. А што чалавека палюбіла...

**Домна**. Ты мне зубоў не загаварвай... Чым Пятрусь дрэнны?

**Галіна**. Язык дрэнна прывешан і розуму бог не дадаў. Спачатку не заўважыла, а потым—каб век не кукаваць, лепш абарваць.

**Домна**. Добрая зязюлька. (*Злосна*). Куды збіраешся?

**Галіна** (*пераапранаючыся)*. На гурток, Канстытуцыю з бабамі вывучаць. Можа камендант пазвоніць—хутчэй пакліч мяне. Усёй бабскай нарадай прыдзем.

**Домна**. Чаго?

**Галіна**. Ды сёння з таго боку шпіёнка перайшла і як у ваду канула. Астапу непрыемнасць—у часе яго дзяжурства. Трэба, відаць, пушчу прачасаць,—на гэтую справу мы—спецыялісты. Дзевятнаццаць раз за мінулае лета прачэсвалі і восем раз не дарэмна.

**Домна**. Не лёгкая наша справа пагранічнікаў. Хоць удзень, хоць уначы—як на вайсковай службе. А сабаку па следу шпіёнкі пускалі?

**Галіна**. Пускалі, не бярэ. Толькі „Альфа" трапіць на след, пройдзе крокаў з дваццаць і зноў губляе. Хітрая гадзіна, мусіць парашком запаслася. Сокалаў званіў—прасіў наглядаць, можа часам дзе-небудзь тут з'явіцца. Ну я пашла. Калі прыдзе Астап, няхай пачакае.

**Домна**. А калі Пятрусь?

**Галіна**. Скажаш, што мяне няма дома і што сёння не вярнуся. Ды і наогул, хай не ходзіць да нас.

**Домна**. Ой, нядобрае дзяўчына ў цябе ў галаве. Пятруся Порхаўку мы ведаем як аблупленага, з свае вёскі хлопец, а Астап Капыленка бог ведае адкуль... Пасаромілася-б людзей... *(Наступаючы)*. Так не будзе як ты хочаш!

**Галіна**. Мама, не крычы на мяне, я табе не тата.

**Домна**. Што-о? А я табе не Пятрусь! Той баіцца да каня прыступіцца, а яна на поўным ходу на жарабка садзіцца. Казак у спадніцы!? Не забывайся, ягадка мая, што табе трэба дзяцей раджаць. Чым мне дрэнна, што я за вас-жа тысячы бяру.

**Галіна**. За Пятруся я не пайду.

**Домна**. Не пойдзеш?
**Галіна**. Не!
**Домна**. Не кажы гоп, не пераскочыўшы, ягадка мая.
**Галіна**. Паглядзіш.
**Домна**. Нідзе не дзенешся. Бацька як прыцісне, аж пішчаць будзеш.
**Галіна**. Прашоў той час, калі за нялюбага выдавалі замуж (*хутка выходзячы*). Гэтага не будзе! (*Праходзячы каля акна, спявае*).

Ой, сокал, мой сокал,
Як сонейка ясны,
Стаіш на граніцы
Рабоча-калгаснай.

Будзь горды, мой сокал
І ў сцюжу і ў вецер
На варце краіны
Найлепшай у свеце.

**Домна** (*задаволена*). Па мне пашла. Сябе ў крыўду не дасць. Прызнацца па праўдзе, і я доўга выбірала, покуль не спаткала свайго. Дзяніс адразу да сэрца прышоўся. Палюдсквала за ім, не дарма—век пражыла. Пакрычыш на яго, ён увагнецца і пашоў. Трэба ўмець мужчыну браць пад ногаць. (*Выцірае партрэты, потым ікону*). Прэсвятая багародзіца, выціскаюць цябе. Раней было поўна абразоў. Цяпер сіратой засталася. І ўсё Галіна, яе работа. Яна і на цябе замахваецца. (*Падумаўшы*). Ці варта табе адной пакутваць?.. Эт! Няхай будзе грэх на маёй душы. Сама цябе павесіла, сама і здыму.

(Уваходзіць Пятрусь).

**Порхаўка**. Добры дзень, цётка Домна! Чаго так перапалохаліся?
**Домна**. А-а-а, Порхаўка! (*Перавярнуўшы ставіць ікону каля лавы, выцірае хвартухом крэсла*). Добры дзень, Пятрусёк! Сядай, ягадка.
**Порхаўка** (*садзіцца*). А дзе-ж Галя?
**Домна**. Гурток з бабамі праводзіць. Усіх даярак сабрала, Канстытуцыю вывучаюць.
**Порхаўка**. Актыўнічае. Усё адно не выбяруць. Падумаеш, знатная даярка, шмат іх па Совецкаму Саюзу. Вось у нас, у тэрытарыяльным палку... вылучылі палкоўніка... а каб не ён, можа Пятрусь Порхаўка красаваўся-б у спісах Вярхоўнага Совета...
**Домна** (*усміхнуўшыся*). Мана меры не ведае... Лжэш ты, ягадка, як наняты... Зарапартаваўся. Хто цябе выбярэ ў Вярхоўны Совет... Не дарос, ягадка мая...
**Порхаўка**. Прабачце. (*Хоча перавесці размову*). Хутка Галіна прыдзе?
**Домна**. Выходзячы, сказала: „Калі прыдзе Астап, няхай пачакае“.
**Порхаўка** (*вызверыўся*). А калі Пятрусь Порхаўка?

**Домна**. „Скажаш, што мяне няма дома і што сёння не вярнуся. Ды і наогул, хай не ходзіць да нас“.

**Порхаўка** (*нездаволена*). Што гэта азначае?

**Домна**. Нечым не дагадзіў, ягадка, ці словам, ці справай, а хутчэй словам. Мусіць, ляпнуў пра яе што-небудзь, а дзяўчыне сорам.

**Порхаўка**. Падманваеце?

**Домна**. Гэта-ж не ў царкве, ягадка...

**Порхаўка**. Вы заўсёды жартуеце...

**Домна**. За каго ты мяне прымаеш. Чыстую праўду кажу. А Галя, калі што скажа, то і зробіць. (*З гонарам*). Майго характару. Не будзе ў вас ладу. Прыдзецца табе, Пятрусёк, павярнуць аглоблі... Дзяўчата не любяць балбатуноў... Язык трэба трымаць на прывязі.

**Порхаўка**. Як? Навошта-ж тады па раёну раззванілі. У газеце нават прапісалі: у нядзелю вяселле нашай знатнай даяркі. Калгас падрыхтоўвае падарункі. Гэта-ж не толькі мяне, але і сябе абняславіла.

**Домна**. Абняславіш, калі сэрца к другому ляжыць.

**Порхаўка**. К Астапу? А ці чулі вы, цётка Домна, што пры яго варце праз граніцу шпіёнка перайшла.

**Домна**. Пры яго варце?

**Порхаўка**. Так. Яшчэ невядома, што з ім будзе. Мо' й пад суд аддадуць. Да таго-ж я чуў, што ён сын кулака... У нас на зборы быў такі... заўсёды чысценькі... у каўнерыку... а потым аказаўся кулацкім сынком... І ён такі... белая костка... Чалавек, які не ўнушае палітычнага давер'я... і як яго на граніцы трымаюць?..

**Домна**. То што-ж ты маўчыш? Не добра, ягадка. Наша справа пагранічная... Камендант ведае?

**Порхаўка**. Я сігнальчык падаў...

**Домна** (*іранічна*). „Сігнальчык падаў!?“ Трэба браць быка за рогі. Навошта мне такі зяць. Сама пайду да каменданта.

**Порхаўка**. Гэта першы сігнальчык, а там другі... Я яго „ўскрыю“. Можа ён знарок дзевяць парушальнікаў злавіў, каб у даверра ўбіцца і дваццаць прапусціць міма сябе.

**Домна**. А што ты думаеш, ягадка мая.

**Порхаўка**. Каб не сакратар райкома яго-б адвялі з выбарчай камісіі. Нічога і сакратара прапрацуем. І на яго матэрыяльчык ёсць. (*Вымае з кішэні пакунак, перабіраючы*). Гэта на старшыню...

**Домна** (*перабівае*). Калгаса?

**Порхаўка**. Як піць даць.

**Домна**. Здаецца добры чалавек.

**Порхаўка**. Добры!? Такі гад, якіх у свеце мала... У ім нічога савецкага... Угаварвае Галіну Дзянісаўну пайсці замуж за Астапа Капыленку... Не да твару старшыні ўмешвацца ў прыватныя справы... Пайдзі, Галіна Дзянісаўна, за Астапа Капыленку, старшыня карову дае... А калі яна выбрала Пятруся Порхаўку, хоць на выгляд і дробненькага чалавечка, але порст-

кага, ён угаварвае ўзяць лабатую цялушку... (*Ківае пальцам*). Нічога, Адам Адамавіч, Пятрусь Порхаўка і з цялушкай не прападзе...

**Домна**. Няпраўда, ягадка мая. Адам Адамавіч не такі чалавек. Адносна цялушкі ён жартаваў. Што няпраўда, то няпраўда.

**Пархоўка**. Можа. Ага! (*Чытае*).

**„У камендатуру энскага атрада**

ЗАЯВА

Наколькі мне вядома, чырвонаармеец уверанага вам атрада, Капыленка Астап, з'яўляецца сынам кулака, які старанна захоўвае свой твар. Усе ведаюць, колькі ён затрымаў парушальнікаў, але ніхто не падлічыў, колькі праз яго ласку прайшло граніцу. Ніякі ён не герой. Да гэтага чалавека трэба прыглядзецца.

*Пятрусь Порхаўка*".

**Порхаўка**. Ну як?

**Домна**. Нічога.

**Порхаўка**. Будзьце ўпэўнены! Пятрусь Порхаўка штабным пісарам быў. Ні адзін загад па палку без майго ведама не йшоў...

**Домна**. А Галя ведае?

**Порхаўка**. Не.

**Домна**. Пайду скажу.

**Порхаўка**. Я сам.

(Уваходзіць Людміла, неўзабаве праскакаў кавалерыйскі раз'езд).

**Людміла** (*яна страшна стомленая*). Можна ў вас вады напіцца?

**Порхаўка** (*услужліва*). Калі ласка.

**Людміла** (*напіўшыся*). Дзякую. (*Да Домны*). Добры дзень, цётка!

**Домна**. Добры дзень! Адкуль будзеце, кветачка?

**Людміла**. Што вас так цікавіць?

**Домна** (*хітра*). Так сабе. Можа часам настаўніца з Крыжоў? Адтуль Падгальскую ўзялі, аказалася ворагам народа.

**Порхаўка** (*недачакаўшыся адказу, грозна*). Ты хто?

**Людміла** (*усміхнуўшыся, у гэтым-жа тоне*). А ты хто?

**Порхаўка**. Адкуль будзеш?

**Людміла** А ты адкуль.

**Домна** (*працягвае*). Дзеці другі тыдзень не займаюцца. Абяцалі з Менску прыслаць настаўніцу, ды ўсе не падбяруць. На граніцу абы каго не пасылаюць.

**Людміла** (*хітра*). Я еду ў Крыжы... Ды вось ніяк не дабяруся... У падводчыка кола зламалася... Зайшла вады напіцца, а тут усялякія падазрэнні... „Ты хто? Адкуль будзеш?" Вось мой пашпарт... (*Паказвае, Пятрусь разглядае*).

**Домна** (*у бок*). Лжэш ты, ягадка, як нанятая...

**Пятрусь** (*чытае*). Кашырына Людміла Карлаўна... (*Аддае*).

**Людміла** (*да Пятруся*). З кім маю гонар быць знаёмай?
**Пятрусь** (*стукае абцасамі*). Кладаўшчык калгаса.
**Людміла.** А выпраўка салдацкая.
**Пятрусь.** Памуштравалі. Нядаўна звярнуўся з арміі. Быў на зборы ў 48 пяхотным палку. Наш полк стаіць каля Бродаў, у Замасточчы. Месяц паганялі, а потым прызначылі штабным пісарам... (*Падаючы руку*) Пятрусь Порхаўка.
**Людміла.** Вельмі прыемна.
**Порхаўка** (*сціснуў руку*). Ну, як? Гэта дарма, што невялічкі ростам, але моц у руках маю...
**Людміла** (*вырвала руку*). Мядзведзь!..
**Порхаўка** (*смяецца*). Два сезоны працаваў у Пакінічах... на кладцы цэглы... вайсковая пабудова...
**Домна** (*нездаволена*). От не балбачы!
**Людміла** (*да Домны*). Скажыце, у вас можна будзе крыху адпачыць?
**Домна.** А чаму-ж не. Для добрых людзей дзверы заўсёды адчынены. Сядайце, калі ласка.
**Людміла** (*садзіцца*). Вельмі ўдзячна. (*Да Домны*). Гэта ваш сын?
**Домна.** Вунь мае сыны (*паказвае на партрэты*), адзін—лётчык, другі—казак. Ды гэта не ўсё. Грышка—пекарам у горадзе, Сымон—качагарам, Зміцер—майстрам. А Панцелей Дзянісавіч—прафесарам. Дзве дачкі за брыгадзірамі замужам. Адна дачка — настаўніца. А да Галіны Порхаўка сватаецца. Апошняя Валя сама праз парог пералазіць.
**Пятрусь.** Заручыны згулялі. (*Да Домны*). Будзьце ўпэўнены, за Порхаўкам будзе жыць прыпяваючы.
**Людміла** (*да Домны*). Значная сям'я.
**Домна.** От неяк выкачаліся. Навару, бывала, два цаганы бульбы, высыплю на стол, ядуць аж насы гнуцца. А цяпер паставіш сала, не ядуць. Ой, загаварылася, мне-ж трэба свіней карміць. Дык ты, Пятрусёк, займі паненку, а я тымчасам...
**Порхаўка** (*перабівае*). З вялікай прыемнасцю.
**Домна.** То і добра. (*Выходзячы*). Толькі глядзі, не пападзіся на кручок, паненка ладная.
**Порхаўка.** Не такіх бачылі!? (*Падміргнуў Людміле, яна адказала яму ўзаемнасцю*).
**Домна** (*да Людмілы*). А вы паненачка, адпачніце пакуль падводчык кола ўпарадкуе, дарога будзе карацейшай... Здарожылася, небарака... (*Выходзіць*).
**Людміла** (*падазрона*). Нешта мякка сцеле...
**Порхаўка.** Яна заўсёды такая хлебасольная...
**Людміла** (*хітра*). Ну, Пеця, як справы? (*Глядзіць у акно*).
**Порхаўка.** Нішто сабе.
**Людміла** (*відаць нервуецца*). Курыш?
**Порхаўка.** А чаму-ж не, асабліва, калі добрыя ды чужыя.
**Людміла** (*дае папяросу*). Проша! (*Пятрусь закурвае*). Кажаш быў у арміі?
**Порхаўка.** Так.
**Людміла.** Доўга?

**Порхаўка.** Два месяцы. А што цябе цікавіць? Можа шпіёнка якая?.. Ведаем вас...
**Людміла.** Ха-ха-ха! Хіба шпіёнка сама ў рукі прыдзе. Няма дурных. (*Падышоўшы, прысаджваецца, песціцца*). Э-эх, Пеця, малады разумны хлопец. Ну і выбраў-жа ты род зброі. Ішоў бы ты лепей у матарызаваныя часткі. Што пяхота...
**Порхаўка.** Як што? Будзьце ўпэўнены, пяхота не падвядзе.
**Людміла.** Пры сучаснай тэхніцы, нічога пяхота не варта.
**Порхаўка.** Пяхота заўсёды вырашала і будзе вырашаць лёс вайны.
**Людміла.** Я не вайсковы чалавек і то ведаю, што ў будучай вайне будуць вырашаць танкі, самалёты... (*Прыглядаецца*). Куды-ж гэта старая пашла?
**Порхаўка** (*глядзіць у акно*). У хлеў. Яна вечна з сваімі свіннямі.
**Людміла.** Доўгі язык мае?
**Порхаўка.** Звычайны, як у жанчын... У нас, у арміі, за язык грэлі...
**Людміла.** Ніякага значэння, Пеця, пяхота ў будучай вайне не будзе мець.
**Порхаўка.** Як гэта так! Цяпер і пяхота ў нас не тое, што было некалі.
**Людміла.** Адкуль ты ведаеш. Акрамя свае роты нічога не бачыў.
**Порхаўка.** Як! Я-ж быў штабным пісарам. У мяне ўвесь полк як на далоні.
**Людміла** (*падсаджваецца бліжэй да Пятруся, хітра*). Я табе дам простую задачу. Калі вырашыш яе...
**Порхаўка.** Тады што?
**Людміла.** Тады... паглядзім... чаго варта пяхота... (*Прыціскаецца да Пятруся*). А ты, відаць, здарова закаханы ў сваю Галіну?..
**Порхаўка.** А што?
**Людміла.** Нават паглядзець на мяне не хочаш. Хіба я горшая за яе?
**Порхаўка.** Не... ды толькі... Хто цябе ведае хто ты такая... Лепей далей ад граха... Давай задачу, паспрабую... Некалі галава крыху варыла...
**Людміла.** Толькі вайсковую.
**Порхаўка.** Добра.
**Людміла** (*дастае ліст паперы, малюючы, паказвае*). Наступае непрыяцельская брыгада. Уявім, Пеця, што ты камандзір палка. (*Пятрусь самазадаволена смяецца*).
**Порхаўка.** А што ты думаеш, можа і буду. У нас усё можна: сёння даярка, а заўтра дэпутат Вярхоўнага Совета. Панцелей Дзянісавіч, гаспадыні сын, быў авечым пастухом, а стаў доктарам навук. Альбо ўзяць хоць бы мяне, быў радавым і раптам штабны пісар.
**Людміла.** Ну, камандзір палка, вырашай задачу. (*Пятрусь схіліўся над паперай*). Тут цячэ рэчка... Мост праз яе... вось шасейная дарога... невялічкая вёска... прасёлачная дарога... (*Асцярожна кладзе руку на плячо Пятруся*).

**Порхаўка**. Непрыяцельская брыгада наступае... Зараз адаб'ем атаку... ідзе рэч, каб стрымаць ворага да прыхода падмацавання... Важнейшым стратэгічным пунктам будзе мост... Тут я выстаўляю першы батальён.
**Людміла**. У колькасці?
**Порхаўка**. Будзь упэўнена! (*Хутка піша*).
**Людміла** (*абнімаючы*). Мілы! Ніколі не думала, што ў цябе такая галава...
**Порхаўка** (*кідае аб падлогу шапку*). Да батальёна дадаю батарэю...
**Людміла**. Колькі гармат? Якія?
**Порхаўка** (*хутка піша*). Калі ласка. Другі батальён... трэці... гарматы... кулямёты... усё на месцы... Ну, як? Камісар мне неяк сказаў, каб я не быў балбатуном, з мяне-б вышаў вялікі чалавек... чым я вінаваты, што мяне маці такім нарадзіла...
**Людміла** (*разглядае*). Малайчына! (*Бярэ ліст*).
**Порхаўка**. Дай распішуся. (*Распісаўшыся*). Бачыла загагуліну. Пятрусь Порхаўка. Здарова!
**Людміла**. Куды там! (*Узяла паперу і паклала ў рэдыкуль*). І кажаш у Пакінічах працаваў...
**Порхаўка**. Там усё цэментам заліта...
**Людміла** (*устала.*) Ну, камандзір палка, цяпер ты ў маіх руках, у цёплых.
**Порхаўка**. У гарачых.
**Людміла**. Гэта як захочаш. Захочаш—грошы, асалоду ў жыцці, каханне—толькі вывядзі мяне адсюль, бо я ў палоне. Сама прабівалася, але ўсе хады зачынены. Выратуй мяне.
**Порхаўка** Ты-ж хто?
**Людміла**. Я адтуль.
**Порхаўка** (*напалохана*). Шпіёнка!?
**Людміла**. Не-е. Я прабіралася ў Менск, там у мяне бацька. Але ўсе могуць падумаць, чым давядзеш.

(Чутна цоканне падкоў).

**Порхаўка**. Гэй сюды. (*Хоча выбягаць*).
**Людміла** (*паказвае на рэдыкуль*). Не рабі глупства. А звесткі аб палку хто даў. Калі мяне расстраляюць, то і цябе са мной, палкоўнік Порхаўка.
**Порхаўка** (*схапіўся за галаву*). Што я нарабіў? Здраднікам стаў. Не, не, не!
**Людміла**. На грошы. Бяры. У жыцці спатрэбяцца. Галіне на ўборы. Яна-ж жанчына. Бяры, а мяне схавай. Вывесці адсюль і ўсяго страху. Я-ж паеду і знішчу. Ніхто ніколі не даведаецца. Мне толькі да Менска, а там зацалую, замілую, паедзеш назад да свае Галі. (*Пятрусь бярэ грошы*).
**Порхаўка**. Уцякай.
**Людміла**. Куды—а?
**Порхаўка**. Куды хочаш. Бяжы. Прашу цябе. Я не скажу ні аднаго слова. Чуеш? Бяжы!

**Людміла**. Уцякаць няма куды. (*Прыглядаецца ў акно*). Бабы падняліся, справа дрэнь. Ты павінен схавацъ тут. Другога выхаду няма. Ну, хутчэй. Ці грошы і жонку, каханку на час, ці турму і расстрэл? Выбірай. (*Заглядае ў акно*). Хутчэй!!! (*Нібы знянацку паказвае рэвальвер, Пятрусь уздрыгануўся*). А калі не, першая куля табе, а другая...

**Порхаўка** (*безнадзейна*). Жы-ы-ць... (*Схапіў за руку Людмілу*). Папаўся як мыш у пастку... Пашкадуй!.. (*У адчаі*). Ды я цябе сваімі рукамі...

**Людміла**. Страляю!

**Порхаўка** (*напалохана*). Я так, пажартаваў... Добра. Альбо пан, альбо прапаў. Лепей за ўсё ў гэтай хаце схавацца... Так, так. Гэта хата па-за ўсякай падазронасцю. Лезь у шафу. (*Адчыніўшы дзверы*). Туды за дзявочыя ўборы.

**Людміла**. Не, тут не схова.

**Порхаўка**. Тады ў пограб, пад падлогу. (*Адчыняе*).

**Людміла**. Таксама небяспечна. Хавацца трэба там, каб нікому ў галаву не прышло...

**Порхаўка**. На печы ці што?

**Людміла**. А што ты думаеш. Лепей за ўсё. (*Лезе на печ*).

**Порхаўка**. Вазьмі коўдру, ці вось гэта рыззё. Накрыйся і ляжы... (*Кідае парваны палітон*). Я пастараюся іх накіраваць у другі бок...

**Людміла**. Глядзі-ж... (*Пацалавала*). Калі выдасі... мне смерць і табе... (*Укрываецца на печы*).

**Порхаўка**. Ну, Порхаўка, трымайся... Потым, калі міне небяспека, як-небудзь вывяду адсюль... (*Выбягае. Сцэна некаторы час пустуе*).

(Уваходзіць Домна).

**Домна** (*разгублена*). Дзе-ж яна дзелася? Паляцела пералётная птушка. А накурана колькі. (*Адчыняе вокны*). Вой, дурная. Паспадзявалася на Пятруся. Трэба было, сказаўшы Галіне, зараз-жа ісці дадому і стаць на варце. Будзе ад старога. Разгневаецца, не будзе гаварыць два тыдні. Няўжо Порхаўка не ўцяміў хто яна. Ну і вылаю, як убачу. От, доўбня! Дзіва, што Галіна не хоча ісці за яго замуж. Хіба гэта чалавек. Сігналы падаваў, заявы пісаў, а сам з-пад носу ўпусціў гадзіну. Ну і сігналізатар!? А можа спакусіла? Не кожны мужчына перад бабаю ўстаіць. А Галіне як сказала, што Астап Капыленка сын кулака, тую як варам абліла. Вось і ўлезь ты ў чужую душу. Як сустрэну ў вочы плюну. (*Прыглядаецца*). Дзяніс ідзе. Душу выме.

(Уваходзіць Дзяніс).

**Дзяніс** (*аглядае кругом*). Дзе-ж твая хітрая ліса?.. Перахітрыла цябе?.. Я так і ведаў... Ты толькі храбрая са мною, у сваёй хаце і качарга гаспадыня. Даверыць вам нічога нельга.

**Домна**. Што гэта значыць? Скрыпіць як старыя калёсы. Трэба было самому прыйсці.

**Дзяніс.** Я-ж за коньмі даглядаў. Палявыя работы. Без каня, што без рук.

**Домна.** А на маіх руках свіная гаспадарка.

**Дзяніс.** Палітычная справа на першым месцы.

**Домна.** Ведаю і без цябе. Сама добры палітык. Пятнаццацёра нарадзіла... Лётчыка, казака, танкіста, артылерыста. Не хапае толькі пехацінца...

**Дзяніс.** Што ты, маці, людзі будуць смяяцца... Хаця... (*Прыглядаецца*). Сокалаў ідзе. Будзе табе пехацінец!

**Домна.** Сам камендант?

**Дзяніс.** Ён. Як мы з ім сустрэнемся? Хоць у сабакі вочы пазычай.

**Домна.** Дзяніска, не крыўдуй, ягадка. Я-ж даверыла яе Пятрусю. Вось яго шапка. (*Падышоўшы, паклала на печ*). У хаце не прыбрана. (*Узяўшы коўдру, кідае на печ*).

**Дзяніс.** Колькі разоў я табе, маці, гаварыў, што наша справа пагранічная... Заляціць белая варона, колькі пакасці наробіць. Адным словам: не спі ў шапку.

**Домна.** Я адным вокам паглядала. К лесу ні адна жывая душа не ішла.

**Дзяніс.** І я прыглядаўся. На лузе нікога не было. (*Падумаўшы.*) Значыць яна недзе ў вёсцы. (*Уваходзіць Сокалаў*).

**Сокалаў.** Цётцы Домне, дзядзьку Дзянісу, прывет! Нарэшце знайшлі. Увесь дзень яе шукалі. Як за ваўчыхай ганяліся. (*Усміхнуўшыся*). Што, зноў у пуню замкнулі? За ёю трэба глядзець. Каб не вылезла праз страху.

**Дзяніс.** Ды ведаеце... Чорт яго знае як яно здарылася. Старая паспадзявалася на Пятруся.

**Домна.** Але. Думалася дасць рады, ягадка мая...

**Сокалаў.** Уцякла?

**Дзяніс.** Яна недзе ў вёсцы. Тут блізенька. Пэўна нехта схаваў.

**Сокалаў.** Схаваў? Першы выпадак у калгасе „Іскры Ільіча".

**Дзяніс.** Дзіву даешся, таварыш камендант. Яшчэ захаваўся нейкі падлюга. От каб ведаў хто.

**Сокалаў.** Абшукаць усю вёску.

Выходзіць, а за ім Дзяніс. Кавалерыйскі раз'езд паехаў. Чутно цоканне падкоў).
(Уваходзяць: Галіна і Пятрусь).

**Галіна** (*цягне за руку*). Чаго ты баішся? Скажы, адкуль ты ўзяў, што Астап Капыленка сын кулака? І шпіёнку прапусціў?

**Порхаўка.** Усе пра гэта гавораць.

**Домна.** Пятрусёк! Я-ж на цябе, як на сына, паспадзявалася. Як ты яе выпусціў?

**Порхаўка.** А я адкуль ведаў? Толькі вы пашлі і яна за вамі.

**Домна.** Няўжо-ж ты не заўважыў, каб табе павылазілі, што яна шпіёнка?

**Порхаўка.** А хіба ў яе на лобе напісана? Куды пашоў камендант?

**Домна.** Пашлі вобыск рабіць.

**Порхаўка.** Вобыск? Яна за гэты час чорт ведае дзе апынулася.

**Домна.** Ды не. Нехта мусіць схаваў. Жывуць-жа яшчэ падлюгі на свеце. (*Да Галіны*). А можа і сапраўды Астап прапусціў... (*Да Пятруся*). А можа ты... дзяўчына прыгожая... Прызнавайся... Бывае ў мужчын такі грэх... Глядзі... Лепей будзе...

**Порхаўка.** Што вы, цётка Домна, за каго вы мяне прымаеце?..

**Галіна.** А хто табе верыў. Адзін з ёю заставаўся.

**Домна.** Ага. І шапку ў хаце пакінуў.

**Порхаўка.** Я без шапкі да вас прышоў. Дзе тая шапка?

**Домна.** Не загаварвайся, ягадка. Вунь яна на печы.

**Порхаўка.** На печы няма нікога.

**Галіна.** Паглядзім.

**Порхаўка.** Ах, праўда. Я яе там паклаў.

**Галіна.** Нешта ты сёння не такі як заўсёды.

**Домна** (*да Галіны*). Чаго ты да яго чапляешся?

**Порхаўка.** Каторы дзень такая. Не падступіцца. Капыленка перад вачыма стаіць. Кулацкі сынок.

**Галіна.** І стаіць. Капыленка за час службы на граніцы затрымаў дзевяць парушальнікаў. А ты што? Сама ў рукі прышла і то выпусціў. А можа і не выпусціў...

**Порхаўка** (*узрыў нездаволенасці*). Што за падазрэнні.. (*Цішэй*). А ці вядома табе, колькі ён прапусціў праз граніцу...

**Галіна.** Гэта няпраўда!

**Домна.** Не магла яна скрозь зямлю праваліцца... Нехта даў прытулак...

**Порхаўка.** Прытулак... прытулак... Трацяць марна час... Я ўпэўнены, што яна недзе ў лесе...

**Галіна.** У мяне бабы на варце. На ўсіх дарогах. Не магла яна прабрацца ў лес.

(Уваходзяць: Сокалаў, Дзяніс, Капыленка).

**Сокалаў** (*страшна нервуецца*). Так, так. Дзе-ж яна магла дзецца. А ці ўсіх абшукалі?

**Капыленка.** Так што, таварыш камендант, засталася толькі гэта хата. Дазвольце абшукаць.

**Дзяніс.** Правільна. Трэба абшукаць.

(Домна няёмка сябе адчувае).

**Капыленка.** Служба—не дружба, маты. Рэвалюцыя гэтага патрабуе.

**Порхаўка** (*да Домны*). Выслужыцца хоча. Такі ўжо характар у Астапа Капыленка. Усё на карту. Ведама, кулацкі сынок. Можа сам яе прапусціў, а цяпер робіць выгляд, што хоча знайсці. Хі-цёр!

**Капыленка** (*ледзь стрымлівае сябе*). Замаўчы! Га-а-дзі-і-на! (*Памкнуўся да Пятруся*).

**Сокалаў.** Гэта яшчэ што? Адставіць!

**Капыленка** (*рукі па швах*). Слухаю!

**Домна** (*пакрыўджана*). Мы ўсім сэрцам, здэцца... Выпраўляючы сыноў у Чырвоную Армію, прасіла, як маці любіць радзіму...

**Пятрусь**. Таварыш камендант! І мне крыўдна за іх...
**Галіна** (*перабівае*). Справа ідзе аб рэволюцыі. (*Цвёрда*). Абшукаць!

(Капыленка паглядзеў на каменданта, той кіўнуў галавой).

**Капыленка**. Ёсць! Па загаду Галіны, у імя рэволюцыі, абшукаць...

(Выходзіць, робіць вобыск, чуцен стук).

**Сокалаў**. Хітрая чартоўка. Толькі сабака возьме след і зноў згубіць...
**Дзяніс** (*спачуваючы*). Такая ўжо наша справа пагранічнікаў... Трэба і ў дзень і ў ноч быць напагатове...
**Сокалаў**. Правільна дзядзька Дзяніс. І ў буру і ў непагоду стаяць на варце.
**Капыленка** (*увайшоўшы, дакладвае*). Так што, таварыш камендант, нічога не знойдзена.
**Порхаўка**. Ну, што я казаў? Хіба яна ў гэтай хаце будзе хавацца? Паўтараю, яна за гэты час чорт ведае дзе апынулася... Праз балота прашмыгнула...
**Сокалаў**. І сапраўды...
**Галіна**. Каля балота самая надзейная варта.
**Сокалаў**. Хто?
**Галіна**. Даяркі Хімка і Надзейка.
**Сокалаў**. Яны не прапусцяць.
**Галіна**. Я ўпэўнена, што яна ў вёсцы. Таварыш Сокалаў! Дазвольце нам, бабам...
**Капыленка**. Пяройдзем, яшчэ раз...
**Сокалаў**. Прыдзецца.
**Капыленка**. Ёсць! Загадана ў другі раз абшукаць пры дапамозе жанчын калгаса „Іскры Ільіча". (*Збіраецца выходзіць*).
**Галіна**. Пачнем з нашай хаты.
**Капыленка** (*да камандзіра*). Як загадаеце?
**Сокалаў**. Можна і так.
**Капыленка**. Слухаю!
**Галіна** (*адчыняе пограб, туды лезе Капыленка, сама глядзіць перш у падпечак, потым у шафу. Ёй дапамагае Сокалаў*). Быць не можа, каб яна ўлізнула з вёскі...Не такое вока ў маіх баб, каб яны не заўважылі. (*Лезе на печ*). Вунь яна! Глядзі ты як укрылася... На печы не ўсядзець... А ну, злазь!.. (*Людміла, стрэліўшы, бяжыць да акна*).
**Сокалаў**. Стой! Уцякаць не разумна... Стой, страляю!..

(Усе накідваюцца на Людмілу, абяззбройваюць).

**Галіна** (*сціснуўшы руку*). Гадзюка, такі ўжаліла...
**Капыленка** (*кінуўся да Галіны*). Малайчына Галя! Што-о ты ранена?.. (*Перавязваючы*). Падлюга! (*Яе акружаюць Домна і Дзяніс*).
**Домна**. Падбілі ні за што ні пра што... (*Цалуе*). Ягадка мая...
**Сокалаў** (*расчыніўшы рэдыкуль, разглядае, да Порхаўкі*). І сюды сігнальчык трапіў... (*Пятрусь апусціў галаву*). Дрэнны з цябе

сігналізатар... Не туды цэліш... (*Адступіўся, упала ікона*). Што такое? (*Да Галіны*). Твая работа?

**Галіна** (*ківае галавою*). Не.

**Домна**. Гэта-ж цвік перархавеў. (*Усе пераглянуліся*). Эт! Сама павесіла, сама і зняла.

**Сокалаў** (*да Порхайкі*). Высветлена, што ваш сігнальчык, на Астапа Капыленку, паклёпніцкі... Капыленка—сын украінскае беднаты... верны вартавы... сваёю крывёю звязаны з рэвалюцыяй... два разы быў ранен на граніцы... і мае права стаяць на варце...

**Галіна** (*вельмі рада, да Астапа*). Любы! Я ў табе ніколі не сумнявалася...

**Сокалаў** (*падышоўшы да Галіны*). Дзякую. Ужо ў каторы раз вы дапамаглі ў нашай справе. Народ ніколі гэтага не забудзе. (*Да Капыленка*). Ты ёй сказаў?

**Капыленка**. Не было калі. Слухайце! (*Як скончыў перавязваць*). Учора наш атрад вылучыў Галіну кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР. Мая любая, верна стой на варце, мае радзімы.

**Галіна**. Пастараюся апраўдаць давер'е.

**Сокалаў** (*да Людмілы*). Ну, як вам падабаецца руская печ?.. Горача?.. Не ўсякі на ёй уседзіць... (*Да Пятруся і Людмілы*). Прашу!

(*Усе выходзяць*).

*ЗАСЛОНА.*

Май, 1938 г.

*Міх. Клімковіч*

# НОЧ ПЕРАД ВЫБАРАМІ

**П'еса ў 1 акце**

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

НАДЗЕЯ СЯМЁНАЎНА—дэпутат Вярхоўнага Совета СССР, дзяўчына 21 год.
БАРЫС—яе брат, 18 год.
ПЕЦЬКА—другі брат, 12 год.
СВЯТЛАНА—нявеста першага брата—18 год.
ДЗЕД АРХІП—старшы конюх
КАШАВОД—ветурач
АЎСЕЙ—памочнік конюха
НЕЗНАЁМЫ
ПІОНЕРЫ

Сцэна прадстаўляе досыць вялікі пакой Надзеі Сямёнаўны. Канапка. Стол. На стале газеты. Палічка з кніжкамі—творамі Леніна і Сталіна, іх невялікія бюсты. Чыста прыбраны ложак. Туалетны столік. На першай сцяне карціна „Сталін і Мамлакат". Вышыўкі, занавескі, коўрыкі. Чыста, утульна.

З'ЯВА І

Барыс і Святлана прыбіваюць да сцяны плакат: „Арт. 133. Абарона бацькаўшчыны ёсць свяшчэнны абавязак кожнага грамадзяніна СССР". Плакат прыбіваецца досыць высока, над нечым, што завешана белай простыняй. Маладыя людзі, прыбіваючы плакат, пяюць:

Блок комуністаў і беспартыйных
Лепшых сыноў выбірае у совет.
Прывет дэпутатам вялікай краіны!
Таварышу Сталіну шчыры прывет!
Мы галасуем за партыю нашу,—
Леніна—Сталіна слаўны атрад.
Хай-жа звіняць нашы песні і маршы,
Шчасцем і сілай народ наш багат.
Мы галасуем палеткамі роўнымі,
Жытам высокім, густой ярыной,
Свірнаў і фермаў дастаткамі поўнымі,
Працаю шчырай, усей грамадой.
Мы галасуем махінамі новымі
Фабрык, заводаў, і сілай сваей—
Птушкамі—у небе радзімы—сталёвымі
І караблямі у прасторах марэй.

**Барыс**. Як добра, што Надзея паехала на мітынг. Пакуль яна прыедзе—мы падрыхтуем ёй свой падарунак да выбараў.

**Святлана**. А мне проста шкада Надзеі Сямёнаўны. Яна не ведае ні дня, ні начы. Працуе і працуе. Мне часам хочацца падыйсці, адабраць кніжкі і павесці яе на вечарынку.

**Барыс**. А думаеш адмовілася-б? Дальбог-жа—не. Пасеўную закончылі, да выбараў падрыхтаваліся, усе як у людзей—чаму-б на вечарынку не схадзіць?

**Святлана**. Ды баюся я. Усё-ж—дэпутат Вярхоўнага Совета, таварыша Сталіна бачыла, а я супроць яе дзяўчанё малое.

**Барыс**. Не дзяўчанё, а мая нявеста.

**Святлана**. Калі тое свята будзе. Ты перш у Чырвонай арміі паслужы, а то мама кажа „які ён жаніх—калі ён у салдатах не быў".

**Барыс**. Надзею я ледзь упрасіў адвезці заяву ў кавалерыйскую дывізію, мажа-б мяне датэрмінова ўзялі. Конюх я нядрэнны, ударнік—дальбог-жа возьмуць. А сіла во! *(схапіў Святлану і, пакруціўшы на руках, зняў з табурэткі).*

З'ЯВА II

**Архіп** і **Кашавод** (уваходзяць узбуджанымі).

**Архіп**. І куды цябе, каласок ты мой, нясе на скрут галавы. У канюшню ноччу я і роднага бацьку не пушчу.

**Кашавод**. Я буду скардзіцца. Я ветурач Кашавод. Чуеце? Кашавод! У мяне план прывіўкі і тэрміны.

**Архіп**. І гэта, каласок, не прычына, каб коні ноччу трывожыць. Каню, як і табе, ноччу спакой трэба. Ды зачыні ты дзверы, а то расхляпеніў, як цёшча рот. Тут-жа людзі начаваць будуць.

**Барыс**. У чым справа, дзед Архіп?

**Архіп**. Ды вось, прэцца чалавек у канюшню на злом галавы. А я кажу, у нас коні абаронныя. У канюшню чужых людзей без патрэбы я не пушчу.

**Барыс**. Я-ж вам яшчэ ў поўдзень сказаў, таварыш Кашавод, без дазволу раённага ўрача, мы вас на ферму не пусцім.

**Кашавод**. Фельдшар прывёз вам гэты дазвол. Я паказваў яго Архіпу, ён у мяне ў партфелі.

**Архіп**. Што мне яго глядзець? Заўтра ў нас выбары. На выбары хочацца па-людску людзей завезці. Паспеем мы з гэтай прывіўкай з казамі на торг. А гэта вазьмі, дачушка-каласок, і прыбі. (*Дае Святлане скручаны плакат*). Ці вецер, ці чорт які сарваў.

**Святлана** *(бярэ скрутак і разгортвае. Глядач можа прачытаць: „Галасуйце ў Вярхоўны Совет БССР за кандыдата блока комуністаў і беспартыйных Надзею Сямёнаўну"... Частка плаката загнута і прозвішча глядач прачытаць не можа)*. Я зараз, дзед.

**Дзед Архіп** (*да Кашавода*). Ідзі, ідзі, каласок—павячэрай, пасілкуйся, тады падабрэеш і злосць пройдзе. Галодны чалавек заўсёды злы.
**Кашавод.** Я скардзіцца буду.
**Архіп.** А я цябе сюды наўмысля прывёў, каб ты паскардзіцца мог. Гэта кватэра дэпутата Вярхоўнага Совета Надзеі Сямёнаўны. А дзе-ж яна?
**Святлана.** На мітынгу, дзед Архіп. (*Вышла і хутка варочаецца*).
**Архіп.** Вось бачыш, таварыш Кашалуп.
**Кашавод.** Кашавод, Кашавод.
**Архіп.** А каб ты на сухія лозы, памыліўся. Прабачце, дохтар Кашадаў.
**Кашавод.** Ка-ша-вод. А калі вы знарок, маё прозвішча перакручваеце, то я і на гэта скардзіцца буду.
**Архіп.** Ды што вы ўсё „скардзіцца" „скардзіцца". Як быццам вы не конскі дохтар, а бюро скаргаў жывое. Конь на чатырох нагах ды і то спатыкаецца, у дзеда-ж язык адзін. Ды памяць стала, як рэшата. Вось гляджу я на цябе, каласок, і ніяк не ўспомню— дзе я твой нос бачыў? Такая памяць стала.
**Кашавод.** Ды гэта-ж немагчыма, гэта-ж абраза! Мой нос вы маглі бачыць толькі ў мяне. Я чужым свайго носа ніколі не пазычаў. Абраза.
**Архіп.** А, каб на цябе індыкі брахалі. Не, ідзі, каласок павячэрай— падабрэеш. Там у хаце былой просвірні мая баба кулеш з салам згатавала. Можа ведаеш просвірні хату?
**Кашавод.** Знайду, раніцой бачыў. Але я зноў прыду. Калі прыедзе ваш дэпутат?
**Барыс.** Ды мы чакаем яе з хвіліны на хвіліну.
**Кашавод.** З-за вашага бюракратызма я сёння чалавека за 40 кілометраў зганяў у раён.
**Архіп.** І-і-і, каласок. Колькі разоў я ў жыцці па сорак кілометраў дарэмна хадзіў. Прыдзеш, бывала, памолішся ў хаце якога-небудзь сукінага сына панка, ці паўпанка, „ці няма панок работы?"—і назад пешадралам. А твой фельшар—не пешкі, а конна 40 клм. зрабіў.
**Святлана.** К нам на ферму паглядзець людзі за 100 кілометраў ездзяць.
**Кашавод.** Ды мне не да экскурсій. Я павінен прывіўкі зрабіць, каб папярэдзіць эпізотыю, пошасць. Разумееце? На сёнешні дзень у мяне дзве фермы было прызначана, а з-за вас я і адной не абслужыў. Воля ваша, а я скардзіцца буду. Я ноччу працаваць буду.
**Архіп.** Вось табе і на: зноў, „табе, воўча, козы пасціць".
**Кашавод.** Якія козы?
**Архіп.** А гэта, каласок, прыказка такая, козы гэтыя я пасціў у манастыры калісь.
**Святлана.** У гэтым самым манастыры, дзе наша конная ферма зараз?
**Архіп.** У гэтым самым, дачушка, жаночым—Прузыны Полацкай, ліха яе матары.

**Кашавод.** Мне няма справы ні да коз, ні да Гефрасініі Полацкай, я павінен рабіць прывіўкі коням. І я іх зраблю. Я занясу дазвол РВК рабіць прывіўку да старшыні калгаса. Калі ён не дазволіць—я буду скардзіцца на яго.

**Архіп.** Усякі як хоча, так па ўласнаму бацьку плача. А нос ваш—я ўсё-ж недзе бачыў.

**Кашавод.** Адчапіцеся вы ад майго носа, нарэшце. Не дзед, а назола нейкая.

(Вышаў).

ЗЯВА III

**Архіп.** Ці не збрахаў гэты дохтар Кашапёр? Ты добра прагледзеў яго паперы, Барыска?

**Барыс.** Паперы яго ў парадку, ды і нас з раёна папярэджвалі, што будзе прывіўка. Але я тэлефонным размовам не паверыў—патрабаваў паперу.

**Архіп.** Ды вера, сынку, у нашай справе даўно ў пазыкі пайшла. Верыць вер, ды, калі трэба,—правер, гэта надзейней. Пайду скажу Аўсею, каб у канюшні ні пад якім відам гэтага Кашавода не пушчаў і дарэчы сам праверу, ці ўсё ў парадку.

**Барыс** *(горда)*. Навошта хадзіць. Мы і адсюль даведаемся.

**Архіп.** Як гэта, святым духам?

**Барыс.** А вось як.

(Святлана адхінае простыню пад плакатам, на сцэне адкрываецца рама, шэсць шыбак у ей. На шыбках надпісы. Надпісы відаць толькі тады, калі за імі запальваецца святло.

**Барыс.** Выкліч першы пост.

(Святлана націскае кнопку. Праз нейкі час запальваецца лямпачка за рамай і асвятляецца надпіс „усё ў парадку").

**Барыс.** Пост № 2.

(Святлана націскае другую кнопку, запальваецца лямпачка за другой шыбкай, на ей надпіс „усё ў парадку").

**Барыс.** Пост № 3.

(Святлана націскае на трэцюю кнопку, зноў асвятляецца надпіс: „усё ў парадку" *)

**Архіп.** А каб ты бога не любіў. Як-жа гэта?

**Барыс.** А ў мяне сёння піонеры вартуюць. Яны свае пасты паставілі, а я сігналізацыю правёў. Тэлефонаў няма (абяцаў камдыў прыслаць хоць пару палявых, але пакуль што няма), вось я і змайстраваў: батарэю дастаў, а дрот быў. Не так шмат і работы было.

---

*) Як гэта зрабіць? Калі ў калгасе ёсць электрычнасць і манцёр—ён зробіць такую сігналізацыю сам. Калі-ж электрычнасці няма, то можна асвятліць надпісы на раме звычайнай лямпай з-за сцэны. Калі нельга зрабіць раму—можна ўзяць звычайную падвойную раму—у ёй таксама 6 шыбак. Замест надпісаў можна прарэзаць літары ў картонцы і тады, асветленыя ззаду лямпай, яны будуць лепш відаць праз шкло ў раме.

**Архіп**. А ўсё-ж пайду пагляджу сам—ці не спяць твае пасты, Барысе. Нагамі яно надзейней, чым дротам. На кнопку ён каторы і з прасоння націснуць можа.

**Барыс**. Спяць?! А ну, выкліч начальніка разведкі.

(Святлана выклікае, націскаючы кнопку над рамай).

**Архіп**. Прыдзецца, відаць, прысесці, паглядзець. А куды Надзея Сямёнаўна паехала?

**Святлана**. У калгас „Першага мая". Заўтра-ж галасуем, дзед, у Вярхоўны Совет БССР. Як я шчаслівa, што на гэты раз і я галасаваць буду. Мне сёння спаўняецца роўна 18 год. Каб на дзень спазнілася радзіцца—я-б сёння ўсю ноч праплакала ад крыўды.

**Барыс**. Як быццам радасць усяго народа не большая за такую крыўду.

**Святлана** (*перадражнівае*). Большая, большая. А калі самому не хапіла поўмесяца ў мінулыя выбары—так сам схаваўся і плакаў. Нават я дапамагала.

**Архіп**. Эх, дзеткі. У горы жыўшы чалавек абіваецца і ад вялікага гора не плача, а ў шчасці жыўшы, з непрывычкі, каласкі мае, і ад малага паплачаш. Не тое было калісь. Нават той корх зямлі, што вочы засыпаў у магіле, быў чужым, не нашым. Бывала год у кулака прарабіўшы—ідзеш дамоў завыўшы, бо не толькі нічога не заплоціць, а прычэпіцца к канцу года, збрэша, што ў яго грошы прапалі—ці што—саб'е на горкі яблык і выганіць з хаты. А зараз—залаты час, каласкі мае. Вось сястра ваша, Надзея Сямёнаўна, каб на колішняе—прабатрачыла-б малады век, як маці яе. А зараз—дэпутат Вярхоўнага Совета. Залаты час цяпер; калі хто памёр, то зараз каецца: бо не варта было, не бачыўшы харошага жыцця—паміраць. Эх-хе-хе, а і на мяне, відаць, на тым свеце правіянт ужо выпісваюць. Пайшлі леты ў свет, як ліст з дрэва.

**Барыс**. Жыць, табе дзед, да поўнага комунізма на зямлі.

**Святлана**. Яшчэ ордэн, дзед, атрымаеш. Ты-ж залаты, дзед, ты—наш Батоўкін, дзед.

**Барыс**. Як здадзім 200 коней Чырвонай арміі (ды якіх коней, дзед!) далі-бог-жа ордэн атрымаеш.

**Архіп**. Дзе мне, старому? Ды і не варта. Надзеі Сямёнаўне трэба ордэн. Гэта яна ферму на ногі паставіла, першай у акрузе зрабіла. Яна прымусіла ўсіх разумець, што конь—гэта вялікая сіла.

**Барыс**. Ды й якая сіла, абаронная!

**Архіп**. Па-мойму, конь з чалавекам і ў раю быў, гэта потым ужо папы яго на асла падмянілі.

З'ЯВА IV

**Пецька** (*убягае. Ён у баявой, падкрэслена-баявой, экіпіроўцы*). Таварыш начальнік, дазвольце далажыць...

**Архіп**. Ты, каласок, дакладвай, дакладвай. А я ўсё-ж пайду сам пагляджу, яно вярней будзе. Можа коні ўжо глаголы чытаюць.

Ды і на Аўсея я, Барыска, вока не маю. Конюх стары, яшчэ ў манастыры конюхам быў, а як паглядзіць на каня—конь у бок шарахаецца.

**Барыс.** Нічога за ім дрэннага не заўважана.

**Архіп.** Аб тое ідзе. А сэрца да яго не ляжыць. Ці не стаць мне самому на варту? Ноч перад выбарамі... Мала што можа здарыцца? Трэба, сынку, жыць заўтрашнім розумам.

**Барыс.** Я, дзед, сам зараз пайду.

**Архіп.** Табе што там рабіць? У цябе заўтра работы шмат. А я стары, што зрабіў, то як знайшоў, а што з'еў, то як выкінуў. Усёроўна начамі не надта спіцца.

(Пайшоў)

## З'ЯВА V

**Пецька.** Таварыш начальнік, дазвольце далажыць: у піонерскай разведцы... усё ў парадку. Толькі нехта садраў два плакаты і я іх назад прыбіў.

**Барыс.** Там, каля канюшні?

**Пецька.** Не, тут на двары.

**Святлана.** Можа вецер? Наш-жа двор на юры.

**Пецька** (*убачыўшы, што ў акне паказалася галава сабакі*). Шарык, Шарык! І ты ўслед, сабака паршывы! Які-ж ты разведчык? Я табе казаў—ляжаць, пакуль я прыду. За невыкананне загада заўтра на гаўптвахту пасаджу. Чэснае піонерскае, на цэлы дзень пасаджу. Марш на месца! Пашоў!

**Святлана.** Разведчык ты мой залаты—дай я цябе пацалую.

**Пецька** (*засаромеўся*). Не трэба, у акне відаць.

**Святлана.** Што відаць?

**Пецька.** Як з Барысам?

**Барыс.** Цалаваліся?

**Святлана** (*нападае на Барыса*). Борка-аборка, я табе казала, не трэба.

**Барыс.** Калі ў вас у дзяўчат губы такія—самі цягнуць. А ты, шэршань, падглядзеў?

**Пецька.** Трэба дужа мне. Шарык пабег, я яго даганяў. Барыс папрасі Надзею, каб узяла мяне ў кавалерыю, у полк. Я там шчанючка выпрашу—самага меньшанькага і горшанькага, якога не шкада. Я яго выгадую, не бойся. Будзе сапраўдны разведчык, як у іх палку, як шэф расказваў. А потым і мы самі школу сабак-разведчыкаў завядзем, як у шэфаў, ей-права. Мы з Януком згаварыліся.

**Святлана.** А вы з Янукам голуба ўжо кінулі муштраваць?

**Пецька.** Якое кінуў (*выцягвае голуба з-за пазухі***). Ён во тут са мною. Кожны дзень кормім яго пад бярозай і ён звык лятаць туды і дамоў.

**Барыс.** Ты нам пакажаш, дзе твае пасты стаяць. Але глядзі, калі знойдзем, што хто-небудзь заснуў—усю варту знімаю адразу.

---

*) Калі гэта немагчыма зрабіць, гэтага фраза апускаецца.

**Пецька.** Не такая ноч, каб заснуць. Перад выбарамі, што мы маленькія—не разумеем?

**Барыс.** Тры тыдні прасіліся, каб дазволілі вам гэтую ноч вартаваць. Незаконна—мы гэта дазволілі, а калі спадлуеце...

**Пецька.** Ноч на 26 чэрвеня 1938 г. аб'яўлена ганаровай піонерскай вахтай. Мы ведаем гэта не горш за дарослых. Барыс—чаму гэта не зробяць так, каб мы—дзеці хоць раз прагаласавалі па ўсім Саюзе?

**Барыс.** А завошта?

**Пецька.** Каб выбраць нам каго ці што? Ці падтрымаць вашы, дарослых, выбары?

**Святлана.** І каго-б выбралі.

**Пецька** (*радасна*) Сталіна! Таварыша Сталіна! Мы-б яго выбралі аднагалосна.

**Барыс.** Пачакай. Будзе час і ты будзеш выбіраць яго ў Вярхоўны Совет, але ўжо трэцяга скліканне.

**Пецька** Аж трэцяга. І чаму мяне мама раней за цябе не нарадзіла!

**Барыс.** А што-б было, жэўжык ты?

**Пецька.** Я-б заўтра галасаваў, а ты-б аблізваўся.

(Чуваць машына)

**Святлана** (*заскакала*). Надзея Сямёнаўна прыехала! Надзея Сямёнаўна прыехала!

**Барыс** (*скачучы*). А мы да яе прыходу скончылі, скончылі (*зацягвае пасцілкай устаноўку*).

**Святлана.** Не скачы ты, жаніх. Мама мне і так кажа: „За каго ты пойдзеш? Ён-жа ніколі з павагай не пройдзе, а ўсё бяжыць, усё падскаквае, як малы".

**Пецька.** Давай навыперадкі. (*Садзіцца на кіёк і паехаў вакол стала*).

**Барыс** (*за ім*). Пецька, вушы адарву.

З'ЯВА VI

**Надзея Сямёнаўна.** Добры вечар, Святланка.

**Святлана.** Добры вечар, Надзея Сямёнаўна.

**Надзея Сямёнаўна.** Барыс! Камандзір дывізіі прыслаў два палявых тэлефоны. Гэта ўзнагарода за добрую работу на ферме. Дрот у сенцах.

**Барыс** (*заскакаў*). Вось я зараз і прымайструю. Пецька! Гукні тваю падзмену.

**Пецька.** Ёсць, гукнуць падзмену, таварыш камандзір.

**Надзея Сямёнаўна** (*усміхнулася*). Пачакай, воін. Баранкаў вязку прывезла.

**Пецька.** Можна з хлопцамі з'есці?

**Надзея Сямёнаўна.** Можна, можна.

**Пецька.** Дзякуй. Я пабег. Адна нага тут, а другая там. (*Выбег*).

З'ЯВА VII

**Надзея Сямёнаўна** (*садзіцца на ложак*). Стамілася, як калісь малая. 50 чалавек на прыёме і два мітынгі. Так і хочацца, як Мамлакат, да бацькі пад крыло галаву пакласці. Каб вы ведалі як у палку прынялі. Ды ў калгасе таксама. У палку адзін чырвонаармеец прапанаваў: „калі з намі не павячэраеце—пакрыўдзіцца полк“—і прышлося астацца на вячэру. Кампалка падвёз дахаты. Дай мне, Святланка, блокнот на палічцы (*Святлана падае*). Заўтра выбары выбарамі, а Марыі Іванаўне з „1 мая“ на яслі грошы здабыць трэба. Такая дзетвара ў яе—расцалаваць мала. Барыс, не ведаеш—да Сцяпанавых доктар прыязджаў?

**Святлана**. Прыязджаў, я і лекарства адпускала.

**Надзея Сямёнаўна**. А чаго ты, Святлячок, так прыбралася?

**Святлана**. Мне сёння 18 год стукае.

**Надзея Сямёнаўна**. Уга! Поўналеццe спраўляеш? Дай пацалую. Скачы здарова. Тры гады таму назад і я вось так у жыццё ступала.

**Барыс**. І яна сёння мне абяцала сказаць...

**Святлана**. А вось і не абяцала, а калі будзеш усім хваліцца ды расказваць дык „не“ скажу і нават „не“ не скажу.

**Барыс**. Ды Надзеі-ж мы павінны сказаць, яна-ж у мяне і сястра і як маці.

**Надзея Сямёнаўна**. Ах вы, жэўжыкі, светлакрылыя. Няўжо я без вашага сказу не заўважыла? Ну што-ж, жывіце шчасліва, калі любіце адзін аднаго. (*Жартуе*). Благаслаўляць нечым—абразкі яшчэ мама на дрывотнік выкінула. Вось хіба падарыць вам у адзнаку шчаслівага вечара гэту карціну. У ёй любасць таварыша Сталіна да народаў Саюза, да дзяцей, да працы, да светлага жыцця. У ёй наша любоў да яго—да бацькі. Будзьце падобны да яго—і вы будзеце найшчаслівейшымі на свеце.

**Святлана**. І зайздрошчу я табе, Надзейка, ты Сталіна бачыла.

**Надзея Сямёнаўна**. Побач сядзела, гаварыла. А вочы ў яго, як сонцам свецяць—па-бацькоўску цёпла і радасна. Мне нават сніўся ён пасля гэтага не раз. Учора, здаецца—вывелі мы нашы дзве сотні на вадапой, а ён ідзе і так любоўна пагля-дае на нашых рысакоў. І мне ўсміхнуўся: „Добрыя коні, кажа, будзе на чым паноў даганяць, калі пад Варшаву ўцякаць будуць. А уцякаць будуць абавязкова!

**Барыс** (*захоплены*). А, слова гонару, так-бы сказаў, каб пабачыў нашу ферму.

**Надзея Сямёнаўна**. Вось таму і сніцца, што хочацца, каб ён так сказаў. І не толькі пра ферму, а пра ўсякую справу, якую робіш. Дарэчы—ты сам быў зараз на ферме?

**Барыс**. Зараз я пайду. Толькі што дзед Архіп туды пайшоў. Я пад вечар быў.

**Надзея Сямёнаўна.** Ці ўсё ў парадку?

**Барыс.** Усё, да апошняй істужкі ў косах Русалкі.

**Надзея Сямёнаўна.** На што істужкі?

**Барыс.** А як-жа! Ну і выедзем мы заўтра на выбарчы ўчастак, ай маліна! Прагаласуем і словам, і справай, сястрыца. Сто адборных коняй запражом. У першую тройку: Пегас, Буцэфал і папа Пій 12-ты. Каламажка новенькая, чысценькая. Сядуць ордэнаносцы нашы і ты. За фурмана—я. Ну і пракачу, Надзейка, аж дарога пылам закурыцца.

**Надзея Сямёнаўна.** Ну, я магу і скрамней паехаць.

**Святлана.** Калгаснікі не дадуць: ім сваю славу і гонар хаваць няма навошта.

**Надзея Сямёнаўна.** А на другой каламашцы?

**Барыс.** Самыя старыя бабулькі з калгаса, а сярод іх мая бабулька, Святлана Іванаўна, будучая...

**Святлана.** А вось і не сяду. Я з Надзеяй Сямёнаўнай паеду.

**Надзея Сямёнаўна.** Толькі ўгавор—мяне Надзеяй Сямёнаўнай не клікаць. Не дарасла яшчэ.

З'ЯВА VIII

Уваходзіць дзед Архіп і Аўсей.

**Дзед Архіп.** Каб на цябе індыкі брахалі. Не хоча з варты саступаць, хоць заржэж яго. Пацягнуў яго да вас—загадайце, Надзея Сямёнаўна.

**Надзея Сямёнаўна.** Гэта Барыс можа загадаць, ён начальнік фермы. А вартаваць хто застаўся, што вы абодвы прышлі?

**Архіп.** Пецька з сваімі арламі там.

**Надзея Сямёнаўна.** На мой погляд, дзед Архіп ганаровую варту заслужыў. Ён і старшы і лепшы конюх.

**Барыс.** Так і вырашана, дзед Архіп.

(Званок тэлефона)

**Надзея Сямёнаўна.** Адкуль? З раёна? НКВД? Я ля тэлефона. Да вас звоняць з розных сельсоветаў, што ў нас коні патручаны? Паклёп, разумеецца. Варожая вылазка, ды яшчэ, як відаць, і арганізаваная.

**Барыс** (*адхіляе прастыню. Пад ёю вялікімі літарамі з усіх трох пастоў: „Трывога! Трывога! Трывога!“ У вакно заскробся і скуліць Шарык. Дзесьці стрэл*). Трывога! (*Бяжыць у дзверы*)

**Надзея Сямёнаўна.** Святлана!—падняць людзей і ацапіць ферму. Ці, пастой... усё роўна падняць! (*Святлана выбегла*).

**Дзед Архіп.** А каб вы галавой наклалі (*пабег, за ім Надзея Сямёнаўна*).

З'ЯВА IX

**Аўсей** (*адзін. Яго твар рэзка змяніўся*). Ага, хвароба на вас, заскакалі. Яшчэ не так заскачаце.

(На дварэ пачаў дрынкаць звон, засвяцціліся факелы, ці ліхтары. У акно забіўся голуб).

**Аўсей**. Акыш, птушка, дух божы. І ты большэвікам у дапамогу? Прасвятая Прузына Полацкая, княгінька ты наша,.. акыш, каб на цябе каршуны (*кідае нечым у голуба і разбівае акно*).

З'ЯВА X

**Пецька** (*хутка ўбягае ў хату. За ім вядуць Кашавода і другога з барадой. У абодвух страшэнна падобныя вялікія насы*). Мы злавілі, мы злавілі, піонеры злавілі.

**Архіп**. Ах, каб ты туды не дайшоў і назад не вярнуўся. Барада, як у святога Міколы, а сумленне, як у шыбеніка. Ты-ж, доктарам завешся, а смерць носіш, каб цябе сырая зямля не насіла.

**Пецька**. Раскінулі мы свае пасты, замаскавалі, як ты, Барыска, навучыў—хто стажком сена, хто кусцікам і—прыціхлі! Але калі ты, дзед Архіп, Аўсея павёў,—бачым крадуцца ўдвух. Шарык не вытрымаў, на іх! Мы гуртам за Шарыкам. А гэты як бахне з ліхвольверта! На сабаку спаткнуўся і як плясне! Гэты пузаценькі на яго. А мы гуртам.

**Архіп**. Во, кажуць:—„Куды чорт!— „Балота паліць",—„Дык яно-ж мокрае, гарэць не будзе". „А мне толькі-б пакасці нарабіць". Так і яны, гады. Разбіты, выкінуты, свайго-ж усёроўна не вернеш—бо які-ж дурань цябе слухаць будзе і рабіць на цябе будзе, а ўсё-ж пакасць робяць. Не, паночку, калі і пойдзе ваш брат угару, дык толькі на вяроўцы.

**Надзея Сямёнаўна** (*злоўленым*). Думалі абясконіць калгас, і каб не было на чым заўтра выехаць на выбары? Памыліліся, чэрві апошнія.

**Барыс** (*злоўленым*). Вы заўсёды памыліцеся. Сваё дабро мы навучыліся ад ворага адстойваць. Гэта вам не першыя гады калектывізацыі.

**Дзед Архіп**. Станьце, станьце поруч. Нос к носу. Дзе я вашы насы бачыў? (*Радасна*). Ды ў ігуменні-ж нашага манастыра, у святой манахіні. Даўгі таўсты нос і лупы, як хамут. Бывала у царкву зойдзе, дык парахвіяне за дзверы бягуць, ад аднаго носу нудзіць пачынае. Толькі ў яе быў адзін нос, а тут два? Ці не сынкі вы ігуменні, сукінай мацеры? Вас-жа любы сабака па гэтай шыльдзе пазнае.

**Надзея Сямёнаўна.** Слухайце вы, апошнія. Восем год таму назад па загаду вашай „матушкі" быў атручаны „прахожым" бачок з піццявой вадой у школе, у якой я вучылася. Можа гэтым „прахожым" быў хто-небудзь з вас—тайных сынкоў богабаязнай манахіні. Атруцілася гэтай вадой мая лепшая сяброўка—Арынка. І калі я стаяла ў галаве яе труны, глядзела на белы-

белы тварык, на паркалёвую сукеначку ў гарошак, на маці, якая білася галавой аб труну сваёй адзінай дачушкі—я думала: што-б я з вамі зрабіла, каб злавіла вас тады? Рэзаць на кавалкі, кропля па кроплі выпускаць вашу чорную кроў—усяго гэтага для вас мала. Заставіць вас перад усім светам голасна прызнацца, што вы горш за змей, падлей за самую подласць і нізасць, што вы шалёныя ваўкі, а не людзі, і тады знішчыць вас, сцерці з твару зямлі. Сцерці спакойна ўпэўнена, ведаючы, што ўжо назаўсёды. І мы гэта зробім. (*Да піонераў*). Дзякуй вам, таварышы піонеры, што вы абаранілі нашу соцыялістычную маёмасць. Яна наша, яна наша, яна сталінская, свяшчэнная і недатыкальная. І на зло ўсім ворагам, на радасць нам—мы заўтра выедзем галасаваць за нашу вялікую партыю, за лепшых людзей краіны, за шчаслівае жыццё і перамогу над усімі і ўсякімі ворагамі!

---

*М. Ільінскі*

# НАШЫ СТАРЫЯ

**Камедыя ў адной дзеі**

АСОБЫ:

ПІМЕН ЦІХАНАВІЧ—цэхавы майстар—66 год
МАРФА РЫГОРАЎНА—яго жонка, трыкатажніца—56 год
ПЯТРУСЬ—іх сын, дэмабілізаваны чырвонаармеец—23 гады
ЛАМАРА—яго жонка, 19 год
МІКІТА СЦЯПАНАВІЧ—прыяцель Пімена, старшыня заўкома—59 год

Дзея адбываецца ў нашы дні.

Месца дзеі—пакой у кватэры Пімена Ціханавіча.

Пасярэдзіне ўваходныя дзверы, злева дзверы ў другі пакой, справа шырокае вакно, на падваконні якога за цюлевай гардзінай шэраг гаршкоў з кветкамі (прымулы, гартэнзіі, бегоніі, герані), на падлозе перад акном кадушкі з фікусам і міртамі.

Паміж уваходнымі дзвярамі і правай сценкай—буфет. Ля левай сценкі паміж авансцэнай і дзвярамі—канапа. Над канапай партрэт таварыша Сталіна. Налева ад сярэдніх дзвярэй—тэлефон. Пасярэдзіне пакою стол, пакрыты белай сурветай, на стале чайная пасуда (відаць, пасля снядання), над сталом пад вялікім шаўковым абажурам лямпачка, наўкол стала некалькі крэслаў.

Скрозь на падлозе пазасціланы тканыя дарожкі*).

На сцэне Пятрусь і Марфа Рыгораўна.

**Пятрусь.** Не турбуйся, маці,—усё будзе як след, бацька і не апамятаецца, як апынецца на пенсіі.

**Марфа Рыгораўна.** Ледзь ногі цягае, старэча. Даўно на пенсію пара, дык вось-жа не хоча... Баіцца ўсё па-за жыццём застацца. Партком каб на яго націснуў...

**Пятрусь.** Націснуць, маці. Толькі глядзі, ні мур-мур. Каб і думкі ў яго не было, што я з табой заадно... цсс—ідзе!

**Марфа** *(збірае са стала пасуду і, выходзячы ў сярэднія дзверы, сутыкаецца з Піменам Ціханавічам)*. Дай прайсці. *(Выходзіць)*.

**Пімен Ціханавіч.** Сур'ёзная маці сёння. Гаварыў ёй што?

**Пятрусь.** Так, раіў на пенсію перайсці.

**Пімен.** Не хоча?

**Пятрусь.** Дзе там.

**Пімен.** От заўзятая жанчына! І па дому работы хапае, і на фабрыцы яшчэ... Не хоча згадзіцца, што не тыя гады ўжо... Яшчэ летась трэба было ёй на пенсію перайсці—дык не!

---

*) Па жаданню пастаноўшчыка абстаноўка можа быць спрошчана.

**Пятрусь**. Нічога, бацька. Мы яе сягоння—пад корань. Пойдзе на пенсію. Хай толькі ўбачыць малое—іншы свет ёй адчыніцца...
**Пімен**. От ужо я з яе пасмяюся, хе-хе-хе...
**Пятрусь**. Пасмяемся, бацька. Толькі,—ні гу-гу... Каб і думкі ў маці не было, што я з табой ў змове.
**Пімен** (*сядаючы на канапу, накладае яшчэ адны акуляры і разгортвае прынесеную з сабой газету*). Будзь упэўнены... Хе-хе-хе. Толькі не марудзь—сып, брат, на вакзал і адтуль, як хутчэй.
**Пятрусь**. Таксі вазьму... Праз дваццаць хвілін буду, і мы яе—пад корань! цсс—ідзе!
**Марфа** (*увайшоўшы з памытай пасудай, стаўляе яе ў буфет*). Куды збіраешся?
**Пятрусь**. На завод. Канчаткова дамовіцца. Заўтра-ж станаўлюся на работу. (*Да Марфы ціха*). У заўком (*змоўніцкі падміргнуў бацьку і выйшаў*).
**Пімен**. Эх, Марфа Рыгораўна, добрага мы з табой сына выгадавалі.
**Марфа**. Цябе на заводзе заступіць—змена твая.
**Пімен**. Фю-фюць! Мяне заменяць, калі рак свісне.
**Марфа** (*раптам абурыўшыся*). Зноў сваё! (*Трагічна патрасаючы чайнікам*). Гэта супроць Канстытуцыі! А яшчэ стаханавец, цэхавы майстар, стары чалавек! (*Крышка ад чайніка ляціць на падлогу*).
**Пімен** (*спакойна, пасмейваючыся*). Чайнік паб'еш, а пасля мяне-ж яго папраўляць прымусіш.
**Марфа** Чайнік! Чайнік!! Бачылі вы яго?! Я пра Канстытуцыю, а ён мне—чайнік! Думаеш управы на цябе не знайду? Не знайду?!
**Пімен** (*падражніваючы*). Не знойдзеш, бо 93 артыкул Канстытуцыі кажа: „Грамадзяннін мае права на працу“... Я гэтым правам і карыстаюся.
**Марфа**. 93-ці! А 95 што кажа? Што?!
**Пімен**. (*спакойна і навучальна*). „Грамадзянін мае права на матэрыяльнае забеспячэнне ў старасці“.
**Марфа**. Ага!
**Пімен**. „У ста-рас-ці...“
**Марфа**. Маладзенькі! Ну, паглядзіце вы на яго! Хлопчык!.. (*Са штучнай пагардай*). Старэча ты няшчасная! Ногі ледзь перасоўваеш. Хутка трэція акуляры на нос узапрэш.
**Пімен**. Гэта глупства. Мужчына да смерці работнік і... мужчына...
**Марфа**. Муж-чы-на... Смарчок ты! Порхаўка трухлявая! Мужчына... (*Телефонны званок*). Слухаю... Пімена Ціханавіча?.. Зараз... (*Да Пімена*). Цябе—заўком.
**Пімен** (*бярэ трубку*). Я... добры дзень, Мікіта. Дзякую—добра... Ну-ну, пацеш... Што-о-о-о?! Я аб гэтым не прасіў. Жонка?.. Яна прасіла. Ну яе і пераводзьце на пенсію, а я магу і буду работаць... Слухаю, слухаю... Так, так, та-э-эк... Я ўжо шэсцьдзесят шэсць год Пімен, так. А вы, Мікіта Сцяпанавіч, хоць і старшыня заўкома, ды глупствам займаецеся... Пры-

чым тут старыя галошы (*кпліва*). Прыяцелі!.. У мяне трэба было спытаць, а не капрызам мае жонкі патураць.

**Марфа** (*крычыць у трубку*). Не слухай яго, Мікіта Сцяпанавіч! Гэта ён...

**Пімен** (*абурана*). Дурная баба! Д-даруйце... Гэта, на жаль, не вам. (*Да жонкі*). Адыйдзі, Марфа. Скончу гаварыць,—галасі ў трубку—колькі ўлезе. (*У трубку*). Так, слухаю...

**Марфа** (*упарта*). Усяроўна на маё выйдзе.

**Пімен** (*у трубку*). Вось, вось... І таму, што я не маленькі, дык і правы і абавязкі свае вельмі добра ведаю. Што... Не агітуйце мяне, калі ласка,—я сам добры агітатар. Навучыліся ўжо. Так... Што? (*Суха і рэзка*). Даруйце! Не маю часу на пустыя гутаркі. Бывайце (*рэзка павесіў трубку*). Агітаваць мяне за савецкую уладу! Несвядомага знайшлі! (*Да жонкі, злосна*). Бач ты, як яго накруціла! А яшчэ прыяцель! (*Рэзка садзіцца на канапу і бярэцца за газету*).

**Марфа**. Пімен!.. (*Маўчанне*). Піма!.. (*Маўчанне*). Пімен Ціханавіч.

**Пімен** (*з'едліва*). Слухаю вас, Марфа Рыгораўна.

**Марфа** (*лісліва*). Ну хіба гэта дрэнна? Навошта-ж упірацца? Ці-ж не час табе ўжо адпачыць? Працуеш-жа сорак восем год.

**Пімен**. Сорак два.

**Марфа**. Сорак восем!

**Пімен**. Тры гады турмы і тры грамадзянскай вайны ў стаж не ўваходзяць.

**Марфа** (*упарта*). Уваходзяць—сорак восем!

**Пімен**. Сорак два.

**Марфа**. Кажу—сорак восем!

**Пімен**. Сорак два.

**Марфа**. Сорак...

**Пімен** (*перапыняючы*). Стрыжана — голена; голена — стрыжана... Хай будзе стрыжана.

**Марфа** (*задаволеная перамогай*). Ну, во... Ці-ж мала адпакутваў за гэтыя гады? Колькі на гаспадара таго поту паліў.

**Пімен** Эге... На гаспадара працаваў, значыць, а як для народа, дык жыла кароткая—у кусты,—так?

**Марфа**. Для народа таксама не мала папрацаваў.

**Пімен**. І яшчэ магу—і буду. (*Узяўся за газету*).

**Марфа** (*абурана*). Папрацаваў, колькі мог і годзі. І больш не будзеш.

**Пімен**. Бу-ду...

**Марфа**. Не будзеш!

**Пімен** (*пяе*). Бу-ду-у...
Я сорак год з табой, ваюю,
і, як відаць дарма...

**Марфа**. Цябе не слухаю, не чую—
ад злосці слоў няма!

**Пімен**. А ты не злуйся, супакойся,
разваж, як чалавек...

**Марфа**. Не! Ты ўжо лепш разваж! Пабойся,
не скарачай свой век.

**Пімен.** Свой век прадоўжу толькі працай,—
без працы нудна жыць.
**Марфа.** Ну, што рабіць мне з гэтай „цацай“,
ну, як тут не тужыць?
**Пімен.** Дурны тужыць сягоння будзе,—
цябе паслухаць—смех!
**Марфа.** Партком, заўком!—памогуць людзі,—
не пойдзеш больш у цэх!
**Пімен.** Пай-д-у-у. Табе, як відаць, не давядзеш. Дай спакой (*бярэцца за газету, сеўшы зноў на канапу*).
**Марфа.** Не дам! Так і ведай: пакуль не згодзішся пайсці на пенсію...
**Пімен.** А сама?
**Марфа.** Я?! З фабрыкі да пліты, ці прымуса?
**Пімен.** А зараз, хіба не гатуеш абеда?
**Марфа.** Хачу гатую,—хачу—не! А тады... Што мне тады больш рабіць?
**Пімен.** Ага! А мне што?
**Марфа.** Адпачываць!
**Пімен.** Штогод па месяцу адпачываю—хопіць!
**Марфа** (*ледзь не плачучы*). Не! Памрэш без пары! Годзі! Не дазволю! Я... у партком пайду! Я цябе!..
**Пятрусь** (*уваходзячы*). Што за гоман, а бойкі няма?
**Марфа.** Спытай у бацькі.
**Пімен** (*пагардна адмахнуўшыся*). А-а! У інваліды мяне ўсе вызначае... Прыехала?
**Пятрусь.** Усё ў парадку, таварыш начальнік!
**Пімен** (*з жахлівай злараднасцю*). Добра! От мы яе зараз, як гэта ты кажаш?
**Пятрусь.** Пад корань, бацька.
**Марфа.** Гэта мяне пад корань?
**Пімен.** Цябе, цябе, старая.
**Марфа.** Ну, такі яшчэ не нарадзіўся.
**Пятрусь.** Нарадзіўся, маці, нарадзіўся.
**Марфа.** Хацела-б я паглядзсць на яго.
**Пятрусь.** У момант прадстаўлю.
**Пімен.** Цягні іх, Пятрусь, сюды.
**Пятрусь.** Есць! (*Шырока расчыняе сярэднія дзверы*). Прашу!

Уваходзіць Ламара.

**Ламара** (*уваходзячы з дзіцем на руках*). Вось і я.
**Пімен** (*пераняўшы яе ля дзвярэй, абняўшы за плечы, вядзе і садзіць на канапу*). Просім, просім... (*Да Марфы*). Прымай, Марфа Рыгораўна, нявестку.
**Марфа** (*збянтэжана*). Ня-вест-ку-у?..
**Пятрусь.** Нездаволена маці?
**Марфа.** Дурань! (*Ідучы да Ламары, расплываецца ў спагадлівай усмешцы*). Прыгажуня якая!
**Ламара.** Звычайная. У нас у Тбілісі—усе такія. (*Вітаюцца*).

**Марфа** (*на бок*). Спрытная... (*І разглядаючы дзіця, якое Ламара палажыла на канапу*). Гэта-ж ваша... мае... унучанятка?
**Ламара** (*паказваючы на сябе і Пятруся*). Наша.
**Пятрусь**. Калектыўнае.
**Марфа** (*захоплена*). Маленечкае маё.
**Пятрусь** (*смяючыся*). Не бядуй, маці,—падрасце.
**Марфа**. А няўжо-ж! (*І расплываючыся ў радаснай усмешцы*). Але-ж прыгожанькае!..
**Ламара**. Вашага сына.
**Марфа**. Майго... маё... роднае...
**Пятрусь** (*да Пімена, падміргваючы*). Пад корань?
**Пімен**. Умгу... Хе-хе-хе...
**Марфа** (*захоплена*). Пухіры пускае... Як-жа зваць?
**Ламара**. Серго.
**Пімен**. Добрае імя.
**Пятрусь**. Ну, маці, як жонка, сын?
**Марфа** (*стараючыся захаваць свае захапленне і робячы строгі выгляд, які, аднак, расплываецца ва ўсмешцы*). Гэта ён так у арміі служыў.
**Пятрусь**. Трэба-ж, маці, сабе змену падрыхтаваць. Ды і табе ўжо змена патрэбна. (*Паказваючы на Ламару*). Вось яна цябе на трыкатажнай і заменіць.
**Марфа** (*да Ламары*). Трыкатажніца?
**Ламара**. Цэхавы інструктар.
**Пятрусь**. Стаханаўка.
**Пімен**. Бач ты!
**Пятрусь**. А як інакш? Што я сабе фамілію псаваць буду.
**Марфа** (*да дзіцяці*). Прачнуўся! Вочкі, вочкі якія! Чорненькія, як жучкі.
**Пімен**. Матчыны.
**Марфа** (*не ў сабе ад захаплення*). Гэта-ж... Гэта-ж...
**Пімен** (*перадражніваючы*). „Гэта-ж"... Гэта-ж прыдзецца табе, старая да мяне ў пакой перабірацца...
**Марфа**. І перабяруся. (*Да Пятруся*). Гэтак знянацку! Хоць-бы слова сказаў. Нічога-ж не падрыхтавана.
**Ламара**. Пятрусь хацеў вам сюрпрыз зрабіць.
**Марфа**. Але-ж сюрпрыз. Дайце-ж я вас пацалую.
**Ламара**. Не трэба „вас", завіце проста: „Ламара", „ты", як дачку.
**Марфа** (*абдымаючы Ламару*). Дзякую, родная, за ўнучка... Старасць маю суцешыла...
**Пятрусь** (*да Ламары*). Бачыш, якая ў нас маці,—на выгляд—тыгра, а ў сапраўднасці...
**Пімен**. І ў сапраўднасці, Пятрусь—тыгра.
**Марфа**. Ну, ты, ты—смарчок стары.
**Пімен**. Бачыш?—тыгра!
**Марфа**. З табой інакш нельга... (*Бяручы дзіця на рукі*). А вось гэтае... маленькае... Вось каго я цяпер песціць буду... (*Да Пятруся*). Такога табе сына выгадую.
**Пятрусь**. А ўправішся?
**Марфа**. Чаго?

**Пятрусь**. І на фабрыцы, і няньчыць...
**Марфа**. Не твая справа.
**Пімен**. Сапраўды, старая—як-жа?
**Ламара**. Мама на пенсію пойдзе.
**Пімен**. Дзе-там! Яе на пенсію і калом не загоніш.
**Марфа**. Што-о-о? А вось вазьму, ды пайду. Страх вялікі! Цяпер мне з гэтым маленькім—усюды добра.
**Пімен**. Пад корань, хе-хе-хе...
**Пятрусь**. Я-ж казаў...
**Марфа**. Стой! Пачакай... Гэта ты з ім у змове? Супроць мяне?..
**Пятрусь** (*з вясёлым дакорам*). Хіба-ж супроць? Няўжо не задаволена?
**Марфа**. Ну і жулік! Але... цешся—не злуюся.
**Пімен**. Пад корань, хе-хе-хе...
**Марфа** (*перадражнівае*). Пад — корань. (*Хаваючы задаволеную ўсмешку ў штучнай пагардзе*). У-у-у, стары смарчок—порхаўка трухлявая!
**Пімен** (*да Пятруся, удаючы абурэнне*). Чу-у-уў? Га? Я трухлявы смарчок! Га? Ды я... я (*да Марфы*). Вось глядзі! (*Хапае кадушку з фікусам і, прыціснуўшы яе да грудзей, падтанцоўваючы, пяе*):

Я дужы і рухавы,
І спрытны, як юнак—
Сямейныя ўсе справы
Наладзіць я—мастак.

**Усе**.
І ў хаце і на працы
Мы не знаем гора:
Кожны дзень жыць весялей,
Чым жылося ўчора.

**Пімен**.
Сып, маці!

**Марфа** (*пяе*).
Прыдбала унучанятка,
А разам з ім дачку...
Цьфу!..—радасныя слёзы
Пабеглі у ваччу.

**Усе**.
І ў хаце і на працы
І г. д....

**Ламара** (*спявае*).
Я маладая маці
І маю маці я—
У чужой нібыта хаце,
Глядзіш—свая сям'я!

**Усе**.
І ў хаце і на працы,
І г. д...

**Пятрусь** (*спявае*).
Сын, жонка, бацька, маці—
Вясёлы карагод...
Свая сям'я ў хаце—
Сям'я і ўвесь народ.

**Усе**.
І ў хаце і на працы
Мы не знаем гора,
Кожны дзень жыць весялей,
Чым жылося ўчора.

**Пімен** (*з азартам*). Ведай нашых!
**Мікіта Сцяпанавіч** (*уваходзячы*). Го! Ці не вяселле тут у вас?
**Марфа**. Лепш! І вяселле, і радзіны, і акцябрыны...
**Пятрусь**. І ўваходзіны.
**Мікіта**. Усё разам?
**Марфа**. Ну, проста, у адзін момант, Мікіта Сцяпанавіч. І... і я, нават, на пенсію вырашыла.
**Мікіта** (*разводзячы рукамі*). Гэтага ўжо не чакаў.
**Марфа** (*прыціскаючы да грудзей дзіця*). А я?... Я хіба такога чакала?
**Пятрусь** (*да Мікіты*). Гэта мая жонка (*да Ламары*). А гэта адзін з кутоў заводскага трыкутніка.
**Мікіта** (*вітаючыся з Ламарай*). Бач, ты, якую кралю падчапіў! Усе хлопцы зайздросціць будуць.
**Пятрусь** (*да Марфы ціха*). Зараз і бацьку пад корань... пакінем іх.
**Марфа** (*да Мікіты*). Годзі ўжо ўглядацца—здзівіш. (*Да Ламары*). Хадзем, дачушка—абсталёўвацца трэба... (*Ідзе з дзіцем у дзверы налева*).
**Ламара**. Цягні рэчы, Пятрусь. (*Ідзе ўслед за Марфай*).
**Пятрусь** (*выходзячы ў сярэднія дзверы*). Добра.
**Мікіта** (*да Пімена, які збянтэжаны прыходам Мікіты стаіць з фікусам*). Што гэта ты ў абдымку з фікусам.
**Пімен**. Фі-фікус?.. Гэта... гэта пераставіць яго трэба... (*Стаўляе фікус на папярэдняе месца і да Мікіты суха*). Сядайце—госцем будзеце.
**Мікіта**. фю-фю, які сур'ёзны... А я зайшоў да цябе па-сяброўску пагутарыць.
**Пімен**. Можаце не турбавацца, Мікіта Сцяпанавіч! Нічога з гэтага не выйдзе. (*Раптам горача*). Інваліда знайшлі! Рана, Сцяпанавіч!.. Ды як-жа без мяне? Моладзь! Хто іх, прахвостаў, навучыць працаваць? Га?
**Мікіта**. Хіба мала за сваё жыццё маладых панавучаў?
**Пімен**. Уга! На ўсю краіну хапіла-б майстроў... Толькі—навучыш, а яго ў інстытут, ці на грамадскую, ці партыйную работу, а то проста ў дырэктары...
**Мікіта**. Ці-ж гэта дрэнна?
**Пімен**. Хто кажа?—Добра. Кожнаму ходу даваць трэба... Вось Пятрусь мой—токарам рабіў:—прышоў з арміі—механік.
**Мікіта**. Растуць?
**Пімен**. Угору ідуць! А мы...
**Пятрусь** (*уваходзіць нагружаны вузламі, чамаданамі. У аднаго з чамаданаў адрываецца ручка*). Эх старэнькі,—знасіўся, у адпачынак просішся... (*Ухапіўшы чамадан за абрывак ручкі*). Адпачнеш—цяпер адпачнеш. (*Валачэ яго за сабой у дзверы*).
**Мікіта** (*задумённа*). Вось і мы так... не падумаеш у пару аб адпачынку, як гэта чамадан скалупнешся.
**Пімен** (*абурана*). Гэта прабачайце! Я вам не чамадан.—Мяне ў кладоўку не паложыце, Мікіта Сцяпанавіч!
**Мікіта**. Што ты! Што ты!—наадварот... Мы... Абмяркоўвалі мы ў парткоме твой уход на пенсію і...

**Пімен**. Нікчэмны занятак, бо...
**Мікіта**. Дай сказаць, Пімен.
**Пімен**. Гавары.
**Мікіта**. Абмяркоўвалі і вырашылі, што зусім расстацца заводу з табой—ніяк не можна.
**Пімен** (*бадзёра і ўпэўнена*). Вось гэта правільна! (*І раптам недаверліва*). Чакай, чакай, а што ты мне сёння па тэлефоне гаварыў?
**Мікіта**. Гаварыў, ды не дагаварыў—ты-ж слухаць не хочаш...
**Пімен**. Ды кажы ты—не цягні.
**Мікіта**. Бачыш, патрэбен ты нам і вельмі.
**Пімен** (*ганарыста*). А хіба не?!
**Мікіта**. Толькі не задавайся, Пімен.
**Пімен**. Калі што якое нікчэмнае скажаш, то й, сапраўды, ганарыцца не варта.
**Мікіта** (*ляскаючы Пімена па спіне*). Во дзе, стары чорт, пад'ехаў.
**Пімен**. Эх, каб быў ты малады, я-б табе зараз... Ну, ды што з такой старызнай. Сам праз год, нябось, на пенсію падасіся.
**Мікіта** (*сур'ёзна і ўдумна*). Падамся і ў кладоўку не палезу. І табе гэта раю... (*Разважна*). Вось зараз у нас выбарчая кампанія разгортваецца. Патрэбны людзі. Шмат людзей, якія маглі-б расказаць аб мінулым, аб сучасным, аб нашай Канстытуцыі... Разумееш?
**Пімен** (*радасна здагадваючыся, але не верачы сваёй здагадцы*). Ты гэта, Мікіта... мяне...
**Мікіта**. Цябе, цябе, Пімен. Па нашаму ўчастку агітатарам... ты-ж можаш. І здорава можаш... Ты-ж навучаны: і эксплаататарамі, і турмамі, і грамадзянскай вайной, і працай.
**Пімен** (*пераконана*). Навучаны.
**Мікіта**. На заводзе цябе любяць...
**Пімен** (*задаволена*). Любяць, шэльмы, хоць я ім, спуску не даю.
**Мікіта**. Майстэрству моладзь навучыць здолеў, а вось навучыць іх сэрцам разумець Канстытуцыю нашу Сталінскую хіба не можаш?
**Пімен**. Магу. Магу, Мікіта!
**Мікіта** (*запальваючыся*). Так ім расказаць пра былое-мінулае, каб яны ўсёй душой адчулі прыгажосць сучаснага. Каб цану яму—гэтаму сучаснаму глыбока, усім сэрцам зразумелі! Хіба гэта кладоўка?
**Пімен** (*у захапленні ляскае Мікіту па калену*). Ых, ты старызна!
**Мікіта** (*зморшчыўшыся ад болю*). Ну цябе!
**Пімен** (*пагладжваючы яму калена*). Даруй, Мікіта. Вельмі ты ўжо мяне ўсцешыў... (*Усхапіўся, замітусіўся*). Ведаеш... Э, чорт! Ну, як тут табе сказаць. Ды я... Даруй, Сцяпаныч, за гутарку па тэлефоне... Вось яно як!.. Дурань! Як ёсць, я—стары дурань!..
**Мікіта**. Ну, ну—пачаў ужо сябе бэсціць.
**Пімен**. Сапраўдны дурань! Здавалася — з жыцця прэч... А жыццё-ж... яно такое ў нас шырокае... Да выбараў паагітую, а там другое што... Так ад жыцця ні на волас... А ў

цэху—моладзь... Хай яны папарацца, як я, хе-хе-хе... А я ім, курносым, раскажу! Я, Мікіта, умею!

**Мікіта**. Таму цябе і вылучылі.

**Пімен** (*ходзячы па пакоі*). Эх, чорт!.. (*кліча*). Марфа! Марфа Рыгораўна! Марфуша!..

**Марфа** (*уваходзячы*). Цсс... Ціха ты! Дзіця разбудзіш...

**Пімен** (*расплываючыся ва ўсмешцы*). Унучак... Сыну змена гадуецца... Га! Мікіта? (*прышчоўкнуў языком, падміргнуў*).

**Марфа**. Чаго клікаў?

**Пімен**. Здагадайся, хе-хе-хе...

**Марфа**. Зусім здурэў...

**Пімен** (*паказваючы на Мікіту*). Пад корань ён мяне, старая. Як ёсць—пад самы корань узяў.

**Марфа**. Ага!

**Пімен** (*весела*). Умгу... (*і шпарка і бадзёра*). На пенсію пераходжу.

**Пятрусь** (*які з Ламарай увайшоў услед за Марфай, да яе*). Я-ж казаў...

**Пімен**. Ведаю, ведаю... (*жартліва пагражаючы*). Гэта ты тут усё накруціў.

**Мікіта**. Го! Ён малайчына! Ён, браце, цябе заменіць, ды так— толькі трымайся!

**Пімен** (*да Пятруся сур'ёзна*). Глядзі, брат, каб сорамна за цябе не было, за змену сваю.

**Пятрусь**. Ёсць!

**Марфа** (*абдымаючы Ламару*). А яму мы ўжо такую змену выгадуем...

**Ламара**. Выгадуем, мама!

| | |
|---|---|
| **Марфа** (*пяе*). | Як крыніца цячэ,<br>Наша моладзь расце. |
| **Усе.** | Моладзь нашая<br>ды савецкая! |
| **Пятрусь.** | І як моладзь—расце,<br>Буйным цветам цвіце. |
| **Усе.** | Улада нашая,<br>ды савецкая! |
| **Ламара.** | Усё расце, ды цвіце,<br>ды жыццё нам дае. |
| **Усе.** | Улада нашая,<br>ды савецкая! |
| **Пімен.** | А хто шчасце нам даў,<br>Хто жыццё збудаваў? |
| **Усе.** | Улада нашая,<br>ды савецкая! |
| **Мікіта.** | Ленін, Сталін далі<br>ўсім народам зямлі |
| **Усе.** | Жыццё светлае,<br>ды шчаслівае! |

7/V-38 г.
Менск.

*Влад. Глазырын*

# ВЫБАРЫ ГАРАДСКОГА ГАЛАВЫ

Апавяданне

Ціт Цітыч Папоў у апошнія дні адчуваў неспакой. Ён падкрадаўся падвечар зусім нечакана, нараджаўся недзе ў сярэдзіне і пачынаў у сэрцы сваю нудную музыку, далёка за поўнач не даючы заснуць. І не царкоўны перазвон, і не співанне кліросаў у „святыя Параскевы“ ў суботу, і не сталаначальнік павятовага прысутствія пан Трапезнікаў, які наведваўся да Ціта Цітыча штодня, не маглі суняць ні заглушыць гэты нудны неспакой. Нават памізарнеў Ціт Цітыч. І толькі з раніцы, а Ціт Цітыч засынаў цяпер толькі на досвітку, уся гэта несупакоенасць нібы міналася, адганялася іншымі клопатамі, гаспадарскай гандлёвай сумятнёй новага дня. Але як толькі ён садзіўся за стол, за полудзень ранішні—лыжка ў рукі, а апетыту няма, пачынаецца нуда, згрызота, хоць што рабі—няма спакою.

А ўся прычына была ў тым, што Ціт Цітыч, абапіраючыся на капіталы свае, гандлем з вялікай заўзятасцю здабытыя, на сілу сваю ў горадзе, на пабудову ў хуткім часе фабрыкі велізарнай хутравой—выставіў сябе кандыдатам у гарадскія галовы. Але маючы вялікае і хваравітае сапраўды купецкае самалюбства, якое не магло зм'рыцца хоць-бы з найменшым прыніжэннем асобы першагільдзейскай, і ўлічваючы небяспеку ў суперніцтве іншых прэтэндэнтаў—надзвычай турбаваўся. Тры разы важыўся ён у папярэднія балатыроўкі гласных выставіць сябе, але не асмельваўся, і вось цяпер, з благаславення айца Панцелеймона, настаяцеля і архімандрыта крэстаўздзвіжанскага мужчынскага манастыра, улічыўшы ўсе за і супроць, падлічыўшы свае капіталы, а таксама рухомую і нерухомую маемасць,—маўляў ці моцны я,—адважыўся.

А яно вунь які неспакой. Нават у лазню, дзе раней кожную суботу гадзіны па тры парыўся, хадзіць перастаў. На тыдні, да таго ў канторы сваёй з чыноўнікам панам Трапезнікавым загаварыўся, што і на баню, не гледзячы на дзень суботы, забыўся.

А непакоіцца было з чаго. Першай гільдзіі купец Рыбакоў—галава цяперашні—супернік сур'ёзны. Праўда, у Рыбакова наяўнымі капіталу зроду не было, але справу гандлёвую наладзіў ён здорава, абароты вялікія; на крэдыце ды на банках людзі прыстасаваліся хлёстка працаваць. Ды яшчэ былі чуткі, што фабрыкант Махаў, уласнік скурана-аўчынных прадпрыемстваў у цэлым павеце мяркуе таксама ў галовы. Вось паспрабуй, падужайся з імі.

Было яшчэ некалькі асоб у купцоў мясцовых, якія пратэндавалі ў галовы, ды той народ супроць Ціта Цітыча не ўстоіць, не сапраўднае кондавае купецтва, плюгавы, не вытрымае.

А яно-ж і вельмі ладна было-б у галовы. Першым чынам,— як галава, акцыянерам уступіць у чыгуначную кампанію па пабудове веткі ад губерніі к гораду. Усіх туды, у справу гэту выгодную, не пускаюць. Па-другое, камерцыйную сувязь па збыту вавёрак з Піцерам наладзіць, а там, як бачыш, і з замежнай фірмай звязацца, годнасць гарадскога галавы гэтай справе дарогу шырока дае: гарадскі галава і ў губернатара павагу мае.

— Ну ўжо, ойча Панцелеймон, буду галавой у горадзе— не сыйсці мне з гэтага месца, капліцу табе каменную пры манастырскай сцяне, каля варот галоўных, адчыбучу. З распіснымі сценамі, на пяць купалаў пад макаўкі.

— Ды будзе благаславенне боскае на цябе, раб божы Ціт,— гнусавіў Панцелеймон, хітра жмурачы вочкі, сціпла перабіраючы лястоўку.

* * *

У горадзе Слабажаеве па рэестрах гарадской управы домаўласнікаў лічылася 687, дамоў-сядзіб пустых, „сірых"—без наследнікаў, у тым ліку—3. З гэтай колькасці з вылікам трох домаўласнікаў, што мелі права выбіраць гласных—гарадскога самакіравання, г. зн. гаспадароў, нерухомая маёмасць якіх ацэньвалася не ніжэй 420 рублёў—чатырыста дзевятнаццаць. Такім чынам пры 9895 жыхарах горада 9476 чалавек удзелу ў выбарах членаў гарадскога самакіравання былі пазбаўлены. Але з іх, па асаблівай пастанове гарадскога самакіравання, было прысвоена права прысутнасці на выбарах у якасці гасцей і дарадцаў сотні чалавек. Гэта былі духавенства, чыноўнікі вышэйшых класаў, служачыя з высокімі акладамі ў буйных купцоў і прамыслоўцаў.

* * *

Па даручэнню настаяцеля Панцелеймона, манастырскі келар Піцірын і архіманах Варсанофій абыходзілі веруючых і спачувальнікаў святому манастыру. Пыталіся пра здароўе, і пакідаючы, дзе святую прасфору, а дзе толькі адно благаславенне ад бога, усякім чынам стараліся хваліць гарадскога дабрадзея і бацьку, які клапоціцца аб чадах гарадскіх сваіх, купца першай гільдзіі Рыбакова Елізара Фаміча. Будучы прадбачлівым чалавекам, Елізар Фаміч не абмяжоўваўся толькі абяцаннем пабудаваць капліцу каля варот манастырскіх, а адвагі ад „скудасці сваёй" на справы манастырскія, у рэнце дзяржаўнай пятнаццаць тысяч рублёў, зацміўшы „шчодрасцю сваёй" абяцанні Ціта Цітыча Папова. Аднак пра гэта Ціт Цітыч не чуў і не ведаў, па-ранейшаму спадзяючыся на падтрыманне свайго прэстыжу перад насельніцтвам праз іх прэпадобій, айцоў манастырскіх.

Рыбакову трэба было ва што-б там ні было астацца галавой. Ад гэтага залежаў водкуп усіх грамадскіх у горадзе збожжавых

лабазаў, для збыту збожжа з некалькіх паветаў праз горад Слабажаеў за мяжу. Адным словам, наперадзе перспектывы на мільёны рублёў.

Выбары, што меліся быць, хвалявалі ўсе „пласты" насельніцтва горада, апрача асноўнага насельніцтва—рабочых, гарадской мяшчанскай галечы і дробных чыноўнікаў.

Сярод купецтва, дробных гандляроў, духавенства, „прамысловых кругоў", чыноўнай інтэлігенцыі толькі і гаворкі было пра маючую быць балатыроўку членаў у галавы. Гэта не жарты—выбары. Тры гады нудзіліся дзікай павятовай нудой і вось раз у тры гады—выбары. Нават забыліся і на наладжванне штомесячных аматарскіх спектакляў, што рабіліся з дабрачыннай мэтай, на карысць мясцовых прыютаў. Наладжваліся вечарынкі, а хто буйнейшы, багацейшы і вечар на поўгорада даваў—каб заваяваць аўтарытэт,—у галовы, скажам, не трапіш, дык гласным каб быць.

Тупарылы быў у сваіх разуменнях Цiт Цiтыч, неабачлівы, толькі на айца Панцелеймона праз абет пабудовы капліцы, ды на чынулю Трапезнікава спадзяваўся. А Рыбакоў тым часам такі баль мясцовым бацькам горада, ды чыноўніцтву з духавенствам наладзіў, што пан павятовы іспраўнік Хамутоў к канцу вячэры жывой рыбай, прыгатаванай для ухі працвярэжнай, пасаліўшы, закусваў, страціўшы і розум, і галаву, і ўсю сваю годнасць. Пасля гэтага пан іспраўнік тыдзень на службу, ні ў горадзе не паказваўся, што вельмі абрадавала ўсіх гарадскіх легкавых рамізнікаў, якія ад радасці ўзнялі праязную таксу. Вечар гэты быў такі асляпляльны для горада Слабажаева, што ўвайшоў у яго гісторыю і аб ім было змешчана нават у губернскай газеце.

Спахапіўся і Цiт Цiтыч—таксама вечар зрабіў і грошай больш, чымся Рыбакоў, выдаткаваў, а шыку-бляску такога не атрымалася і пан павятовы іспраўнік з вячэры на сваіх нагах пайшоў, аб чым доўга шкадаваў мясцовы брандмайстар, бо на другі, пасля балу, дзень ён наважваўся выкарыстаць мяркуемае нездароўе іспраўніка і паўстайні пажарных коней пагнаць на работу ў арандуемае ім, ад горада, поле.

* * *

Адзіна безудзельнымі да выбараў былі рабочыя і гарадская „домаўласніцкая" бедната, але пагаварвалі, што на запалкавай фабрыцы Леснікова рабочыя новаму складу гласных петыцыю якуюсьці складаюць, прасіць хочуць аб чымсьці. Ды рабочыя мэблевай фабрыкі Рыбакова прасілі гаспадара пашырыць казарму на Казюлькіным пустыры, таму што цесна і выгад ніякіх, нават прыбіральні, як для людзей, не маецца. Гаспадар паабяцаў, няхай толькі галавой ён астанецца, усё зробіць.

* * *

Настаў дзень выбараў. Гарадская управа з раніцы была ўпрыгожана трохкаляровымі сцягамі, насупраць управы, на будынку гарадской вагі таксама сцяг узняты, быццам у кірмаш. Напярэдадні

і саборную плошчу падмялі, аж булыжнік зіхацеў, а гной, з плошчы згрэблены, купкамі вялікімі ў сіметрычных радах па плошчы красаўся, паспелі-б яго і вывезці, ды брандмайстар Заліваеў не дазволіў, так як па заведзенаму з даўняга часу звычаю, гэты гной ішоў на брадмайстаравае поле, а плошчу ад куч ачысціць, значыць дарэмна гной па мяшчанскіх агародах аддаць. Выбары-ж праз тры гады зноў адбудуцца, а гной з рук сойдзе.

Гарадавыя і пажарнікі ў гэты дзень на пастах у новым абмундзіраванні пахаджалі. Парусінавыя кашулі на іх тапырыліся, як кулі з сухой воблай.

Прасторная зала гарадской думы, з прыстойнымі радамі аднолькавых крэслаў удоўж сцен, выглядала прыбрана, напамінаючы этыкетку ад дзяшовай карамелі. Цар на галоўнай сцяне, ва ўвесь рост у гусарскай форме, быў заліхвацкім. Карона на бок, нос бульбай. Перад партрэтам стол пад зялёным сукном з кісцямі, а на ім усемагутнае зерцала законаў—„Свод уложений, законоположений империи российской“.

Народу процьма. Паддзёўкі ватныя, кафтаны, сурдуты да пятак, зялёныя віцмундзіры. Просты народ не дапускаўся. Камісія ўскрыла урну, прыступіўшы пры агульным маўчанні і сапенні да падліку галасоў па выбарах гласных.

У ліку 25 гласных сказаліся абранымі і Ціт Цітыч, і Рыбакоў, і Махаў. Прадстаяла балатыроўка шарамі на выбар галавы, а пасля гэтага першае паседжанне думы ў новым складзе, па „традыцыі“ з парадкам дня: „аб мерапрыемствах, накіраваных да дабрабыту горада сяго“.

Дваццаць пяць луз было ўстаноўлена ля стала ў асобым пакоі, у які павінен быў увайсці кожны новаабраны гласны член думы і пакласці свой шар у лузу жадаемага ім кандыдата ў голавы.

Перад балатыроўкай старшыня земскай управы, сівы, запляснелы стары ў віцмундзіры і чыноўнай трохуголцы, які з'яўляўся абавязковым прадстаўніком урадавага сената, пачаў агалошваць перад сабраўшыміся наказы сасловій і цэхаў горада.

Гэта былі нудныя, кручкатворныя граматы,—ад купцоў, якія хадайнічаюць аб зніжэнні гарадскіх, па гандлю, падаткаў—гэта значыць змяншэнне каштоўнасці гандлёвага патэнта; ад дробных прамыслоўцаў,—аб субсідыраванні рамесніцкай управы сродкамі на ўтрыманне ў майстэрнях вучняў; ад прыхажан царквы св. Нікалая,—аб пабудове за кошт горада царкоўнай агарожы, з прычыны адсутнасці на гэтую патрэбу ў храме сродкаў і з прычыны таго што агарожа, выходзячы на галоўную вуліцу, павінна з'яўляцца гарадскім упрыгожаннем; ад манастырскай абшчыны—пакорная заява чыноў манашаскіх крэстаўздзвіжанскага святога манастыра,—аб пабудове каля сцен манастыра капліцы.

Пачуўшы заяву святой манастырскай брацii, Ціт Цітыч і рот расчыніў, косткай, нібы, падавіўся, а потым так густа пачырванеў, што чыноўнік Трапезнікаў, які ішоў з ім побач, спалохаўся,—каб з яго сцяпенствам удара не адбылося. Ашалелы Ціт Цітыч адшукваў вачыма айца Панцелеймона, і, нарэшце, знайшоў, вось ён—

наперадзе, з Рыбаковым ціха перагаварваецца, губамі тонкімі шчасліва ўхмыляецца, быццам пасля ікры зярністай аблізваецца.

— Ах, паскуда даўгавалосая, чорнарасая, здрадзіў, машэннік...— і з гэтымі словамі Ціт Цітыч, рушыў к яго прэпадобію, манаху ў клабуцы, ды ў час апамятаўся, бо непрыстойна купцу першагільдзейскаму, сцепенству важнаму, у духоўнае званне рукамі ўчапляцца.

Старшыня земскай управы бярэ ў рукі чарговы наказ, прачытаўшы першыя радкі, ён папырхнуўся і змоўк... Твар яго пакрыла бледнасць, па ілбу каціліся кроплі поту. Здавалася, што ў гэты час ён зможа страціць прытомнасць. Твары прысутнічаючых запытальна выцягнуліся.

Гэта была невядома як і кім (гэта так і асталося невядомым), тайком падсунутая петыцыя з патрабаваннем рабочых запалкавай фабрыкі. У ёй прад'яўлялася патрабаванне аб павелічэнні зарплаты, давядзенне рабочага дня да 8 гадзін, пабудова прыгодных для жыцця кватэр, адмена штрафаў і г. д.

Але старшыня ўжо схамянуўся. Галас яго стаў пісклівым, згубіўшым папярэднюю манатоннасць.

— Сія мярзотная папера ёсць дзёрзкае падбухторванне соцыялдэмакратаў, іменуемых большэвікамі, зламысная рука падсунула гэтую паперу мне.

Каля старшыні ўжо быў іспраўнік і прымаў ад яго петыцыю рабочых. У гэты час раздаўся шум і трэск. Прабіўшы шкло вокнаў, са звонам і грукатам, у зал „гарадской думы“ ўляцела добрых паўтара дзесятка цаглінаў.

Сабраўшыеся бацькі горада для выканання справы „дзяржаўнаграмадскай“ шарахнуліся да сцен.

Іспраўнік з гарадавымі выляцеў на вуліцу. Але нікога знойдзена не было.

У суседніх з залай апартаментах рыхтавалася пад наглядам рэстаратара Патарачынава багатая, з вялікімі „возлияниями“ вячэра, якая павінна была ўвенчаць сёнешнюю ўрачыстасць выбараў думы. Пасля адбыўшайся абструкцыі рэстаратар прышоў у непаразуменне,—ці прадаўжаць сервіроўку стала ці спыніць? Каля рэстаратара згуртаваліся афіцыянты. Але зайшоўшы, не першы ўжо раз у гэты вечар, прамачыць горла, іспраўнік, на пытанне рэстаратара—ці будзе вячэра,—так злосна кракнуў, што афіцыянты з усіх ног кінуліся расстаўляць закускі і пасуду.

Урачыстасць выбараў была сапсавана. Наказы і прашэнні да канца не дачытаны. У хуткай спешцы старшыня прыступіў да балатыроўкі; 25 гласных, у мітусні, убягалі ў пакой з лузамі, паспешна апускаючы свой шар у лузу пажаданага кожным кандыдата. Уся гэта працэдура заняла некалькі мінут. Потым усе з трывогай чакалі, касавурачыся на пабітыя вокны, рэзультатаў.

Той-жа старшыня з камісіяй са старых гласных выйшаў з балатыровачнага пакою. Разгубленасць яго не пакідала да гэтага часу, ад спалоху вочы яго зрабіліся бескаляровымі, асавелымі, замест бледнасці па твары разлілася жаўцізна.

Наступіла тое, што прынята называць напружаным чаканнем. Паігрываючы брэлокам па камізэльцы, Рыбакоў скоса паглядваў на пыхцеўшага і пацеўшага Ціта Цітыча. У Ціта Цітыча сэрца ад непакойства грудзі было гатова выламаць.

І старшыня земскай управы абвясціў:

— У гарадскія главы абраны купец 2 гільдзіі Леонцій сын Пятроў Тырышкін.

Калі-б бомба ўзарвалася сярод залі, яна-б не ўтварыла такога перапалоху.

Узняўся крык, шум,—так што нават іспраўнік, бачыўшы віды, так аслупянеў, што як толькі апамятаўся, хацеў выклікаць пажарную каманду з брандасбойтам, разганяць шалеючых бацькоў горада.

Віноўнік, купец Тырышкін, непрыкметная асоба з казлінай бародкай, якіх звычайна, тыя, што паважней, называюць „так сабе—купчышка“, ніякім чынам уявіць сабе не мог, што-ж гэта здарылася, і, калі зразумеў у чым справа,—не рад стаў такому павароту падзей і ўжо падумваў як-бы даць дзёру з думы, а то адлупцуюць яшчэ ні за што ні пра што—за здарава жывеш.

Было відавочна, што адбылося непаразуменне.

Рыбакоў першым здагадаўся, што з перапуду гласныя выбаршчыкі пераблыталі лузы.

Парадак устанавіў старшыня ў трохвуголцы, прапанаваўшы перабалатыраваць гласных, спаслаўшыся на нейкі сенацкі ўказ.

Пасля другой балатыроўкі Ціт Цітыч пайшоў дамоў. Ён не застаўся на вячэру і забыўся нават узяць на вешалцы картуз.

Галавой быў абраны Рыбакоў.

Адкрылі першае пасяджэнне новаабранай думы, спяшаючыся яго ў прадбачанні вячэры хутчэй закончыць.

Падхмялеўшы без часу, пан іспраўнік шушукаўся, падсмейваючыся, з саборным пратад'яканам. Прадметам гутаркі быў скандал у думе і, у першую чаргу, сполах земскага старшыні. Пратад'якан, айцец Мафусаіл лёгкай актаўкай ракатаў у кулак. Потым яны, не дачакаўшыся канца пасяджэння, пайшлі да закусачнага стала ў суседні пакой і перакуліўшы смірноўку, доўга рагаталі.

Старшы паліцэйскі з нарадам гарадавых і коннай варты доўга ў гэты вечар гойсалі па вуліцах горада, стараючыся трапіць на след „падазраваемых ва ўчыненні скандала ў гарадской думе з біццем каменнямі вокнаў і аўтароў петыцыі“.

І толькі праз некалькі месяцаў пасля гэтага выпадку высветлілася, што скандал з каменнямі быў наладжаны з благаславення павятовага іспраўніка, гуляшчым купецкім сынам Вахрушавым, падняўшым на гэту справу гарадскіх хуліганаў, каб стварыць правакацыю выступлення рабочых запалкавай фабрыкі.

Па парадку дня, разгледжанаму думай, было вырашана:

Аб упарадкаванні апякаемага ёю горада.

1. Пабудаваць два новых хлебных лабазы на Казулькіным пустыры, узяўшы на кошт гарадской управы казармы для пражывання рабочых завядзення купца Рыбакова і здаўшы оныя лабазы ў арэнду памянёнаму вышэй Рыбакову.

Такім чынам, не толькі расшырэнне казармы для рабочых зрабіў Рыбакоў, але выганяў іх на волю лёсу, прымушаючы перасяляцца яшчэ ў горшыя куты хібарак на ваколіцах горада.

II. Узяць на кошт гарадской управы капліцу ля галоўных врат Крэставаздзвіжанскага манастыра, асвяціўшы яе імем „пресвятыя Казанския божия матери“.

III. Задаволіць просьбу прыхажанаў храма святога Нікалая архіепіскапа Мірлікійскага, пабудаваўшы агарожу царкоўную, тым самым дасягнуўшы благалепства галоўнай вуліцы горада, іменуемай Спаскай.

IV. Дазволіць мешчаніну Чыжову, па прашэнню яго, пабудову за Салдацкай Слабадою трох публічных дамоў.

Апошні пункт датычыўся таксама мерапрыемстваў па ўпарадкаванню горада.

Першая пастанова была замацавана незлічонай колькасцю віна. Трапезу—брашно і піціе, перад пачаткам, благаславіў айцец Панцелеймон. Пілі аж да самай раніцы. Папоў з Рыбаковым на ўсе жыццё засталіся ў варожасці.

*Алесь Жаўрук*

## НАСУСТРАЧ ДНЮ

Спавіты у пануры цень
Уставаў асенні хмуры дзень.
Па-над абуджаным Тыфлісам
Усё цямней,
Усё шарэй
Густыя хмары беглі нізам
К раздоллям сонечных марэй.
Кашы ў тканіны абгарнуўшы,
Спадніцы бойка падаткнуўшы,
Гандляркі шумнай чарадой
Спяшаліся на рынак свой...
Наўстрэч два сцэпшчыкі
марудна
Пранеслі на насілках брудных
Свайго таварыша.
Ад брам
Народ збягаўся. Кожны сам
Імкнуўся, тоячы трывогу,
Разгледзіць з-пад рагожы твар.
Загарадзілі ўсю дарогу.
Насілкі сталі.
Качагар,
Што бровы хмурачы,
марудзіў
Дасюль, нібы чаго чакаў,
Далонь шурпатую узняў
І закрычаў:
— Дакуль-жа, людзі!
Я вас пытаю, колькі так
Глуміць нас будуць, як сабак?
...Але гандляркам часам гэтым
Не да нябожчыка. Такіх
Ці мала кожны дзень па свету,
Калечыцца і гіне—дзе тут!—
Не хопіць жалю на усіх,
Цяжкімі злотымі сваімі
Усе думы іх заняў базар...
Натоўп шумеў.
Цяпер над ўсімі
Узняўся згорблены гарбар.
А напрасткі,
Цяжкі і гладкі,
Як мех кавальскі, сапучы,
Ужо грымеў па хісткіх кладках
Славуты вартаўнік парадка,
Кумір мяшчан
І бог купчых—
Сажэнны прыстаў.
Тросся дзікі,
Крывёй наліты, потны твар,
Нібы праз плошчу бег на крыкі,
Як жар, начышчаны, вялікі,
Руды, тракцірны самавар.
У гэты памянёны ранак
З пакояў затхлых на прастор,
На семінарскі стромкі ганак,
Прабегшы доўгі калідор,
Мінуўшы соннага швейцара,
Паспешна выйшаў
Смуглатвары
Семінарыст. Рашучы крок.
Ледзь шапка збілася на бок.
На чорны чуб. Юнацкім пухам
Імшыцца бледная шчака...
Але якая завіруха
Пачуццяў,
дум якіх рака
Хвалюе сэрца юнака;
Якім натхненнемззяюць рысы,
Якім агнём палае зрок,
Куды ён,
Выкрэслены з спісаў
Студэнт,
Свой накіруе крок;
За лёс шчаслівы чалавека,
За сонца будучай вясны,
Устаўшы супроць свету здзекаў,
Прыгнёту, рабства і маны;

Устаўшы супроць затхлай цвілі
І верны справе да канца,
Ён,
Сын горыйскага шаўца
Вісарыёна Джугашвілі!
Што ж,
Не цяпер на ганку гэтым
Шляхі далейшыя шукаць,
Жыцця прызванне вырашаць—
Даўно ўсё вырашана.
Мэта
Прад ім адзіная ў жыцці—
Другой дарогай не пайці.
Адзінай думаю заняты,
Ён рамяство абраў адно:
Мільёны кавалёў, аратых,
Шахцёраў, горных чабаноў,
Не баючыся кар і турм,
Узняць—
Павесці ў бой,
на штурм.
Плячом налегчы разам,
смела
На глыбіну пакутных дзён,
Каб, чорная, яна ляцела
У прадонне з гулам і выццём;
Так часам, перунам
страшэнным
Расколатая, напалам,
У цясніну
з кручы высачэннай,
Спужаўшы чуткага арла,
Уначы зрываецца скала,
Што моцна сотні год стаяла,
Як ноч,
Як чорная турма,
І ўсё здавалася, бывала,
Што дням яе канца няма.
А зараз толькі пыл ад кручы
Ляціць на дно Куры кіпучай.
Ён робіць крок
і адчувае.
У нутры ўздымаецца жывая,
Святая прага барацьбы,
Народаў помста векавая,
Гаворачы:
— Ідзі, рабі;

Будзі таго, хто у знямозе
Панік пакорнай галавой,
Таго, што сам устаў на бой,
Вядзі да мэты
па дарозе
Няўхільна,
Упарта за сабой:
Згуртуй абраўшых твой
напрамак
Адзінаверцаў і сяброў—
Нязломных самых,
Верных самых,
Адданых самых змагароў,
Хто ў цяжкі час не пахіснецца,
У кім для народа сэрца б'ецца—
Тады ніякі ў свеце трон
Не спыніць
Грозны крок калон.
Няхай наўстрэч салдатаў роты,
Муроў турэмных дых смяротны,
Падлогі катаржнай слата,
Сем тысяч першая вярста,
Жандары,
шпікі,
чорт з балота,
Няхай свінец,
Няхай агонь,—
Ты моцны дужасцю народа,
Ты цвёрды воляю яго,
Як той далёкі легендарны
Герой,
Што ў бойках з лёсам хмарным
Непераможным быў,
калі
Стаяў на матчынай зямлі;*)
Ідзі—
У цябе з усім народам
Адны шляхі і перашкоды,
І радасць на зямлі сама:
Без шчасця усяго народа
У цябе і ўласнага няма!—
Вядзі-ж яго з ушчэлля мукі
За крокам крок,
За пяддзю пядзь...
Калі-ж балотныя гадзюкі
Наўкол лісліва зашыпяць
І назавуцца братам родным,

*) Маецца на ўвазе міфічны герой грэкаў Антэй, які па паданню быў непераможным, покуль дакранаўся да зямлі—сваёй маці.

І быць захочуць у сябрах—
Не вер ім,
Ворагам смяротным,
Тапчы драпежнікаў
паходным
Рабочым цяжкім ботам—ўпрах.
І ён ідзе. Ён здзейсніць мары,
Не спыніць поступу свайго.
Няхай як ноч навіслі хмары
Над светлай Грузіяй яго—
Міне нядолі час пакутны,
І путы,
Ў вогнішчы атак,
Краіна скіне з плеч магутных
І зацвіце.
Але не так
Як мараць у цішы лагоднай
Аб гэтым розныя паны,
Што гандляваць краінай
роднай,
Нібы Іуды, вечна згодны,
Хоць абаронцамі народа
Заўжды завуць сябе яны.
Над шумнавіраю Курою
Зямля цудоўная грузін
Устане роўнаю сястрою
Ў братэрстве сонечных краін.
Ён моцна верыць:
перашкоды
Не спыняць крок. Надыйдзе
дзень—
З адзінаверцамі
Народы
Ён к светлай долі прывядзе.
І будзе ў сонца пералівах
Зямля багатая квітнець,
І будзе смех дзяцей шчаслівых,
Як бомы срэбныя, звінець.
А покуль—
шрыфты і папера,
Канспірацыйная кватэра,
Лістоўкі. Увечары гурток—
Наперад несупынны крок.
А покуль—
Рамяству цяжкому
Вучыць рабочых
і самому
Вучыцца у жыцця, у іх,
У мудрых простай праўдай кніг.
І крочыць Сосо Джугашвілі *)
Вялікаму насустрач дню;
Бясконцых вулічных завілін
Мінае шпарка мітусню.
І толькі ён за рог заверне,—
Насустрач шумная рака,
А там далей—
дэпо, майстэрні,
Знаёмы голас цягніка.
Ідзе. Глыбока дышыць грудзі—
Як не было на небе хмар!
Нагорны подых ветра
Студзіць
Яго гарачы смуглы твар.
Пад цеснай курткай
семінарскай,
На самым сэрцы акурат,
Схавана кніжка—
творы Маркса,
З нямецкай мовы пераклад.

1937.

---

*) Пад гэтым імем працаваў і быў шырока вядомы сярод тбіліскіх і батумскіх рабочых І. В. Сталін у пачатку сваёй рэволюцыйнай дзейнасці.

*Э. Самуйлёнак*

# БУДУЧЫНЯ *)

## II

Восень прышла і ў Поці. Мінула грымлівае гарачае лета. Цяпер у садах і з агародаў знімалі ўраджай. На рынку поўна было ўсякіх прысмакаў. Прадавалі дробныя салодкія арэхі, каштаны, сакавітыя дыні, вінаград, гранаты—усяго не пералічыць, што прывозілі сяляне з навакольных вёсак у кірмашныя дні і па святах. Іліко за ўвесь свой век можа не ўбачыў-бы столькі садавіны адразу, каб ён заставаўся ў Сагвасаліо, а не вучыўся-б гандляваць у Сімона Гамрэкелі. Праўда, хаця ўсё прадавалася танна і нават не хапала пакупнікоў на ўсю сыравіну,—Іліко не прыходзілася вельмі раскашаваць, калі часам ён трапляў на рынак. Ён хадзіў каля вазоў, стаяў ля ятак, прыглядаўся і там і тут да пахучых, сакавітых гэтых тавараў, але ні ў чым не мог дапамагчы поцiйскаму рынку ў павышэнні попыту на садавіну: у кішэнях ягоных новых штаноў і новай камізэлькі, перашытай з гаспадарскага пінжака, яшчэ ніколі не бывала ніводнай капейкі. Але ўсё-ж тулянні па рынку ў большасці выпадкаў не бывалі бескарыснымі. Ці той ці іншы селянін, убачыўшы, што сонца схіляецца да захаду, а пакупнікоў, вартых увагі, усё няма, пачынаў збірацца дадому і цяпер не шкадаваў ужо дыні з пабітым бокам, жмені драбнейшых арэхаў, альбо пацярушанай кісці вінаграду. І Іліко, пад зайздросныя погляды гэткіх-жа стральцоў як сам, горда аддаляўся, нясучы пад пахай пабітую дыню, у шапцы вінаград і ў кішэнях пару жменяй арэхаў. Гэтыя ласункі ён дзяліў папалам з Маро.

У Іліко з Маро была вялікая дружба. Яна замацавалася з таго дню, калі Сімон збіў Іліко, і хлапец адлежваўся ў каморы, а Маро даглядала яго. Цяпер, калі Іліко патрэбна было куды-небудзь ісці, а Маро была вольнай ад работы, яны заўсёды ішлі разам. Сустракаючы на вуліцы чужых хлапцоў, Іліко браў Маро з руку, хмурыў бровы і смела ішоў наперад. Яго рэдка чапалі, бо было ўжо вядома, што Іліко заўсёды гатовы пачаць бойку абы за што. Пасля некалькіх сутычак, яго пачалі паважаць і каб ён толькі захацеў, быў-бы прыняты ў самую выбраную кампанію. Нават рыбацкія хлапчукі запрашалі яго да сябе. Але Іліко на далучаўся

*) Канец—пачатак глядзі ў № 4, 5.

ні да каго. Ён жыў сам сабою. Ён быў заўсёды заняты работай, лепш за ўсё адчуваў сябе на двары, разам з Гвацін і выходзіў за вароты Сімонавай сядзібы як у чужы свет. У ім яшчэ жыла прыродная, вясковая дзічынка.

Восень аказалася самай вясёлай парой, самым добрым часам. Мадам Гамрэкелі ад пачатку лета выехала з Гіо некуды ў горы, на дачу, дзе не было маляры. Пакідаючы гаспадарку і духан на Гургена, Сімон часта ездзіў туды праведаць сям'ю. Раз неяк прыехаўшы з вёскі, ён у той-жа дзень адбыў на дачу і не з'яўляўся цэлыя два тыдні. У такія дні, калі не было гаспадароў, можна было хадзіць у сад, можна было нават, разам з Эзабедзі, якая даглядала дом, зайсці туды, пабываць у багатых гаспадарскіх пакоях. Без гаспадароў было вольна і весела жыць, хаця работы для Іліко хапала заўсёды ў поўную меру: ён дапамагаў на кухні, прыносіў прадукты, удзень быў каля Гвацін (які, аднак, не аццяжарваў хлапца работай), увечары да самай позняй гадзіны круціў ручку шарманкі ў духане, граючы „Ой-ра, ой-ра“, „Гусарскі марш“ і „Пакахай мяне, пастушка!“, а пасля дапамагаў жанчынам збіраць забруджаную пасуду. Стомлены да амярцвення пасля поўначы ён падаў на сваю посцілку ў каморы і прасынаўся з першымі праменямі сонца. І ўсё-ж Іліко адчуваў сябе не дрэнна, хутка прывык да новага жыцця, нікому ні на што не скардзіўся, успамінаючы Сагвасаліо ўжо не плакаў, быў спрытны да работы і вясёлы. І ўсе яго ў гэтым доме любілі за выключэннем гаспадара, які называў яго „ваўчанём,“ гаспадыні, якая ніколі яго не заўважала і Гіо, якому ён у першы дзень знаёмства пусціў кроў з носу. Таму і рады быў Іліко, калі ад'язджалі гаспадары.

У доме Гамрэкелі стала цішэй ад таго дню, калі Сімон збіў Іліко. Гаспадар не так часта крычаў на слуг, зусім не чапаў Іліко, бо Гвацін, калі мірыўся з Сімонам, сказаў, што нагі ягонай не будзе ў гэтым доме, калі Сімон яшчэ раз хоць пальцам паткне беднага сірату. Іліко пашылі нарэшце здаўна чаканую паркалёвую, чырвоную кашулю і чорную камізэльку. Аднак-жа неўзабаве пасля замірэння здарылася адна загадкавая гісторыя. Гіо аднойчы выкаціў на двор пярэста размаляванае колца і, падскокваючы на аднэй назе, пачаў ганяць яго кіёчкам па двары. Іліко панура пазіраў на забаву паніча, стоячы на парозе стайні. Па двары ганяць колца аказалася нязручна, яно падскоквала на няроўным бруку і трапляла ў ямкі. Тагды малады батоно вынес сваё колца за вароты і пачаў ганяць яго па тратуары. І вось, калі цыбаты падлетак, падскокваючы і выбрыкваючы, гарцаваў па тратуары, аднекуль прыляцеў камень і так рэзануў маладога батоно па рэбрах, што той спачатку прысеў, потым заваліўся і, качаючыся ў вулічным пыле, зароў, колькі было сілы. У доме ўзняўся спалох, усе выбеглі на вуліцу, сышліся суседзі. Маладога батоно паклалі ў ложак, прыйшоў доктар і параіў кампрэс. Сімон вёў следства, мадам Гамрэкелі пабіла люстэрка, адцягала невінаватую Маро за косы і нарэшце сказала, што гэта работа „галаварэза Іліко“ і патрабавала ад Сімона, каб ён зараз-жа прагнаў хлапчука са двара. Але Гвацін пасведчыў, што Іліко ад самай раніцы быў пры ім, у садзе,

што ён не адыходзіў ад яго ні на крок, і ў самы той момант, калі малады батоно пачаў плакаць, Іліко быў там-жа і яны, пачуўшы крык, разам выбеглі на вуліцу. Гвацiя мала ў чым пакрывіў душой: у тую хвіліну, калі з вуліцы пачуўся рык маладога батоно, Іліко ўскочыў з двара ў сад праз шчыліну ў паркане і апынуўся побач з Гвацiя. Такім чынам яны ўдваіх выбеглі з саду. Сімонава следства скончылася ў карысць Іліко і пасля гэтай гісторыі ў доме Гамрэкелі ўжо надоўга запанавалі спакой і цішыня і гэтаму вельмі спрыяў ад'езд мадам Гамрэкелі з нашчадкам.

Часта ішлі дажджы, але яны не ўсталёўваліся, неба не бывала хмурным надоўга. Яно адкрывалася чыстае і яснае ў неабсяжнай шырыні надморскіх прастораў. Яно злучалася на гарызонце з морам, і ў гэтым чыстым блакіце неба і мора панавалі праменні сонца. Абамлелыя сады засыналі ў такія дні, знямоджаныя, скідаючы на цёплую зямлю першае лісце. Спакойнае мора задумана і ціха плёскала на берагі лянівай белапеннай хваляй. Спакой і восенская яснасць былі ў прыродзе.

У вольны час Іліко хадзіў з Маро на ўзбярэжжа збіраць пярэстыя прыгожыя каменьчыкі, іншым разам бегаў у порт, паглядзець на вялікія параходы, бываў на рынку, альбо разам з Маро слухаў казкі Саламеі. Яна іх ведала шмат.

Іліко любіў, стоячы па калена ў вадзе на ўзбярэжжы, дачакацца набліжэння самай большай хвалі і потым, у самае апошняе імгненне, з прыемным зніблённем сэрца, уцякаць ад яе, чуючы за сабою блізкі шум і гул. Любіў ён з нізкага адложыстага пацiйскага берага аглядаць шырокую пространь мора, сачыць за белым парусам, які тоне ў далёкім блакіце і ззянні сонца. Тады нейкую нязнаную тугу адчуваў Іліко. Тады ён успамінаў чамусьці Сагвасаліо, добрага Топурыя, якога не паслухаў, і сэрца ягонае мякчэла і ён не агрызаўся на пяшчоты Маро, якая заўсёды была гатова пагладзіць свайго прыяцеля па кучаравай галаве. Звычайна Іліко гэтага не любіў. Ён заўсёды трымаўся сур'ёзна і стала, даглядаючы за Маро, як даросла.

У порце ля прычалаў стаялі караблі—вялікія, аб'іржавелыя транспартнікі. Цяпер Іліко ужо ведаў, што яны трымаюцца на вадзе зусім не таму, што ў іх паклалі шмат сухога трысця. Акрамя таго, ён ведаў, што рухаюць іх машыны і сам не раз бачыў, як успененая бурліць вада за кармой, калі выходзіць параход з пацiйскай бухты. Вядома Іліко было, што за морам, за многа вёрст адгэтуль, ёсць другія землі і інакшыя моры і шлях гэтых параходаў непамерна далёкі, на другі ўскрай зямлі. З казак Саламеі ён даведаўся пра шмат што цікавае, напрыклад, ён ведаў цяпер, чаму ў ластаўкі хвост падобны да вілкі. Аказваецца, вужака ўзлавала на ластаўку, якая аднойчы высмеяла яе перад звярамі і птушкамі і падпільнаваўшы яе, ухапіла за хвост, мерачыся паглынуць. Ластаўка тузгалася з усіх сіл і ёй удалося вырвацца. Але ў пашчы гадзюкі засталася ўся сярэдзіна яе хваста. Захаваліся толькі два пяры па баках. Так і жыве ластаўка з хвастком вільцамі, а гадзюка таму заўсёды аблізвае джалам сваю агідную

морду, што ў яе ў пашчы поўна пер'яў. Можна падумаць, як гэта прыемна—мець заўсёды ў роце пер'е! Мог Іліко расказаць пра скупога папа, які праваліўся пад зямлю за тое, што пачаставаў сваю радню замест бараніны смажанай сабачынай. (Цяпер на тым месцы, дзе праваліўся скнара-поп—шырокае возера Папанчкіры). Мог растлумачыць Іліко, чаму сонца называецца імем малака, і мог расказаць пра мост Бамбуас-Хідзі што на рацэ Цхеніс-цхалі, дзе сам Іліко яшчэ ніколі на быў.

Свет шырока, па-новаму раскрываўся перад Іліко, праўдай і выдумкай зменьваючы яго дзіцячыя ўяўленні.

З розных падзей у жыцці Іліко ад таго часу, як гаспадыня з панічом выехалі ў горы, можна выбраць значнейшыя тры. Першая па значнасці падзея—гэта была сустрэча з Гордзі. Аднойчы ў нядзелю Іліко і Маро былі на беразе Рыёна, ля руін старадаўнай турэцкай цытадэлі. На зарослым балотнымі травамі беразе вялікай ракі нямоўчна рэхталі жабы, напамінаючы Іліко аб далёкім Сагвасаліо. Хлапец сеў пад дрэва, пасунуў свой абтрэпаны капялюш на лоб, і яго адразу моцна прыгрэла сонца, стала вельмі прыемна, цяпло і дрымота агарнулі яго. Некаторы час ён наглядаў за Маро, якая ў прыбярэжных прысадах бегала за матылямі і потым заснуў,—ён яшчэ не прывык у тую пару да гаспадаровага правіла, каб слугі ўставалі рана. Неўзабаве яго абудзіў спалоханы голас Маро. Іліко адразу, як след яшчэ на расплюшчыўшы вачэй, ускочыў на ногі. Маро бегла да яго. Тут, разгледзеўшыся, Іліко ўбачыў небяспеку. Яна набліжалася з боку спавітых дзікім вінаградам абваленых руін. Гэта быў танклявы хлапец, светлавалосы, на галаву вышэйшы за Іліко. У незнаёмага быў круглы, абсыпаны рабаціннем, твар і блакітныя вочы. Хлапец перайшоў дарогу, спыніўся і з цікаўнасцю прыглядаўся да Іліко.

— Што табе трэба, свіння?—сурова спытаў Іліко.

Хлапец усміхнуўся, і тут выявілася ў яго недастача двух пярэдніх зубоў. Ён быў худы, у шырокай, відаць, з чужога пляча, кашулі, у кароткіх і шырокіх штанах, з ускудлачанымі белымі валасамі. Такіх не было чаго асцерагацца. Акрамя таго нічога дрэннага ён пакуль што не рабіў—стаяў воддалі і ўсміхаўся. Іліко памякчэў. Нават палахлівая Маро супакоілася і выглянула з-за дрэва.

— Гамарджо!—сказаў нарэшце хлапец, старанна па частках, вымаўляючы гэтае слова.

— Гогімордзвас!—адказаў Іліко.—Ты адкуль?

Хлапец пакруціў галавой, паказаў на рот, усміхаючыся развёў рукі. Іліко здагадаўся, што хлапец не разумее мовы.

— Ты мне даў сыру, калі я ляжаў на лаўцы, у садзе,—па-расійску сказаў хлапец, і цяпер Іліко такім-жа спосабам паказаў, што і ён не разумее.

Тагды хлапец зрабіў балесную, хворую міну, паклаў галаву на далонь і Іліко адразу ўспомніў рудога чалавека і ссохлага хлапца, што ляжаў у садзе. Ён усміхнуўся і паківаў галавою. Хлапец падышоў бліжэй. Яны маўчалі нейкі час, не ведаючы што рабіць далей.

— Як цябе зваць?—спытаў нарэшце Іліко.

Хлапец зноў развёў рукі і паказаў на свой шчарбаты рот. Іліко глянуў на Маро.

— Ты скажы, як цябе самога зваць,—параіла Маро і зараз-жа звярнулася да хлапца.—Яго зваць Іліко... Іліко...

Іліко гулка пастукаў сябе ў грудзі:

— Іліко!..

Незнаёмы паківаў галавой і паўтарыў імя. Потым, паказваючы на сябе, сказаў па-расійску:

— Гордзій!.. Гордзій Усачэнко... З сяла Сушкоўцы, Бабаеўскай воласці...

— Гордзі?!

Іліко зразумеў толькі адно слова. Ад здзіўлення бровы ягоныя спачатку прыўзняліся, і ён прыадкрыў нават рот. Але потым спахмурнеў.

— Гэта ён не на цябе, Іліко...—сказала Маро.—Гэта яго самога так зваць.

І сапраўды, хлапец, паказваючы на сябе, усё яшчэ паўтараў слова, якое Іліко разумеў, як „гордзі“ *).

— Так не можа называцца чалавек...—строга сказаў Іліко.— Я ніколі не чуў, каб чалавека называлі такім паганым імем. Ён з нас кпіць... Я яму зараз дам!

Але хлапец упарта паўтараў сваё імя, убачыўшы, відаць, сумненні Іліко і таму прышлося нарэшце прызнаць, што хлапца сапраўды завуць Гордзі.

— Паслухай, Гордзі...—сказаў пасля Іліко (яму вельмі не хацелася вымаўляць гэтае непрыгожае слова)—а дзе ты жывеш?

Пытанне сваё ён ілюстраваў так: паклаў галаву на далонь, нібы заснуў, потым паказаў дах над галавой, нарэшце, нарысаваў пальцам на пяску хаціну. Гордзі зразумеў хутка.

— Я жыву ў Захарыя,—сказаў ён.—Захарыя працуе ў порце.

І ён паказаў, як рухаецца і гудзе параход. Пасля гэтага ён дакрануўся да рукава Іліко і паказаў на дарогу, запрашаючы ісці. Цікаўны Іліко не адмовіўся. Маро, нясучы ў абнімках свае лялькі, рушыла ззаду, не мяшаючыся ў кампанію мужчын. Так яны прайшлі праз гарадскі сад, дзе адбылося першае іх знаёмства, павярнулі ў вузкі завулак і парадкам яшчэ ішлі міма домікаў на палях, паўз нескончоныя парканы нізінных агародаў. Нарэшце Гордзій спыніўся ля форткі ў глухім шчыльным паркане, з-за якога выглядалі вершаліны маладых дрэў і дах невысокага дома. Гордзій адкрыў фортку і яны нечакана апынуліся ў прыгожым садзе. Аздобленыя белым квеццем стаялі раскідзістыя дрэвы, высокая трава яшчэ не прасохла пасля начы, на ёй блішчэлі кроплі расы. У садзе была свежасць, пахучая засень. Жоўтая, акуратна пасыпаная пяском дарожка вяла да невялікага дому, што стаяў у глыбіні саду, за квітнеючымі дрэвамі. Гэта быў звычайны домік на невысокіх палях, як і ўсе дамы на ўскраінах Поці. Але

*) „Гордзі“—па мінгрэльску—жаба.

сярод гэтых прыгожых дрэў ён выдаваўся інакшым, многа лепшым за другія. Сад быў куды прыгажэйшы за Сімонаў, за ўсе сады, якія Іліко даводзілася бачыць. І ён спыніўся, а з ім і Маро. Яны не адважваліся ісці далей без дазволу гаспадара.

Гаспадар з'явіўся неўзабаве. Нахіляючыся, каб не трывожыць квецце на дрэвах, па садзе ішоў чалавек з лейкай у руцэ. Ён быў без шапкі, коратка падстрыжаны, твар у яго быў нейкага бурага колеру, як-бы апалены агнём. Іліко здалёку яшчэ зняў капялюш і далікатна прывітаўся. Гаспадар адказаў на прывітанне і калі вышаў на сцежку, аказалася, што гэта вельмі высокага роста чалавек. Для таго, каб гаварыць з ім, патрэбна было ўзнімаць галаву, пазіраючы як-бы проста ў неба. Гігант, мякка ступаючы па пяску, падышоў да дзяцей. Нясмелая Маро на ўсякі выпадак адступіла за Іліко.

— Ну, знайшоў сабе прыяцеляў?—спытаў гаспадар па-расійску ў Гордзі.—Што гэта за хлопчык?

— Яго зваць Іліко,—адказаў Гордзі.—Гэта ён даў сыр, калі мяне знайшоў дзядзька Курыдзе. Ён не ўмее гаварыць па-расійску.

Іліко, пачуўшы сваё імя, хутка глянуў на гаспадара, на Гордзі, але маўчаў. Ён стаяў побач з Маро, прыстойна трымаючы ў руцэ свой капялюш. Іліко ведаў, як трэба сябе трымаць сярод незнаёмых людзей. Гаспадару гэта, відаць, спадабалася. Ён з усмешкай глянуў на важнага, надзьмутага хлапчука.

— Адкуль ты, бічо?—спытаў ён.—Гэта сястра твая?

Пачуўшы родную мову, Іліко ажывіўся. Ён падрабязна расказаў, што служыць у Сімона Гамрэкелі, што Маро—гэта дачка кухаркі і што ў яго няма ніякай радні, ён сам сабой жыве на свеце. Акрамя таго, каб падтрымаць тон, каб гэты чалавек не падумаў, што Іліко неразумнае яшчэ дзіця, ён дадаў, што па ўсім відаць, бараніна вельмі падаражэе, і калі купляць мяса, то лепш за ўсё ехаць на пасьбішчы, а то занадта нажываюцца перакупшчыкі. „Лепш купляць з першых рук“,—сказаў Іліко, слова ў слова паўтараючы тое, што ўчора ўвечары чуў у духане. Гэта яшчэ больш спадабалася гаспадару. Ён гучна зарагатаў і пляснуў Іліко па плячы. Іліко, які не чакаў гэтага, ледзьве ўстояў на нагах.

— Іш ты!—пасмяяўшыся, сказаў гаспадар.—І пра бараніну ведаеш? Мусіць, калі вырасцеш, добры з цябе будзе спекулянт? А? Будзеш нашага брата абгуліваць?

— Гандаль патрабуе добрай галавы,—разважна сказаў Іліко, але больш нічога прыпомніць не ўдалося.

Гаспадар зарагатаў зноў. Такое абыходжанне Іліко не спадабалася. Ён абразіўся, але не выказваў гэтага. Ён чакаў, пакуль чалавек, які па-просту паміраў ад смеху, супакоіцца, і стараўся прыдумаць што-нібы сур'ёзнае, бо, відаць было, што яго маюць тут за недарослага блазнюка, якім Іліко ніколі не быў.

— Я вельмі рады з вамі пазнаёміцца,—важна сказаў Іліко, калі ў садзе крыху пацішэла.—Іншым разам можна сустрэцца з прыемнымі людзьмі...

Гаспадар выпусціў лейку і ледзьве не зваліўся сам. Іліко залаваў. Маладушная Маро паддалася бурнай весялосці гэтага вялі-

кага дзядзькі і ціханька падхіхікнула, але зараз-жа змоўкла і засароміласа, бо Іліко аж пачырванеў ад гневу. Гордзі стаяў і ўсміхаўся, хаця і не ведаў пра што ход. Іліко цяпер аж пашкадаваў, што неразважна звязаўся з такой кампаніяй.

Але ўсё гэта неўзабаве скончылася. Гаспадар дасмяяўся да слёз і супакоіўся. Ён узяў сваю лейку, сказаў, што ён, Захарыя Імедашвілі, рады прыняць гасцей і запрасіў Іліко прайсціся ў сад. Там ён пасадзіў дзяцей на лаўку, сеў сам і пачаў размову. З Іліко ён гаварыў як з дарослым, больш не смяяўся і гутарка хутка наладзілася. Іліко даведаўся, што Захарыя ўзяў Гордзі сабе за сына, бо ён бяздзетны, а хлапцу няма куды падзецца і ён у гэты цяжкі час можа вельмі лёгка прапасці на чужыне. Іліко паківаў галавой. Далей Захарыя расказаў, што Гордзі вельмі хварэў цэлых тры тыдні ад таго дня, калі яго знайшлі ў садзе і цяпер яшчэ слабы, а калі падужае, ён будзе вучыць яго даглядаць за садам. Тут Іліко сказаў, што Гордзі—непрыгожае імя. Захарыя адказаў, што па-расійску яно прыгожае, але за ўсё лепш называць Гордзі Георгіем, а проста—Гіго.

Пасля таго Іліко даведаўся, што Гіго не рускі, а украінец. Украінцы—гэта вялікі і багаты народ, іх зямля вельмі добра родзіць хлеб, але там цяпер вайна і ўсю Украіну разбурылі. Маці Гіго памерла даўно, а бацьку забілі на вайне. Гіго ўзялі ў прытулак, але непрыяцель разбурыў горад і дзеці паразбегліся. Гіго паразгубляў па дарозе сваіх таварышоў і сам добра не ведае, як напоўжывы з голаду трапіў сюды, у Поці, за трыдзевяць земляў.

— Цяпер яму тут будзе добра ў мяне,—закончыў Захарыя,— ачуняе хлапец. Адно бяда, што цяжка з ім згаварыцца, бо ён гаворыць ні то па-расійску, ні то па-украінску. Мая старая аднаго слова не разумее... Але нічога, мы яго па нашаму навучым...

Такая была кароценькая гісторыя Гіго, на якога Іліко зноў пачаў пазіраць прыязна. Яму падабаўся і Захарыя. Асабліва вялікую пашану адчуў да яго Іліко, калі даведаўся, што гэты чалавек умее кіраваць параходам, што гэта ягоная служба. Іліко было вельмі прыемна, што ён сядзіць побач з такім чалавекам і гутарыць з ім. Наўрад ці быў у Поці яшчэ адзін хлапец, які меў-бы такія знаёмствы! Спачатку, ён проста не мог даць веры, што гэты, так сабе з выгляду чалавек, можа кіраваць параходам і ехаць па моры, куды яму захочацца. Але на жылістай, даўгой руцэ Захарыя ён уласнымі вачыма бачыў намаляваны сінімі фарбамі параход, такі вялікі, што пачынаўся ён, амаль што не ад далоні, а хвост ягоны хаваўся пад закасаным рукавом ля самага локця. Параход пушчаў сіні дым. У Захарыя была толькі адна загана: пры гутарцы, ён трымаў сябе з Іліко як з малым.

Так яны гутарылі пад квітнеючым дрэвам. Потым Захарыя ўстаў, асцярожна расхінуў галлё, і сярод кветак Іліко ўбачыў жоўта-зялёны, круглы, даволі вялікі плод. Ён здзівіўся вельмі, бо ніколі не бачыў яшчэ, каб дрэва квітнела і ў той-жа час на ім былі плады. Захарыя зняў плод і падаў яго Іліко.

— Вось, скаштуй пасля...—сказаў Захарыя.—І дзяўчынцы дай, вы напэўна яшчэ такой садавіны не бачылі. Гэта вельмі карысна, асабліва для вас, мышанятаў... Дрэва гэтае называецца лімон. Яно прывезена з далёкіх краёў і добра ў нас расце. Яна крыху кіславатая гэтая садавіна, але на смак прыемная. Бачыш, якое дзіва? Тут табе кветкі, тут і плады!.. Гэта ўжо такую ўласцівасць мае дрэва. На ім можна пакінуць плады на зіму і яны будуць трымацца праз цэлае лета. Дзе ты яшчэ такі цуд бачыў?

Іліко павінен быў прызнаць, што не бачыў. Пасля гэтага гутарка была скончана. Захарыя сказаў, што зараз яму няма часу і запрасіў Іліко прыходзіць, як толькі будзе ахвота. На развітанні ён сказаў, што вельмі рады знаёмству, бо Гіго аднаму было вельмі нудна і што яны праз нейкі час навучацца разумець адзін другога і будуць добрымі прыяцелямі. З гэтым ён праводзіў гасцей на вуліцу.

Адышоўшы некалькі крокаў, Іліко спыніўся і выняў з кішэні стары сцізорык, які падараваў яму Гваціія. Ён адзначыў пазногцем рыску, паводле яе разрэзаў лімон напал і адзін кавалак падаў Маро. Яны разам, як па камандзе, паднеслі ласунак да роту. У Іліко адразу скарэжыла твар, з вачэй у Маро пасыпаліся слёзы і яна выпусціла з рук свае лялькі. Хвіліну яны глядзелі адзін на аднаго, потым Маро выплюнула свой кавалак і ёй адразу стала лягчэй. Але Іліко мужна разжаваў кіслы пачастунак Захарыя, праглынуў і нейкі час стаяў з разяўленым ротам.

— Іліко, у цябе язык збялеў!—спачуваючы сказала Маро.—Ай, ай, вытры пад носам!

— Гэта карысна для здароўя,—адказаў Іліко, хутка шморгнуўшы рукавом па верхняй губе.—Я, калі выраступ, буду мець у тры разы большы сад. Гэты лімон трэба есці пакрысе, бо ён вельмі кіслы, я-ж табе казаў... А ты адразу хочаш усё з'есці! Трэба яшчэ для Гваціія пакінуць.

Маро не чула, каб Іліко казаў, што трэба есці пакрысе, але з практыкі ведала, што спрачацца не варта. Яна моўчкі пабрала свае лялькі і яны ў згодзе рушылі дадому.

Пасля яны часта бывалі ў прыгожым садзе Захарыя і заўсёды іх там сустракалі ветліва, ці сам гаспадар, ці ягоная жонка, ціхая, глухаватая жанчына і заўсёды быў ім рады новы прыяцель Гіго. Захарыя вучыў яго догляду за садам. Цяпер цэлыя дні Гіго праводзіў на свежым паветры, у зялёнай засені, у цішыні саду. Ён падужэў, падрос, не быў ужо такі худы і тонкі, як раней. Ён вучыўся мове сваіх прыёмных бацькоў, і да восені яны з Іліко амаль што дасłоўна разумелі адзін аднаго. Яны здружыліся. Гіго аказаўся майстрам на ўсе рукі. Ён вырэзваў з дрэва конікаў, прыстроіў да лялек Маро сапраўдныя галовы, рукі і ногі з дрэва, звіў вуды з конскага воласу і ўсё лета яны вудзілі ў бухце бычкоў і іншую драбязу. Проста нельга пералічыць усяго, што Гіго мог зрабіць і Іліко толькі дзівіўся ўмельству свайго прыяцеля. Захарыя-ж, для якога даражэй за ўсё быў сад—сапраўды адзін з лепшых у Поці цытрусавых садоў,—вельмі хваліў Гіго за стараннасць і, галоўнае, за любоў да раслін.

— Расліну трэба шанаваць,—гаварыў ён часта дзецям—яна прыносіць карысць чалавеку, яна ачышчае паветра так-жа, як морская чыстая вада, яна аздабляе зямлю, і яна-ж прыносіць чалавеку багатыя дары. Па чым можна пазнаць дрэннага чалавека, дурня і спуташальніка? Ён зломіць вершаліну маладога дрэўца, каб адагнаць ад сябе камароў, ён знарок пройдзе па траве, па кветках, каб ачысціць пыл са сваіх ботаў: ён выверне сук, папсуе дрэва, каб дастаць плод... Каб усе людзі былі такімі на зямлі, даўно ўжо было-б усюды гола, высахлі-б рэкі, палі засыпала-б пяском і як-бы тады было жыць на свеце? А цяпер падумайце, як-бы гэта было добра, каб кожны чалавек, што жыве на свеце, пасадзіў-бы за сваё жыццё хоць адно дрэўца дзе нібы пры сваёй хаце, пры дарозе, ля ракі!.. Вось тут, дзе цяпер мой сад, раней было балота, нізіна. Што тут было-б, каб я праз гады не стараўся, не гнуў хрыбта, не капаў канавы, не даглядаў свайго саду? Дрэнь тут была-б, адна прыкрасць адгарадзілі-б балота ад вуліцы, вось і ўсё... Вучыцеся шанаваць расліны, даглядайце іх, яны вам добром адплоцяць...

Ён хадзіў пад квітнеючымі дрэвамі, то нахіляўся над кволымі сажанцамі, прывязанымі да тычак, агароджанымі акуратнымі дошчачкамі, спрабаваў ці рыхлая зямля, ці цёплая яна, ці хапае вільгаці, то асцярожна дакранаўся да вецця дарослых дрэў, аглядаў іх, і дзіўна выглядалі тады белыя, надзвычайна чыстыя кветкі ці кволыя пладавыя завязі на яго шырокай далоні, цёмнай ад металічнага пылу, ад машыннага масла. Ён здаваўся не на месцы тут, вялікі, дужы, нязграбны, у раскошным гадавальніку заморскіх раслін. Але гэта ён працай і любоўю вырасціў гэты сад і быў тут гаспадаром, уважлівым і ўмелым. І сад быў яго ўцехай, месцам яго ных радасцей і адпачынку.

Такімі былі новыя сябры Іліко, і знаёмства ягонае з гэтымі людзьмі было першай важнай падзеяй за першыя месяцы жыцця ў незнаёмым горадзе. Другая падзея, якая засталася ў памяці Іліко, адбылася неўзабаве пасля першай. Па праўдзе кажучы, нічога асаблівага гэтая падзея з сябе не ўяўляла. Але на дзіцячую душу Іліко, уражлівую, прагную да пазнавання, не пазбаўленую фантазіі, яна ўздзейнічала вельмі моцна.

Быў аднойчы вельмі ясны дзень. Іліко і Гіго сядзелі на моле, на каменнай сцяне, што ішла далёка ў мора, адлучала ад яго Паційскую бухту і заканчвалася маяком. Хлопцы сядзелі, звесіўшы ногі над вадой, непадалёку размясцілася са сваімі лялькамі неадчэпная Маро. У порце было ціха, не чуваць было звычайнага шуму пагрузкі. Нерухома стаялі ля прычалаў замежныя транспартнікі, на іх мачтах знясілена звісалі пярэстыя флагі. Ветру не было. Бухта была гладкай, як шкло, на сярэдзіне яе час ад часу куляліся дэльфіны, паказваючы свае сінія хрыбты. Моцна прыпякала сонца. Па той бок сцяны, ціха плёскалі аб камень лянівыя морскія хвалі. Нідзе не чуваць было ніводнага гуку, акрамя шолаху і аднастайнага ўсплёску вады. Рыба не бралася. Добрую гадзіну ўжо адсядзелі хлапцы, упёршыся асавелымі вачыма ў нерухомыя паплаўкі. Блакітная глыбіня была празрыстай. Можна было бачыць белыя

пялёсткі медуз, якія, то звінаючыся, то развінаючыся, праплывалі міма, відаць былі чародкі ўсялякай рыб'яй драбязы, што круцілася ля берагу; жоўтабокія крабы хутка пасоўваліся па дне і хаваліся між каменняў. Можна было бачыць нават прынаду на вудах і бычкоў, якія праплывалі міма, абыякава абмінаючы курыныя кішкі, якія Іліко прынёс з кухні і шчодра начапляў на кручкі.

Праз нейкі час, аднак, спажывец знайшоўся. Паплавок Іліко раптоўна стаў старчма, уздрыгнуў і хутка пайшоў уніз. Ад нечаканасці Іліко замарудзіў, потым з усяе сілы тарпануў сваю вуду. Маро ўзвізгнула на ўвесь голас, у паветры мільгнуў паплавок, але на кручку не аказалася ні рыбы, ні прынады. Гіго з дакорам паківаў галавой.

— Гэта я знарок даў яму з'есці,—ажыўлена сказаў Іліко, выцягваючы з кішэні даўгую кішку.—Яны асмакуюцца і будуць пасля браць, толькі цягай! А ты, Маро, калі будзеш крычаць, то лепш ідзі сабе адразу дадому. Я табе сто разоў казаў, што рыба крыку баіцца!.. Што ты думаеш, яна такая дурная, як ты?

Маро не знайшла што адказаць, а Іліко папляваў на смярдзючую прынаду і зноў спусціў яе ў блакітную глыбіню бухты. Аднак, бычкі нешта не ўваходзілі ў смак. Паплаўкі былі нерухомымі. Напэўна, гэта быў адзіны галодны бычок ва ўсёй бухце і цяпер ён, з ласкі Іліко, падмацаваўся і залёг пад камень. Стала нудна. Сонца ўзнялося пад поўдзень. Аднастойна плёскалі хвалі за молам, час ад часу, ляніва махаючы крыламі, нізка над вадой пралятала стомленая спякотай чайка. Увесь час куляліся на сярэдзіне бухты дэльфіны.

Хлапцы зноў асавелі. Іліко захацелася спаць. Учора ён да позняга круціў шарманку, граючы „Ой-ра, ой-ра" для п'яных чыноўнікаў. Іліко падабраў пад сябе ногі, лёг на гаручую каменную пліту, падпёр галаву рукамі і сонна пазіраў на нудны нерухомы паплавок. Раптам ён пачуў нейкі тонкі гук, як-бы недзе звінеў камар. Іліко здзівіўся, бо камароў у такую гарачыню ніколі не бывае. Ён прыўзняў галаву і прыслухаўся. На самай справе, нешта гучэла на высокай і аднастайнай ноце, але гэта не быў камар. Гіго таксама ўчуў і таксама прыслухоўваўся. Моцны звонкі гук набліжаўся і нельга было зразумець, адкуль ён ідзе: ні то з гораду, ні то з безжыццёвых караблёў, што стаяць па той бок бухты. Праз нейкі час Іліко пераканаўся, што гук даплывае сюды з мора, з адкрытага мора, дзе, як вокам глянуць, не было ніводнага парусу, ні дыму, нават чаўна не было відаць. Гул набліжаўся, узмацніўся і падобна было, што недзе аднастайна грае вялікая труба.

— Ераплант—упэўнена сказаў Гіго і ён развёў рукі, паказваючы, як ляціць аэраплан.

— Айраплані?—шэптам сказаў Іліко, і сэрца ягонае затрымцела. Ён ускочыў на ногі, адразу ўспомніўшы тое, што расказваў стары Арцём: айраплані кідаюць на людзей такія штукі, што чалавека ірве напалам.

Гул ішоў з неба, залітага нясцерпным сонечным ззяннем. Раптам заўважыў Іліко, як нешта ясна бліснула там угары, і адразу бачны стаў белы птах, які, нерухома распрасцёршы крылы, строма зні-

жаўся проста на бухту. Цяпер гуд стаў грозным рыканнем. Іліко, які, спяшаючыся, скручваў сваю вуду, кінуў яе, падбег да Маро і схапіў яе за руку. Але ўцякаць не было ўжо куды. Грозны птах ляцеў проста на іх з шумам, гулам і свістам. І тут, у гэтую страшную хвіліну Іліко ўбачыў раптам, што Гіго не выказвае ніякага страху. Ён нават не ўстаў і, задраўшы ўгору свой кірпаты, аблуплены нос, з радаснай усмешкай сачыў за лётам белага страшыдла. Ён толькі махнуў рукой, калі Іліко спытаў, чаму ён не ўцякае. І гэта стрымала Іліко. Хоць сэрца білася моцна, у грудзях была халодная пустата, і ногі самі сабой парываліся бегчы, Іліко мужна стаяў, бо ўцякаць аднаму—сорам. Маро, тулячыся да яго, шырока раскрыўшы вочы, з невыказаным жахам глядзела на белы почвар, які ўжо быў над бухтай і зніжаўся да самай вады. Раптам ён кранўся паверхні сваімі цыбатымі нагамі, высока ўзляцелі белыя пырскі, спуджаны дэльфін выскачыў з вады, перакуліўся ў паветры і знік... Белы птах, з круглымі чырвонымі кругамі на баку і на крылах, імчаў па вадзе, пакідаючы за сабою шырокую сцяну пены, узнімаючы хвалі ў спакойнай бухце. Ягонае лютае рычанне сціхла яшчэ да таго, як ён спыніўся і зараз-жа чуцён стаў стук маторкі. Маленькі караблік з'явіўся аднекуль з-за велізарных параходаў і хутка пайшоў насустрач аэраплану. На хрыбце птаха Іліко ўбачыў дзве цёмныя постаці.

— Людзі вылазяць!—усклікнуў ён.—Там людзі!.. Ён возіць на сабе людзей.

Раз і другі ўдарыла ў сцяну гладкая хваля, якая толькі цяпер дайшла да молу з сярэдзіны бухты. Іліко, не адрываючыся, глядзеў на аэраплан, які спыніўся пад тым берагам. Да яго падыходзіў маленькі караблік. На вялікім белым параходзе з'явіліся людзі. Яны махалі рукамі. Але тут, нечакана пачуўся плёск вёслаў і да рыбаловаў пад'ехаў човен, у якім сядзеў руды чалавек ў пярэстай кашулі. Іліко і Гіго адразу пазналі яго.

— Гамарджос!—сказаў Іліко, як заўсёды знімаючы капялюш і кланяючыся.—Скажыце, калі ласка...

— А, купец—сто бочак!—засмяяўся Курыдзе.—Ну, як гандаль?.. Ці ловіцца рыба?—Ён глянуў на Гіго і пачаў нешта гаварыць па-расійску, потым зноў звярнуўся да Іліко.—Я кажу яму, што ён пасыцеў як саборны поп! Бач ты, які стаў! А то ляжаў без душы на лаўцы і каб я спазніўся на поўгадзіны—пішы хлопца за ўпакой... А гэта, што за маладзіца?..

— Гэта дачка нашай кухаркі,—адказаў Іліко.—Яе заваць Маро. Скажыце, калі ласка...

— Маро?—спытаў Курыдзе, упіраючыся вяслом у камень і падганяючы човен пад сцяну.—Добрае імя, Маро... і па ўсім відаць, забіяцкая з яе паненка вырасце... Колькі ў цябе лялек, Маро?

— Сем,—тонкім галаскам адказала Маро.

— Я так і думаў, што не менш!.. Патрымайце, хлопцы, я тут каля вас крыху адпачну.

Ён выкінуў на мол канат, хлапцы дружна ўзяліся за яго і лодка шчыльна стала пад самы мол.

— Ну, вось і добра,—сказаў Курыдзе, устаючы.—Тут пад сцяной, нават як-бы і засень... Што, купец, цікавая штучка прыляцела?.. Ты, мусіць, такой яшчэ не бачыў? Можа яшчэ і напалохаўся?

— Я не напалохаўся,—салгаў Іліко.—Я толькі не ведаў, што там людзі... што яна людзей возіць.

— Вось табе маеш!—сказаў Курыдзе.—А хіба-ж можа машына без людзей? Э, брат, я табе не веру, што ты не баяўся!

— Ён баяўся,—смела сказала Маро, якая любіла праўду.—І я баялася...

— Ці праўда гэта,—заспяшаўся Іліко, торгаючы цішком Маро за косы,—ці праўда гэта, што ён кідае такія штукі, якія ірвуць чалавека напалам? Пра гэта казаў Арцём Коркія...

Курыдзе ўзяўся распальваць сваю люльку. Ён увесь час пазіраў на бухту. Маторка ішла да берагу. Ён адсалютаваў англійскі транспартнік. Гідраплан застаўся адзін, лёгкі і белакрылы на сіняй гладзі бухты. Іліко ў гэты час грызла нецярплівасць. Ён хацеў даведацца, ці была хоць якая небяспека. Яму вельмі хацелася апраўдацца за сваю баязнь. Гіго выцягнуў вуду, агледзеў прынаду і, адышоўшыся, закінуў зноў. Ён не ведаў аб пакутах самалюбца-Іліко, ён марыў аб вялікай рыбе, якая можа падыйсці і ўзяцца за ягоны кручок.

— Можа скінуць такую штуку...—нарэшце сказаў Курыдзе,—і не адну, а некалькі адразу. І яны не тое што напалам ірвуць чалавека, а проста на дробнае шмаццё. Толькі цяпер ім няма чаго кідаць свае штукі, яны і так голымі рукамі ўсё забралі... Аднак-жа, такая машына можа бяды нарабіць!

— Чуеш, Маро?—узрадаваўся Іліко.—Айраплані толькі не хацеў скідаць, а то нас пазабівала-б усіх! Я што табе казаў!

Іліко адразу палягчэла. Калі ўжо ён баяўся, то, значыць, было чаго баяцца. Курыдзе вытрас сваю люльку, павязаў хусткай шыю, і коратка сказаў, адпіхаючыся ад молу:

— Ну, не буду вам тут замінаць, купцы... Шчаслівага лову!

І ён ад'ехаў гэтак-жа нечакана, як і з'явіўся. Некаторы час яшчэ было чуваць плёск вёслаў, потым усё сціхла. Калі праз поўгадзіны Іліко глянуў уздоўж молу—не было ўжо чаўна, ён вышаў у мора. Бычкі не браліся. Неўзабаве рыбаловы сабраліся дадому, і Іліко, ідучы па самым ускраі мола, па каменных гарачых плітах, увесь час азіраўся назад, на бухту, дзе спакойна стаяла страшная і прыгожая крылатая машына. Калі яны разышліся з Гіго, Іліко сказаў Маро:

— На ёй можна заляцець на самае неба. Калі я вырасту вялікі, я сам буду лётаць на айраплані.

— А як звалішся на зямлю?—спытала асцярожная Маро.—Ты лепш не лётай, мы будзем з тобой дрэвы садзіць...

— Я паляту пад самае сонца!—раптам сказаў Іліко і вочы яго заблішчэлі.—Што мне дрэвы, калі я буду лётаць высока ў небе! Хай Гіго дрэвы садзіць!

— А я?—гатовая заплакаць спытала Маро.—А я застануся?..

— Я вазьму цябе з сабой,—велікадушна адказаў Іліко.

Яны прышлі дадому вясёлыя. Іліко доўга расказваў Гваціі аб тым, як ён будзе лётаць на айраплані, калі вырасце. Гвація маўчаў, усміхаўся, і пад яго чорным вусам, як і заусёды, з трэскам курыўся агарак таўстой цыгаркі. Гэта было ў самым пачатку лета. Але і цяпер яшчэ, у восенскія ночы, марыў Іліко пра аэраплан, і гэтая прыгожая крылатая машына не раз прывідзілася яму ў сне. Яна прываражыла яго думкі, абудзіла ягоную гарачую фантазію. Прайшлі гады, і Іліко не раз успамінаў пасля пра дзіцячыя свае лятуценні, пра першыя свае жыццёвыя планы, якія засноўваліся на крылах гэтага птаха. Такая была другая падзея з найбольш значнейшых, што адбыліся ў жыцці Іліко, у першы год ягонай службы ў купца Сімона Гамрэкелі.

Трэцяя падзея—гэта была сустрэча з Макарам Чантурыя, з суседам з Сагвасаліо. Па парадку яна была першай. Іліко паслалі раніцой на рынак, да Габунія па мяса. І вось там, нечакана, ён тварам у твар сустрэўся з Макарам Чантурыя. Стары ўзрадаваўся, убачыўшы Іліко, абняў яго, вельмі расчулены і нават заплакаў. Іліко трымаў сябе як дарослы, сталы мужчына. Ён лічыў, што сорам плакаць пры людзях. Яны стаялі ля старэнькай арбы Чантурыя. Аблезлыя буйвалы, панурыўшы галовы, жавалі жвачку. Іліко пазнаў іх: адзін быў макараў уласны, другі—„Уча“ Арцёма Коркія.

— Жывыя ўсе і здаровыя,—паўтараў Макар.—І Тапурыя стары, і Вано, і Арцём, і ўся іх сям'я... Мы часта пра цябе ўспамінаем, Іліко, наш галубок... Неспакойна ў нашым краі цяпер, Сабокучаво салдаты спалілі, мы вельмі бядуем, каб да нас бяда не прышла... Я вось, так далёка ехаў, гомі прывёз, сплаціў недоімкі... Цяжка нам, Іліко...

Ён скардзіўся Іліко як даросламу, і Іліко гэта падабалася і ён усё разумеў і ацэньваў як трэба. Гэта было блізкім яму, пра гэта ён учуў, як толькі зразумеў першае матчына слова. Яны гутарылі так нейкі час, потым Іліко ўспомніў, што печы на кухні ўжо распалены і схапіўся за кошык. Надышла хвіліна развітання. Макар неяк сумеўся, патупаў на месцы, потым пашукаў нечага на возе, знайшоў клумак і пачаў яго развязваць. Ён выняў адтуль сыр, абцёр яго рукавом і падаў Іліко.

— Вось табе гасцінец, сынок,—шаптаў ён, суючы ў кошык Іліко крохкі сыр.—Гэта сулгуні, ты яго любіш, скаштуй пасля... Можа цябе дрэнна кормяць?..

Навокал таўкліся і гаманілі людзі, недзе спявалі, пішчэлі дудкі, бубніў долі—барабан, паблізу сварыліся нейкія мужчыны. Кірмашны шматгалосы і невыразны гоман панаваў над усім. Стары Чантурыя моўчкі стаяў каля сваёй крывабокай, шмат дзе вяровачкамі падвязанай арбы, і з жалем і спачуваннем, з вялікай любоўю пазіраў на Іліко. І Іліко зразумеў гэты погляд. Раптам адчуў ён з болем сваё адзіноцтва, адчуў, што ўвесь гэты вялікі натоўп з ягоным гоманам, песнямі, сваркай, з вясёласцю і горам, чужы для яго, што ён адзінокі ў гэтым горадзе і адзіны родны тут чалавек—гэта Макар Чантурыя, блізкія і дарагія—старыя буйвалы і старая арба. Гэта ўсё адтуль, з далёкага Сагвасаліо, па якім яшчэ не сціхла

балець дзіцячая душа. Нядаўна набытая, купецкая фанаберыя адразу пакінула Іліко, ён падбег да Чантурыя, абняў яго і прыцісънуўся тварам да ягонай світкі. Прайшоў ладны час, пакуль Іліко супакоіўся і не азіраючыся больш, знік са сваім кошыкам у натоўпе. Трэба было спяшацца, бо ўжо напэўна добра ўгарэліся печы на кухні. Як быў-бы рады Іліко, каб можна было цяпер ехаць з Макарам па жвірыстых дарогах, па старых трухлявых грэблях туды, дзе гнуткія тапалі хістаюцца над шэрымі стрэхамі... Але ён ведаў, што гэтага не будзе. Прыгнёт няволі чуў ужо на сваіх дзіцячых плячах Іліко... І доўгі час пасля гэтага ён хадзіў пануры, сумаваў, і добрая Саламея ўздыхала, украдкам пазіраючы на яго. Потым Іліко забыўся пра сустрэчу з Макарам Чантурыя і зноў стаў вясёлым і шустрым хлапцом.

Ён быў яшчэ дзіцянём... Ён вырастаў у цяжкай працы і цешыўся тым, што жыве. Ён быў добрае, шчырае і лагоднае дзіця, у яго было шмат сяброў і мала ворагаў—ад гэтага яму было лягчэй жыць і цяжар чужой волі не здаваўся цяжкім. Абуджаліся новыя пачуцці, прыходзілі новыя думкі. Недаспелым яшчэ розумам сваім Іліко чуў сваю будучыню і спадзяваўся на яе. „Калі я вырасту...“—заўсёды казаў ён.

Так і заставўся Іліко жыць у цёплым горадзе Поці. Ён рос, дужэў, набываў сілы, каб у пэўны час цвёрдай нагой ступіць на сваю дарогу.

* * *

Ад таго дню, калі Сімон ездзіў у Сагвасаліо, прайшло тры месяцы. Рана Сімонавай душы пастулова загаілася. Ужо не чуваць было грукату крэслаў, якія Сімон падкідаў нагой, попел таварных кніг плантацый мірна астыгнуў у печы. Ужо не прыходзілі знаёмыя гандляры, каб з гораснай мінай выказаць яму спачуванне, а ў душы пацешыцца, што зрэзаўся такі, нарэшце, чортавы прахадзімец Сімон. Даўно ўжо кінуў Сімон пісаць заявы ў розныя інстанцыі—гэта была бескарысная работа. Інстанцыі альбо маўчалі, альбо раілі „звярнуцца да мясцовых улад“. Гэтыя-ж мясцовыя ўлады ў асобе Мучаідзе, улічыўшы вопыт падатковага інспектара і Гунава, не хацелі і слухаць ні пра якія там плантацыі. Засталася толькі адна надзея, што на вясну, можа, мужыкоў уціхамірацць. Але гэта быў вельмі слабы праменьчык. Сімон не любіў пакладацца на такога роду няпэўныя надзеі. Ён прывык думаць аб тым, што можа быць на будучым тыдні і не далей. І калі прыехаў адзін з ягоных парабкаў з Сагвасаліо і далажыў батоно пра ход спраў, Сімон мужна выслухаў усё і сказаў парабку, што адпушчае яго і астатніх са службы. Ён нават без асаблівага жалю выдаў хлапцу чверць гадовай платы. Калі парабак заікнуўся, што яму належыць больш як за палову году, Сімон падкінуў яшчэ паперку і, уздыхнуўшы, сказаў, што сорам вымагаць грошы ад чалавека, які так пацярпеў. З гэтым парабак і ад‘ехаў. Ход спраў на плантацыях быў такі: у Сагвасаліо прыйшоў Кверквелія са сваёй камандай, яны пакалолі Сімонавых свіней, парэзалі курэй, выкацілі з пограбу бочкі з віном, сабралі ўсіх людзей з Сагвасаліо і справілі памінкі па Топу-

рыя. Пасля, яны раздалі бяднейшым запасы гомі і кукурузы, якія трымаў там Сімон з мінулага году. Некаторым прапанавалі ўзяць коз і кароў і калі тыя, відаць, баючыся, адмовіліся,—пагналі Сімонава стада некуды ў лясы. Перад адыходам Кверквелія, сказаў, што ўвосень, калі паспее вінаград, ён падзеліць ураджай сярод тых, хто не мае вінаграднікаў. Гародніну Кверквелія дазволіў браць усім, хто мае патрэбу. Такія былі справы на Сімонавых плантацыях. Людзі, якія ведалі Сімонаву натуру, проста дзівіліся, як гэта ён усё вытрымаў.

Цяпер была ўжо восень, вінаград прыспеў. Сімон не думаў больш аб Сагвасаліо, бо вельмі жыва яшчэ захоўвалася ў памяці сустрэча з Кверквелія і астатнімі. Ён прадаў нават частку бочак, якія ўвясну мыў Іліко, а каб забяспечыць духан на зіму він\ом, з'ездзіў у Рачынскі павет, дзе ўдалося выгадна заключыць кантракты. Час ішоў. Загойваліся раны Сімона Гамрэкелі. Ён пачаў прыглядацца, каб дзе зарабіць капейку, ён быў не такі чалавек, каб задаволіцца прыбыткамі з аднаго толькі духану. Лёс, які дагэтуль наносіў яму ўдары, стаў больш паблажлівым: са два разы Сімону ўдалося тое-сёе перакупіць і прадаць. Але гэта была драбяза. Сімон прагнуў большага, бо павінен быў адыграцца. І ён вырашыў заняцца з Пачулія, які з усіх гарадскіх і навакольных купцоў быў найбольш дастойны ўвагі.

Таўсты Пачулія ўсё лета адседзеў на сваім ганку, гуляючы ў „нарды“. Ён не вельмі абцяжарваў сябе работай. Іншым разам ён выязджаў з гораду дзён на пяць, на тыдзень, найбольш, і потым зноў цэлы месяц можна было бачыць яго на ганку. Ён сядзеў, высвістваў адну і тую-ж мелодыю, часта аціраў хусткай абшырную сваю лысіну, і кароткім пальцам пасоўваў пешкі на пярэстай аздобленай у перламутр дошцы—„нардумі“. У ягонай вялікай краме поўна было пылу, там іржавелі лемяшы, матыгі, рыдлёўкі, сякеры, сохлі і без таго сухія фрукты ў скрынках, камянела ў бочках мазь для колаў і марнеў іншы небагаты тавар. Пачулія ані дбаў пра свой гандаль, цэлыя дні адседжваючы з прыказчыкам на ганку.

Ён заўсёды быў у добрым гуморы, гэты таўсты Саламон Пачулія. Кожны з ягоных знаёмых мог прыйці і перакінуць з ім пару-другую партый—Саламон Пачулія быў ветлівы і гасцінны чалавек. Ён запрашаў у госці, з ім можна было пажартаваць і пасмяяцца, але на гэтым і канчаліся ягоныя дачыненні з пацiйскімі гандлярамі: усе свае справы ён вёў паасобку адзін, ніхто і ніколі не мог пахваліцца, што быў у кампаніі і зарабіў з Саламонам Пачулія. Яго акружала таямніца нажывы, часта ўзнікалі чуткі аб вялікіх спекуляцыях нафтай, лесам, скуранымі таварамі, у якіх удзельнічаў Пачулія. Называлі велізарнейшыя сумы, якія ён нажываў на сваіх загадкавых спекуляцыях. Пачулія толькі ўсміхаўся і падміргваў, ніколі не абвяргаў чутак і нават любіў іншым разам намёкамі, поўсловам пахваліцца. Калі Пачулія ад'язджаў з Поці, некаторых больш прагавітых купцоў аж ліхаманка брала. Вельмі можа быць, што не адзін з іх згадзіўся-б пацярпець страты, каб толькі пабываць у кампаньёнах Пачулія і дазнацца, што ў яго за справы. Па-

чулія прыязджаў і выходзіў на ганак, прыказчык зачыняў краму і яны, пасеўшы за маленькі столік, пачыналі гульню. Па горадзе ішлі ўжо чуткі, падлічваліся новыя тысячы Саламона Пачулія, а ён толькі падміргваў ды ўсміхаўся.

Цэлы месяц амаль фліртаваў Сімон з Пачулія. Ён запрашаў яго да сябе ў духан, сам хадзіў да яго ў госці, гуляў з ім у „нарды“, прысылаў яму на дом падарункі („свежая фарэль ад Габунія, на здароўе, дарагі Соломо!“), і гэта каштавала грошай. Асабліва шмат ён прагульваў у „нарды“. Саламон са сваімі прыяцелямі гуляў толькі на грошы, ставіў вялікія стаўкі, абгуляць-жа яго было нельга. Мусіць сам чорт не абгуляў-бы Саламона Пачулія ні ў „нарды“, ні ў карты, ні ў якія гульні, што існуюць на свеце. Такім чынам Сімон парадкам патраціўся, а справа яшчэ не пасунулася ні на крок. Саламон, безумоўна, разумеў аб што тут ідзе, але на ўсе выразныя Сімонавы намёкі адмоўчваўся альбо пачынаў гутарку пра другое. Сімон не адступаў—ён цвёрда наважыў папасці ў кампаньёны да Пачулія і выбіраў зручны момант, каб пагаварыць з ім адкрыта. Але тут справа нечакана папсавалася—умяшаліся Сімонавы канкурэнты, для якіх ягоныя заляцанні да Пачулія не былі сакрэтам і прычыны іх таксама. У крамах і ў духанах пачалі расказваць, што Сімон выхваляецца сваім кампаньёнствам з Пачулія, што яны неўзабаве паедуць у Тбілісі па тавары і будуць прадаваць іх у Батумі—гэта казаў быццам сам Сімон; ад сябе незычліўцы Сімонавы дадавалі, што Гамрэкелі не раз пушчаў з торбай сваіх кампаньёнаў, як-бы цяпер не выйшла-б чаго дрэннага і з Пачулія. Усе ведалі, што гэта выдумка ад пачатку да канца, але кожны паўтараў навіны, па меры сіл дадаючы ад сябе—вельмі хацелася пацііскім купцам пасварыць Сімона з Пачулія. Гэта аказалася вельмі лёгкай справай. У першы-ж дзень, калі разнесліся гэтыя навіны, Пачулія, убачыўшы на вуліцы Сімона, склаў „нардумі“ і пайшоў у дом, загадаўшы перадаць Сімону, што ён, Пачулія, сёння раніцой выехаў з Поці. Сімон, які на ўласныя вочы бачыў Пачулія, і зразумеў, што ўсё пайшло дымам, загарачыўся і адказаў, што яго гэта мала абыходзіць: Пачулія можа сабе выехаць хоць на могілкі, пляваў ён на фанаберыстых дурняў. Пасля гэтага, ведаючы характар Пачулія, злоснікі Сімонавы маглі быць спакойнымі.

Але як-жа былі-б здзіўлены яны, калі-б ведалі, што роўна праз два тыдні пасля завочнай сваркі, Пачулія прышоў да Сімона ў дом. Гэта было позна ўвечары. Сімон з Гургенам падлічвалі выдаткі—набліжалася адно з вялікіх восенскіх святаў. Раптам нехта пастукаў у дзверы з вуліцы. Гурген пайшоў адчыніць і прывёў з сабою Пачулія. Купец спыніўся на парозе, не спяшаючыся зняў чорны новы картуз і стаяў так, з багата аздобленай срэбрам тросткай у руцэ, у добрым прасторным сурдуце. Пачулія выглядаў вельмі прыстойна. Сімон разгубіўся. Ён стаяў амаль што раззявіўшы рот. Ён здзівіўся-б не больш, каб Пачулія прышоў да яго з могілак, куды ён нядаўна пажадаў яму выехаць.

— Вось і я!—сказаў Пачулія.—Што-ж ты, Сімон, госцю не рады?

— Дарагі Соломо!—заспяшаўся Сімон, хапаючыся за крэсла

пасоўваючы яго да стала, і ў той-жа час падаючы Гургену знакі, каб ішоў прэч.—Як гэта не рады, вельмі рады! Ах, божа мой, каб-жа я ведаў... Гурген! Пайшоў ужо... Сядай, дарагі Соломо!

Пачулія павольна сеў у крэсла, картуз паклаў на стол, выцягнуў з кішэні новую, чыстую хустку і абмахнуў ёю свае сівеючыя вусы.

— Што гэта ён, нібы ў сваты прышоў,—ветліва ўсміхаючыся, думаў Сімон,—якія цырымоніі разводзіць, чорт брухаты... Ой, Сімон, не будзь дурнем!

Пачулія паклаў хустку ў кішэню і азірнуўся на вакно і на дзверы.

— Нас тут ніхто не падслухае, Сімон?—спытаў ён,—у доме тваім сцены словы трымаюць?

Сімон выбег у сумежны пакой, замкнуў там дзверы, потым два разы павярнуў ключ у замку другіх дзвярэй у тым пакоі, дзе яны былі. Ён разумеў, што зараз будзе цікавая размова і яго аж дрыжыкі бралі ад нецярплівасці.

— У маім доме, дарагі Соломо, смела можна гаварыць пра што хочаш,—стрымліваючы сябе, каб патрапіць у павольны тон Пачулія, адказаў Сімон.—Калі маеш што казаць—кажы, я заўсёды рады цябе слухаць.

— Дык вось што Сімон, мой мілы...—Пачулія зноў выняў хустку і зноў абцёр вусы. (Трымаўся ён вельмі паважна, гаварыў не спяшаючыся, глядзеў проста на Сімона).—Вось што, дарагі мой: я прышоў прасіць цябе ў кампанію. Што ты на гэта скажаш?

— Бож-жа мой!—з радасцю ўскрыкнуў Сімон. Ды пра што мне казаць! Я пра гэта сто начэй сніў!..

Пачулія, відаць здаволены, паківаў галавой.

— Я ведаў... Ад таго першага дню, як ты да мяне гуляць у нарды прышоў, я пра твае намеры ведаў... Ды хіба дурань толькі не здагадаўся-б, з якой гэта рацыі Сімону грошы прагульваць!.. Ну дык вось, мы з табой пад канец пасварыліся, выбачай брат—патрэбна было: я не хацеў, каб пра нашы справы другія ведалі, не люблю такой работы, калі табе пад рукі лезуць... Так што, не крыўдзіся, друг Сімон!

— Бож-жа мой!—сказаў Сімон, складаючы рукі,—ды якая-ж тут можа быць крыўда!

— І цяпер я да цябе з асцярогай, прыцемкамі прышоў. Чужога дрэннага вока не люблю, дурнога, доўгага языка асцерагаюся і табе раю майго правіла трымацца. Так заўсёды спакайней: кожнае сваё слова памятаеш, як дзе ступіў ведаеш, сам сабе гаспадар ніхто табе не замінае.

— Ды гэта-ж пэўна...

— Пачакай, Сімон, дай я ўжо ўсё выкажу, а ты не спяшайся. Па-першае, я скажу табе, чаму я да цябе прышоў. Характар твой я ведаю і не паважаю, не прымі да сэрца: ты чалавек неспакойны, трапяткі і часам любіш лішняе ўзяць. Будзем гаварыць шчыра, абодвы мы не божыя анёлкі: таго, што ты мяне аб'едзеш, я не баюся. Яшчэ той, можа, на свет не нарадзіўся, які Саламона Пачулія аб'едзе. Найбольш мне мітуслівасць твая не падабаецца, я люблю

працаваць спакойна: выйграў—добра, прайграў—плакаць не буду. І акрамя таго, не люблю я па капейцы зарабляць. Зарабіў, дык зарабіў, а то няма чаго і брацца, грыўні гэтыя з рукава цягаць...

Пачулія глянуў на Сімона, памаўчаў, Сімон уважліва яго слухаў. Ён не пакрыўдзіўся, размова яму, нават, падабалася.

— Вось як...—гаварыў далей Пачулія.—А ты брат мой, боб прадаеш, з-за рубля хварэеш і мне гэта не да спадобы. Мне вядома, што маеш ты добрыя грошы. Толькі таму, што ты маеш грошы, я прышоў да цябе, Сімон! Ёсць адна справа. Можа быць вялікі здабытак, але патрэбны і грошы вялікія. Дык я табе адразу скажу, так будзе лепш, бо можа ты не захочаш і я дарма тут стараюся... Патрэбна золата, Сімон, чыстае золата. Мы абодвы кладзем на стол пароўну. Што ты скажаш, Сімон, калі гэтая работа будзе каштаваць...

Ён грузна перахіліўся праз стол і Сімон учуў колькі гэта будзе каштаваць.

— Ай!—сказаў Сімон, якраз такім голасам як тады, на дарозе, сустрэўшы Кверкведія. Больш нічога ён сказаць не мог.

— За тое—пяцьсот процантаў чыстага прыбытку на капітал, на самым сіроцкім рынку!—сказаў Пачулія.—За гэта паручаюся галавой і ўсім, што пры душы маю!—Ён пазіраў проста ў твар Сімону, вочы яго заблішчэлі, поўнакроўныя шчокі і нос сталі сізымі. Пачулія, відаць, хваляваўся.—Пяцьсот процантаў, гэта самае беднае!.. Мы прадамо яшчэ даражэй! Ну? Што скажаш, Сімон?

Сустрэўшы цвёрды погляд разгарачаных вачэй Пачулія, якія аж гарэлі пад кусцістымі абвіслымі брывямі, Сімон адчуў млявасць і сцясненне ў грудзях. Ён хутка накінуў пяцьсот процантаў на сваю частку—вышла чорт ведама што...

— Ай-яй-яй!—ныла Сімонава душа.—Не будзь дурнем, Сімон!

Пачулія, нарэшце, стрымаў сябе. Ён сеў у крэсла, абцёр твар, апіраючыся на тростку, цяжка адкінуў тулава назад. Ён чакаў, паважны, поўны дастойнасці. Сімон сядзеў бокам да яго, утаропіўшыся ў сцяну. Рука ягоная безуладна ляжала на стале, парослыя рудым пухам таўстыя пальцы дрыжэлі.

— А... а якая гэта справа?!—нарэшце спытаў Сімон, цяжка варочаючы языком.

— Сімон!—урачыста сказаў Пачулія.—Пра справу гэтую ты не будзеш ведаць, пакуль не пакладзеш грошы на стол. Я іх пералічу, выдам табе распіску, дакладу сваіх грошай, роўна столькі-ж капейка ў капейку і тады раскажу табе, што гэта за справа. Яшчэ табе скажу: калі будзеш енчыць, спрачацца і правярэць мяне—пакінем гутарку адразу. Пасля таго, як скончым работу, і тавар будзе на складзе, я дам табе справаздачу па дакументах і падзялюся прыбыткам як з родным братам. Да той пары гаспадар—я. І яшчэ табе скажу—гэтая справа рызыкоўная. Можа выйсці так, што яна праваліцца і мы не тое, што сваіх грошай не вернем, а яшчэ ў два разы патрацім, каб толькі абсушыцца...

— Але, як-жа гэта... не ведаючы, грошы класці!—пацісnуў плячыма Сімон.—Ды яшчэ ўсё прапасці можа.

Пачулія ўстаў і ўзяў свой картуз.

— Куды ты?—ускочыў Сімон.—Пачакай, пасядзімо, пагутарым... Я зараз Гургена паклічу! Божа мой, тут-жа трэба падумаць. Як-жа так!..

— Думаць тут няма чаго!—адхінаючыся ад Сімона, сказаў Пачулія.—Я пра ўсё сам падумаў. Калі хочаш быць з Пачулія ў кампаніі, мей да яго давер'е і ідзі па банку! Я ніколі гарбузікамі не гандляваў, для мяне такі гандляр проста жабрак. Што ты за купец, калі сваіх грошай баішся?.. Слухай, Сімон: каб быў у Поці яшчэ адзін чалавек, у якога такія грошы не былі-б апошнімі, я з табой не звязваўся-б! І каб не было рызыкі, каб справа была пэўнай, я таксама без цябе абыйшоўся-б. У мяне ёсць грошы, я і адзін гэтую суму заплаціў-бы і яшчэ тое-сёе засталося-б. Але справа не зусім пэўная, можа лопнуць. І тады для аднаго гэта занадта. Для дваіх, такіх як мы з табой—так сабе, сярэдне... Бачыш, я гавару адкрыта, а ты як хочаш, так і рабі! Пасьлязаўтрага, у нядзелю, гэткай парой, калі надумаешся—прыходзь з грашыма, будзем рабіць кампанію і цяпер і надалей. Калі-ж адмаўляешся—не прыходзь у мой дом, пакуль я жывы на сьвеце! Пачулія не любіць дарэмна кланяцца!

З гэтым і пайшоў ганарысты купец.

— Вар'ят!—лямантаваў Сімон, у вялікай згрызоце бегаючы з пакою ў пакой.—Рызыкант!.. Ён сам сабе і мне шыю скруціць... На чорта мне твая дружба, калі я застануся без штаноў! Ах, ах... Але-ж, адважны чалавек! І галаву пры сабе мае, гэткі-то не вельмі прамахнецца... Воўчы, як у д'ябла гараць... Пяцьсот працантаў... Ай-яй-яй! Што рабіць, з кім параіцца, божа мой!.. У цябе, кажа, ёсць такія грошы, ды і не апошнія... Скрозь зямлю бачыць, ведзьмар пракляты! Пяцьсот працантаў—гэта-ж ашалець можна! Вунь як людзі зарабляюць! А тут лётаеш па балоце і кожны мужык гатовы табе кіркай галаву прабіць... Ах, божа мой!

Цяжка было Сімону перажыць гэтую ноч. Ён быў-бы шчаслівы, каб меў у сабе сілу адкінуць усё гэта, адрачыся і дружбы і кампаньёнства з Пачулія. Але такой сілы Сімон не меў. Яго цягнула да Пачулія, як матыля да агню. Колькі ні стараўся ён давесці самому сабе небяспечнасць гэтай справы, да таго-ж яшчэ і невядомай, колькі-б не думаў аб патратах, нават аб банкроцтве, ён ужо ведаў, што пасьлязаўтрага ўвечары пойдзе да Пачулія.

Назаўтрае, ад самай раніцы імжыў дробны дождж. Сімон нікуды не вышаў з дому за цэлы дзень. Ён туляўся па пустых пакоях, выпісваючы пальцам на спатнелых шыбах розныя лічбы, і пад вечар, не зважаючы на дождж, вырашыў ехаць на дачу да жонкі і параіцца з ёй. Асірацелае Сімонава сэрца нават абагрэлася нейкай цяплынёй пры думцы аб сямейнай нарадзе і ён ужо хацеў загадаць, каб закладалі фаэтон і ставілі буду, але ўявіўшы сабе мадам Гамрэкелі больш рэальна, Сімон ехаць не захацеў.

Увечары Сімон напіўся з гасцямі ў духане, спаў да паўдня і калі прачнуўся, пакуты пачаліся зноў. Учора ён бядаваў, што трэба доўга чакаць да заўтрага, сёння-ж ныў, што хутка ідзе час і ён яшчэ не прыдумаў, што рабіць. Сімон ашукваў сам сябе, ён

знарок толькі слаба брыкаўся, калі магутная сіла цягнула яго ў пэўнае месца, дзе ляжала пэўная сума, якую ён спадзяваўся памножыць на многа разоў... І ён пад канец пабываў ужо ў тым месцы. Пасля, у кутнім пакоі, дбайна замкнуўшы за сабою ўсе дзверы, ён выгрузіў з укладзістых кішэняў свайго піджака скураныя зляжалыя мяшочкі, якія атрымаў яшчэ перад вайной з Руска-Азіяцкага банку. Цяжка сказаць, што перажыў Сімон у той момант, калі ён падлічваў звонкую манету, намераны даручыць яе лёсу і сумленню Саламона Пачулія!..

Увечары, у прыцемках, слаба пераступаючы нагамі і з непрыемным халадком у жываце, Сімон дабраўся да дзвярэй дома Пачулія. Тут яму стала лягчэй, бо на палове дарогі ён раптам вырашыў, што яго абрабуюць, што гэта знарок усё так падстроена, каб ён уначы апынуўся на пустой вуліцы, адзін, з поўнымі кішэнямі золата. Гэтая думка здалася ашалеламу Сімону такой праўдападобнай, што пры кожным шолаху ён гатовы быў ускочыць у першы двор і нарабіць крыку. Нарэшце, ён апынуўся перад дзвярыма Пачулія і не пастукаў, а паскроб дзверы абамлелай жменяй. Яны зараз-жа адчыніліся, як-бы хто за імі стаяў знарок, чакаючы на Сімона. Гэта і было так. Прыказчык Геху, кавалер з завітымі вусамі, кланяўся, вітаючы Сімона і запрашаў прайсці ў пакоі, дзе батоно чакае гасця. Кепку Сімонаву, падобную да растаптанага бліна, ён узяў у рукі з такім выглядам, як-бы гэта была надзвычайная каштоўнасць. Тут Сімон ужо ачуняў і, цвёрда ступаючы па мяккіх дарожках, пабразгваючы на кожным кроку кожнай сваёй кішэняй, пайшоў з сяней у дом. Геху віўся за ім следам. У канцы калідора Сімона сустрэў Пачулія з лямпай у руках. Геху перакруціўся на абцасы і знік, а гаспадар, трымаючы гасця пад руку, моўчкі адкрыў дзверы ў невялікі пакоік. Тут Сімон яшчэ ніколі не быў. Пачулія пасадзіў яго ў халаднаватае, абітае скурай крэсла, лямпу паставіў на вялікае бюро з чырвонага дрэва (вельмі тонкай работы, як заўважыў Сімон), выняў з кішэні ключ і, усё яшчэ не гаворачы ні слова, падышоў да сцяны, якраз насупроць таго месца, дзе сядзеў Сімон. Пачуўся меладычны звон пружыны, адкрылася невялікая дзверка. Пачулія адышоў у бок, і Сімон пры святле лямпы ўбачыў у нішы жоўтыя стопачкі манет.

— Мая частка!—сказаў Пачулія.—Хочаш пералічыць?

— Не...—(Сімон пакашляў).—Не варта...

— Ну, тады не будзем часу марнаваць,—сказаў Пачулія, падкручваючы кнот у лямпе.—Калі ласка, кладзі сюды, на бюро...

Усё ішло па той праграме, якую намеціў Пачулія яшчэ ў Сімона. Спачатку ён акуратна пералічыў Сімонавы грошы, потым рускаазіяцкія мяшочкі апынуліся ў нішы. Пасля гэтага Пачулія сеў пісаць распіску і напісаў яе па ўсёй форме, з агаворкай, што Сімон мае права прад'явіць яе да спагнання толькі ў тым выпадку, калі будзе мець дакументальныя доказы несумленнай патраты кампаньёнам Пачулія даверанай яму сумы. Пад гэтай агаворкай ён папрасіў Сімона падпісацца. Сімон падпісаўся. Пачулія падаў яму распіску і пакуль Сімон беражліва склаў яе неслухмянымі, дрыготлівымі пальцамі і схаваў у кішэню камізэлькі, зноў

пачуўся ціхі звон Саламонавай касы. Усе гэтыя аперацыі адбыліся хутка і ў поўнай цішыні. Пачулія пасунуў з кута другое, такое-ж крэсла і сеў насупроць, тварам у твар.

— Ну, вось, мы і дайшлі да згоды, мой дарагі Сімон,—сказаў Пачулія.—І не толькі дайшлі, нават палову справы зрабілі! А цяпер, паслухай пра ўсё астатняе...

І ён пачаў гаварыць. Праз нейкі час Сімон, які быў ужо супакойваўся, пачаў ёрзаць у крэсле і са два разы перарваў гутарку Пачулія. Памаўчаўшы, Пачулія гаварыў далей. Спакойна, разважна, дакладна ён расказаў усё ад пачатку да канца і спытаў, нарэшце, што наконт гэтага думае паважаны кампаньён. Сімон якраз у гэты момант думаў, што распіска, якую даў яму Пачулія, варта столькі-ж сама, колькі любы кавалак загрэмзанай паперы, і што, здаецца, ён, Сімон Гамрэкелі, нарэшце такі ўскочыў у добрае балота... Ён адказаў Пачулія, што хвіліну падумае. Тады Пачулія ўстаў і вышаў з пакою, сказаўшы, што трэба распарадзіцца наконт вячэры. Сімон, застаўшыся адзін, пляснуў сябе далонню па ілбе і застаўся сядзець нерухома, пазіраючы на сцяну, на тое месца, дзе зніклі замшавыя мяшочкі.

Гэта не была нават спекуляцыя. Гэта была пакража, і не абы чаго, а ваеннай маёмасці, і не проста так, а гэта была рызыкоўная работа. Недзе ў Батумскім порце стаяла недавыгружаная стотонная баржа. Недавыгружана яна была таму, што па інтэнданцкіх дакументах тавараў на складах аказалася роўна столькі, колькі патрэбна. Баржу адвялі ад прыстані і ў пэўным месцы паставілі на якар. Яе ахоўвала партовая варта, а інтэнданты шукалі пакупнікоў. Яны знайшлі Саламона Пачулія ці, правільней, Пачулія знайшоў іх. План Пачулія быў просты. Ён выплачвае грошы інтэндантам паводле ўгавору, а тыя зробяць так, каб было ціха, калі ўначы прыдзе буксір браць баржу. Буксір прыдзе з пацийскага порту (у Пачулія там ёсць добрыя знаёмыя), возьме баржу, прывядзе яе да Пацийскага ўзбярэжжа, куды-небудзь далей ад гораду і за ноч тавар будзе выгружаны і звезены. Куды павязуць тавар, Пачулія не гаварыў. Сімон здагадваўся, што для Пачулія такія справы не навіна, бо ён сказаў, што выгрузіць і схаваць тавар— гэта ўжо не работа. Тавар быў рознародны: камплекты абмундзіравання, бялізна, сукно, афіцэрскі абутак, рамяні, сёдлы, пастромкі, хромавыя, юфтавыя і падэшвавыя скуры, медыкаменты, з якіх найбольш было хіны; потым усякая драбяза—мясныя, малочныя, рыбныя кансервы, галеты, папяросы і ўсяго не пералічыць, што ляжала ў чэраве баржы, чакаючы на гаспадароў. Усё гэта было запісана ў кніжцы Пачулія з дакладнасцю да адной штукі і да аднаго грама. Гэта быў добры тавар, замежнай работы, ён не заляжыцца, каб толькі прыбраць да рук. І вось, калі Сімон пачынаў думаць, як гэта ўсё зрабіць, і што будзе, калі іх зловяць—яму рабілася цёмна ў вачах. Адступіцца-ж было нельга, ды ён і не хацеў—пяцьсот процантаў былі відавочнымі.

Калі Пачулія ўвайшоў у пакой зноў, заклапочаны Сімон усё яшчэ сядзеў у крэсле і цёр далонню лоб. Пачулія паблажліва ўсміхнуўся—вельмі-ж мізэрна выглядаў ягоны кампаньён у гэтую хвіліну.

— Ну, дык як, Сімон?..—сказаў Пачулія.—Падмазаць нам і машыніста і матросаў, ці так абыйдзецца?

Сімон узняў галаву, глянуў на Пачулія і раптам засмяяўся ненатуральным, дрыжачым смехам. Ён устаў, выняў распіску, якую быў выдаў яму Пачулія, падраў яе на дробныя кавалкі і развеяў са жмені па пакоі.

— Малайчына!—заўважыў Пачулія.—Ты, Сімон, усё-такі маеш галаву.

— Да якога д'ябла я з гэтай распіскай паткнуся!—з нечаканай для сябе адчайнай вясёласцю сказаў Сімон.—Звязала нас нячыстая сіла, яна і развяжа... Нічога я не ведаю ні пра машыніста, ні пра матросаў, як хочаш, так і рабі!

— Падмажам,—сказаў Пачулія.—А ты не бойся, гэтая справа лёгкая. Былі ў людзей і не такія аферы! Па пяць цыстэрнаў бензіну прападала і ніхто не ведаў, дзе і што падзелася. Дык то на рэйках! Куды ты з рэяк скочыш? Ззаду станцыя, наперадзе станцыя, а тут што? Адно толькі трэба асцерагацца, каб у моры на які-небудзь французскі мінаносец не наскочыць, яны ля берагоў штодня плаваюць... Але-ж галаву пры сабе маючы, і гэта не бяда. Цяпер самы такі час, каб зарабіць, Сімон! І людзі зарабляюць, можаш мне паверыць! Міністры і тыя крадуць, ды яшчэ як! Дальбог, я не здзіўлюся, калі газеты напішуць, што ўкрадзены ў Тбілісі самы важны палац і цяпер міністрам няма ўжо дзе засядаць. Х-ха! Дык што мы горшыя за людзей? Пагрэем і мы рукі, пакуль усё дарэшты не расцягалі!..

— Мне трэба за плантацыі адыграцца!..—усё з той-жа штучнай бадзёрасцю шчыра выказаў Сімон даўнюю сваю думку.—Ліха іх матары!

— Адыграешся!—сказаў Пачулія, бяручы яго пад руку.—Пойдзем, павячэраем.

І ён павёў Сімона ў другі пакой, дзе стаяў багата ўбраны стол, ля якога завіхаўся Геху, майстар на ўсе рукі. Тут скончыліся апошнія Сімонавы ваганні.

## III

Ні Гогіберыдзе, ні Андрэй Міхайлавіч, калі выходзілі з тэатру, не заўважылі ў натоўпе шчагалеватага вёрткага чалавека ў цывільным. Вісарыён, мінуўшы асобаатрадчыкаў, азірнуўся і ўбачыў за шклом прыадчыненых дзвярэй, у тлуме, сярод многіх твараў, адзін добра знаёмы, з наглымі выпуклымі вачыма, з чорнымі, колцам закручанымі, вусікамі. Чалавек гэты завяз у сцісненні ля дзвярэй, ён энергічна рухаў плячыма, прабіваючыся наперад. Вісарыён доўга не чакаў. Ён на-хаду развітаўся з інжынерамі, замяшаўся ў тлуме на тратуары, прайшоў некалькі крокаў побач з князем у чаркесцы, потым зайшоў за адзін, за другі экіпаж, што стаялі чарадой ля тратуару і апынуўся на тым баку вуліцы, куды слаба дасягала святло ад тэатру. Ён добра бачыў усіх, што выходзілі з тэатральнага пад'езду. І ён бачыў таго, хто паляваў за ім. Той збег па прыступках, азіраючыся, пакручваючы ў руках тонкую

тростку, абыйшоў натоўп гледачоў, што ўсё яшчэ заўзята спрачаліся між сабою, і пайшоў тратуарам направа. Праз хвіліну Вісарыён зноў убачыў яго. Цяпер ён вяртаўся назад, павольна ідучы вуліцай уздоўж рамізніцкіх пралётак, уважліва ўглядаючыся на гэты бок, дзе за кіёскам стаяў Вісарыён. Ён ішоў проста па ягоных слядах, як-бы чуючы іх нюхам. Ён перайшоў вуліцу якраз тым месцам, дзе перайшоў і Вісарыён. Цяпер яны былі не больш за два дзесяткі крокаў адзін ад другога. Вісарыён стаяў за кіёскам, сціснуўшы кулакі. Сэрца трывожна білася. Ён ведаў, што зараз нельга ступіць ні на крок, што трэба стаяць на месцы і чакаць пакуль шпік пойдзе. Ён ведаў, што вусаты франт тут не адзін, што адзіны ратунак—гэта смела заставацца ў іх акружэнні да пэўнага зручнага моманту. Ля пад'езду тэатра не сціхаў гоман, рухаліся экіпажы, крычалі рамізнікі, пад'ехаў нейкі багаты аўтамабіль. Шпік доўга стаяў пад дрэвам, аглядаючы асветлены натоўп. На гэтым Вісарыён здагадаўся аб памылцы вусатага франта. Шпік думаў, відаць, што Вісарыён там у натопе, і адышоўся знарок, каб лепш бачыць. Праз нейкі час цёмная постаць адыйшла ад дрэва. Плаўна рухаючы нагамі і прысядаючы, як на каньках, шпік перабег вуліцу. У той-жа момант Вісарыён адышоў ад кіёску, прайшоў уздоўж сцяны вялікага, цёмнага дома і павярнуў у завулак. Асветлены будынак тэатру, натоўп, рух і гоман засталіся ззаду. Навокал была цішыня, цемра і толькі ўгары, ясныя дрыжэлі зоры, сеючы над зямлёй цьмянае, няпэўнае святло. Вісарыён доўга ішоў цёмнымі вуліцамі і завулкамі, асцярожна ступаючы па вышчэрбленых тратуарах, па разламаным бруку. Горад цяжка спаў, мала дзе відаць было агеньчык у вакне. У пустых вуліцах дзьмуў халодны вецер—грымелі дахі, рыпелі вароты, форткі, шумелі дрэвы ў садах, бразгалі шыльды. Неспакойная была гэта ноч.

У адным з завулкаў, на ўскраіне, Вісарыён спыніўся, доўга слухаў, разглядаўся і, нарэшце, пастукаў у зачыненую вакеніцу невялікага дома. Калі ў вузкіх шчылінах блёснула святло, ён з палёгкай уздыхнуў, толькі цяпер адчуваючы, што вельмі стаміўся...

... Вісарыён Коркія жыў у Тбілісі ад самай вясны. Ён прыехаў сюды з Батумі, неўзабаве пасля таго, як бацька правёў яго з таварышом Сандро Габісонія, праз балоты да морскага ўзбярэжжа і Курыдзе ўзяў іх на парусны баркас. Тут было не лёгка. Заўсёды насцярожаны, часта галодны, без пэўнага прытулку, заўсёды адчуваючы небяспеку—так жыў тут Вісарыён. І гэта быў ужо не той задзірысты франтавік Бесо Коркія, які мог сказаць сустрэчнай шыкарнай даме крамяное слоўца, пхнуць кулаком пад бок захопленага свабодамі заняпалага інтэлігенціка, ці спляжыць па вуху адкормленага гімназіста—гэта быў зусім інакшы чалавек. Вісарыён змяніўся і з аблічча і з натуры. Ён паспакайнеў, стаў удумлівы, развважны і толькі калі даводзілася яму выступаць на рабочых сходах—з ранейшай сілай праяўляўся ягоны гарачы характар. Але старэйшыя таварышы адобрывалі і гэтую рысу ў натуры Вісарыёна. Яны казалі, што з яго выйдзе добры тэмпераментны аратар, і што трэба толькі як мага больш вучыцца. І ён вучыўся, шмат чытаў, спрабаваў пісаць артыкулы і іх друкавалі ў „Кому-

нісце“, працаваў у друкарні, выступаў на сходах і мітынгах, заўсёды шчасліва ўнікаючы пастак меншавіцкай ахранкі, дакладна выконваў партыйныя даручэнні. Нарэшце, партыйны камітэт, папярэдзіўшы Вісарыёна аб небяспецы, перавёў яго ў другі раён, з суровым загадам не рызыкаваць, і Вісарыён каля трох тыдняў адсядзеўшы ў пакоіку таварыша, прадоўжваў работу ўжо ва ўмовах поўнай канспірацыі. Гэта была вышэйшая ступень суровай школы падпольшчыка-большэвіка. Часта адчуваў цяпер Вісарыён на сабе нечы цікаўны, блудлівы погляд, часта чуў за сабою нечыя неадступныя, насцярожаныя крокі. Але заўсёды ён спакойна абмяркоўваў становішча і знаходзіў выхад. Так паступова хлапец з глухой мінгрэльскай вёскі, нядаўна яшчэ зухаваты салдацік з апалчэнцаў Каўказскай арміі, набываў веды і вопыт партыйнага байца.

Нянавісць і любоў былі ягонымі спадарожнікамі, бо Вісарыён падзяляў свет на сяброў і ворагаў і больш ніякіх вымераў не ведаў. Іншым разам, спыніўшыся ўвечары на Галавінскім праспекце, ён аглядаў раскошныя экіпажы, што адзін за другім праносіліся міма. Гойдаючыся на падушках ландо, фаэтонаў, аўтамабіляў, ехалі ўладары багацяў, біржавікі-спекулянты, іх слугі—гвардзейцы і ўрадавыя чыноўнікі, іх каханкі—ганарыстыя, выпеставаныя арыстакраткі. У ззянні ліхтароў, у белым святле фар кружыў гэты карагод багацця, сапраўднага, не паказнога багацця, бо ў іх руках было ўсё, што меў народ... Кожны вечар пакідалі яны свае вызалачаныя логавы для гульні і забаў, і армія слуг служыла ім, штат ахранкі ахоўваў іх, яны забаўляліся ў тэатрах, балявалі ў багатых кабаках і пакуль што не баяліся панурай цішыні цёмнага гораду. Вісарыён задыхаўся ад нянавісці, аглядаючы гэты наглы парад ворагаў. Як-жа ненавідзеў ён іх! Кроў паўставала ў ім, агнём апякаючы сэрца, рукі сціскаліся ў кулакі, крык быў гатовы вырвацца з горла! Яны кончыліся-б тут-жа, на месцы, на падушках сваіх экіпажаў, каб пачуцці Вісарыёна мелі матэрыяльную сілу!.. Так, Вісарыён Коркія, патомак прыгонных сялян, умеў адчуць ненавісць да тых, хто адвеку былі ворагамі яго...

Але ён быў большэвіком. Ён ведаў шляхі змагання, яму вядомы быў вопыт барацьбы. Ён асцерагаўся неразважнасцей, умеў сябе стрымаць. Вісарыён сыходзіў з шумнага і небяспечнага праспекту ў цёмныя вуліцы. Ён ішоў міма панурых муроў, міма пахілых домікаў і гэта была дарога да яго сяброў. Яго акружаў змрок і цішыня, глыбокі спакой начы, але ён ведаў, якая сіла тоіцца тут, у гэтых пахілых халупах, у панурых камяніцах рабочых казармаў, у гэтым змроку і цішыні. Ён стаяў блізка ля вытокаў гэтых сіл. З кожным днём ён бачыў, як усё вышэй узнімаецца хваля народнага гневу і абурэння. Краіна падобная была да расхваляванага мора, над якім яшчэ глуха грукочуць грымоты, яшчэ цьмяныя, але ўжо грозныя блішчаць зарніцы на даляглядзе... Партыя большэвікоў працавала, рыхтуючы вызваленне вялікіх народных сіл, і Вісарыён Коркія ведаў, што блізка гэты час.

Гарэлі сяленні, падпаленыя карнымі атрадамі, палалі маёнткі падпаленыя рукамі сялян. Забастоўкі фабрык і майстэрняў, этапы высылаемых з Грузіі, лік самагубстваў на Верыйскім мосце, рас-

стрэлы, арышты, перапоўненыя турмы—дзесяткі тысяч беспрацоўных—усё гэта набліжала развязку, пагібель меншавіцкага ўладарства.

Смела ішоў Вісарыён цёмнымі вуліцамі ўскраіны—тут былі сябры, любоў і адданасць. Сяброў было больш, чым ворагаў, і нянавісць ягоная не была адзінокай, нават у пачуццях сваіх ён адзінокім не быў. Так жыў Вісарыён Коркія ў Тбілісі...

Неўзабаве пасля ад'езду „дарагіх гасцей грузінскага народа“, у Тбілісі пачалі пашырацца чуткі аб хуткім прыбыцці пасольства РСФСР. Меншавікі, баючыся адказнасці за шматлікія правакацыі і авантуры супроць рэспублікі рабочых і сялян, пастаўленыя перад фактам поўнай перамогі пролетарскай рэволюцыі ў Расіі, ад самай вясны клапаціліся аб заключэнні мірнага пагаджэння з РСФСР. Нарэшце пагадненне было падпісана. Савецкі ўрад патрабаваў неадкладнага вызвалення з турмаў арыштаваных комуністаў і рабочых, легалізацыі комуністычнай партыі Грузіі, спынення тэрору. Меншавікі на гэта згадзіліся. Стала вядома, што з турмаў сапраўды выпушчаюць комуністаў. Нарэшце Вісарыён убачыў нумар сваёй партыйнай газеты без аніякага знаку цэнзарскага алоўка. Меншавіцкі друк запэўніваў у „любові і пашане“ да вялікай рабоча-сялянскай дзяржавы. Гэта мела вынікі. Найбольш асцярожныя замежныя і грузінскія спекулянты пачалі збірацца ў ад'езд. Ліквідацыя некаторых спраў выклікала неспакой на малакроўнай біржы. Прайшлі чуткі, што адна з прыватных замежных фірм дапамінаецца аб крэдытах. Трывогай павеяла ў багатых кварталах Тбілісі, узраслі надзеі ў сэрцах тысяч абяздоленых людзей. Прыезду пасла РСФСР чакалі з дня на дзень, з нецярплівасцю і хваляваннем.

Вісарыён сустрэўся ў партыйным камітэце з першым сваім, былым настаўнікам Сандро Габісонія. Ён чатыры месяцы адседзеў у турме і цяпер выглядаў дрэнна: жоўты твар, бяскроўныя губы, запалыя шчокі. Ён часта кашляў, і тады прыгожыя бліскучыя ягоныя вочы былі поўны пакутнага болю, нібы скардзіліся. Але сам Габісонія не скардзіўся. Калі таварышы, і ў тым ліку Вісарыён, пачалі распытваць яго пра здароўе, ён сурова сказаў, каб яго пакінулі ў спакоі, што ён прышоў сюды не для таго, каб слухаць спачуванні. Вісарыёну давялося гаварыць з ім не больш хвіліны. Сандро спяшаўся некуды, як заўсёды.

— Еду ў павет...—сказаў ён, суха пакашліваючы.—Ты як?

— Я, нічога,—ажыўлена сказаў Вісарыён.—Цяпер, мусіць, будзе лепш, не трэба на кожным кроку асцерагацца. Так надакучыла! Слухай, Сандро, гэта праўда, што ў паветах парткомы працуюць адкрыта?

Сандро насмешліва глянуў на Вісарыёна.

— Э! Ці не гатовы ты ўжо верыць у сумленнасць меншавікоў?—спытаў ён і раптам ажывіўся, узяў Вісарыёна за борт пінжака, прыцягнуў да сябе:—Ты, глядзі, заяц! Ты ўжо развесіў вушы?! Табе меншавікі палітычныя свабоды падаравалі? Не будзь дурнем, Бесо, трымайся асцярожна, ведай: у іх хопіць духу ашукаць і нас, і рускіх таварышоў!..

На гэтым размова скончылася. Габісонія нехта паклікаў, ён вышаў у другі пакой, і Вісарыён больш яго не бачыў ні цяпер,

і ніколі ў жыцці. Праз два месяцы большэвік Александр Тэафілавіч Габісонія быў забіты ў Кутаісі, у Сагорыйскім лесе, „пры спробе ўцякаць“.

А перасцярогу ягоную Вісарыёну прышлося прыпомніць неўзабаве...

* * *

Сонца зайшло за горы. Велічная, пурпуровая зара ахінала неба. На ўзгор'ях, над горадам палымнелі яе водбліскі, жывым агнём сцякаючы па спадах уніз, афарбоўваючы дахі, пажоўклыя сады, загасаючы ў прыцемках вузкіх вуліц. Вечар быў ясны і светлы. У чыстым небе нерухома стаялі, ахопленыя пажарам зары, рэдкія кучаравыя воблакі. Быў ціхі час між днём і ноччу, маўчанне гор сыходзіла на горад, лёгкі змрок блукаў у паветры. На ўсходзе, у падножжа ўзгор'яў лягла ўжо густая засень. Але неба, яснае і чыстае палымнела і мянялася, афарбаванае ў чырвань і сінь. Адкрывалася воку надгорная далячынь, неабсяжныя прасторы ў дзень аслоненыя імглой, і абрысы дальніх вялізных гор, як цень начы, як скопішча грозных хмар, відаць было на гарызонце.

Гэтай вячэрняй парой на балконе аднаго з дамоў на Арцішчаўскай вуліцы, стаяў поўнамоцны пасол РСФСР Сяргей Міронавіч Кіраў. Пад лёгкім ветрам лунаў над домам, прасякнуты святлом зары чырвоны сцяг. Невялікі пляц перад домам, і вуліца былі запоўнены народам. Чуўся глухі, незмаўкаемы гоман, узнікалі воплескі і воклічы, рухаўся і хваляваўся перапоўнены рознароднымі пачуццямі вялізны натоўп. Ён увесь час павялічваўся. З усіх канцоў гораду спяшаліся сотні людзей—рабочыя Тбілісі ішлі вітаць пасла вялікай дзяржавы рабочых і сялян.

Калі Вісарыёну ўдалося дабрацца да пляцу, Кіраў ужо гаварыў. Далей нельга было ступіць ні на крок. Вісарыён застаўся стаяць на ўскраі тратуару, апіраючыся на плечы суседзяй. Учуць хоць адно слова з прамовы пасла—было нельга. Часта грымелі воплескі, там і тут гучэлі прывітанні, і натоўп увесь час гуў і варушыўся, і калі крыху ападаў гоман і Вісарыёну здавалася, што ён невыразна чуе голас, нейкае адценне голасу прамоўцы—авацыі з новай сілай пачыналіся знōў. Пасля тыя, хто стаяў бліжэй, пачыналі пераказваць словы пасла і зноў узнімаўся прыглушаны гул шматлікіх галасоў.

Вісарыён, усхваляваны і ўзрадаваны, не адрываючыся, глядзеў на Кірава. Пасланец перамогшага рускага пролетарыята, адзін з арганізатараў вялікай перамогі, выдатны аратар і баец, стаяў тут, перад тысячамі сяброў і ворагаў, вітаючы заняволены грузінскі народ. Ён узносіў высока руку і імкліва апускаў яе, падкрэсліваючы законачаную фразу, ён апіраўся на бар'ер балкона, нахіляўся наперад, як-бы хацеў убачыць у твар кожнага з тых, што воплескамі і дружнымі воклічамі адказвалі на яго прывітанні. З вялікай сілай узрастала авацыя, і Кіраў, папраўляючы раскіданыя ветрам, непакорныя валасы, адступаў на крок, іншым разам азіраўся і нешта гаварыў да тых, што цесным гуртком стаялі на балконе за яго плячыма,

адварочваўся і зноў чакаў, пакуль сціхне шум. Ён аглядаў горад, які акрываўся ў змрок, горы, на якіх дагасала ўжо чырвань зары, ён стаяў з высока ўзнятай галавой, пасол пролетарскай рэволюцыі, і тысяча поглядаў крыжаваліся на ім: адкрытую радасць надзеі, любоў і захапленне пасылалі яму погляды тысяч сяброў, і цяжкую лютую бяссільную нянавісць пасылалі яму погляды ворагаў, бо не адны сябры прышлі на Арцішчаўскую вуліцу сустрэць пасла РСФСР. І ён пэўна ведаў і адчуваў гэта, стоячы на балконе, адзін перад вялізным натоўпам, пад сцягам, авеяным славай вялікай рэволюцыі, і ворагі пэўна адчувалі сілу ягоную, бо яны маўчалі, яны не адважваліся і не маглі ўзняць голас.

Але яны дзейнічалі інакш.

Нехта асцярожна даткнуўся пляча Вісарыёна і ціха спытаў:

— Скажыце, калі ласка, хто гэта гаворыць?

— Таварыш Кіраў,—не адварочваючыся адказаў Вісарыён.—Пасол...

І раптам рука, што так далікатна кранадася пляча, з усяе сілы сціснула яго. Здзіўлены Вісарыён азірнуўся і ўбачыў выпуклыя злыя вочы, вусы, закручаныя колцам, гладкі круглы падбародак. Ён адразу-ж падаўся ў бок, штурхаючы суседзяй, спрабуючы вызваліць плячо. На яго грузна ўсселі ззаду і нечыя дужыя рукі сціснулі шыю, як абцугі. Вісарыён задыхнуўся, кругі пайшлі перад вачыма, ён тарганўся з усіх сіл, і на момант аслабеў ціск дужых пальцаў.

— Пусці!—з тугой прастагнаў Вісарыён.—Таварышы... на помач!..

Яго моцна ўдарылі па галаве, схапілі за рукі, некуды пацягнулі, штурхаючы, потым пхнулі наперад з такой сілай, што ён усім целам ударыўся аб сцяну, і калі Вісарыён крыху апрытомнеў—убачыў сябе абкружаным незнаёмымі, сярод якіх быў той, ад якога так быў шчасліва збавіўся ў тэатры. Вісарыён стаяў, прыціскаючыся да сцяны, з рассечанага брыва цёплым струменем сцякала па шчацэ кроў. Ён не мог павярнуць галавы, так балела знямелая шыя. На тратуары адразу стала пуста. Вісарыён бачыў, як крайнія ў натоўпе азіраюцца на яго, перашэптваюцца між сабой, але яго зараз-жа схапілі пад рукі і пацягнулі прэч. Млявая слабасць зноў ахапіла Вісарыёна, ён то схіляў галаву, то ўзнімаў яе і тады бачыў натоўп, вуліцу, дамы і ўсё зноў засланяла імгла. Ачнуўся ён як след толькі ў нейкім завулку. Чужая рухавая рука спрытна абмацвала ягоныя кішэні, ён стаяў ля паркану і адзін з трох незнаёмцаў падтрымліваў яго.

— Нічога няма!—сказаў той, хто шукаў—шпік з закручастымі вусамі.—Пусці яго, хай сам ідзе. Ідзі, сабака, і не ступі лішняга кроку...—Ён паказаў маленькі, чорны рэвольвер:—мы цябе на рэшата зробім! Папаўся ўсё-ж, гадзюка. Ну! Марш!

Яны пайшлі—Вісарыён наперадзе, асобаатрадчыкі—ззаду. Рэдкія пешаходы, якія трапляліся насустрач, яшчэ здалёк сыходзілі на брук і ніводзін з іх не глянуў на Вісарыёна: гэта было небяспечна і акрамя таго, арыштаваны і канваіры ў цывільным, былі звычайным відовішчам на вуліцах Тбілісі. Яны сышлі ўніз звілістым за-

вулкам. Завярнулі направа і выйшлі на ўзбярэжную Куры. Тут павеяў вецер і Вісарыёну стала лягчэй. Ен асцярожна дакрануўся далонню да шыі. Галавы павярнуць было нельга—жылы набраклі, успухлі, але млявасць паступова праходзіла, сціхаў шум у вушах.

— Што, намулялі карак?—пачуўся ззаду гугнявы голас.—Гэта яшчэ толькі рэпетыцыя! Вось, пачакай, мы цябе завядзем у цырульню!

Асобаатрадчыкі зарагаталі. Вісарыён моўчкі ішоў наперад. Згушчаўся змрок, глуха шумела бурлівая Кура. На тым беразе панура ўзвышаліся ў вячэрнім небе чорныя вежы турэмнага замка Метэхі. Вісарыён ужо ведаў, што яго вядуць туды. Ён з тугой глядзеў на гэтыя чорныя муры, на высокія сцены, на абрывісты спад Метэхскай скалы, пад якой грымела і пенілася Кура... І раптам ён прыпомніў насмешлівы погляд Сандро Габісонія.

— ... Не будзь дурнем, Бесо, ведай: у іх хопіць духу ашукаць і нас, і рускіх таварышоў...

Ззаду чуліся неадступныя крокі асобаатрадчыкаў. Вісарыён заскрыпеў зубамі. Уцякаць нельга, позна. Вельмі доўга ён быў непрытомны, напоўзадушаны. Вось мост. Зараз налева і тут-жа сцены Метэхі.

— Налева!—у той-жа момант скамандавалі ззаду і Вісарыён пачуў прыспешаныя крокі. Двое здагналі яго і пайшлі побач. Кура шумела ўнізе, пад нагамі—яны ўзышлі на мост. Вісарыён скосу глянуў уніз на ўспененыя хвалі, што кідаліся ў змроку, грымлівыя, лютыя... Скочыць з мосту—смерць, не выплыць ніколі... Ды і нельга, асобаатрадчыкі ідуць паабапал.

— Папаўся...—думаў Вісарыён.—Папаўся... Заяц...

І зноў успомніў ён Сандро Габісонія, свайго друга і настаўніка, сваіх таварышоў-падпольшчыкаў, цесны, дымны пакоік парткома, родныя, блізкія твары... Кожны з іх гатовы быў-бы рызыкаваць жыццём, каб вызваліць Вісарыёна, і ён быў-бы гатовы аддаць жыццё за кожнага з іх... Адзінства, баявая дружба, партыйнае баявое брацтва... Ці ведаюць яны, ці бачыў хто? Не, напэўна, бо тады-б не ўдалося ўзяць яго з натоўпу. Можа заўтра, ці яшчэ пазней, даведаюцца таварышы пра ягоны арышт...

Мост скончыўся. Велізарнай чорнай скалой узвышаўся Метэхі над вузкай вулічкай, і яна крута ўзнімалася ўгору, абвінаючы падножжа замка. З гары, насустрач грукала па выбітым бруку нейкая павозка. Асобаатрадчыкі, што ішлі побач, узялі Вісарыёна за рукі. Трэці ішоў ззаду, ледзь не наступаючы яму на пяты. Раптам сцямнела. Замак засціў дагасаючае неба, у завулках ляжала змрочная засень. Павозка праехала міма. Гэта была абозная двуколка, салдат вёў мула на повадзе і нешта крыкнуў, мінаючы іх. Асобаатрадчыкі мацней сціснулі рукі Вісарыёна, ён азірнуўся і ўбачыў рэдкія агні гораду за ракой і цмяную чырвоную пасму зары на сіне-зялёным гарызонце над цёмнымі, панурымі ўзгор'ямі. Больш Вісарыён не азіраўся, а глядзеў проста перад сабою, у змрок вузкай, забруджанай вуліцы, якая вяла да варот Метэхі.

І яны неўзабаве прадсталі перад ім, іржавыя жалезныя вароты, асветленыя цьмянай, аплеценай дротам лямпкай, з нізкай форткай,

з вакенцам, забраным у краты. Адзін з асобаатрадчыкаў пазваніў, за кратамі адсунулася заслонка, нехта глянуў адтуль і неўзабаве жалезная фортка бясшумна адчынілася. Вісарыён, спаткнуўшыся аб высокі, жалезны парог, са знібеючым сэрцам ступіў на двор турмы.

Слаўная гэта была дарога... Некалі, шмат гадоў таму назад, перакрочыў гэты парог Максім Горкі, песняр рэволюцыйных бур, прарок перамогі. Тут ішоў Камо і многія, чые імёны аздобілі гісторыю вялікай барацьбы, прайшлі гэтай дарогай, за муры Метэхі.

У вялікай трывозе, з глыбокім туглівым пачуццем беспараднасці ўзыйшоў на двор турмы Вісарыён, які ўпершыню трапіў у палон да сваіх ворагаў...

* * *

У камеры Вісарыёну доўга быць не давялося. Ён пастаяў ля дзвярэй, разглядаючыся ў дымным змроку, потым прысеў на рог нар. Тут было шмат людзей, усе яны курылі, гутарылі, недзе ў куце хтосьці спяваў пацiху, нейкі армянін плаксівым нудным голасам увесь час скардзіўся. Па размовах Вісарыён пазнаў, што большасць тут—рознага роду злодзеі і рыначныя спекулянты валютай і наркотыкамі. На яго, калі ён увайшоў, ніхто не звярнуў увагі, толькі з верхняга ярусу нар, з-пад самай столі нехта ахрыплым голасам сказаў:

— Свежанькі!

Пасля да яго падсунуўся той, што скардзіўся ўвесь час.

— Гэта не я прадаваў,—гаварыў ён з выразным акцэнтам,— гэта брат мне прывёз парашок, хіба я ведаю, які гэта парашок? Прыходзіць начальнік, важны начальнік, кажа: Аршак, дай панюхаць. Што панюхаць? Каб ты... я не скажу, што панюхаў... У мяне сям'я пяць дачок, жонка і цёшча Саценік... Яна ў мяне за гаспадыню... Я бедны чалавек, начальства слухаю і баюся. Цёшча кажа— Аршак, ён хоча панюхаць парашку, вазьмі з яго колькі трэба... Я даю яму парашок, думаю сабе: нюхай, каб табе храпы разарвала, толькі заплаці, бо брат казаў—гэта грошай варта... Вай! Ён панюхаў,—і бярэ мяне за каўнер... Прапаў, Аршак!

— Эй, сціхні!—крыкнулі згары.—Праб'ю галаву, надакучыў!

Было цьмяна, душна, стаяў незмаўкаемы гоман. У камеры было найменш паўсотні чалавек. Армянін увесь час насядаў на Вісарыёна, а той адсоўваўся далей, у кут, і нарэшце нехта з тых, што ляжалі на нарах, ля сцяны, моўчкі пхнуў яго каленам у бок. Тады Вісарыён, раптам заззлаваўшы, крыкнуў на армяніна.

— Ідзі прэч! Што табе трэба?

— Ты дай яму ў дзюбу!—параілі згары.—Так ён не адчэпіцца! Эй, Аршак, годзі блазнаваць, бо зараз я злезу!

Нарэшце Аршак адышоўся. Пад столлю напоўніліся жоўтым цьмяным святлом закрытыя сеткамі лямпкі. Крыху праяснела ў гэтым дыме і сціснені і гоман узняўся з большай сілай. Тут людзі не гаварылі, як гавораць звычайна, а амаль што крычалі і кожны выхваляўся перад другімі сваёй бадзёрасцю, весялосцю і дасціп-

насцю. Гэта была нейкае агалцелае ненатуральнае ажыўленне. Вісарыён больш не прыслухоўваўся да іх гутарак, ён адчуваў сябе чужым у гэтай грамадзе і моўчкі сядзеў у сваім кутку ля абшарпанай, забруджанай печы.

Раптам шырока расчыніліся дзверы і з асветленага калідору гулка крыкнулі:

— Вісарыён Коркія, выходзь!

— Гэй, Коркія, мама кліча!—закрычалі на нарах.—Дзе той Коркія! Ах, малайчына Коркія, дайце глянуць на яго!

Вісарыён устаў і пайшоў да дзвярэй.

— Бесо!—раптам пачуў ён ззаду нечы голас.—Бесо, пачакай! Стой, кажу табе!..

Вісарыён спыніўся. З нар злазіў нейкі незнаёмы чалавек, аброслы барадой, у абтрэпанай світцы, босы.

— Гэта-ж ён мяне ўдарыў у грудзі каленам...—падумаў Вісарыён.—Хто гэта?

Шлёпаючы босымі нагамі па бруднай цэглянай падлозе, чалавек падбег да яго.

— Бесо! Дарагі мой!—закрычаў незнаёмы, хапаючы Вісарыёна за рукі. Гэта ты, Бесо?! Ну, што-ж ты на мяне глядзіш? Я—Эліа... Эліа Бокучава! Мы-ж з табой раслі разам, гулялі разам!..

— Эліа?!.—здолеў толькі сказаць Вісарыён.—Эліа!

Ніякага падабенства не было ў гэтым мізэрным, страшэнна худым чалавеку да Эліа Бокучава, якім памятаў яго Вісарыён. Эліа раптам заплакаў, закрываючы твар рукавом світкі, апранутай на голае цела.

—Збілі да поўсмерці,здароўе аднялі...—шаптаў ён, усхліпваючы,—цяпер у турмах гнояць, гоняць, у магілу... Мяне ўчора прывезлі з Кутаісі, з турмы! Канец мне, Бесо!

— Вісарыён Коркія!—раўнулі ў калідоры.—Выходзь!

— Бесо!—стрымліваючы сябе, ўжо цвёрдым голасам сказаў Эліа,—горасная нешчаслівая вестка... Бацька твой—Арцём памёр на мінулым тыдні, у пятніцу...

— Што?!. Памёр?!.

— У Кутаісі, у турме... На маіх руках памёр...

— Вісарыён Коркія!—крычалі ў калідоры. На парозе з'явіўся наглядчык у зяленым англійскім шынялі са звязкай ключэй у руках, а за ім салдаты. У камеры прыціхлі. Усе з цікаўнасцю пазіралі на дзівака Коркія і чакалі, што з гэтага выйдзе.

— Мы з ім тры з палавай месяцы адседзелі ў Кутаісі...—спяшаючыся гаварыў Эліа.—Ён саслабеў і памёр... Лёгка паміраў, заснуў... Цябе ўспамінаў, Міха, малога Вано... усіх... Бядаваў, як жыць будзеце... Сабокучаво спаліў асобы атрад... Топурыя забілі... О, гора, Бесо! У мяне больш няма сіл... Выйдзеш на волю—прашу: ідзі да начальства, старайся, каб мяне выпусцілі, а то я тут загіну...

Нечыя рукі схапілі Вісарыёна ззаду за каўнер, за плечы. Яго не вывялі, а выкінулі ў калідор, так што ён ледзьве ўтрымаўся на нагах і зноў моцна ўдарыўся аб сцяну. У камеры зарагаталі.

— Бывай, Бесо!—крыкнуў Эліа, і дзверы з лязгам зачыніліся.

— Ты што?—спытаў наглядчык, падступаючы да Вісарыёна.—

Ты хочаш, каб я цябе навучыў хадзіць, сабачы вырадак? А? Шчасце тваё, што начальства цябе кліча, а то я павучыў-бы.

Вісарыён спакойна пазіраў на яго, нібы не разумеючы ні слова з таго, што ён гаворыць. Салдаты пераглянуліся. Нарэшце і наглядчык заўважыў, што гаворыць дарэмна.

— Гэта нейкі дурань!—сказаў ён.—Вядзіце!

Ён рушыў першы, салдаты следам павялі Вісарыёна, які паслухмяна ішоў з імі, не думаючы цяпер ні аб тым, куды яго вядуць, ні аб тым, што будзе далей.

— ... У пятніцу на мінулым тыдні...—чуў яшчэ ён словы Эліа—... у турме, у Кутаісі...

Яны доўга ішлі пустымі, гулкімі, забруджанымі калідорамі, потым наглядчык спыніўся.

— Стой!—сказаў ён да Вісарыёна.—Знімі шапку! Ох, я цябе навучу!

Вісарыёна ўвялі ў заліты белым святлом прасторны і багата ўбраны пакой. Яго правялі па мяккай дарожцы да вялікага стала, за якім сядзеў чалавек у мундзіры з нейкім абвіслым тварам: шчокі, бровы, вусы, таўстая ніжняя губа, усё неяк сплыло ўніз на гэтым кіслым, грэблівым твары. Толькі вочы былі вельмі жвавыя і вострыя, з вёрткімі, чорнымі зрэнкамі—яны, насцярожаныя і ўважлівыя, паблісквалі з-пад прыпухлых павек.

— Асобаатрадчык...—абыякава, як аб нечым пабочным, падумаў Вісарыён.

Яго пакінулі стаяць аднаго перад сталом, застаўленым усякімі бронзавымі і срэбнымі прыладамі, тэлефоннымі апаратамі і іншымі рэчамі. Наглядчык і салдаты адышлі да парогу. Асобаатрадчык, склаўшы рукі на жываце, адкінуўшы тулава на спінку крэсла, амаль ужо лежачы, пільна аглядаў Вісарыёна, а той зусім абыякава пазіраў на яго. Ні малейшага знаку неспакою не было на смуглым, хударлявым твары цёмнавалосага маладога чалавека, ён быў як-бы задуманы нечым, нібы аб нечым тужыў і нешта падобнае да сумнай усмешкі асвятляла яго твар. Так выглядае чалавек у часе спакою і адпачынку. Толькі рассечанае брыво і запэцканая ў кроў шчака парушалі гэтае ўражанне.

— Прозвішча і імя?—нездаволена сказаў асобаатрадчык, бяручы са стала папку з паперамі.

Вісарыён адказаў. Губа начальніцкая адвісла зусім, вочы заплюшчыліся. Ён перагортваў паперы, здавалася, вобмацкам, не бачачы іх.

— Мінгрэлец?—спытаў ён, мусіць, для таго толькі, каб спытаць, і Вісарыён яму не адказаў. Чорныя вочкі хутка глянулі і зноў схаваліся пад адрузлымі павекамі.

Пачуліся мяккія крокі і прыглушаны пушыстымі дыванамі звон шпораў. Тонкі афіцэр з аксельбантамі, з даўгой прылізанай галавой, падышоў да стала, пасунуў вялікае крэсла і сеў, аглядаючы свае ружовыя пазногці. Ад яго моцна пахла парфумай. Вісарыён азірнуўся. Паабапал дзвярэй, навыцяжку стаялі салдаты, наперадзе іх наглядчык. Нарэшце Вісарыён адчуў, што тут адбываецца нешта важнае і значнае для яго. Ён асцярожна глянуў на чалавека за

сталом. Той ляніва перагортваў паперы і, нахмурыўшы лоб, ссунуўшы свае абвіслыя бровы, нешта абмяркоўваў. Другі, у крэсле, усё яшчэ аглядаў свае пазногці.

— Вось што, Вісарыён Коркія...—сказаў нарэшце асобаатрадчык, кладучы паперы на стол.—Размова наша будзе кароткая, але сур'ёзная. Эй, вы, там! Выйдзіце ў калідор! Марш!—ён пачакаў, пакуль наглядчык і салдаты выйшлі і ўстаў.—Калі ты скажаш нам усе прозвішчы, якія ведаеш, усе адрасы і галоўнае, усе вашы планы, якія вядомы,—можаш ісці адгэтуль адразу, і надалей быць спакойным: мы не забываемся на людзей, якія нам зрабілі паслугу. Калі-ж не,—выбачай, нічога добрага ад нас чакаць табе не выпадае. Коратка і ясна, па-вайсковаму—тры хвіліны. Я чакаю, Вісарыён Коркія...

— Схавай гадзіннік!—сказаў Вісарыён, і яго самога здзівіла, што сказаў ён гэта спакойным, роўным голасам.

— Што?

Асобаатрадчык, апіраючыся на стол, нахіляўся бліжэй да Вісарыёна. Цяпер Коркія зусім блізка бачыў адрузлы, маршчыністы твар з чырвонымі жылкамі на пераноссі. Маленькія вочкі як-бы тлелі пад цяжкімі павекамі. Той, што сядзеў у крэсле, устаў і, мякка ступаючы, падышоў і спыніўся недзе збоку. Вісарыён не азірнуўся. Гатовы на ўсё, ён цвёрда пазіраў у скарэжаны злоснай грымасай, адрузлы твар. Ён не адчуваў ні асаблівай злосці, ні вялікага хвалявання. У гэты рашаючы момант знайшлася ў ім нейкая спакойная сіла і яна трымала яго. Раптам ён са здзіўленнем убачыў, як парушыліся маршчыны, уздрыгнулі бровы асобаатрадчыка, знікла гнеўная грымаса, і асядаючы ў крэсла, ён засмяяўся.

— Ах, Коркія!—сказаў ён, разводзячы рукамі і пазяхаючы.—Ды ты-ж заядлы, Коркія!... ну, што-ж! Мы схаваем гадзіннік і скончым гэтую гульню... Паручык зоймецца з табой, можа адумаешся...

— Мне надакучыла, палкоўнік!—высокім, жаночым голасам сказаў афіцэр, і зноў пачуліся ягоныя мяккія крокі і звон шпораў.—Кожны раз адно і тое-ж самае...

— Што-ж рабіць...—адказаў палкоўнік, вымаючы са скрынкі сігарэту.—Што-ж рабіць! Няма рады!.. Трэба пастарацца, каб ужо больш не турбаваць паважанага Коркія. Ды вы збірайцеся, паручык, калі ласка...

Ён азірнуўся на вакно, закрытае шторай, і націснуў адну з кнопак на рагу стала. Адчыніліся дзверы і ўвайшоў наглядчык з салдатамі. Вісарыён моўчкі стаяў на тым-жа месцы. Ён быў абураны, нават збянтэжаны. Тут усё было штучным, акторствам: нянавісць, якую разыгрываў перад ім палкоўнік так натуральна, што Вісарыён кожную хвіліну чакаў стрэлу ці ўдару, незразумелая гутарка з афіцэрам—усё было фальшывым, не вартым, каб на гэта адказвалі-б шчырымі чалавечымі пачуццямі. Толькі небяспека была сапраўднай—яна крылася ў кожным слове, у кожным руху гэтых людзей. Адчуваючы гэтую фальшывасць і небяспеку, абураны тым, што прыняў фальш за праўду, і не ведаючы як трымацца далей, калі ўсё гэта будзе яшчэ прадаўжвацца, Вісарыён насцярожана пазіраў на зморшчастага асобаатрадчыка. Але той больш не зважаў

на яго. Ён сабраў паперы, якія пераглядаў дагэтуль, скруціў іх у жмут, кінуў у кошык пад стол, зрабіў наглядчыку нейкі знак рукой і коратка сказаў:

— Вывесці!

Вісарыёна вывелі з асветленага пакою ў поўцёмны калідор. Цяпер наглядчык не ішоў наперадзе, як раней, а побач з ім, салдаты крочылі ззаду. Так сыйшлі ўніз па каменных гулкіх усходах і апынуліся ў другім калідоры, яшчэ больш цёмным. Тут Вісарыёна паставілі ў тупіку, ля забранага ў краты вакна, салдаты пасталі паабапал, а наглядчык прахаджваўся перад імі—два-тры крокі назад і ўперад. Вісарыён заўважыў, што канвойныя з нейкай сур'ёзнай цікаўнасцю, украдкам, пазіраюць на яго, пераглядаюцца між сабою і хаваюць вочы, як толькі ён зірне на іх.

— Што за ліха!—падумаў Вісарыён.—Ну, допыт быў для формы, гэта ясна: паперы ён кінуў пад стол, таго мусіць і варты былі яны, нічога ён з іх не вычытаў. Але што-ж цяпер будзе, навошта яны мяне тут паставілі? І чаму яны так пераглядаюцца?

На гэтыя пытанні адказу не было. У калідоры ніхто не з'яўляўся, чуліся толькі ў гулкай пустэчы адзінокія крокі наглядчыка. Ішоў час. Вісарыён чакаў насцярожаны і пільны, яго трывожылі гэтыя погляды і стрыманая, схаваная нэрвовасць канвайраў.

Праз нейкі час пачуліся лёгкія крокі і звон шпораў. Наглядчык кінуў хадзіць і стаў каля сцяны, салдаты падступілі бліжэй да Вісарыёна. З'явілася высокая постаць у бурцы, той тонкі паручык з жаночым голасам. Ідучы, ён махнуў рукой, завярнуўся і знік у нейкіх дзвярах.

-- Выходзь!—сказаў наглядчык.

Ідучы Вісарыён выразна ўчуў, як уздыхнуў адзін з салдатаў і другі нешта сказаў ціхім шэптам. Вісарыён азірнуўся. Чорнабровы, смуглы хлапец з адкрытай спагадай глядзеў на яго. Другі, старэйшы, з ружовым шрамам на падбародку, нахмурыў бровы, паказваючы вачыма на наглядчыка.

— Што гэта?—падумаў Вісарыён.—Што тут будзе такое? Ён сказаў: „Паручык зоймецца з табой...“

Далей Вісарыён не думаў. Ён яшчэ не ведаў і не хацеў здагадвацца. Сціснуўшы кулакі, перамагаючы прыкрыя дрыжыкі, што нечакана асыпалі холадам цела, ён пераступіў парог. Павеяла свежае паветра, па каменных прыступках чуліся цяжкія крокі наглядчыка і салдат. Узвізгнула пружына дзвярэй, наглядчык стаяў пры іх, прапускаючы Вісарыёна і канвойных на двор.

На двары яны зноў цесна абступілі Вісарыёна, ён не мог паварушыцца нават, каб не крануць канвойных. Тут быў змрок. Панура ўзвышаліся чорныя сцены муроў, двор быў цёмны і вузкі як скрыня. Пасля, агледзеўшыся, Вісарыён заўважыў, што шэры брук цьмяна паблісквае і на ім лёгкія ляжаць цені. Ён узняў галаву і над камяніцамі Метэхі ўбачыў светлае, зорнае неба і бледны серп маладога месяца.

Пачуліся гулкія крокі. З глыбі двара ішло некалькі чалавек. Калі яны наблізіліся, Вісарыён убачыў трох салдат у шынелях

з вінтоўкамі. Недзе адчыніліся дзверы, бліснуў прамень святла і знік. Тыя, што ішлі, загаманілі між сабой упоўголаса...

— У камендацкую...—учуў Вісарыён урывак фразы, але салдаты, падыходзячы, змоўклі.

— Кікодзе!—сказаў адзін тонам загаду, пэўна старшы,—ідзі ў каравульнае, зменьвацца... А ты, пойдзеш з намі. Прывыкай да службы. А дзе той? Ага, тут!

Старэйшы з Вісарыёнавых канвойных закінуў вінтоўку за плячо і адразу знік у змроку двара. Наглядчык нешта спытаў паціху ў таго, што распараджаўся і таксама пайшоў некуды, пабразгваючы ключамі.

— У камендацкую?—сам сябе спытаў Вісарыён.—Дык, што-ж, высылка?..

— Ну, пайшлі!—скамандаваў старшы.—Трымайцеся парадку, у нагу ісці, буйвалы!

Вісарыёна павялі. Ён зноў убачыў нізкую, жалезную фортку лямпку за кратамі, панурага вартаўніка. Наглядчык стаяў пры самым парозе, і калі Вісарыён праходзіў, глянуў на яго пільна, як-бы хацеў запамятаць у твар. На вуліцы чуўся грукат падкоў па бруку. Пераступіўшы парог, Вісарыён убачыў афіцэра на кані. Ён папраўляў бурку, конь не стаяў, гарачыўся, нацягваў повад.

— Фельдфебель!—праспяваў высокім голасам афіцэр.—Не адставаць!

— Слухаю, батоно!—адказаў фельдфебель.—Пастроіцца!—Два наперадзе, два ззаду... Эй, ты! Ідзі як след, ступіш не так,—закалю на месцы! Марш!

Яны пайшлі, напоўбегам. Ісці з гары было лёгка і на завароце вуліцы яны здагналі афіцэра. Тут было светла. Цьмяны водбліск месяцу і зор ляжаў на бруку, на дахах дамоў. І Вісарыён, ідучы той-жа дарогай, якой прышоў сюды, убачыў цяпер інакшы горад. Тады, калі ён, узыходзячы на ўзгор'е Метэхі, азірнуўся, тады тлела, дагасаючы, сумная зара. Горад пануры і цёмны ляжаў скрыты засенню гор. Цяпер, у блакітным змроку, у дрыготлівым святле безлічных зор, лёгка ўзносіліся ўгору дамы і вежы, паблісквалі купалы сабораў, на мазаічным мінарэце мячэці Османа, на пярэстых сценах лазняў Орбеліані, адгэтуль можна бачыць было, як мяняецца, трапеча зыбкае бледнае святло зор і маладога месяца. Відаць былі на шэрых хрыбтах узгор'яў старыя руіны. Нібы дым плыў над горадам—то драмалі ў ціхай начы пустыя, восенскія сады. Веяў халаднаваты вецер, гучна шумела Кура ў сваіх стромых, скалістых берагах...

Вісарыёну стала лягчэй, хаця не адступілася яшчэ небяспека, хаця, як і раней, знібела сэрца пры кожным успаміне аб страце. Муры, магільная цішыня, што прыгняталі волю і думкі, адышлі. Перад вачыма быў шырокі свет, авеяны святлом зор, знаёмы горад, жыццё. Горшае за страх туглівае пачуццё адзіноцтва і бездапаможнасці—знікла.

Афіцэр павольна з'язджаў да мосту, увесь час схіляючыся то на адзін, то на другі бок сядла, наглядаючы за тым як ступае

конь. У гэтым было нешта супакойваючае, будзённае, мірнае. Салдаты ішлі ў нагу лёгка, і як здалося Вісарыёну, весела.

— Ну, што-ж?—падумаў Вісарыён.—Высылка, дык высылка... Праз два тыдні зноў буду тут. Але тады ўжо вы мяне так лёгка не возьмеце! Гэта мне да старасці навука!

Яны ўзышлі на мост. Вісарыён азірнуўся на Метэхі, які так шчасліва і хутка пакінуў. І зараз-жа успомніў ён Эліа Бокучава, бацьку, і туга зноў кальнула ў сэрцы. Унізе кружылі і кідаліся грымлівыя, успененыя хвалі. Мост прайшлі хутка. І тут афіцэр азірнуўся і пусціў каня шпарчэй. Салдаты прыбавілі кроку.

— Што-ж гэта?—устрывожаны, падумаў Вісарыён.

Для таго, каб папасці на адну з цэнтральных вуліц, дзе было камендантскае ўпраўленне, трэба было завярнуць направа. Афіцэр паехаў вуліцай налева. Падковы часцей зацокалі па бруку. Вуліца ўзнімалася ўгору, салдаты спяшаліся з усіх сіл, і Вісарыён таксама, і ўсё-ж яны адставалі ад афіцэра. Калі яны, задыханыя, разгарачаныя, нарэшце апынуліся наверсе, на скрыжаванні двух вуліц, Вісарыён зноў убачыў, што афіцэр заварачвае налева.

Тады з'явілася здагадка, але Вісарыён адагнаў яе... Проста яны абмінаюць ажыўленыя вуліцы, ідуць кружнай дарогай, бо аказалася, што час яшчэ не позні; у цёмных вуліцах чуваць былі галасы, сустракаліся прахожыя, у вокнах там і тут відаць было святло, недзе нават грала зурна і чулася песня. Гэта вельмі здзівіла спачатку Вісарыёна, бо ён думаў, што ўжо канчаецца ноч, і горад здалёк выдаўся яму ў глыбокім сне; аказалася-ж, што ён у Метэхі прабыў, пэўна, не больш за дзве гадзіны... Вось таму, што яшчэ рана, яны і кружаць па завулках,—так думаў Вісарыён.

Аднак, здагадка, якая прышла так знянацку, трывожная гэтая думка не пакідалі яго. Спяшаючыся за сваімі канваірамі, Вісарыён неадрыўна глядзеў наперад, на высокую постаць коннага афіцэра: калі ён паверне цяпер направа, то гэта азначае, што вядуць вакольнай дарогай у цэнтр гораду. Калі-ж ён паверне ў завулак налева, то...

Высокая цёмная постаць рухалася ў змроку, як-бы плыла ў паветры. Вісарыён пільна глядзеў наперад і вось ён убачыў, як цёмная постаць, гойдаючыся і калыхаючыся, паплыла налева.

Вісарыён сышоў з бруку у вузкі, пыльны завулак, скрозь выгараджаны глухімі парканамі. Цяпер ён пазіраў ужо на цёмную постаць, што плыла ў змроку, наперадзе. Салдаты незнарок штурхалі яго, спатыкаючыся ў каляінах, і Вісарыён гэтага не заўважаў: цяпер ён ведаў, куды яго вядуць. Цяпер ён ведаў, што азначалі словы: „надакучыла кожны раз адно і тое самае“, ведаў, чаму так спагадліва пазіраў на яго маленькі салдацік і навошта кінуў пад стол паперы змаршчысты асобаатрадчык... Вось яно маячыць ужо ў зорным поўмэроку на спадах блізкай гары, славутае Каджорскае шасэ, Галгофа многіх.

... „Пры следванні пад вартай спрабаваў уцякаць і забіты дзяржаўны злачынца...“

Шырокае шасе, гладкае і шэрае, звілістымі поўкружжамі, ішло ўгору, знікаючы на заваротах і выходзячы зноў на адкрытых спа-

дах. Высока над горадам, на камяністай плоскай вершаліне гары вузкая шэрая істужка прападала з вачэй. Вісарыён ступіў на шасэ яшчэ не ацкнуўшыся ад узрушання. Ён пакорна ішоў за салдатамі, механічна трапляючы ім у крок, падпарадкаваны чужой злой волі, якая вяла яго на пагібель. „Вось чаму ён сказаў, што надакучыла, вось чаму...“ часта праносілася думка, і Вісарыён, як у сне, усё ішоў і ішоў наперад, не заўважаючы, што горад застаўся далёка ўнізе, не думаючы аб тым, што можа нядоўга ўжо засталося ісці. Але, праз нейкі час, ён апамятаўся, цяжкое ягонае адрантвенне пачало праходзіць. На адным з заваротаў дарогі, ён убачыў горад, унізе, у даліне між гор. Зноў па-інакшаму, у трэці раз ён прадстаў перад вачыма Вісарыёна. Цяпер горад жыў: адгэтуль, з вышыні, відаць былі асветленыя цэнтральныя вуліцы, агні ў вокнах дамоў, нават падобныя да светлякоў трамваі, што паўзлі па вуліцах. Толькі на ўскраінах за Курой, непарушным быў блакітны змрок, засень, спакой цёмных садоў.

Стомленыя салдаты не заўважылі, як выпрастаўся, падабраўся і асцярожна агляйуў іх чалавек, які ўвесь час моўчкі і паслухмяна ішоў за імі. Афіцэр-жа, для якога ўсё гэта было звыклай і дакучнай работай, не азірнуўся ні разу ад той пары, як яны ўступілі на шасэ: ён цалкам пакладаўся на службовы вопыт фельдфебеля канвойнай каманды.

Заварот скончыўся, шасэ ўвесь час узнімалася ўгору, спадзісты выступ скалы скрыў горад, на дарогу лягла густая засень. Вісарыён пазіраў на ўскрай шасэ—яно ішло над самым спадам, над крутым схілам, што прападаў у змроку. Далей, шасэ адыходзіла ўправа на пласкагор'е. Яно цьмяна святлела там, вышэй, на адложыстай раўніне.

— Тут!—падумаў Вісарыён і перш чым падумаў, штурхнуўшы плячом салдата, скочыў у бок. Сухі быльнёг затрашчаў пад нагамі на ўскраі дарогі, ззаду нехта ўскрыкнуў і шэрае шасэ, шэрыя постаці людзей—усё ўскалыхнулася і знікла. Страшэнна хутка і блізка пралятала недзе зямля, паветра пругка прашумела ў вушах, гэта было імгненне і ўсё скончылася ўдарам: страсянуўся свет і зоры карагодам пайшлі перад вачыма.

У наступны момант Вісарыён адчуў, што не падае ўжо, а з'яздзжае некуды ўніз—калючая жарства, сухая трава, усё разам з ім аплывала, рухалася і з гары шолахам каціліся, шчоўкаючы адзін аб другі, дробныя каменні. Раптам ногі ўперліся ў нешта цвёрдае, устойлівае—гэта быў адшчэпак скалы. Вісарыён затрымаўся. Міма яго ўсё яшчэ каціліся з гары каменні, апаўзала з шолахам жарства. У гэты момант угары ўспыхнулі аганькі і гул стрэлаў пракаціўся ўначы, гулка паўтараючыся, унізе і ў цяснінах навакольных узгор'яў. Вісарыён, як мог шчыльней прыпаў да зямлі. Яшчэ і яшчэ раз бліснулі аганькі ўгары. Вісарыёна асыпала пырскамі каменняў і кулі рыкашэтам з працяглым стогнам пайшлі над галавой.

— Прапаў!—пранеслася трывожная думка.—Убачылі!

Ён ляжаў, усім целам прыціскаючыся да зямлі. Але стрэлаў больш не было. Вісарыён чакаў яшчэ некаторы час, скосу, не ўзнімаючы галавы, пазіраў на далёкія агні прадмесця. Яны былі

направа ад яго, і не на многа ніжэй. Па гэтым Вісарыён пазнаў, што знаходзіцца блізка ля падножжа. Шасэ-ж было высока, яно ішло па самым версе гары, значыць, спад быў вельмі круты і ён не адзін дзесятак сажняў праляцеў і пракаціўся па гэтым небяспечным спадзе.

— Дзіва, як жывы застаўся...—думаў Вісарыён, пазіраючы ўгору.—Вышыня якая, стромкая, што сцяна, сам чорт галаву зламаў-бы... А я, здаецца, цэлы, толькі пляча нешта...

Левая рука і плячо як-бы знямелі. Ён паспрабаваў павярушыць рукой і застагнаў: як-бы нажом працяла бок і плячо. Занепакоены Вісарыён сеў, не зважаючы ўжо, што з гары могуць страляць: яму здалося, што ён паранены, што яго падстрэлілі, калі ён падаў, але ён гэтага ў гарачцы не пачуў. Раны не было нідзе, хаця бок балеў так, што Вісарыён скрыпеў зубамі, абмацваючы яго.

— Паламаў мусіць рэбры!—сам сабе ўпоўголаса сказаў Вісарыён.—Цяпер, як звязаны!

У гэтую хвіліну ўгары пачуўся прыглушаны крык, потым шум і грукат. Нешта ляцела адтуль, шум набліжаўся, зноў зашчоўкалі міма Вісарыёна дробныя каменьчыкі. І нарэшце, цёмны ком, куляючыся і падкідаючыся, пракаціўся міма і мякка ўдарыўся аб зямлю, амаль што побач з Вісарыёнам. Пасля нешта забразгацела паблізу, і ўсё сціхла. Гэта адбылося ў адно імгненне, Вісарыён не паспеў нават крануцца. Ён сядзеў, моўчкі аглядаючы распрасцёртую нерухомую постаць. Па даўгой нязграбнай гімнасцёрцы ён пазнаў таго, чорнабровага, маладога салдаціка.

— Трэба выбірацца адгэтуль,—падумаў Вісарыён, устаючы.— Наробіць крыку...

Раптам ён убачыў вінтоўку. Яна ляжала тут-жа ля каменя. Вісарыён хутка схапіў яе, паклаў на калена, спрытна адкрыў затвор адной рукой. Затвор ішоў туга. Вісарыён выкінуў пустую гільзу і заклаў новы патрон.

— Ну, цяпер мы з вамі іначай пагуляем!—падумаў ён, выпростваючыся, сціскаючы ў руцэ вінтоўку.—Трэба толькі ад гэтага падсумак узяць. Іш ты, чорт! Як вёў дык ледзьве не плакаў, а тут кідаецца на злом галавы! Мусіць хацеў медаль зарабіць, паршывец!

Ён, пакульгваючы, падышоў да салдата. Той застагнаў і заварушыўся, спрабуючы ўзняцца.

— Ляжы ціха!—грозным шэптам загадаў Вісарыён.—Аддавай падсумак, гад, кішкі выпушчу! Выслужыцца захацеў, смаркач?!

— Ой, кацо, большэвік...—застагнаў салдат і сеў, працягваючы рукі да Вісарыёна.—Не забівай!.. Я не хацеў цябе лавіць, я шкадаваў цябе... Яны мяне сюды скінулі... Кажуць—як убачыш, страляй, мы прыдзем...

— Хто цябе скінуў?—Вісарыён адвёў вінтоўку, прысеў з салдатам побач.—Хлусіш ты, хлопец!

— Тыя скінулі... Фельдфебель Шарыкадзе скінуў... Хай мяне гром заб'е, калі-б я хлусіў! Яны сказалі,—лезь, Хуцышвілі, а то пад суд... Начальнік лаяўся, яны пхнулі мяне ў плечы, я і паляцеў... Ой, не дай бог, можа я цяпер жыць не буду! Яны сказалі: шукай!

Знойдзеш—страляй, мы прыдзем!.. Навошта мне цябе лавіць, што ты дрэннае зрабіў мне?..

Вісарыён маўчаў. Ён бачыў, што салдат не хлусіць, што ўсё так і было.

—Яны валацугі...— гаварыў салдат. Яны водзяць людзей страляць, потым п'юць у духане на Аўлабары, начальнік ім грошы дае... Ім чалавека забіць—раз плюнуць... Яны кажуць мне: „прывыкай да службы“, каб вы пагарэлі такія людзі! Ой, я пэўна печань сабе адбіў!

— Пачакай, Хуцышвілі...—сказаў Вісарыён.—Нам з табой трэба пагаварыць, і часу няма доўга тут расседжвацца. Ды ты не стагні, ты цэлы, толькі гузоў пэўна багата набраў!. Я хачу спытаць у цябе, Хуцышвілі: што яны думаюць рабіць, тыя, на гары?.. Ты не ведаеш?

— Начальнік сказаў, што ён у горад па войска паедзе, фельдфебелю Шарыкадзе з салдатамі загадаў уніз па дарозе бегчы, каб ты не перайшоў... А мне сказалі сюды лезці і адразу страляць, на месцы, як толькі ўбачу... Ай-яй, я думаў, душа з мяне вылязе!..

— Дык вось што, Хуцышвілі...—сказаў Вісарыён.—Ты хочаш мне дапамагчы?

— Што я магу рабіць... Я-б і хацеў-бы... ды можа ў мяне печань адбітая...

— Кінь ты! Печань адбітая... Ты слухай: сыйдзі ўніз, тут блізка ўжо, бяжы ў поле, як мага далей ад гары, і як адбяжыш з поўвярсты, пачні страляць... Яны прымчаць да цябе на помач, а ты ім скажы, што нехта, кульгаючы, уцёк у поле, ты яго здагнаць не мог, бо вельмі збіўся. Скажы, што гэта я быў, што здалёку ты мяне пазнаў. Разумееш?

— Дык цябе-ж там не будзе?

— Ой, дзівак!.. Проста смех! На тое-ж гэта і робіцца, каб іх звесці з шасэ, каб яны там шукалі, дзе нікога няма!.. Ты што, можа баішся? Чаго табе баяцца, чаго табе абыходзіць? Убачыў збеглага, не здагнаў, пачаў страляць—прамахнуўся, чым ты вінаваты? А мяне яны не зловяць, пра гэта не клапаціся, калі сам усё як трэба зробіш... Ды што табе і рабіць! Пару разоў стрэліць угору! Вялікая работа!

Хуцышвілі маўчаў.

— Баязлівец, смаркач!—злуючы падумаў Вісарыён.—Дарэмна з ім цацкаюся. У яго пустая дыня на плячах... Трэба ўзяць вінтоўку і ісці.

Але Хуцышвілі не аказаўся ні баязліўцам, ні дурнем. Стогнучы, ён устаў, абмацаў адно калена, другое і выпрастаўся.

— Хай-жа яны згараць, гэтыя сабакі! — казаў ён.—Хай ён здохне, гэты фельдфебель Шарыкадзе, як ён мне здароўе папсаваў! Дай вінтоўку маю, кацо! Я зраблю, як ты казаў.

— Я табе аддам вінтоўку, Хуцышвілі—сказаў Вісарыён, таксама ўстаючы.—Але ты ведай, што гэта я жыццё сваё ў твае рукі аддаў! Я табе паверыў, Хуцышвілі... Глядзі—ашукаеш мяне, кроў маю на свае сумленне возьмеш! Я за такіх, як ты, пакутую! Бяры вінтоўку, Хуцышвілі, і памятай...

— Чалавек, які слова не трымае—сабакі не варты,—адказаў Хуцышвілі, бяручы вінтоўку.—Так мяне бацька з маленства вучыў, ты не бойся, большэвік, я ўсё зраблю, як трэба... Толькі ты ўцякай адгэтуль, бо начальнік з гораду войска прывядзе...

З гары данёсся ледзь чутны свіст. Абодвы яны ўзнялі галовы. Свіст паўтарыўся.

— Яны яшчэ там,—шэптам сказаў Вісарыён.—Мусіць, адыходзяць, цябе аклікаюць.. Пойдзем адгэтуль, Хуцышвілі... Якраз у пару... Яны ўпоўгары сыйдуць і ты страляць пачнеш!.. Хадзі, я цябе правяду ўніз...

Так скончылася гэтая нечаканая сустрэча і размова. Яны асцярожна сышлі ўніз, на кожным кроку спатыкаючыся і аступаючыся ў паўзучым, сыпкім грунце. Калі скончыўся касагор, Вісарыён развітаўся з Хуцышвілі, упэўнены, што ён усё зробіць так, як абяцаў. Ён застаўся чакаць тут, у падножжа гары. Ён чакаў доўга, марудна ішоў час, вельмі многа яго мінула, як здавалася Вісарыёну, а стрэлаў усё не было чуваць. Нарэшце, стала страшна, што так лёгкадумна даверыўся чалавеку, які мог быць і баязліўцам, і хлусам, і здраднікам.

Але прастадушны салдацік Хуцышвілі не быў ні баязліўцам, ні здраднікам. Раптам стрэл гулка ўдарыў там на раўніне раз, другі і трэці. Яшчэ не сціхла рэха, як па шасэ, далёка адгэтуль стукнулі два стрэлы разам і пасля яшчэ адзін—гэта азваўся фельдфебель Шарыкадзе з прыяцелямі.

— Ну, Хуцышвілі,—ты ўсё-ткі чалавек!—з удзячнасцю, усхваляваны, падумаў Вісарыён. Падтрымліваючы хворую руку, нахіліўшыся ўсім тулавам наперад, каб лягчэй было ісці, ён пачаў узнімацца ўгору, ідучы ў падножжы наўкос стромага спаду з такім разлікам, каб выйсці на шасэ бліжэй пад горад.

* * *

... „Рымляне пералавілі там столькі фазанаў, што над цячэннем Фазіса і над яго нямымі берагамі гэтыя птушкі ўжо не лётаюць, і толькі вятры веюць над дрымучымі лясамі...“

Андрэй Міхайлавіч усміхнуўся. Аказваецца, па сведчанні Петронія, старадаўныя купцы і каланізатары былі не менш ласыя за сёнешніх. У час сваіх вандраванняў па Калхідзе Андрэю Міхайлавічу часта даводзілася сустракаць асоб у пробкавых шлёмах, з тысячнымі стрэльбамі, акружаных слугамі і праваднікамі. Чужаземныя госці палявалі на вогненна-чырвоную птушку. Густ яны мелі не горшы за рымлян. Але... „толькі вятры веюць над дрымучымі лясамі...“

Андрэй Міхайлавіч прыпомніў такі эпізод... Яны ішлі з Топурыя і сустрэліся ў зараслях, на беразе рэчкі з такой паляўнічай экспедыцый. Наперадзе ішлі двое сялян, яны прывіталіся з Топурыя, за імі—салдаты-дзяншчыкі валаклі на повадзе ішака, нагружанага рознымі клумкамі і палаткай. Ішак угрузаў на балотнай сцяжыне, на кожным кроку памыкаўся легчы і салдаты амаль што неслі яго на руках. Нарэшце, з‘явіліся паляўнічыя ў дарагіх

гарнітурах, запэцканых у гразь, у высокіх пробкавых шлёмах. Адзін з іх, той што ішоў першым, нёс забітага фазана. Праходзячы міма, ён глянуў на Андрэя Міхайлавіча так, як-бы там, дзе ён стаіць, было пустое месца, і дакрануўся пальцам да казырка. Астатнія зрабілі тое самае, дакладна паўтараючы кожны рух першага. Андрэй Міхайлавіч засмяяўся. Гэта была сцэнка з прыгодніцкага фільма: сустрэча благародных іншаземцаў у джунглях. Але на Топурыя гэта ўздзейнічала інакш. Калі ганарыстыя паляўнічыя прайшлі, ён плюнуў і адвярнуўся.

— Сабакі!—сказаў ён.—Багатыя людзі не маюць сумлення!..

Потым ён доўга не мог супакоіцца, хадзіў нахмураны, нешта бурчэў сам сабе і адплёўваўся. Андрэй Міхайлавіч яго не распытваў, ён ведаў, што пасля Топурыя раскажа сам. Пад вечар, на самым заходзе сонца, Топурыя сказаў, што хоча паказаць нешта цікавае, толькі трэба ісці вельмі паціху. Ён павёў яго праз гушчар, нацянькі да аднаго з курганаў. Калі яны дабраліся туды, сонца ўжо зайшло. Зара была такой чырвонай і яснай, што ўсе дрэвы, трава, усё навокал было афарбавана ў светлы пурпур, усё было выразным і чоткім—сілуэты дальніх гор, абрысы лясоў, выразнай была кожная галінка і лісток, такім моцным было святло гэтай незвычайнай зары. Андрэй Міхайлавіч заглядзеўся, захоплены невыказнай прыгажосцю вечара, яго моцнымі і яркімі фарбамі. Яны стаялі побач на маленькай паляне, на самай вяршаліне кургана, аглядаючы далёкія і ясныя прасторы, што адкрываліся з гэтага ўзвышша. Потым Топурыя асцярожна дакрануўся да пляча Андрэя Міхайлавіча і паказаў на адно з бліжэйшых дрэў. Спачатку Андрэй Міхайлавіч не зразумеў, у чым справа, потым ён убачыў на раскідзістым галлі, невысока над зямлёй, мноства птушак. Ярка чырвоныя, пярэстыя, з цёмна-зялёнымі, белымі, сінімі і бурымі плямамі на шыях, крылах і хвастах, яны нерухома сядзелі на галлі, асветленыя зарой, ахопленыя раннім птушыным сном. Сярод іх Андрэй Міхайлавіч заўважыў подляткаў, яны шчыльна гарнуліся адзін да аднаго, акружаючы дарослых. Гэта былі фазаны, некалькі вывадкаў.

Топурыя шчасліва ўсміхаўся, ківаючы галавой, прыцмокваючы губамі. Потым ён зноў дакрануўся да пляча Андрэя Міхайлавіча і паказаў на другое дрэва. Там дзеялася тое самае. Андрэй Міхайлавіч, здзіўлены і захоплены, развёў рукі... Топурыя ўсміхаўся, надзвычайна здаволены. Яны стаялі там доўга, пакуль не пачало цямнець, потым сышлі з паляны і Андрэй Міхайлавіч зноў чуў, як Топурыя, ідучы сцежкай наперадзе і збіраючы сухі хворост на падпал, нешта бурчыць сам сабе.

Яны не пайшлі ў сяленне, заначавалі на тым-жа кургане, на супроцьлеглым яго схіле. Топурыя сядзеў ля агню, пазіраў на закапцелы кацялок і пра нешта думаў, часам нешта шэпчучы. Потым ён прылёг на локаць і глянуў на Андрэя Міхайлавіча.

— Багатыя людзі не маюць сумлення...—сказаў ён.—Яны нават розуму не маюць, батоно. Мусіць для таго, каб нажыць багацце, не трэба вялікага розуму. Яны нішчаць і псуюць усё, каб толькі пацешыць сваё чэрава. Так робіць свіння, дурная і прагная жы-

зёліна. Але яна хаця і гняце ўсё пад ногі, дык затое і жарэ ўсё, што толькі зачэпіць лычам... Багатыя людзі—горш за неразумную свінню, яны псуюць у дзесяць разоў больш, чымся могуць праглынуць і ад гэтага вялікая бяда... Яны не шкадуюць нічога, каб толькі пацешыцца... Вось яны забілі птушку, сёння, апоўдні. Яна вадзіла вывадак, дванаццаць пісклянятак. Я часта бачыў іх, яна выводзіла іх з трысця на поле, яны карміліся, я глядзеў на іх і цешыўся. Прышлі багатыя і дурныя людзі і забілі яе... І пісклянята цяпер прападуць: вывадак позны і іх паражуць звяры і разносяць каршакі. І мне іх шкада, бо задарма прапала столькі прыгожых птушак! Як гэта прыгожа, калі яны ўзлятаюць з трысця, альбо з зарасляў! Хіба гэта дрэнна было-б, каб на кожным дрэве сядзела прыгожая птушка?! І вось, я думаю... Чаму яны не шкадуюць таго, чаго шкада мне? Я-ж, каб захацеў-бы, то мог-бы жывіцца аднымі фазанамі, для мяне ў лесе нічога схаванага няма! Ды што фазаны! Дзікі індык—інтаурэ, які жыве ў гарах, на самай вышыні, асцярожны і хітры і быстры, ад мяне ніколі не ўкрываецца... Яны, пражэры гэтыя, столькі золата далі-б за інтаурэ, колькі ён сам важыць! Але я гэтага не хачу, няхай жыве ўсё жывое і прыгожае, што чалавечае сэрца цешыць! Для мяне гэта дорага... Дык скажы мне, батоно, чаму для іх яно не дорага, чаму яны топчуць і знішчаюць усё?.. Чаму багаты чалавек такі дурны і прагны?

Цяпер Андрэй Міхайлавіч не памятае, што ён адказаў Топурыя, але стары доўга ўздыхаў, сумна пазіраючы на дагасаючае вогнішча. У змроку праносіліся светлякі, матылі кідаліся над агнём. Стомлены Андрэй Міхайлавіч заснуў тады і вось цяпер чамусьці ўспомніўся сумны і строгі, задуманы твар Топурыя...

Так тысячагоддзямі ходзяць па гэтай зачараванай краіне сквапныя да яе дароў чужаземныя госці... І лёт пярыстай рымскай стралы і стрэл сучаснай стрэльбы сустракалі і сустракаюць гнеўныя погляды гаспадароў яе.

Андрэй Міхайлавіч сядзеў яшчэ некаторы час, задуманы. За вакном павольна ішла ноч, роіліся зоры, і ападалі некаторыя з іх, страціўшы сваю дарогу ў прасторах сусвету. Перад Андрэем Міхайлавічам стаяла маленькая лямпка, яна асвятляла жоўтыя старонкі старой кнігі і груды папераў на стале. Навокал была цішыня. Андрэй Міхайлавіч уздыхнуў і зноў схіліўся над кнігай. Але на гэты раз не давялося яшчэ раз прачытаць даўно ўжо вядомыя яму выказванні рымляніна Петронія пра старадаўнюю Калхіду.

Заскрыпелі дзверы і ў пакой заглянула заспаная цётка Елена.

— Батоно!—устрывожана сказала яна.—Да нас нехта стукае... Нейкі чалавек стаіць на вуліцы, ля варот...

Андрэй Міхайлавіч устаў.

— Валер'ян?—падумаў ён.—Позна... Хто-ж гэта можа быць?

Ён выйшаў у сені, сышоў на двор. За цьмянымі шыбамі веранды маячыў твар спалоханай цёткі Елены. У фортку, з вуліцы ціха пастукалі яшчэ раз. Андрэй Міхайлавіч падышоў і моўчкі адсунуў засаўку. Фортка адкрылася сама сабой. Апіраючыся пля-

чом аб агарожу, стаяў незнаёмы чалавек без шапкі, з ускудлачанымі валасамі. Твар ягоны быў запэцканы і абшарпаны.

— Гэта... вы?—спытаў чалавек слабым голасам.

— Што вам трэба?—у сваю чаргу холадна спытаў Андрэй Міхайлавіч.

— Вы мяне не пазналі...—прашаптаў чалавек і стаў проста, але яго, як заўважыў Андрэй Міхайлавіч, крыху павяло ў бок.— Я... Вісарыён Коркія... Дазвольце зайсці на двор... Тут, на вуліцы, небяспечна...

Андрэй Міхайлавіч моўчкі адышоў у бок, углядаючыся ў твар Коркія. Той пераступіў парог і зачыніў за сабою фортку.

— Больш не магу...—шэптам сказаў ён.—Каб яшчэ пяць крокаў... не здолеў-бы...

— Што з вамі?—спытаў Андрэй Міхайлавіч, таксама шэптам, зразумеўшы цяпер, што тут дзеецца не тое, аб чым ён у першую хвіліну падумаў.—Што з вамі здарылася?! У вас-жа збіты ўвесь твар!

— Гэта глупства...—адказаў Коркія.—Я прашу вас... мне каб толькі... галаву прыхіліць... дачакаць дня...

Трывога і жаль ахапілі Андрэя Міхайлавіча ў гэтую хвіліну. Ён, не гаворачы ні слова, узяў Вісарыёна пад руку і павёў ад варот. Але Коркія, зрабіўшы крок, спыніўся.

— Трэба зачыніць фортку...—прашаптаў ён.—Так небяспечна...

Андрэй Міхайлавіч, не выпускаючы рукі Вісарыёна, завярнуўся, пасунуў засаўку і яны пайшлі. На дварэ Вісарыён адчуў сябе лепш і сам узышоў па прыступках. Цётка Елена сустрэла іх на верандзе і ледзьве не выпусціла лямпку, убачыўшы акрываўлены твар Вісарыёна. Андрэй Міхайлавіч прывёў Вісарыёна ў свой пакой, пасадзіў яго на сваё рабочае крэсла. Вісарыён стараўся сядзець проста. Але ў першую хвіліну ў вачах яго быў такі выраз, як-бы ён не ведаў, дзе ён, і што з ім.

— Вам дрэнна?—спытаў Андрэй Міхайлавіч, і Вісарыён з высіленнем глянуў на яго напоўпрытомным гаснучым узрокам. Але зараз-жа зноў бляск свядомасці прагляну ў у яго зрэнках.

— Бачыце...—сказаў ён ахрыплым голасам.—Усё было добра, пакуль я не перайшоў шасэ... Калі я прайшоў шасэ, мяне стала кідаць на бакі і... слабасць... Калены падгінаюцца... Бок баліць!..

Апошнія словы ён сказаў гучна, як-бы Андрэй Міхайлавіч быў далёка ад яго. І ў гэтае імгненне, зноў нейкая імгла прайшла ў ягоных вачах. Ён павольна схіліў галаву на грудзі, як-бы задумаўся. Андрэй Міхайлавіч азірнуўся на дзверы. Яны былі толькі прычынены. Цётка Елена, стоячы ў сенях, пільна сачыла за тым, што адбываецца ў пакоі.

— Прынясіце ў тазе вады, цётка Елена,—ціха сказаў Андрэй Міхайлавіч,—і чыстае прасцірадла.

Туфлі цёткі Елены хутка прашлёпалі ад дзвярэй. Андрэй Міхайлавіч зняў з сябе пінжак, выняў з камоду сваю паходную сумку, аптэчку, і раскрыў яе на стале. Вісарыён за гэты час не варушыўся, але калі Андрэй Міхайлавіч адсоўваў ад сцяны канапу, ён хутка ўзняў галаву, як-бы абудзіўшыся.

— Андрэй Міхайлавіч!—сказаў ён больш моцным і ўпэўненым голасам.—Калі я скочыў за вамі ў багна, мяне не абыходзіла, каго я... выцягну, ворага ці друга. Вы сябе паказалі другам, калі мы з вамі сустрэліся ў тэатры... Я думаў, ці ісці да вас ці не... Вы—чалавек староннi ад нашых спраў... я вам не кампанія... Але мне няма куды ісці... Я павінен перачакаць да заўтрага... Цяпер небяспечна...

Вісарыён памаўчаў, пазіраючы на Андрэя Міхайлавіча гарачкава раскрытымі вачыма. Ягоны абшарпаны, худы, запэцканы ў кроў твар, выражаў неспакой.

— ... але я павінен вам сказаць,—гаварыў ён далей.—Я—бальшэвік, вы гэта ведаеце... і толькі таму нават, гэта для вас небяспечна... Але... таго мала... яшчэ... Я ўцёк з-пад расстрэлу ...з-пад куль... Вось калі мяне знойдуць тут... вам гэта абыдзецца дорага... Я вам сказаў... Андрэй Міхайлавіч...

У гэтую хвіліну цётка Елена прынесла таз з вадой. Яна паставіла яго на падлогу і зірнуўшы на Андрэя Міхайлавіча, зараз-жа выйшла. Твар цёткі Елены выражаў апошнюю ступень здзіўлення і трывогі. Яна засталася за дзвярыма, з цікаўнасцю прыглядаючыся да таго, што робіцца ў пакоі. Яна бачыла як Андрэй Міхайлавіч падышоў да незнаёмага, але што ён сказаў яму, не чула.

— Вось што, мой друг...—сказаў Андрэй Міхайлавіч да Вісарыёна.—Вы зрабілі, як сумленны і смелы чалавек, што папярэдзілі мяне, гэты страшны выпадак з вамі вельмі хвалюе мяне, але больш пра гэта пакуль што не будзем гаварыць... Мы пагутарым пасля... Ісці вам нельга нікуды ні заўтра, ні ў бліжэйшыя дні... У вас разбіты твар, і акрамя таго, у вас нешта сур'ёзнае з плячом. Вы застанецеся тут. А цяпер папрабуем зняць пінжак і кашулю... Трэба паглядзець, што з плячом... Яно ў вас абвіслае... Гм...

Вісарыён паспрабаваў зняць пінжак і заскрыпеў зубамі. Ён зусім не валодаў рукой, плячо апякала болем і зноў млявы цяжар расцякаўся па жылах, падступала агідная слабасць такая, што галава схілялася сама. Андрэй Міхайлавіч зняў з яго пінжак і кашулю, перавёў з крэсла на канапу. Усё гэта Вісарыён успрымаў невыразна, усё было як у тумане. Калі ён на момант ацкнуўся, яго вельмі здзівіла, што над ім столь, а не зорнае неба, потым ён прыпомніў усё, але калі пачуў плеск вады, не мог здагадацца, адкуль вада. Раптам, ён убачыў успененыя хвалі, начное мора, хлопнуў парус пад ветрам і з трэскам разарваўся і на пустым беразе, там дзе ўспенена кіпіць прыбой, ён убачыў адзінокую, нерухомую постаць—гэта быў бацька ягоны, Арцём Коркія... Ён стаяў, адзінокі і ля самых ног ягоных пеніўся прыбой... Змрок асланяў мора, узнімаліся хвалі і адна з іх з шумам акрыла яго, Вісарыёна, усё адразу знікла... Вісарыён уздыхнуў і ацкнуўся яшчэ раз.

Андрэй Міхайлавіч абмываў яму губкай твар. Гэта было прыемна і добра, толькі ўсё яшчэ заставалася ў грудзях нешта цяжкое.

— Аднак-жа ў вас мускулы, дарагі мой!—сказаў Андрэй Міхайлавіч, і кінуў губку ў таз.—Ніколі не падумаў-бы! З выгляду вы не дужы... Вам цяпер лягчэй?... Ну, дык вось што: справа аказваецца сур'ёзная. Вы звіхнулі плячо, як я і думаў... Рэбры цэ-

лыя, бок вы ўдарылі так моцна, што .. не дрэнна, каб тут доктар быў. Але ён для нас недаступны, паглядзім, што скажа Валер‘ян Іванавіч, той самы, што вывеў тады вас з тэатру. Ён крыху ведае медыцыну. Можа і непатрэбным акажацца доктар. Плячо ваша паспрабую ўправіць сам. У вас шыя апухла... Вы галаву не ўдарылі?

— Асобаатрадчыкі душылі...—адказаў Вісарыён.

Андрэй Міхайлавіч нешта прабурчэў сам сабе, адыходзячы ад канапы. Вісарыёну здалося, што інжынер моцна вылаяўся. Андрэй Міхайлавіч праз хвіліну з‘явіўся зноў. Цётка Елена, у сенях, энергічна працавала ножніцамі, рыхтуючы бінты.

— Ну, а цяпер самае галоўнае,—сказаў Андрэй Міхайлавіч.— Тут ужо вам трэба трымацца, мілы мой... Ляжыце спакойна...

Калі хворы з туга забінтаваным плячом і абвязанай галавой заснуў, Андрэй Міхайлавіч вышаў на кухню. Цётка Елена стаяла там ля стала, пазіраючы на абрыўкі бінтоў круглымі вачыма. Яна ўсё яшчэ не магла прысці як след да памяці.

— Цётка Елена,—сказаў Андрэй Міхайлавіч.—Вы разумееце, што трэба маўчаць?

Цётка Елена прыклала палец да губ.

— Хіба-ж не разумею!..—сказала яна.—Калі мой Валіко быў жывы і едзіў на паравозе... Ой, гора мне, я ведаю, як трэба маўчаць!

Андрэй Міхайлавіч па-свойску падміргнуў ёй, таксама прыклаў палец да губ і, ціха ступаючы, пайшоў у свой пакой.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Калі Вісарыён абудзіўся—была раніца. Лежачы, ён бачыў праз вакно ружовае неба, воблакі, дрэвы нейкага саду. Вісарыён прыпомніў усё, што здарылася з ім учора і гэта выдалася цяпер цяжкім, немагчымым кашмарам. Але неспакойнае прыгнятаючае пачуццё, якое заставалася яшчэ недзе ў душы, знікла раптоўна, калі ён падумаў аб тым, што смела прайшоў вялікія і пакутныя іспыты, што воля да жыцця перамагла і ён ратаваўся ад пагібелі. Гэта было гордае пачуццё, яно спакоем сілы напоўніла яго істоту. Думкі былі ясныя, спакойныя і была вялікая радасць, калі ён пазіраў на ружовае ранішняе неба, на горы, акрытыя ў ружовы бляск, на лёгкія воблакі, што праносіліся ў небе—інакшым было ўсё гэта ўчора, але ўсё мінула, ён—перамог.

Да яго падышоў Андрэй Міхайлавіч. Вісарыён паспрабаваў узняцца і гэта яму ўдалося.

— Я ўжо здаровы!—сказаў ён да Андрэя Міхайлавіча.—Выбачайце, нарабіў вам клопатаў.

— Што гэта за клопаты!—усміхнуўся Андрэй Міхайлавіч.— А вы не спяшайцеся. Трэба ляжаць спакойна. Вось, увечары прыдзе Валер‘ян Іванавіч, тады паглядзім... Ну, а цяпер пакуль будзе гатова снеданне, мы з вамі пагутарым. Раскажыце мне, як гэта ўсё здарылася?

Учора, ідучы сюды, Вісарыён не мала думаў над тым, як сустрэне яго Андрэй Міхайлавіч, гэты на выгляд суровы, сухаваты чалавек. Вісарыён разумеў, што досыць было той паслугі, якую

інжынер ужо зрабіў. Але ісці не было куды. Пра сваю кватэру і думаць было не варта, шукаць прытулку ў таварышоў—немагчыма: акрамя таго, што ён сам мог прывесці з сабой небяспеку, яна магла чакаць на яго там; ён не быў упэўненым у тым, што іх партыйны гурток застаўся цэлым—пэўна не за адным Вісарыёнам сачылі ўчора асобаатрадчыкі. І Вісарыён вырашыў ісці на рызыку: адшукаць кватэру інжынера. Адрас ён памятаў ад таго дня, калі яны развіталіся ў Калхідзе—гэта было добрае правіла, якога параіў трымацца Вісарыёну Габісонія: нічога не запісваць, ні на што не забывацца. Вісарыён прышоў сюды і хаця быў ён у вельмі дрэнным стане, усё-ж адчуваў сябе вельмі няёмка: ён зусім амаль не ведаў гэтага чалавека, ягонага становішча, поглядаў і пераконанняў. Некалі ён аказаў яму вельмі сур'ёзную дапамогу, але затое цяпер навязвае не менш сур'ёзную небяспеку. Вісарыён вырашыў адразу папярэдзіць яго аб тым і калі інжынер згодзіцца яго прыняць—перачакаўшы ноч, раніцой пайсці. Гэта аказалася немагчымым і Вісарыён цяпер яшчэ ў большай ступені адчуваў няёмкасць. Але яна хутка прайшла. Гаспадар трымаўся вельмі проста, ветліва, відаць, шчыра спачуваў яму, і Вісарыён адчуў прыязнь да гэтага чалавека. Калі ён расказаў усё ад пачатку да канца, што здарылася з ім учора, ён убачыў, як усхваляваўся гэты з выгляду роўнадушны і суровы чалавек. Ён сядзеў, схіліўшы сваю сівеючую галаву і цёр далонню лоб, што мусіць было яго прывычкай. Потым ён глянуў на Вісарыёна і нешта здзіўляюча мяккае і лагоднае было ў яго вачах, твар ягоны прасвятлеў, суровыя складкі разышліся, ён зусім весела і расчулена ўсміхнуўся.

— З сотні людзей,—сказаў ён,—дзевяноста дзевяць напэўна загінулі-б пры такіх умовах, мой друг... Акрамя смеласці вам яшчэ дапамог выпадак. Гэты салдат мог і не аказацца такім... добрым чалавекам!

— Тады я прыкончыў-бы яго!—адказаў Вісарыён.—Вінтоўка была ў мяне ў руках, і я напэўна прабіўся-б у горад! Тут, Андрэй Міхайлавіч, выпадак ад нас саміх залежыць. Але так вышла лепш... Нават зусім добра вышла, Андрэй Міхайлавіч!..

І Вісарыён засмяўся. Цяпер не было ніякай няёмкасці. Яны пазіралі адзін на аднаго, як даўнія прыяцелі.

— Прыемна...—ціха сказаў Андрэй Міхайлавіч.—Прыемна глядзець на чалавека, які пазбегнуў смерці. Вось гэтага ўсходу сонца вы маглі ўжо не бачыць...

— Друг!..—падумаў Вісарыён з вялікай удзячнасцю і прыязню.

У гэтую хвіліну адчыніліся дзверы і цётка Елена з надзвычайна ўстрывожаным тварам заглянула ў пакой.

— Батоно!—ціха сказала яна.—Кава ўжо гатовая.

Пасля Андрэй Міхайлавіч перавёў Вісарыёна ў бакоўку, дзе стаяў ложак. Вісарыён хаця і ведаў, што гэта ложак гаспадара, але не супярэчыў, бо разумеў, што Андрэй Міхайлавіч прымусіць яго легчы. Ён адразу-ж заснуў, як толькі лёг і абудзіўся ў палове дня. Цяпер ён адчуваў сябе зусім добра. Дзверы ў бакоўку былі адчынены і Вісарыён убачыў Андрэя Міхайлавіча за сталом, у суседнім пакоі. Інжынер сядзеў задуманы, схіліўшы галаву. Негара-

чае восенскае сонца залівала пакой святлом, ясныя водбліскі блукалі па сценах, на шырокай карце за плячыма Андрэя Міхайлавіча, вясёлыя зайчыкі перабягалі па ягоных паперах, вецер яшчэ не халодны, павяваў з адчыненага акна. Вісарыён аглядаў гэта так, як-бы здаўна прывык прасынацца тут і бачыць за сталом нахіленую, сівеючую галаву гэтага чалавека. Тут было яму добра.

Надвечар яны сядзелі разам, ля вакна. Вісарыён потым часта ўспамінаў гэтую размову, бо яна мела не малы ўплыў на ягонае ўласнае жыццё. Але гэта прышло пасля. Цяпер-жа ён слухаў уважліва, зацікаўлены тым, што расказваў Андрэй Міхайлавіч.

— ... Дзвесце пяцьдзесят тысяч год таму назад, на месцы Калхіды, амываючы падножжа Каўказскіх гор, ляжала Сармацкае мора. Цяжка сабе ўявіць такую адлегласць часу—дзвесце пяцьдзесят тысяч год... За такі час гара можа стаць пясчынкай, мора—балотам. Знікла Сармацкае мора... Яго запоўнілі часткі земных парод, прынесеныя патокамі з Каўказскіх гор, бо толькі адна рака Рыон да сёння выносіць у мора дзесяць мільёнаў кубаметраў ілу і пяску штогод. Мора адышло, знікла ў тыя далёкія часы і самое яго колішняе існаванне толькі нядаўна ўстаноўлена геолагамі. Праходзілі тысячагоддзі, і ў Калхідзе з'явіўся чалавек. Пэўна, гэта не была спачатку балацістая нізіна, непрабраная пагібельная дрыгва, бо народы тысячагоддзі жылі на зямлі Калхіды, народжанай з мора, і гісторыя шмат якіх народаў і дзяржаў звязана з Калхідай. Чалавек жыў у Калхідзе і ў каменны век і ў пазнейшыя, больш блізкія да нас эпохі. Элліны і рымляне, персы і скіфы, візантыйцы і арабы, гандлявалі і ваявалі з народамі Калхіды. Праз Калхіду ішоў вялікі гандлёвы шлях з Грэцыі і Рыма ў краіны Бліжняга Усходу і ў Індыю. Караблі даплывалі па Рыону да Орпіры і адтуль караваны ішлі праз Сурамскі перавал у Арменію, Іран і Індыю. Вялікі Рым быў гаспадаром гэтага гандлёвага шляху—ён уплачваў адной толькі пошліны за свае тавары, што ішлі гэтым шляхам, сто дзесяць мільёнаў сестэрцый штогод. Калхіда ў тую пару была краінай магутнай і багатай. На рацэ Фазісе было сто дваццаць мастоў і багаты флот. Тагочасныя вандраўнікі і купцы ўслаўлялі Калхіду, краіну багатую лесам, усемагчымымі пладамі і матэрыяламі, нават золата здабывалася ў Калхідзе, і яго здабывалі такім чынам: залатаносны пясок прамываўся на аўчыне—пясок зносіла вада, а часцінкі каштоўнага металу заставаліся ў поўсці. Далёка і шырока ішла па свеце слава пра Калхіду і гордыя ўладары Візантыі, Грэцыі і Рыма прысылалі сюды сваіх паслоў і купцоў. Паслы прыносілі дары, купцы куплялі тавары, на плошчах сталіцы колхаў ішоў вялікі гандаль і па Фазісе плылі караблі, праз Сурамскі перавал старадаўняй вялікай дарогай ішлі караваны. Пасля пачаліся войны. Усемагутны Рым узняў свой меч супроць Калхіды. Легіёны Рыма нападалі на колхаў, адваёўвалі іх землі, будавалі крэпасці. Грэкі і візантыйцы засноўвалі свае калоніі. Колхі абараняліся з усіх сіл, яны любілі сваю радзіму, зямлю, народжаную з мора. У прах і попел яны разбуралі рымскія крэпасці, калоніі візантыйскіх купцоў і гандлёвых людзей Грэцыі. Агнём і жалезам сустракалі яны заваяваль-

нікаў. Завязаліся шматгадовыя войны, спусташаліся гарады і сяленні... Шмат што скрыта ад нас у змроку стагоддзяў... Засталіся руіны рымскіх крэпасцяй і грэчаскіх факторый, астаткі старадаўных паселішчаў, курганы, масты, даўнейшыя дарогі... І ўсё гэта ўгрузла ў балота, усё гэта заплыло дрыгвой, заросло лясамі і скрылася ад вачэй патомкаў. Ужо ў V веку да нашай эры, пісаў пра Калхіду Гіпакрат: „Калхіда славіцца балотамі, краіна гэта гарачая, вільготная, лясістая. Дамы будуюцца з дрэва, простыя. Вада тут нездаровая, смуродная. Плады тутэйшыя не даспяваюць і нясмачныя. Людзі апухлыя, лянівыя. У Калхідзе дзьме страшны вецер „Кенхрон“, ён нясе з сабой хваробы. Паветра прасякнута пахам гнілізны.“

Старадаўнія колхі, пэўна, рэгулявалі рэкі і каналы, захоўваючы свае землі ад паводак і забалочвання. І калі прышлі часы заняпаду, рэкі разбурылі прыстасаванні, якімі людзі запаланілі іх, і вырваліся на волю. Аплылі берагі каналаў і з бегам часу зніклі самыя каналы. Зямля гніла і ўспухала, залітая стаячай вадой. Шматлікія рэкі і ручаі не маглі вынесці ў мора мутныя свае воды, многія з іх нават не даходзілі да мора і заварачвалі назад, губляючы сваю сілу ў балотных завадзях, у плывучай дрыгве. Ім не прабіцца было ў марскія прасторы, яны адгарадзіліся ад балотаў шырокім пясчаным рубяжом, і калі ўсё-ж рэчка прабівалася праз гэтую граніцу, магутная морская хваля заганяла яе назад. І дагэтуль кружаць па Калхідскай нізіне, у нетрах балот гэтыя бяссільныя рэкі. Яны прыносяць з сабой іл і пясок і ён асядае на дно, калі знікае імпэт плыні. Таму штогод павышаецца рэчышча іх, і многія рэчкі ў Калхідзе маюць берагі, вышэйшыя за балоты, яны працякаюць над балотам і ў часе паводак вада выліваецца з іх раптоўна і непрыгожа—як з карыта. Толькі магутны Рыон, у старадаўнія часы званы Фазісам, меншы брат яго Інгуры і яшчэ некаторыя рэкі вольна нясуць свае воды ў Чорнае мора.

Так агідна і беспарадна прападала зямля... Стагоддзямі гніла яна пад гарачым сонцам у цёплай стаячай вадзе і цяпер—балотны сон, зараслі ці хмурыя лясы, застойная вада, бяссільныя рэкі, мірыяды камароў і гнілы нізавы вецер, той самы „кенхрон“, што дзьмуў у Калхідзе ў часы Гіпакрата, і напэўна яшчэ да яго. З балот узнялася жоўтая, няшчадная ужмуры-ліхарадка, люты біч ўсяго жывога—некалі квітнеючая краіна стала глухой балотнай магілай. Помнікі гэтай краіны загінулі ў дрыгве і толькі на высокіх курганах яшчэ можна адшукаць астаткі ад таго жыцця, што некалі было тут: гэта крамнёвая сякера пячорнага чалавека, гэта бронзавы кінжал і бронзавыя цуглі—аздоба баявога каня скіфа, гэта разбіты шлём рымскага воіна; ашчэпкі пасуды—работа выдатных калхідскіх ганчароў і керамікаў; манеты Александра Македонскага, Нерона, Мітрыдата—па гэтым можна чытаць гісторыю Калхіды. І больш не засталася нічога. Усё акрыў жоўты сон балот...

Вісарыён моўчкі глядзеў праз вакно. Як і ўчора, перад ім была вячэрняя зара і горы, акрытыя чырванню. Але цяпер на душы яго быў спакой і лёгкі смутак. Яго ўсхвалявала толькі што

ўпершыню пачутая ім гісторыя ягонай радзімы. Яна была кароткая і невыразная. Яна ахоплівала вялізны адрэзак часу, Вісарыён упершыню зазірнуў так далёка ў мінулае. Ён адчуў смутак, што заўсёды адчувае чалавек, калі розум ягоны дасягне тых спапялелых рубяжоў мінуўшчыны, за якімі пачынаецца невядомае. Трагічнай была гісторыя зямлі народжанай з мора. Але яна яшчэ не загінула, гэтая зямля і яшчэ прадоўжваецца гісторыя яе народа. Патомкі мужных колхаў, што разбуралі рымскія крэпасці, і праганялі прэч грозныя кагорты, патомкі выдатных ганчароў і майстраў зброі, нашчадкі хлебаробаў старадаўняй Калхіды жывуць цяпер на астраўках сярод балотаў. Вісарыён успомніў Сагвасаліо: задымленыя стрэхі, задуманыя таполі, маўклівая туга балот... Якая сіла зменіць аблічча зямлі ягоных бацькоў, адвеку заняпалай, тысячагоддзямі запалоненай дрыгвой? Якая сіла спыніць смуроднае дыханне заклятага „кенхрона"?! Хто пераможа жоўтую Ужмуры, страшную старуху, што жыве ў сэрцы балот?

— Думка асушыць Калхіду з'явілася даўно,—гаварыў Андрэй Міхайлавіч.—Яна ўмацоўвалася, адпаведна з ростам тэхнікі. Цяпер яна, гэтая думка,ператварылася ў цвёрдае і абгрунтаванае пераконанне: Калхіду асушыць можна, сучасная тэхніка здолее гэта здзейсніць. І вось, дарагі мой друг, вы пыталіся ў мяне, што я раблю, якая мая работа. Тое, што вам я расказаў, была прадмова, яна прызначана для таго, каб вы лепш засвоілі сабе сутнасць маёй работы. Сутнасць у наступным: я ўжо шмат гадоў думаю і працую над тэхнічным праектам асушэння Калхіды.

Вісарыён здагадваўся, што работа інжынера мае дачыненне да Калхіды. Але тое, што сказаў Андрэй Міхайлавіч было далёка ад ягоных меркаванняў. Ён моўчкі пазіраў на інжынера.

— І я цяпер ужо бачу:—закончыў Андрэй Міхайлавіч,—гэта зусім рэальная справа. Калі здзейсніць мой праект, Калхіда ўваскросне ва ўсёй сваёй прыгажосці і сіле. Вось гэтую работу, Вісарыён, я лічу мэтай свайго жыцця. І гэта будзе краіна... Мала на зямлі такіх садоў, якім можа быць новая, адроджаная Калхіда... А цяпер, хадзіце сюды. Наколькі магчыма, я раскажу вам аб сваім плане.

Ён падвёў Вісарыёна да стала, пасадзіў яго ў сваё крэсла, але сам застаўся стаяць. Ён хадзіў па пакоі, падыходзіў да карты, раскрываў свае паперы, расказваючы Вісарыёну аб тым, як зменяць свой шлях рэкі, як каналы збяруць стаячыя балотныя завадзі, як будзе наступаць чалавек, як будзе адыходзіць вялікае балота.

— Гэта толькі першыя намёткі,—гаварыў Андрэй Міхайлавіч.— Тут—увесь мой вопыт і ўсё, што было да мяне. Гэтая работа патрабуе яшчэ многіх змен і паправак, патрэбна праверка на практыцы, ды і наогул, гэта яшчэ пачатак. Але галоўнае ў тым, што Калхіда можа быць адроджанай, гэта напэўна.

Вісарыён сядзеў моўчкі, здзіўлены і ўзрушаны гэтай ідэяй. Ён ведаў і разумеў, што азначае асушыць Калхіду. Ён хацеў верыць, і не мог. Тое, што растлумачваў яму Андрэй Міхайлавіч, ён успрымаў дрэнна, шмат было спецыфічнага. Але яго ўсё больш

пераконвалі натхненне, з якім гаварыў Андрэй Міхайлавіч, ягоная пераконанасць, ягоная ўпэўненасць, якая гучэла ў кожнай фразе.

— ... уявіце сабе простыя, роўныя каналы і над імі прысады эўкаліптаў, гіганцкіх дрэў. Іх магутныя сцены абараняюць сады ад вятроў, яны азаніруюць паветра, бо малярыйны камар гіне ад аднога іх паху, іх карнявішчы высушваюць глебу на дзесяткі метраў навакол і самі па сабе яны—каштоўнейшая драўніна. Уявіце сабе велізарныя, на сотні дзесяцін, сады цытрусаў і розных пладовых дрэў, плантацыі тэхнічных злакавых раслін і ўявіце сабе бурлівыя рэчкі ў высокіх берагах, з якіх ім не выйсці ніколі ўжо, масты над імі, новыя сяленні на адроджанай, багатай непатрачанымі сіламі зямлі! Уявіце сабе, як усё гэта расце і квітнее, дыхае і жыве пад цёплым сонцам, і вы зразумееце, што азначае новая Калхіда, мара мая даўняя...

Яны доўга сядзелі моўчкі пасля таго, як Андрэй Міхайлавіч скончыў гаварыць. Пасля Вісарыён спытаў:

— Андрэй Міхайлавіч, а для каго вы робіце праект?

— Як, для каго?

— Ну...—Вісарыён сумеўся, бо яму выдалася, што Андрэй Міхайлавіч нечым нездаволены.—Вам фірма якая-небудзь заказала? Ці можа...

— Ніхто не заказваў,—суха адказаў Андрэй Міхайлавіч.— Груба кажучы—на свой кошт і рызыку. Гэтая работа—плод многіх шуканняў, гэта адзіная мэта і вялікая мая праца... Я нікому яе не запрадаваў.

Але Вісарыён не супакоіўся на гэтым, хаця і выразна бачыў нездавальненне Андрэя Міхайлавіча.

— Вы закончыце праект...—сказаў ён.—А пасля што?.. Трэба-ж каб нехта арганізаваў работы! Тысячы рабочых рук, машыны, велізарнейшыя затраты... Андрэй Міхайлавіч, ніводзін капіталіст, ніводны буржуазны ўрад вашага праекта выкарыстаць не змогуць. Ведаеце што? Вось гэты самы „ноеў каўчэг" павінен быў-бы на дзесяць год запрадацца ў няволю, з усім, што пад уладай ягонай, і нават паловы Калхіды не асушыў-бы... Гэта проста немагчымая для іх справа, нават каб яны гэтага ўсёй душой праглі, і не былі-б жулікамі...

Андрэй Міхайлавіч маўчаў.

— Вы працуеце для нас,—упэўнена закончыў Вісарыён.—Вы на соцыялізм працуеце. Калі мы пераможам, прагонім меншавікоў і інтэрвентаў, ваш план будзе мець поўны фундамент. Дзесяткі тысяч рабочых рук падтрымаюць яго. Вы ведаеце, што азначае сіла ўсяго працоўнага народа, з'яднаная ў адно?!. Нішто не можа супроць гэтай сілы выстаяць! Калі пачнецца будаўніцтва соцыялістычнай Грузіі, Андрэй Міхайлавіч, толькі тады магчыма здзейсніць ваш план.

— Калі толькі гэта магчыма...—усхвалявана сказаў Андрэй Міхайлавіч.—Я сам гатовы стаць з заступам у руках!.. Калі гэта толькі магчыма!..

— Мы пераможам, Андрэй Міхайлавіч,—адказаў Вісарыён, ужо разумеючы цяпер, што азначала для інжынера гэтая размова.—

Грузія будзе савецкай, бо гэта воля ўсяго народа. І вам не трэба браць заступ, вы зоймеце сваё месца. Але вы працуеце для нас, для народа, Андрэй Міхайлавіч. Гэта факт. І гэта вельмі суцяшае мяне, бо акрамя ўдзячнасці, я адчуваю да вас вялікую прыязнь і пашану...

— Два дзесяткі год я марыў пра гэта...—ціха сказаў Андрэй Міхайлавіч.—І калі я ўбачу першы метр асушанай зямлі на Кораці і першае дрэва, пасажанае там—з мяне досыць.

— Вы гэта ўбачыце, Андрэй Міхайлавіч—адказаў Вісарыён.— Вялікія сады новай Калхіды ўбачыце вы, калі пойдзеце з намі.

— Мне няма з кім ісці акрамя вас,—сказаў, пачакаўшы, Андрэй Міхайлавіч. І няма на каго спадзявацца. Дваццаць год я чуў толькі адно: гэта немагчыма. Сёння я сустрэў вас, аднаго з тых, што абяцаюць стварыць новы свет. Вы сказалі адразу: гэта магчыма. Мне ясна з кім ісці.

Нейкі час яны маўчалі, разумеючы важнасць сказанага і думаючы над гэтым. За вакном змяркалася. Чэзлі цьмяныя фарбы захаду на спадах гор, хмурнела далеч. Надыходзіла ноч.

## IV

Яшчэ ў леце, у тую дажджавую пару, неўзабаве пасля ад'езду карнай экспедыцыі, да паўстанцаў прышоў Канстанцін Курыдзе. Яго прывёў аднойчы раніцой Міхаіл Ганарджыя. Кверквелія і астатнія, з радасцю сустрэлі пасланца большэвіцкай партыі. Акружаны паўстанцамі, Курыдзе стаяў на сярэдзіне паляны, курыў люльку, да яго прыглядаліся ўсе і ён пазіраў на ўсіх, падоўгу застанаўліваючыся на кожным. Курыдзе спадабаўся ўсім—шыракаплечы, відаць добрай сілы, лабасты, з вогненна-рыжым чубам і смяшлівымі, спакойнымі вачыма. Курыдзе таксама застаўся здаволены паўстанцамі.

— Сур'ёзныя хлопцы!—сказаў ён да Кверквелія, аглядаючы рослых, суровых сялян у чорных світках, з вінтоўкамі ў руках, аперазаных шырокімі паясамі з падсумкамі.—З гэткімі хлопцамі можна добрага стуку нарабіць. Толькі вы, па-мойму, дарэмна ў лесе сядзіце. Хочаце падняць народ, а самі ад яго хаваецеся. Хто-ж вас тут знойдзе, на гэтых кустах? Зноў-жа і сем'і засталіся без дагляду. Што-ж пра вас людзі падумаюць? „Вось,—скажуць,—хітрая вельмі работа! Уцяклі ў лес, сем'і пакінулі, над імі ворагі здзекуюцца...“

Паўстанцы стаялі моўчкі, пазіраючы сабе пад ногі. Курыдзе, гаварыў праўду і было крыху няёмка.

— Мы пойдзем проста ў Сабокучава і там застанемся,—гаварыў Курыдзе. Нам няма чаго ад падзей хавацца, ад ворагаў-жа трэба не ўцякаць, а сустрэць іх як мае быць, пры поўнай форме. Акрамя таго, людзі павінны ведаць, хто мы такія. Наша партыйная, большэвіцкая арганізацыя прапануе нам называцца так: атрад рэволюцыйных сялян імя таварыша Джапарыдзе. Я раскажу вам пасля, які гэта быў чалавек і вы напэўна дасцё згоду, каб наш атрад называўся так. Мы абярэм камандзіра атрада і яго памочніка, установім правілы, якіх павінны трымацца ўсе, павінны мы і

надалей трымаць вайсковую суровую дысцыпліну, бо без гэтага нас вароны пазносяць. Вось, усё гэта мы павінны з вамі абгаварыць, ува ўсім дайсці да згоды і тады паглядзім, што рабіць далей.

Курыдзе не марудзіў. Калі былі прыняты ўсе ягоныя прапановы, у Сабокучаво паслалі Оція. Ён звярнуўся надвечар. У сяленні было ўсё ціха і спакойна. І праз некалькі хвілін атрад пакінуў паляну. Ішлі па лесе рэдкім ланцужком. Ззаду Міха Коркія і Мітрафан Бокучава гналі кароў і коз—стада з фермы Сімона Гамрэкелі. Курыдзе ішоў разам з Кверквелія і Міхаілам Ганарджыя.

— Шмат згарэла двароў у Сабокучаво?—спытаў Курыдзе.

— Дваццаць два... не, дваццаць тры двары,—адказаў Кверквелія.—Пра сябе забыўся.

— Будуюцца?

— Дзе там!

— Архітэктараў, мусіць, з горада чакаеце?

— Што?

— Чаму-ж не забудоўваецеся зноў? Можа зіма будзе цёплая?

— Дык-жа спосабу няма. Лес памешчыцкі, купляць—людзі грошай не маюць.

— А навошта ў вас вінтоўкі?—Курыдзе насмешліва і злосна ўхмыльнуўся. Зброя ў руках, мужчыны як дубы,—чужога дзядзі баяцца! Хто ў вас памешчык тут?

— Абхазава...—ціха адказаў засаромлены Кверквелія.—Князь...

— Хай сабе хоць-бы і граф. Мы яго ў момант разжалуем. Трэба спрытней паварочвацца. Калі мы будзем толькі хавацца, а войска будзе паліць сяленні, нас ловячы, мы да таго сялянам абрыдаем, што яны за людзей нас мець не будуць. Самі нас яшчэ пазабіваюць!

— Пракляты гэты Абхазава...—сказаў Кверквелія.—Ён адвеку пануе над намі. Яшчэ ў дзесятым годзе ён адсудзіў ад нас лес і луг вялікі, за самым сяленнем. У нас мала хто каровы трымае, усё больш козы. Пасем па балоце, больш пасбішчаў няма. Вельмі пакрыўджаны народ гэтым князем! Але ў яго чэлядзі ў тры разы больш, чымся нас, і войска ўвесь час блізка, што тут будзеш рабіць!

— Нічога, нешта ўсё-ж зробім!

Назаўтра Курыдзе сабраў у Сабокучаво сход. Над хатай Міхаіла Ганарджыя, на тонкай жэрдцы, трапятаў чырвоны невялікі флаг. На флаг і на Курыдзе з трывогай пазіралі напалоханыя, ціхія сяляне. Курыдзе гаварыў проста і спакойна. Ён казаў, што тут, у іх сяленні цяпер будзе штаб рэволюцыйных паўстанцаў, што паўстанцы будуць абараняць сяленне ад асобаатрадчыкаў і чыноўнікаў, што цяпер яны не асмеляцца паткнуцца сюды, бо на іх чакае смерць. Усе могуць спакойна працаваць і жыць як жылі. Пагарэльцам не варта траціць часу, трэба ехаць у лес па бярвенні і забудоўвацца. Астатнія павінны ім дапамагчы, каб да зімы людзі мелі прытулак.

Калі Курыдзе скончыў, сяляне доўга маўчалі. Потым з натоўпа пачуўся ціхі голас:

— Батоно мусіць не ведае, што лесу ў нас няма, лес памешчыцкі?

— Я не—батоно,—адказаў Курыдзе.—Я ваш друг і таварыш, мы з вамі адной крыві людзі. Ніколі не называйце мяне панам, прашу вас. Што лес вы лічыце памешчыцкім, пра тое я ведаю. Але ці правільна гэта, што ён памешчыцкі, скажыце мне? Хіба памешчык вырасціў гэты лес, і хіба лес не быў раней вашым? Ну, падумайце самі!

У натоўпе прайшоў гоман. Усе перашэптваліся, пераглядаліся. Тады вышаў наперад стары Коча Меліава, які быў пасля Гуджу Кверкведія старэйшы з усіх у сяленні.

— Гэтага нельга рабіць, добры чалавек,—сказаў ён.—Калі наша сяленне спалілі, і мы так пацярпелі ні ў чым невінаватыя, дык што-ж будзе з намі, калі мы пойдзем супроць закона і возьмем памешчыцкі лес? Нас-жа ў зямлю жывых пазакопваюць! Не, мы так рабіць не будзем. Хто спраўнейшы—халупу сабе пабудуе, другому дапаможа... Вось так мы думаем...

Старога дружна падтрымаў увесь сход. Курыдзе аглянуў натоўп, потым зірнуў на папялішча па той бок вуліцы і зразумеў, што ўгаварыць яму сялян не ўдасца.

— Ну, добра, браты,—сказаў ён.—Калі вы не маеце сілы ўзняць галавы супроць пана, можа вы некалі і дачакаецеся панскай ласкі. Пэўна вы паехалі-б у лес, каб сам князь вам дазволіў?

— Чаму-ж бы не паехалі!—адказаў хтосьці і ўсе засмяяліся.

— Ну, што-ж!—сказаў Курыдзе, сыходзячы з ганку.—Можа ён і дазволіць, хто яго ведае. Пачакаем!

На гэтым і скончыўся першы сход у Сабокучаво, скліканы штабам атрада паўстанцаў. А назаўтрае Курыдзе з'явіўся раніцой у маёнтак князя Абхазава. Ісці было недалёка, не больш за пяць вёрст. Таму Курыдзе прыйшоў рана і некаторы час перачакаў на мосце, над рэчкай ля саду. Стары дом, акружаны садам, стаяў на высокім месцы, далей пасціласяліся палі, аж да самых узгор'яў, што ўзнімаліся ў далечы. Гэта было старое дваранскае котлішча. Абхазава, выхадцы з Абхазіі хваліліся родам і багаццем перад астатнімі захудалымі князькамі. Князь карыстаўся пры меншавіках усімі землямі і лясамі, што меў пры самаўладдзі і нават той лес і лугі, што ён захапіў у сялянскай абшчыны дзесяць гадоў таму назад, заставаўся пры ім. Па гэтым пытанні і прышоў сюды Курыдзе. Ён ведаў акрамя ўсяго, што князь быў некалі ротмістрам гвардыі, служыў у царскім канвоі, славіўся адвагай і вельмі запальчывым характарам і што яго асцерагаліся.

Калі, па меркаваннях Курыдзе надышла пара, ён пайшоў старымі букавымі прысадамі, і зарослая травой дарожка прывяла яго на шырокі двор перад домам. Высокі, грузны мужчына з даўгімі вусамі, з даўгім цыбуком у руках, у халаце, вышытым шнурамі, і ў туфлях на басаню, стаяў ля веранды, а ля яго ног куляліся месячныя борзыя шчаняты. Ён здзіўлена пазіраў на незнаёмага чалавека, які падыходзіў да яго. Апрануты чалавек быў проста: на ім была матроская майка, выцвілы стары пінжак і боты з высокімі халявамі. Не спадабалася вусатаму, што чалавек не меў шапкі і што з-пад кароткага пінжака, з кішэні штаноў, выглядала драўляная, рубчастая ручка вялікага рэвальвера.

— Слаўныя сабачкі...—сказаў чалавек, падыходзячы.—Гэта вы, Абхазава?

— Я—князь Абхазава!—адказаў вусаты, выпростваючыся.

— Гэта мала мяне абыходзіць, што князь...—заўважыў незнаёмы, спыняючыся.—Вы можаце са мной адысціся на пару слоў?.. Нам з вамі трэба абмазгаваць адну справу.

— З кім маю гонар?—спытаў Абхазава.

— З Канстанцінам Курыдзе...

— Гэта мне мала што гаворыць!..

— Зараз загаворыць,— сказаў Курыдзе.—Я—камандзір атрада рэволюцыйных сялян-паўстанцаў. Гэта для таго, каб ведалі з кім маеце гонар... А цяпер вось што: лес на правы бок дарогі ў Сабокучаво і луг, каля сялення, вы лічыце уласным?

Поўны, чырвоны твар Абхазава адразу пасінеў. Ён вырачыў вочы і перхаў, як-бы што захрасла ў горле.

— Які камандзір!..—нарэшце ўскрыкнуў ён.—Якога атраду?!. Гэта што?! Разбой?!

— Цішэй, цішэй!—сказаў Курыдзе, падступаючы да яго.—Пасля дазнаешся, які гэта атрад! Дык вось што: заўтра, так прыблізна каля двух гадзін дня, просім мець ласку, прыбыць у сяленне Сабокучаво і перадаць сялянам на рукі дакумент за ўласным подпісам. У дакуменце павінна быць напісана, што памешчык Абхазава адмаўляецца ад карыстання лесам і лугам, якія ён захапіў у сялян Сабокучаво і лічыць гэтыя ўгоддзі іх уласнасцю, і што яны маюць права распараджацца ёю як ім хочацца. Зразумелі?

Абхазава цяжка дыхаў, і дрыжэў усім целам. Вочы ягоныя, круглыя і страшныя, налітыя крывёй, проста вылазілі на лоб. Раптам яго прарвала.

— Па якому праву!—гаўкнуў ён гучным басам, замахваючыся цыбуком на Курыдзе.—Разбой?! Эй, Пантэ!

Курыдзе яшчэ бліжэй падступіў да Абхазава і ў яго блакітных вачах з'явіўся аганёк. Яны стаялі цяпер тварам у твар.

— Слухай, ты!—сказаў Курыдзе, з халоднай нянавісцю пазіраючы ў непрытомныя вочы Абхазава.—Ты! Ротмістр! Кат, сукін сын! Калі ты заўтра не прыедзеш у сяленне, гэтая твая радавітая курасадня пойдзе дымам у першую ноч! Я ўласнай рукой праб'ю твой баранні чэрап!.. Ты мяне сваімі халуямі не страш! Не ўводзь мяне ў злосць, мне цябе няма завошта шкадаваць! Зразумеў?

Скосу Курыдзе бачыў, як праз адчыненыя вокны выглядаюць шматлікія жыхары гэтага дому. У ніжнім паверсе, тым, што дзеялася на двары, цікавілася чэлядзь—праз усе вокны выглядалі нячэсаныя галовы; вышэй, з балкону, пазіралі ўніз птушаняты княжага роду—дочкі Абхазава. На веранду выбег не малага росту дзяцюк і спыніўся, пераступаючы з нагі на нагу. Курыдзе паклаў руку ў кішэню і Абхазава апрытомнеў.

— Як-жа гэта...—сказаў ён, бегаючы вачыма.—Па якому-ж гэта праву...

— Прагані халуя!—загадаў Курыдзе.

— Пантэ, ідзі прэч!—слабым голасам сказаў Абхазава.

— І не думай мне тут пастак ставіць!—у тым-жа тоне гаварыў

Курыдзе.—Май на ўвазе, мы з табой яшчэ па-людску гаворым!.. Дык вось—заўтра каб у Сабокучаво быў дакумент пра лес і луг па ўсёй форме! Больш паўтараць не буду! Астатняе сам ведаеш!.. Да пабачэння, святлейшы батоно Абхазава!

З гэтым Курыдзе і пайшоў. Князь Абхазава, чалавек якога асцерагаліся, бо ён быў адважны і вельмі запальчывага характару, стаяў слупам на двары, пазіраючы ўслед Курыдзе і не варухнуўся, пакуль той не аддаліўся і не знік на завароце дарожкі ў парку.

Чакаць панскай ласкі сялянам Сабокучаво доўга не прышлося. Абхазава паслаў свайго прыказчыка крутнай дарогай на станцыю і той гадзіны праз тры пасля размовы Абхазава з Курыдзе прыбыў туды і зараз-жа адправіў дзве абшырных тэлеграмы, тэкст быў напісаны ўласнай княжай рукой. Прыказчык чакаў да поўначы, як было яму загадана. За гэты час, адказ прышоў толькі на адну. Мучаідзе раіў князю „часова ісці на ўступкі." Прыказчык пачаў збірацца ў дарогу і перад самым выездам ягоным, прышла тэлеграма з Тбілісі. У ёй было напісана: „звярніцеся да мясцовых улад". З гэтымі тэлеграмамі прыказчык той-жа кружнай дарогай рушыў назад і прыбыў дадому на світанні. Князь, які не спаў гэтую ноч, сустрэў яго на верандзе, прачытаў тэлеграмы і, парваўшы іх на дробнае шмаццё, сказаў, што лепш застрэліцца яму, чымся саступіць мужыкам. Але ён не застрэліўся. Апаўдні прыказчык паехаў у Сабокучаво і перадаў старасту ліст ад князя Абхазава. Стараста Спірыдон Ганарджыя, убачыўшы ліст, замахаў рукамі: ён цяпер не начальства, начальства жыве ў хаце пад чырвоным флагам. Прыказчык пайшоў туды і яго на ганку сустрэў Курыдзе. Ён разарваў канверт, прачытаў ліст князя і здзівіўся.

— Не веру!..—сказаў ён.—Проста вачам сваім не магу веры даць... Батоно Абхазава дорыць абшчыне луг і лясы. Ай-яй, які добры ў вас пан... А вы што ў яго, за аканома? Прыдзецца пачакаць, дарагі мой... Вось тут, у халадку. Пасля збярэм сход і вы прачытаеце княжы ліст... Зараз людзі на рабоце, нельга іх трывожыць. Ах, божа мой, якія бываюць князі на свеце, якое сэрца!

Прыказчыку давялося чакаць доўга. Сход сабралі пад вечар і тут ён прачытаў сялянам ліст Абхазава, і засведчыў, што ён сапраўды напісаны самім князем. Асцярожны Коча Меліава папрасіў, каб ліст яму далі ў рукі і, агледзеўшы яго з усіх бакоў, засведчыў таксама, што гэта пісаў Абхазава. У гэты дзень шмат гутарак было ў Сабокучаво. Ніхто не мог уцяміць, чаму гэта ні з таго, ні з другога, памешчыку прышло ў галаву адрачыся ад угоддзяў, за якія судзіліся столькі год і якія каштавалі памешчыку не малых, параздаваных на хабары грошай. Так і не дазналіся ў той дзень у Сабокучаво прычыны нечаканай панскай ласкавасці.

Назаўтрае Курыдзе прапанаваў некаторым з пагарэльцаў, пайсці паглядзець лес і вызначыць, дзе пачынаць парубку. Яны пайшлі, з не асабліва вялікай ахвотай, ім усё яшчэ здавалася, што папера, якую прыслаў Абхазава, не зусім правільная—яны добра ведалі натуру памешчыка. Але ўсё-ж яны пайшлі, і калі крыху адышліся ад сялення, іх здагналі яшчэ некалькі чалавек. Вестка аб тым, што сякуць лес, разнеслася па сяленні і неўзабаве, амаль

што ўсе, каму патрэбны быў лес і каму не патрэбны, рушылі следам за Курыдзе. На другі дзень падзялілі луг. І вось, па ўсёй ваколіцы пайшлі чуткі пра тое, што ў Сабокучаво сяляне сякуць панскі лес, косяць лугі, якія раней былі княжымі, што князь Абхазава сам ад усяго адрокся, баючыся паўстанцаў, якія жывуць у Сабокучаво пад чырвоным флагам. Казалі яшчэ, што паўстанцы маюць стада кароў і коз, якія яны адабралі ад багатых, і яны раздаюць жывёлу бедным і ўдовам. Праз некаторы час у Сабокучаво пачалі прыходзіць людзі з навакольных сяленняў і яны бачылі на свае вочы ўсё тое, што дагэтуль даводзілася чуць. Ля папялішчыў ляжалі вывезеныя бярвенні, некаторыя, больш рупныя пагарэльцы браліся будавацца, жонка Мітрафана Бокучава паказвала знаёмым вялікую бурую і вельмі ўдойлівую карову, якую даў атрад, на лугу скрозь стаялі тычкі, над страхой хаты Міхаіла Ганарджыя развінаўся невялікі чырвоны флажок. Цяпер у Сабокучаво не было ранейшага суму, прыгнечанасці. Чуўся стук сякер, гутаркі, нават песні. Усім распараджаўся тут чалавек, якога звалі Канстанцін Курыдзе. Ён сустракаў тых, што прыходзілі з суседніх сяленняў, гутарыў з імі ветліва і проста, і ўсе бачылі, што гэта разумны і добры чалавек. Спачатку часта хадзіць у Сабокучаво баяліся. Усе яшчэ памяталі карныя атрады, пажар і арышты. Асабліва быў шмат каму ў памяці прыезд змаршчастага палкоўніка, які пасля няўдачы на Нам-Дэві, напаў на ціхія сяленні, арыштоўваў усіх, хто трапіў пад руку, і такім парадкам набраўшы матэрыялу для рапарту, устрашыў непакорных. Спачатку па сяленнях ішлі чуткі, што наўрад-ці ўтрымаюцца большэвікі ў Сабокучаво, што хутка прыедзе новы атрад, і князь Абхазава, які гэты атрад выклікаў, дасца ў знакі ўсім, хто сек лес і касіў лугі, і хто толькі спачуваў ім. Але прайшоў месяц і ні пра які атрад нідзе не было чуваць, хаця Абхазава і на самай справе пасылаў тэлеграмы амаль штодня. Тады ў Сабокучаво пайшоў народ часцей, асабліва па святах, у вольны час. Начальнік паўстанцаў, якога ўсе звалі таварыш Курыдзе, ніколі не адмаўляўся гутарыць з людзьмі. І ён ім расказваў пра крывавыя справы меншавікоў, пра Шамхор, дзе меншавікі расстралялі некалькі тысяч рускіх салдат, што ехалі з турэцкага фронту, пра расстрэл мітынгу ў Александраўскім садзе, пра тое, як нажываецца буржуазія і церпяць голад і холад рабочыя, як гаспадараць у Грузіі „саюзнікі“, якія вывозяць усё, што толькі можна вывезці, бессаромна рабуюць усё, што трапляецца пад рукі, здзекуюцца над народам, і голад, і галеча, і смерць ідуць па краіне. Ён гаварыў аб тым, што ўзнімаецца народны гнеў і хутка надыдзе рашаючы час. Тады—гаварыў Курыдзе, трэба дружна і смела ісці за большэвікамі, ударыць на памешчыкаў і адваяваць зямлю і права на жыццё.

— Вы не думайце, браты, што гэта ўжо такая, вялікая сіла,— гаварыў Курыдзе...—Вось, глядзіце—нас усяго пятнаццаць чалавек, і яны пра гэта ведаюць. І ўсё-ж, яны баяцца нас, бо разумеюць, што мы не саступім ім з дарогі і што не адзін з іх паплоціцца галавой, калі паспрабуе паткнуцца сюды. А што будзе, калі наш атрад стане ў сто пяцьдзесят чалавек? Дык вось, браты—нады-

ходзіць час. Партыя бальшэвікоў вас пакліча на змаганне і тады ўсе як адзін станьце ў баявы рад. Тут ідзе аб тое, ці быць і далей галодным нявольнікам, цярпець нястачу і здзекі, ці быць гаспадаром свайго жыцця, раз назаўсёды скінуўшы спрадвечнае ярмо з плячэй сваіх...

Так гаварыў Канстанцін Курыдзе, і ягоныя словы глыбока западалі ў душы людзей, надоўга заставаліся ў іх памяці, хвалявалі іх. Курыдзе бачыў гэта, бо усё больш прыходзіла ў Сабокучаво людзей, і ўсё часцей. Чуткі пра паўстанцаў і іх камандзіра як, многія называлі Курыдзе, далёка ішлі па сяленнях. Пакрысе пачынала хвалявацца дагэтуль ціхая, напалоханая пажарам Сабокучаво і забойствамі ваколіца. Курыдзе не раз ужо чуў ад найбольш смелых, што хай толькі ён скажа ім, калі трэба выступіць супроць паноў. Пад восень стала вядома, што ў адным далёкім сяленні людзі выйшлі на памешчыцкае поле, сабралі і звезлі кукурузу і гомі амаль што з паловы яго, і ні памешчык, ні слугі ягоныя, не пасмелі і носу выткнуць. Гэтая вестка як вецер прашумела над сяленнямі. Памешчыкі спрабавалі задобрыць сялян. Цяпер ужо не дзіва было ўчуць, што той ці іншы памешчык „саступіў“ кавалак лугу, ці поля. У Сагвасаліо, калі прышоў час збіраць вінаград, сяляне за адзін дзень сабралі і размеркавалі ўраджай з плантацый Гамрэкелі, ужо не баючыся, што прыедзе лютае начальства. Памешчыкі закідалі гэтае начальства лістамі і тэлеграмамі, просячы і патрабуючы дапамогі. Начальства пакуль што адпісвалася абяцаннямі і раіла „ісці на ўступкі“. Курыдзе ўсё гэта ведаў і бачыў. І ён не быў такім бесклапотным, як здавалася. Штодня на дарогах і ўзвышшах нязменна стаялі на варце паўстанцы, уначы, усе сыходзіліся ў адно месца, да хаты Ганарджыя, спалі амаль заўсёды на вольным паветры і вартавыя заўсёды пільнавалі дарогі і грэблю. Курыдзе разумеў, што калі на іх знянацку нападзе атрад урадавых войск, іх разаб'юць і захопяць да аднаго. Тады ўсё загіне. Адразу стане ціха ў сяленнях і памешчыкі цяжка адпомсцяць сялянам. Найбольш асцерагаўся Курыдзе здрады. Ён здагадваўся, што Бокучава і Топурыя не выпадкова папаліся ў рукі асобаатрадчыкам. У тым, што здраднікаў сярод паўстанцаў не было, ён пераканаўся адразу. Тады ён пачаў прыглядацца да сялян. І калі аднойчы прышоў да яго стараста Спірыдон Ганарджыя, Курыдзе, убачыўшы ягоны салодкі, чырвонашчокі твар, устрывожаныя, блудлівыя вочы, адразу падумаў:

— Ён... Падслухаў дзе нібы, гадзіна!

— Я да вас, ваша міласць,—сказаў стараста, кланяючыся.— Я прасіў-бы... каб мне выдалі такую паперу, што вы адменьваеце, значыцца, што я ўжо не стараста... І ўладнасці ніякай не маю.

— Гэта-ж навошта папера табе?

— Для начальства, ваша міласць... я чалавек ціхі, я баюся гневу начальства. Я не магу быць старастам, знiміце з мяне гэтую пасаду!

— Знімаю!—адказаў Курыдзе.—Ты больш не стараста. Але паперы я табе не дам, як хочаш, так і выкручвайся перад начальствам. Не змог ты ўладу ўтрымаць, Ганарджыя, як ні стараўся... Ну, што-ж нічога не зробіш. Сядай, пагутарым.

Стараста сеў бокам нясмела і вельмі далікатна, увесь час прыемна ўсміхаючыся. І раптам ён убачыў, як нейкі страшнаваты аганёк успыхнуў у светлых вачах Курыдзе і адчуў, як магутная цяжкая рука лягла на ягонае плячо.

— Ну, стараста!—сказаў Курыдзе.—Скажы мне: за колькі прадаў Бокучава?

Стараста адразу зжоўк, як мярцвяк, сагнуўся пад рукой Курыдзе. У першы момант ён гатовы быў кінуцца на калені, але ў наступны апамятаўся.

— Што вы?..—зашаптаў ён.—Што вы... Ваша міласць... я ціхі чалавек. Я гэтулькі гора нацярпеўся, божа мой... Пажар быў... Начальства мяне як сабаку ганяла... Ваша міласць, за што вы так на мяне, на няшчаснага чалавека! Ой, гора мне! Хай будзе праклятый дзень, у які я нарадзіўся...

Курыдзе маўчаў. Ягоныя вочы пранікалі, здавалася, старасту ў самае нутро і бачылі наскрозь ягоную сквапную, баязлівую і бязлітасную душонку. Стараста віўся як вуж, млеючы і здрыгаючыся ад голасу Курыдзе, але ён зразумеў ужо, што той не ведае, а толькі здагадваецца і трымаўся з усіх сіл. Курыдзе быў упэўнены, пераконаны ў тым, што гэты чалавек вінаваты ў пагібелі двух партызан. Ён мог-бы прыкончыць яго тут-жа, без ніякага жалю і дакораў сумнення. Але ў яго не было доказаў віны Спірыдона Ганарджыя, і гэта ўратавала старастава жыццё.

— Ну вось што!—сказаў Курыдзе, пакідаючы ўжо надзею дазнацца пра што нібы ад старасты, які ўжо толькі енчыў і стагнаў.—Ты, віхлясты, сабачы хвост, слухай: калі толькі раз, ты, ці хто—небудзь з тваіх хатніх выйдзецца з сялення хаця-б да мосту, без майго дазволу—мы цябе расстраляем! Зразумеў? Я ведаю, што ты, ніхто другі, прадаў гэтых людзей, і ты гэта ведаеш! Але ў мяне доказаў пакуль што няма і таму ідзі і памятай: рана ці позна мы цябе прыціснем да сцяны! Ідзі прэч, плюгавы сабака, і паспрабуй толькі праз пляцень пералезці, выткнуцца за сяленне!

Сгогнучы, як цяжка хворы, Ганарджыя сышоў з ганку і пабрыў па вуліцы.

Ішоў час. Прышла восень, зжоўклі палі і лясы, часцей прысыпалі дажджы. У Сабокучаво, на папялішчах стаялі пачатыя ўжо новыя зрубы, пагарэльцы спяшаліся закончыць будоўлю, пакуль надыйдзе гнілая зімовая непагадзь.

Аднойчы, раніцой хмарнага, восенскага дня Макар Чантурыя, што быў у Сагвасаліо за старшага, убачыў на вуліцы свайго сялення высокае зялёнае страшыдла, якое з гулам лезла на ўзгорак, па размоклай гліне. За ім відаць было атрад конных салдат. Ці вялікі ён, Макар не бачыў, бо страшыдла паўзло вельмі марудна і коннікі гуртам рухаліся за ім цеснай вуліцай пад узгорак.

— Бяда!—падумаў Макар, прыціскаючыся да плятня.—Прапалі мы ўсе!

Бранявік выбраўся на ўзгорак і, калыхаючы зялёнай сваёй вежай, памахваючы на бакі тупаносым ствалом кулямёту, набліжаўся да таго месца, дзе стаяў Макар. Яшчэ паспеў убачыць Макар як хутка прабегла па агародах стройная і лёгкая Кетэ Коркія, і знікла

ў садзе. Бранявік падышоў і стаў, перхаючы смуродным дымам. Салдаты спыніліся. Іх было каля паўсотні чалавек. Яны, стомленыя і панурыя, абыякава пазіралі на спалоханага селяніна.

У бранявіку адкрылася вакенца і з яго выглянуў знаёмы ўжо Макару начальнік. Гэта быў Мучаідзе.

— Ты старшы, здаецца?—невыразна спытаў ён з глухога нутра бранявіка.

— Я, батоно... адказаў Макар.

— Расцягалі, валацугі, плантацыю Гамрэкелі?!—крыкнуў Мучаідзе.—Разбойнікі, мярзаўцы!

Зараз-жа з боку адчыніліся жалезныя дзверцы, і Мучаідзе вылез з бранявіка. За ім следам вышаў яшчэ адзін, незнаёмы, наперадзе машыны прыўзнялася заслонка, і Макар убачыў твар трэцяга, шофера. Макар стаяў навыцяжку, як раней, у страі, калі падыходзіў да яго афіцэр і нічога добрага ад яго Макар не чакаў. І цяпер да яго ішоў афіцэр, хусткай аціраючы спатнелы твар.

— Што? Цяпер утуліў хвост?—спытаў Мучаідзе і нечакана, ад таго што вельмі пакорным і спалоханым быў твар чалавека, адчуў нейкую ліхую злосць, нават лютасць.—Пэўна сам першы лез, крышыў і ламаў, каб толькі награбсці больш! А? Дзе тыя, разбойнікі, забойцы?!. Не ведаеш? Ты што, нямы?

Раптам ён узняў руку. Пачырванеўшы ўсім тварам, Макар адхіліўся, адступіў назад.

— Я стары чалавек, батоно,—сказаў Макар, і Мучаідзе ўбачыў, што раней спалоханы і пакорны твар селяніна спахмурнеў і нешта панурае і затоенае бліснула ў ягоных вачах, Мучаідзе апамятаўся, азірнуўся на салдатаў. Яны не сустракаліся з ім поглядамі, пазіралі ў бок.

— Пакіньце, капітан!—грэбліва сказаў афіцэр, які стаяў ля бранявіка. Мучаідзе зразумеў, што залішне, не ў пару і без усялякай патрэбы паказаў свой несамавіты характар.

— Ну, глядзі ў мяне!—сказаў ён да Макара, ужо не з такім імпэтам.—Прынесці мне спіс падлягаючых прызыву і сабраць іх сюды, усіх да аднаго. За пяць хвілін, каб усе былі тут.

— Слухаю, батоно!—адказаў Макар, завярнуўся па правілах і хутка пайшоў, амаль што пабег вуліцай.—„Каб вам прапасці, пагарэць вам усім!“—думаў Макар ідучы.—Калі-ж вы над народам здзеквацца пакінеце, калі-ж гэта наша гора высахне!“

Неўзабаве, ля бранявіка сабралася амаль усё насельніцтва Сагвасаліо. Перад натоўпам, выстраеныя ў рад, стаялі навабранцы—з дзесятак хлапцоў напалоханых і засмучаных. Жанчыны плакалі, мужчыны стаялі моўчкі, хмурыя, пазіраючы сабе пад ногі.

— Вы павінны ў той самы дзень, і на той самы час, як загадана, прыбыць на пункт, у воінскае ўпраўленне,—гаварыў ваенны, які прыехаў з Мучаідзе,—павятовы камісар.—Той, хто думае дэзертырываць, хай лепш пакіне гэтую думку. Дэзертыраваць—гэта азначае ўхіліцца ад воінскай павіннасці, другімі словамі, гэта азначае, не з'явіцца, а ўцячы куды нібы. Такіх мы знойдзем усіх да аднаго, дзе-б яны не хаваліся, і гора ім будзе тады! Зразумелі? Ну вось і ўсё...

Павятовы камісар адышоў да бранявіка і стаў там, ляніва апіраючыся аб зялёную сценку. Тады вышаў наперад Мучаідзе.

— Эй, вы!—сказаў ён.—Можа вы чакаеце, што за вас заступяцца тыя валацугі, што бадзяюцца па лясах? Дарэмна вы чакаеце!.. Урад мае чым супакоіць тых, хто асмельваецца ўзняць руку супроць закону! Хай толькі яны пападуцца мне, вы ўбачыце што з імі будзе і з кожным, хто ім спачувае! Я паеду ў Сабокучаво, і хай толькі знайду іх там! Паспрабуйце яшчэ бунтаваць, тады гэтая машына возьмецца і за вас і мала што ад вас застанецца!.. Вось, глядзіце!

Рука Мучаідзе, што трымала скамячаную пярчатку, паказвала на зялёную вежу бранявіка, з якой тырчэў кулямёт. Усе паўзнімалі галовы і з хвіліну моўчкі пазіралі на страшнаватыя, тупы лыч забойчай машыны. Стала вельмі ціха. Жанчыны пакінулі ўсхліпваць.

— Памятайце пра гэта,—сказаў Мучаідзе.—Досыць ужо вам саступалі, пара вам ведаць, што больш з вамі цацкацца не будзем. Вы павінны будзеце сплаціць батоно Гамрэкелі ўсе страты, што пацярпеў ён ад вашага разбою. Але вы не думайце, што на гэтым і скончыцца, што вам удасца ўкрыцца ад кары! Зараз мы не маем часу, але пасля прыедзем і пагутарым з вамі, як мае быць! Я навучу вас паважаць закон, смуродныя вы свінні! Ну, дык добра памятайце пра гэта, а ты, старшы—глядзі! Ты галавой адкажаш, калі гэтыя вашы недаросткі, хоць на гадзіну спозняцца на пункт! Паехалі!

Начальнікі адзін за адным паўлазілі ў бранявік, грукнулі жалезныя дзверцы, унутры шчоўкнуў замок, зялёнае страшыдла, якое дагэтуль стрымана гуло, зарычэла і павольна рушыла наперад. Смуродны дым пайшоў па вуліцы, людзі затыкалі насы і адплёўваліся. Пачакаўшы, ззаду за бранявіком пайшла конніца, перамешваючы гліністую гразь па вуліцы Сагвасаліо. Калі ўсё гэта знікла і развеяўся смуродны дым, нехта з сялян сказаў, паказваючы на глыбокую звілістую каляіну, у якой застаўся шурпаты след ад шын бранявіка:

— Глядзіце, людзі: нібы гадзіна вялікая прапаўзла праз нашае сяленне...

— Хай-бы ўжо лепш гадзіна!—адказаў яму Макар Чантурыя,—ой, калі-ж наша гора высахне!

— Тады высахне гора, калі высахне мора!—уздыхнуў хтосьці.

— Дык тады лепш не жыць нам, браты...

— Што зробіш?.. Нарадзіўся—жыві... Смерць сама прыдзе.

Сяляне разыходзіліся. За новабранцамі ішлі маткі іх і сёстры, галосячы, як па нябожчыках. Сумнай стала гэтая хмарная, восенская раніца ў Сагвасаліо...

Бранявік праязджаў адно сяленне за другім, і ўсюды паўтаралася тая-ж гісторыя, што і ў Сагвасаліо. Мучаідзе збіраў сход, правяраў новабранцаў па спісах, потым гаварыў прамовы, пагражаючы ўсім, асабліва паўстанцам з Сабокучаво, куды ён намерваўся ехаць. Але адразу Мучаідзе чамусьці туды не паехаў, хаця з Сагвасаліо было за ўсё бліжэй і дарога лепшая. Ён ездзіў па навакольных сяленнях страшыў і пагражаў, і Курыдзе, якому стала

вядома пра бранявік, як толькі ён выбраўся з Сагвасаліо,—адразу зразумеў у чым справа.

— Баіцца нас, пан Мучаідзе!—сказаў ён да Кверквелія. Гэта ён для таго наганяе страху, каб мы з дарогі яму саступілі. Сабокучава яму абмінуць нельга і заехацца боязна. Бачыш, Тарыэл, якое хітрае цяпер начальства стала?! Ну як ты яму дасі рады, калі ён сядзіць у жалезным дупле, пад кулямётам?! Вось гэта, дык галава! Бранявічок сабе выстараўся. Трэба і нам нешта прыдумаць.

Пра тое, што здарылася пасля, доўга гаварылі ў сяленнях нізіннай Мінгрэліі.

Мучаідзе перад тым, як ехаць у бунтоўнае сяленне, наведаў Абхазава. Князь, пакрыўджаны ранейшай абыякавасцю Мучаідзе, які папусціў яго ў крыўду, прыняў асобаатрадчыка холадна і быў куды больш ветлівы з павятовым камісарам. Але, пасля, калі Мучаідзе запэўніў яго, што перастраляе з бранявіка ўсіх галадранцаў, якія асмеляцца нагой ступіць на княжае поле, Абхазава памякчэў і паказаў сваю гасціннасць. У выніку павысіўся настрой і гасцей і гаспадара.

— Ён маіх рук не міне, тэты Курыдзе!..—гаварыў асобаатрадчык за сталом.—Яму прыпомніцца ўсё... Ведаеце гэта не такі ўжо мужычок, як здаецца! Ён добра валодае некалькімі замежнымі мовамі, быў нават памочнікам капітана... О, гэта птушка! Ён абразіў у Поці начальніка англійскай ваеннай місіі. З-за яго ўрад меў непрыемнасці! Як вам гэта падабаецца?

Абхазава ўспомніў аганёк у светлых вачах Курыдзе, падумаў аб тым, што разумна зрабіў, адрокшыся ад лесу, і сказаў, што Курыдзе яму не падабаецца.

— Няма чаго бядаваць, князь!—гаварыў п'яны Мучаідзе.—Мы з гэтымі мужыкамі такі ўправімся. Я часцей буду прыязджаць сюды! Хай паспрабуе з віламі на бранявік!

Абед скончыўся надвечар. Мучаідзе з камісарам, не зусім цвёрда ступаючы, выйшлі на веранду. На двары стаяў бранявік і спешаны атрад. Салдаты трымалі коняй на павадах, пасвілі іх па зжоўклай, стаптанай траве каля паркану. Гэта была першая памылка Мучаідзе. Ён, ашчасліўлены княжай ласкай, забыўся пра салдат і не падумаў нават пра тое, што людзі і коні галодныя. Абхазава ўвесь час памятаў пра гэта, але напамінаць яму не было ніякай выгады. Ён быў вельмі нават рады, што госці сабраліся ад'язджаць.

З кухні выбег вахмістр, за ім шофер. Яны падмацаваліся не горш за начальства. Салдаты, змарнелыя і стомленыя паходам, з адкрытай нянавісцю пазіралі на іх. Мучаідзе аддаў загад. Вахмістр гучна ікнуў, прыкрываючы далоняю рот, скамандваў „па конях“, шофер палез у бранявік. Атрад пастроіўся. Мучаідзе развітаўся з гаспадарамі, і, адчуваючы на сабе погляды шматлікіх насатых князёўнаў, спрытна ўскочыў у бранявік. За ім паследаваў камісар, але не так удала—ён набыў сабе гуза на ілбе.

— Поўны ход!—скамандваў Мучаідзе, як толькі бранявік рушыў і шофер пераключыў хуткасць. Бранявік зарычэў і з грозным

тулам памчаў праз парк. Салдаты пачалі адставаць адразу, хаця гналі коняй як мага. Калі атрад выехаў з парку, бранявік быў ужо на мосце праз рэчку, хутка праляцеў праз яго, завярнуў у зараслі і знік. Вахмістр скамандваў „марш-марш“, хаця атрад ішоў на поўным кар'еры, і гэта не дапамагло. Некаторыя коннікі пачалі адставаць. Праехаўшы мост, вахмістар убачыў, што атрад расцягнуўся па дарозе і коні скачуць з апошніх сіл. Пад гарой, за рэчкай, атрад вытхнуўся дашчэнту, коні спатнелі, хаця прайшлі ўсяго з вярсту. Атрад ішоў далей трушком. Вахмістар кляўся сам сабе, баючыся глянуць на салдат: людзі і коні, галодныя, прайшлі за гэты дзень больш за шэсцьдзесят вёрст.

У гэты час, бранявік ляцеў поўным ходам па звілістай дарозе ў Сабокучаво. Мучаідзе сядзеў за кулямётам, трымаючыся за ручкі. Праз шчыліну байніцы ён бачыў вузкую дарогу, што кідалася то направа, то налева, бачыў зараслі, што суцэльнай зялёнай сцяной пралягалі паабапал. Бранявік хістаўся на бакі, пругкія рэсоры падкідалі цяжкую бранёвую каробку, гулка рычэў матор.

— Адразу—агонь!—думаў Мучаідзе, усё больш п'янеючы ад шалёнай хуткасці і княжага віна.—Праляту вуліцай, хто сустрэнецца—смерць на месцы! Дашчэнту знішчу гняздо, жалезам выпалю! О, цяпер я разумею Джугелі!

Аднак, далёка ехаць Мучаідзе не давялося. Шофер убачыў на крутым завароце дарогі свежую, накіданую зямлю, справа і злева глыбокі вузкі раўчак.

— Замаскаваны мост!..—мільгнула думка.—Пастка!!!

У той-жа момант ён выключыў матор і затармазіў, але было позна. Бранявік падкінула ўгару, зямля і бярвенні з трэскам аселі пад коламі, страшны ўдар аглушыў шофера і ад той хвіліны ён ужо нічога не чуў і не бачыў. Бранявік ляжаў на баку ў вузкім яры, і мутны бурлівы ручай кіпеў і пеніўся вакол, узнімаючыся ўсё вышэй, перакідаючыся праз яго. З яру ішоў лёгкі сізы дымок.

Курыдзе, што ляжаў у кустах побач з Кверквелія, устаў.

— Так,—сказаў ён.—Прыехаў, пан Мучаідзе!

Кверквелія ўстаў таксама, зрабіўшы знак астатнім, каб ляжалі. Ён заўважыў, што Курыдзе хвалюецца: твар ягоны пацямнеў, ноздры раздзімаліся. Ён моўчкі грыз кароткі муштук сваёй люлькі.

— Што за чорт!—сказаў Курыдзе.—Салдаты, мусіць, далёка адсталі!.. Ці, можа, другой дарогай паехалі?

— Не можа быць—шэптам адказаў Кверквелія, стараючыся гаварыць спакойна.—Дарога адна...

Паўстанцы моўчкі ляжалі, ланцужком расцягнуўшыся па прыдарожных кустах. Тарыэл заўважыў, як Міха Коркія ўзнімае і апускае свой маўзер, прымерваючыся да дарогі.

— Страляць толькі па камандзе,—сказаў ён.—Не гарачыцца! Міха, ты чуеш?

— Чую...—адказаў Коркія.

Прайшло значна часу... Атрад з'явіўся нечакана, увесь адразу, на завароце дарогі. Коні беглі трухам, салдаты трымаліся блізка адзін да аднаго. Наперадзе ехаў вахмістр. Стала так ціха, што

здавалася—ручай грыміць, як горны вадапад. Яшчэ некаторы час атрад рухаўся па дарозе, коні глуха тупалі па пяску і раптам і вахмістр, і салдаты ўбачылі раскіданы мост, узрытую зямлю, бярвенні і ў яры—зялёны бранявік. Вахмістр асадзіў каня так, што ён узняўся на дыбы, пачуліся ўскрыкі, коннікі наязджалі адзін на аднаго, збіліся ў цесны гурт і сталі. Вахмістр саскочыў з каня і, спатыкаючыся, пабег да мосту. Некаторыя з салдатаў таксама пазлазілі з коняй.

Раптам кусты зашапацелі, захісталіся, пачуўся трэск галля, там і тут замільгалі ў зараслях цёмныя постаці, і нейкі чалавек, узняўшы высока вялікі рэвольвер, ускочыў на абымшэлы камень над ярам, ля ручая. Вахмістр спыніўся адразу, з разбегу.

— Ні кроку далей!—грозна крыкнуў чалавек. Стаяць усім на месцы, не варушыцца! Адзін стрэл—і душа з вас усіх вон пойдзе! Слухаць, што я кажу! Зараз-жа здаць зброю! Вінтоўкі і шаблі ў канаву, на мой бок, падсумкі таксама! Уцякаць нельга: ззаду вас кулямёт, вы акружаны! Эй ты, вусаты!

Вахмістр першы сарваў каробку і кінуў яе на пясок.

— У канаву трэба!—крыкнуў чалавек.—Стой! Не цяпер! Пасля!

Салдаты знімалі вінтоўкі, не злазячы з коняй, кідалі іх, спяшаючыся знімалі з поясаў падсумкі, адшпільвалі шаблі. Усё гэта, бразгаючы і грукаючы, каціласа па адкосу дарогі ў канаву, падала на пясок.

— Кверквелія!—крыкнуў чалавек.—Сюды!

Кусты ўздоўж дарогі расхінуліся, салдаты ўбачылі людзей у чорных світках, з карабінамі ў руках. Тыя, што замарудзілі, цяпер ірвалі з сябе падсумкі, шаблі і кідалі ў канаву. Атрад абяззброіўся не больш як за дзве хвіліны. Вахмістр, бледны і аслупянелы, нерухома стаяў над ярам. Курыдзе пераскочыў з каменя на дарогу, падняў ягоны рэвальвер.

— Злазьце, хлопцы, з коняй!—спакойна сказаў ён да салдатаў.—Адваяваліся!

Салдаты ўсе да аднаго паслухмяна саскочылі на зямлю.

— Вось і добра!—сказаў Курыдзе.—Кверквелія! Збірай зброю!

Ён падышоў да салдат. Яны адварочваліся, пазіралі ў бок, ім было няёмка і сорамна. Цяпер яны зразумелі, што здалі зброю дзесятку чалавек, бо нікога больш не было на дарозе, ніхто не з'яўляўся паблізу. Чалавек пяць паўстанцаў збіралі вінтоўкі і шаблі і зносілі іх ў адну кучу. Але астатнія трымалі свае карабіны напагатове. Было ціха. Надыходзіў хмарны вечар, шумеў ручай ля разбуранага мосту, амываючы зялёнае цела бранявіка. Туды ўсе баяліся глянуць.

— Не тужыце, хлопцы!—сказаў Курыдзе.—Праўда, маркотна салдату, калі зброю адбяруць, і яшчэ горш, калі сам аддасць, але так, хлопцы, лепш. Добра, што не пралілася братняя кроў, бо каб вы не здалі зброю, пачалася-б між намі бойка. Завошта нам было-б забіваць адзін аднаго, завошта ісці брату на брата? Добра, што дайшлі да згоды—скончана вайна!

— Хай яна згарыць такая вайна!..—сказаў адзін з салдатаў.— Ад світання да позняга ў сядле, самі галодныя і коні галодныя!

— Дык аб што-ж ход?—адказаў Курыдзе,—можаце ў сяленне да нас заехаць—калі ласка! і для вас тое-сёе знойдзецца і коні за ноч адпасуцца...

Салдаты пра нешта загаманілі між сабою. Потым адзін з іх спытаў:

— Дык мы што, можа не палонныя?

— Ха!—засмяяўся Курыдзе.—Палонныя! Куды-ж я вас падзену? Ды і навошта нам палонныя! Хто хоча—сядай на каня хоць і цяпер, свет адкрыты! А хто мае ласку—просім да нас у госці. Вось як... Але мы яшчэ не ўсё зрабілі, хлопцы, трэба нам бранявік паглядзець. Там напэўна жывых няма, але так пакінуць нельга. Мы людзі, не звяры. Не будзем-жа марудзіць! Павяжыце коняй, няхай двое-трое пры іх застануцца, а астатнія—усе да мяне.

Курыдзе завярнуўся і, не аглядаючыся, пайшоў да мосту. Павесялелыя салдаты загаманілі між сабою, зводзячы коняй, звязваючы павады, па адзінцы і групамі пабеглі следам за Курыдзе. Яны ўжо не аглядаліся на паўстанцаў, якія пільнавалі зброю, цесна акружыўшы яе. Ля мосту стаяў вахмістр. Ён глянуў на Курыдзе з-пад ілба і адступіў з дарогі. Курыдзе, не зважаючы на яго, сыйшоў уніз, да ручая. Вада шумела і пенілася ля бранявіка, валам перакідаючыся праз яго. Машына, закіданая бярвеннямі, ляжала бокам, пярэднія змятыя і паламаныя колы ўпіраліся ў бераг. Увесь зад бранявіка, скрышыўшы палі, асеў у ваду. Курыдзе зразумеў, што выцягнуць машыну—не лёгкая справа. Калі салдаты сабраліся ля мосту, ён стаяў ужо на бранявіку, пастукваў рукаяццю рэвальвера па сценках вежы, па дзверках, заглядаў у прарэз байніцы, слухаў. Нічога нельга было ўчуць—шумела вада. Курыдзе сышоў па бярвеннях з бранявіка на бераг і з разгону ўзбег па крутым, абрытым схіле на дарогу.

— Што там?—дружна спыталі салдаты.

Курыдзе моўчкі развёў рукі. Да яго падышоў Кверквелія, і нешта сказаў паціху.

— Хай Оція сядзе на каня і зараз-жа ў сяленне,—сказаў Курыдзе.—Каваля сюды на падводзе, з зубілам і молатам... Хай прыдуць людзі з вяроўкамі, і як мага больш, каб прышлі... Гэта не малы груз, такая машына!..

Салдаты бачылі, як Оція перавёў каня праз раўчак, воддалі ад дарогі і, спрытна ўскочыўшы ў сядло—паехаў. Некаторыя пераглядаліся між сабой і гэта не засталося незаўважаным для Курыдзе. Ён прыкмеціў таксама, што салдаты асцерагаюцца вахмістра, змаўкаюць, калі ён пазірае на іх, стараюцца адыйсці далей. Курыдзе падышоў да вахмістра. Той адступіў на крок, бліснуўшы вачыма.

— Ты не страш мяне, вахмістр!—сказаў Курыдзе.—Я жартаваць не люблю, зараз-жа мяне злосць абсядае. Адыйдзі адгэтуль, барабанная скура! Эй, Міха! Сюды! Пэўна, даўся ён вам у знакі, рабы чорт! А, хлопцы?!

Салдаты маўчалі. Потым нехта з іх сказаў:

— Хай ён павесіцца!

Падышоў Міха Коркія. Вахмістр, убачыўшы ў ягоных руках

маўзер, затросся ўсімі целам, вочы ягоныя забегалі. Салдаты маўчалі. Нейкая трывога агарнула іх. Але яна была дарэмнай.

— Міха!—сказаў Курыдзе.—Адвядзі гэтага дзядзьку прэч і пільнуй. Каб ён не ўцёк ад цябе, пасадзі на дарогу, хай сядзіць. І калі што—доўга не думай. А вы, хлопцы, не бойцеся, коні вашы пры вас застануцца.

Салдаты пазіралі ўслед вахмістру. Калі Міха, адышоўшы крокаў на дзесяць, спыніўся, і вахмістр, падгінаючы цыбатыя ногі, няёмка сеў на пясок, яны дружна зарагаталі.

— Вось так...—сказаў Курыдзе.—Хай пасядзіць, халуйская морда!

Салдаты смяяліся. Курыдзе пачаставаў іх тытунем. На ўсіх не хапіла, але гэтая дробязь неяк зблізіла іх. Салдаты абступілі Курыдзе, з цікаўнасцю прыглядаючыся да яго. Ніхто ні да каго варожасці не адчуваў, яна не выявілася нават у самым пачатку. Яны гутарылі пра тое-сёе. Курыдзе распытваў салдат пра службу і яны сказалі, што служба іх такая паганая, што горшай няма. Яны водзяць арыштаваных, ездзяць з начальствам па сяленнях і некаторыя з іх былі ўжо тут, калі Гунава і Мучаідзе палілі Сабокучава.

— Ездзім, людзей палохаем,—гаварыў адзін з салдат.—Самі галодныя, коні галодныя, змораныя, па сутках з сядла не злазіш, начальства сабе ляжыць у фаэтоне, або дзе-нібы загуляецца, а ты і стой ля плоту... Што гэта за служба! Што гэта за радасць, калі цябе народ, як чорта, баіцца, людзі, як нас убачыць, гатовыя жывымі ў зямлю ўлезці...

— Так, так хлопцы! — гаварыў Курыдзе. — Вось пра гэта і думайце.

Неўзабаве на дарозе з'явіўся цэлы натоўп сялян. Сабокучаво было блізка, тут-жа, за заваротам дарогі, і вось ужо беглі людзі з жэрдкамі, ламамі і вяроўкамі, з усіх ног імчала дзетвара, двое мужчын трухом гналі буйвалаў, запрэжаных у арбу. На гэтую арбу была пасля складзена зброя і пад канвоем, пад наглядам Кверквелія яе завезлі ў сяленне. Зброю прыняў Міхаіл Ганарджыя. Яе склалі ў пограб і паставілі на варту Мітрафана Бокучава. Ніхто з салдат і не бачыў, як звезлі іхнюю зброю: усе яны былі заняты над бранявіком, і толькі адзін вахмістр, седзячы на дарозе, панура пазіраў услед арбе.

Выцягнуць бранявік аказалася немагчымай справай. Патрэбны быў ворат і спецыяльныя прыстасаванні. Тады пазбівалі клёпкі на дзверках, адагнулі ўдарамі ломаў броню і нарэшце разбілі замок, замкнуты знутры. Першым выцягнулі шофера, ён быў нежывы. Усе ўскрыкнулі са здзіўленнем, калі пасля таго, як выцягнулі труп, з дзверак выглянула нечыя галава. Гэта быў павятовы камісар. Яго вывалаклі з машыны і аказалася, што ён нават не паранены, толькі моцна пабіў сабе лоб. Яго паднялі на дарогу і ён стаяў там, апіраючыся на плячо нейкага селяніна, час-ад-часу стогнучы. Тады Курыдзе сам улез у бранявік і абмацаў ногі таго, хто быў у вежы, за кулямётам. Думка Мучаідзе пра Джугелі, які спаліў усю непакорную Верхнюю Осетыю—была ягонай апошняй думкай. Труп выцягнулі на бераг, Курыдзе паклікаў Оція і яны павыно-

сілі скрынкі з патронамі ад кулямёту. Пасля гэтага, Курыдзе, вылезшы з бранявіка, заткнуў хусткай ствол кулямёта, каб не набралася вады. Унутры машыны вады не было.

Натоўп рушыў да сялення. Разам з сялянамі, вядучы коняй, ішлі салдаты. Падобна было да таго, што людзі ідуць увечары з поля, стомленыя, вядуць сваіх коняй і на іх чакае ў хаце ежа і адпачынак.

Позна ўвечары, на майдане, дзе збіраліся на сходы і гульні, ясна гарэлі вогнішчы. Для салдат пазносілі ежу з кожнай хаты, хто што меў. Курыдзе загадаў Спірыдону Ганарджыя даставіць на майдан бочку віна і гэта было выканана адразу. Нават Спірыдон Ганарджыя прасіў Курыдзе сказаць парабку, калі будзе патрэбна яшчэ. На майдан сабралася моладзь. Курыдзе запрасіў усіх да агню, дзе на абрусах быў пастаўлены пачастунак, найбольш паважаных старыкоў пасадзіў асобна і сказаў прамову.

— Гэты вечар для нас, браты,—радасны,—сказаў ён.—Магло праліцца сёння шмат нявіннай крыві, але ўсё абышлося вельмі шчасліва. Вось яны, сядзяць тут, нашы госці і мы вельмі рады ім! Яны ўсе такія-ж, як і мы, сяляне, але прымушаны яны былі тварыць злое па волі нашых ворагаў, і не радасць, а смерць і кроў маглі прынесці нам. Усё абышлося вельмі добра, як ужо я казаў і толькі смерць нявіннага чалавека шофера салдата засмучае нас. Ён не па сваёй волі служыў нашым ворагам і, бядак загінуў. Шкада яго, ён быў з нашай працоўнай сям'і... Успамянем-жа яго добрым словам і будзем вясёлымі, будзем думаць пры жыццё і спадзявацца на шчасце, спадзявацца на тое, што хутка будзем вольнымі, што мінуць нас прыгнёт і здзекі, і прыдзе да нас чаканая здаўна савецкая ўлада, за якую мы змагаемся са зброяй у руках!

— Добра сказаў!—заўважылі пачэсныя старыкі,—усе падтрымалі іх.—Добра сказаў чалавек...

Курыдзе хадзіў па майдане, гутарыў з тымі і другімі. Кубкі хадзілі па руках, весялосць узрастала, ужо заспявалі песню, стварылі шырокае кола, і Оція хвацка прайшоў пару разоў пад рытмічны ўсплёск далоняў. Неўзабаве з'явіліся музыканты, зайгралі дудкі, загрымеў барабан, загучэла вясёлая лезгінка і нават старыкі пачалі пляскаць у далоні. Тады ў круг выскачыў малады салдат, бронзатвары кахецінец і прайшоў раз і другі, пазіраючы на дзяўчат гарачым вокам. Ён ішоў, як-бы не датыкаючыся зямлі. Усе, убачыўшы гэткі спрыт, загаманілі і засмяяліся: Оція, найлепшы танцор, мог і не паказвацца перад гэтым. Чарнавокая Тація, раскінуўшы рукі, успырхнула як птушка і паляцела па кругу. Тады чалавек закружыўся на месцы, тупнуў нагой і ўсе ўбачылі як танцуюць у вясёлай Кахетыі.

Курыдзе заўважыў у натоўпе Кверквелія, які толькі што падыйшоў, і зрабіў яму знак. Яны адыйшліся ад святла, на цёмную дарогу.

— На грэблі і на мосце стаяць па двое...—сказаў Тарыэл.—Ля пограбу са зброяй стаіць сам Міхаіл, пасля яго зменіць Оція. Камісар ляжыць у хаце у Гвазава, чорт іх бяры, хай там стогнуць разам. Коні пасвяцца на лугу, потым падыдзе Міха, паглядзіць-

Салдат пакладзем спаць у садзе і можа трэба будзе папільнаваць. Вахмістра мы пакармілі і замкнулі ў пограб да Бокучава, далі яму сена пад бок...

— А колькі зброі?—спытаў Курыдзе.

— Пяцьдзесят пяць вінтовак, тры рэвольверы, пяцьдзесят шэсць шабляў, а патронаў не пералічыць. Лічыў—зблытаўся...

— Яшчэ шэсць скрынак кулямётных...—сказаў Курыдзе.— І кулямёт. Мы да яго які-нібы станок прыстроім. Ох, Тарыэл. Бедныя мы сёння маглі быць! А цяпер—глядзі!

Ён паказаў на паляну, дзе гарэлі агні, грала музыка, чуліся вясёлыя выгукі.

Назаўтрае ўсё сяленне праводзіла на могілкі забітага шофера і жанчыны Сабокучазо паплакалі над ім. Тады-ж адправіліся ў дарогу вахмістр з камісарам, які не кінуў яшчэ стагнаць. Іх павёз парабак Спірыдона Ганарджыя, той самы Бахва, што вёз некалі падатковага інспектара. І цяпер на возе ў яго была непрыемная паклажа—цела Мучаідзе. Камісар сядзеў на арбе, сагнуўшыся ў крук. Вахмістар панура плёўся ззаду. Курыдзе праводзіў іх поглядам і ўздыхнуў аблегчана: усе непрыемныя справы скончыліся. Але на яго чакала неспадзяваная навіна, салдаты не хацелі выязджаць з Сабокучава.

— Нам няма куды ісці,—сказаў адзін з іх, ад іх упаўнаважаны.— Нас усіх пад суд аддадуць, пад арышт пасадзяць, будзем гніць у турме, а калі і выпусцяць, то сабачае жыццё зноў пачнецца. Мы людзі—хто муляр, хто цесляр, акрамя таго, калі патрэбна будзе, мы пойдзем з вамі, куды-б ты нас не павёў, мы верым табе і вернымі самі будзем, даем табе наша шчырае слова. Прымайце нас да сябе!

Салдат было пяцьдзесят пяць чалавек, з іх толькі сем паехалі за вахмістрам і з тых двое звярнуліся назад, з дарогі.

Вось пра што гаварылі ў нізінных сёлах Мінгрэліі. Гэтая вестка ўзрушыла ўсіх, хто толькі пачуў яе. Народ з бліжэйшых сяленняў натоўпамі ішоў у Сабокучаво, каб паглядзець на бранявік у яры і на салдатаў, якія дапамагалі будавацца пагарэльцам. На салдатах не было пагонаў, на фуражках былі намаляваны пяцікутныя зоркі, і ўсе гэтыя, нядаўна страшныя ваякі, заўзята працавалі на зрубах. Шыпелі пілы, грукалі сякеры, гоман і песні чуваць былі ў напалову спаленым гэтым сяленні, дзе яшчэ нядаўна была такая цішыня і туга. Чырвоны сцяг горда і весела развінаўся над хатамі. Зноў пайшлі па сёлах хвалюючыя чуткі пра паўстанцаў з Сабокучаво, якія сагнулі ў барані рог памешчыка і начальства, да якіх далучыліся салдаты, і якія самі сабе гаспадары.

Але Курыдзе цяпер пачаў хвалявацца. Ён разумеў, што калі пра гэтыя ўсе падзеі даведаюцца ў цэнтры, можа тут паўтарыцца гісторыя Верхняй Осетыі, дашчэнту спаленай карнай экспедыцыяй Джугелі. Меншавікі не застановяцца перад тым, каб паслаць сюды адборнае гвардзейскае войска і пры такіх абставінах, нават калі-б і ўсе да аднаго сяленні паўсталі-б і далучыліся да ягонага атраду,— прыдзецца гінуць альбо адступіць і будзе тады страшны тэрор, пральецца кроў многіх людзей. Цяпер Курыдзе трывожылі весткі

аб хваляваннях у сяленнях, аб сходах, на якіх вырашалі ісці на памешчыкаў. Яшчэ не надышоў час і гэты выбух, гэтае блізкае паўстанне можа быць дарэмнай вялікай ахвярай.

Курыдзе вырашыў ісці ў Поці. Ён даложыць партыйнаму камітэту пра ўсё і спытае парады і ўказанняў. Не марудзячы доўга, ён пакінуў Сабокучаво, уначы дайшоў да станцыі і, дачакаўшыся таварнага цягніка, ускочыў на платформу, гружаную марганцам. Раніцой, чорны ўвесь ад марганцавага пылу, ён злез з платформы ў порце. Ён даехаў якраз туды, куды трэба.

Кверквелія, калі адыходзіў Курыдзе, бываў вельмі неспакойны і насцярожаны. Тады ўжо ніхто з атраду не выходзіў на працу ні на агарод, ні да зруба. Кверквелія патрабаваў, каб усе былі кожную хвіліну гатовымі выступіць, сам правяраў варту і не выпушчаў вінтоўку з рук да той пары, пакуль не з'яўляўся Курыдзе. Так было два-тры разы за лета. Цяпер-жа Тарыэл адчуваў яшчэ большы неспакой. У сяленні было шмат чужых людзей—Тарыэл усё яшчэ не давяраў салдатам. Ён паставіў надзейную варту ля зброі, якую з пограба Ганарджыя на другі-ж дзень вывезлі ў лес, варта стаяла па дарогах, увесь час невялікі атрад быў на нагах і пры зброі. Сем'і паўстанцаў даўно ўжо звыкліся з гэтым, жонкі ўжо не плакалі, калі мужы бралі стрэльбы і самі будзілі іх уначы, калі трэба было ісці на варту. Дзеці гулялі ў паўстанцаў і меншавікоў, суседзі не палохаліся, убачыўшы па дарозе ўзброенага чалавека. Сабокучаво стала падобным да нейкага ваеннага паселішча і гэтае падабенства цяпер яшчэ больш павялічвалася, калі з'явіліся вясёлыя і гамалівыя салдаты. Яны і цяпер сядзелі на зрубах, спяваючы, як птушкі, але Тарыэлу, які адчуваў на сабе вялікі цяжар адказнасці, ад гэтага не было лягчэй. Ён толькі падзіўляўся, калі думаў аб тым, з якой лёгкасцю носіць гэты цяжар Курыдзе і з трывогай і неспакоем чакаў на яго. Курыдзе прышоў на золаку на другі дзень і адразу-ж сказаў Тарыэлу:

— Трэба выбраць з нашых трох-чатырох найбольш вёрткіх і пару чалавек узяць з новых. Давай, Тарыэл, падумаем, каго ўзяць... Зараз-жа мне трэба ісці назад і яны пойдуць са мной. Для тых трэба прынесці вінтоўкі. Нельга марудзіць ані хвіліны.

Вось што адбылося ў Поці з Курыдзе. Партыйны камітэт доўга абгаварваў ягоны даклад, шмат было спрэчак. Нарэшце ў Курыдзе спыталі:

— Як ты ўсё-ткі думаеш, будзе паўстанне?

— Будзе,—упэўнена адказаў Курыдзе.—Яно можа выбухнуць ад малейшай прычыны і асабліва, калі меншавікі вышлюць карныя атрады. А што вышлюць, дык я ў гэтым не сумняваюся. І гвардзейцы напэўна задушаць нас, бо ў мяне толькі семдзесят вінтовак і кулямёт без станка. Рэвальвераў пяць штук. Больш нічога.

Пасля гэтага доўга маўчалі. Паўстанне было заўчасным—гэта разумелі ўсе. Пасля сакратар парткома сказаў:

— Я вось што думаю... Калі выходзіць так, што меншавікі могуць там паўтарыць гісторыю з Верхняй Осетыяй, і мы не можам пакуль што супроцьдзейнічаць, бо няма ў нас зброі, зробім так: хай таварыш Курыдзе збірае ўсе лепшыя сілы, усю базу,

на якой можа грунтавацца паўстанне і выводзіць іх адтуль. Гэтыя заўчасныя хваляванні прыціхнуць самі па сабе, меншавікі ад рэпрэсій устрымаюцца, бо гэта ім праз бок ужо выходзіць пачынае, а мы будзем мець баявыя кадры і захаваем іх, замест таго, каб дарэмна падстаўляць пад кулі. У патрэбны час гэтыя рэзервы зробяць сваю справу. Вось як я думаю...

— А куды іх весці?—спытаў Курыдзе.

— А хоць-бы і тым маршрутам, якім прайшлі франтавікі ў восемнаццатым годзе,—адказаў сакратар. Яшчэ не позна.

З гэтым усе, у тым ліку і Курыдзе, згадзіліся. Так і пастанавіў партыйны камітэт.

Заначаваў Курыдзе ў свайго прыяцеля Захарыя Імедашвілі. Яны разам былі на парткоме і таму доўга гутарылі, абмяркоўваючы, як лепш Курыдзе падысці да вырашэння новых задач. Пасля, калі ўжо Курыдзе засынаў на сваёй канапе, Захарыя сказаў:

— Слухай, Котэ! Сёння была ў мяне цікавая размова.

— З кім?—спытаў Курыдзе,—яго вельмі цягнула да сну.

— З купцом адным. Тут ёсць такі, Пачулія... Мне на пасляза ўтрага выпісваюць пуцёўку ў Батумі, я там павінен узяць баржу і прывесці сюды. Баржа для гэтага купца. Мне сказалі паставіць яе пад выгрузку там, дзе скажа купец, і пустую даставіць назад, у Батумі.

— Дык што-ж такога...—прабурчэў Курыдзе, зануpаючыся ў сон.

— А вось што такое...—данеслася да яго здалёк.—Золата...

— Якое золата?—спытаў Курыдзе прасынаючыся.—У баржы золата?

— Я кажу, што купец абяцаў мне золата, калі я зраблю яму маленькую паслугу. Гэта значыць: падыйсці як мага ціха, узяць баржу, каб нідзе не плёснула і ідучы сюды ні ў якім разе не даваць гудкоў. Вось і ўсё. Ён казаў, што каманда павінна таксама трымацца ціха, і абяцаў усім заплаціць золатам.

— А ты што?—з цікаўнасцю спытаў Курыдзе, прыўзнімаючыся на локаць.

— Я нічога такога не сказаў яму пэўнага... Сказаў, што вазьму баржу згодна пуцёўкі і прывяду зноў-такі згодна яе... Якая мне справа да іх? Чорт іх усіх бяры, з іхнімі спекуляцыямі.

— Ой ты, дзядзя!—сказаў Курыдзе і сеў на канапе.—Стаіш ты на сваёй пасудзіне, чортава ты жэрдка, і валачэш усё, што табе зачэпяць згодна пуцёўкі. Хіба ты не разумееш, што яны хочуць украсці баржу? З якой рацыі купец хоча золатам твой гудок запхнуць? А? Чым гружана баржа?

— Адкуль я ведаю?—адказаў пакрыўджаны Захарыя.

— А дзе яна стаіць?

— Раней была каля інтэнданцкіх пакгаузаў. Баржа нумар сем. Стотонка. Я раней там бачыў яе!

— Каля інтэнданцкіх? Ой, Захарыя! І нікому ні слова.

— Я сёння хацеў сказаць у парткамітэце, ды потым раздумаўся, можа глупства якое-нібы...

— Глупства? А калі гэтае глупства акажацца зброяй? Зброяй, якая нам так патрэбна?

— Ну, будуць купцы зброю вазіць!
— Купцы ўсё могуць вазіць.
Курыдзе пасядзеў, падумаў і пачаў апранацца.
— Ты куды?—спытаў Захарыя і таксама ўстаў з ложка.— Ты куды, шалёны ты чалавек!
— Шмат што праспаць можна,—сказаў Курыдзе, апранаючыся
— Дык ты кажаш, што паслязаўтрага?
— Паслязаўтрага, толькі не ведаю ў які час.
— Уначы, вось у які час. Навошта-ж ён просіць, каб ты ціха ездзіў? Удзень, як не плыві, усё роўна ты са сваімі дудамі як на далоні... Ой, Захарыя, стары! Такі добра цябе выпекла ў качагарцы! Дык вось як мы дагаворымся: заўтра ідзі раніцой да купца і папрасі ў два разы больш, чымся ён табе абяцаў. Скажы што будзе ўсё ціха і гладка, грошы частку цяпер, частку пасля работы. Купец пакрывіцца, можаш саступіць колькі-нібы, і ўсё будзе добра, ён супакоіцца, а то яшчэ каго-нібы, другога пашукае і праваліцца ўсё. Ён напэўна ў зговары з тваім начальствам. Дык ты ідзі раніцой, адразу, каб яго ў хаце заспець і старайся з усіх сіл, каб ён табе паверыў. Як будзеш ехаць, перад портам, у адкрытым моры дай два гудкі, тут і мы прыстроімся. У порт ён напэўна не палезе, ды каб і хацеў,—не пусцім. Вось і ўсё. Паглядзім што такое ў баржы. Дык ты зразумеў, Захарыя?
— Зразумець то зразумеў, але-ж куды ты ўначы ідзеш?
— Дзіва мне ўначы хадзіць, дарагі мой! Пайду на Капарчу, там у мяне прыяцелі-рыбакі, транспарт-жа трэба! Ох, выберам, здаецца з гэтага купца багата ікры! Дык ты памятай, стары! Ад цябе ўсё цяпер залежыць! А я—пайшоў. Мне цяпер ходу—вёрст не пералічыць! Яшчэ раз кажу: Захарыя, не прамахніся!
— Не прамахнуся, пэўны будзь! Пачакай, вазьмі што-нібы на дарогу.
Але Курыдзе быў ужо ў другім пакоі, потым ягоныя крокі пачуліся ў сенях, скрыпнулі дзверы і ўсё сціхла. Захарыя вышаў следам за ім, каб зачыніць фортку ў сад, і яшчэ некаторы час чуў гулкія крокі Курыдзе па тратуары. Прышоўшы ў свой пакой, Захарыя доўга не мог заснуць—абдумваў, як лепш падыйсці да купца. А колькі ён не думаў, кожны раз упэўніваўся, што трэба трымацца парады Курыдзе.
А Курыдзе ў гэты час быў далёка на ўскраіне горада, ішоў берагам Капарчы. Апоўначы ён ужо ехаў на парожняй платформе, потым ішоў са станцыі ўсю ноч, і на золаку прышоў у Сабокучаво. Калі ўзыходзіла сонца, Курыдзе вышаў з Сабокучаво, з ім Оція, яшчэ некалькі з маладзейшых і двое новых, з салдатаў. Цяпер ужо ехаць цягнікам было нельга, але Курыдзе пра гэта не турбаваўся,— ён выйграў час, і можна было ісці не спяшаючыся, з адпачынкам

* * *

Гэтая гісторыя скончылася так...
Спачатку ўсё ішло вельмі добра. Сімон Гамрэкелі з прыказчыкам Геху прыехаў у Батумі на буксіры. Пачулія-ж быў там ад уча-

райшага дня. Маленькі буксір з загашаными агнямі падышоў да баржы, зачапіў яе на тросы і малым ходам пайшоў прэч. Баржа, якая з вечара стаяла без якароў, павольна пасунула за ім. Пачакаўшы, да буксіра падышоў човен, і Пачулія, крэкчучы, пералез праз нізкі борт. Човен адразу знік. Паступова аддаляўся ў змроку горад з рэдкімі цьмянымі агнямі, адыходзіў цёмны гарысты бераг, чорныя караблі, што стаялі ў бухце. Толькі з французскага крэйсера на рэйдзе доўга і ясна свяцілі ім агні, і Пачулія ўвесь час пазіраў у той бок. Нарэшце, і гэтыя агні аддаліліся, змерклісяі зніклі зусім. Шэрая, спакойная гладзь мора, акрыты змрокам прастор пасцілаліся перад імі. Роўнамерна працавала машына, шумеў вінт за кармой, ззаду сунулася баржа і на ёй маячыла нерухомая постаць Геху. Усё было ў парадку.

— Ёсць наш бог на небе, Сімон!—сказаў Пачулія і сеў побач з Сімонам на круг канатаў.—Гладка выехалі з Батумі. Праз трычатыры гадзіны будзем на месцы.

Паступова яны пасмялелі, пачалі гаварыць гучней. Усё так-жа ціха і спакойна было навокал. За мачтай цямнела нерухомая постаць рулявога матроса. Час-ад-часу ён круціў штурвальнае кола і паўз баржы, з глухім клёкатам, паўзлі ў жалабох ланцугі. Больш нішто не парушала цішыні, на палубе ніхто не з'яўляўся. Так, пры добрым надвор'і і ў спакойным настроі, ехалі купцы са сваёй здабычай у слаўны горад Поці.

Ужо азначыўся ў змроку нізкі пацїйскі бераг, як здарылася на буксіры нешта нечаканае. Спачатку тоненька засвістала і зашыпела пара, потым свіст перайшоў у ціхае выццё, і раптам, аглушаючы ўсіх на палубе, гулка зароў гудок. Рэха паўтарыла яго ў далечы, недзе ў моры і ў прыбярэжных балотах, і яшчэ не сціхла, як гудок зычна раўнуў яшчэ раз так, што Сімону зайграла ў вушах. Пачулія ўскочыў і пабег да будкі машыніста.

— Эй, ты!—крыкнуў ён, нахіляючыся над люкам.—Ты што гэта, ашалеў?

— Пары набралася!..—пачуўся ўнізе абыякавы, глухі голас.—Машына псуецца!

— Хай яна згарыць твая машына! Пра што мы ўгаварваліся? Спушчай сваю пару хоць за пазуху, чорт! Дурань!

Унізе пачуліся крокі, у няясным святле прайшла высокая постаць і з люку выткнулася нечыя галава.

— Ты не крычы на мяне, таўстабрухі!—пагрозна сказаў Захарыя.—А то я цябе выкупаю, другі раз не захочаш!

Пачулія, адплёўваючыся, пайшоў на карму.

— Ой, не падабаецца мне гэты машыніст!—сказаў ён да Сімона.—Не дай бог, ці не ўскочылі мы з табой!

Сімон моўчкі заёрзаў на канатах. Яму адразу стала дрэнна, пры адной толькі гэтай думцы. Неўзабаве здагадкі Пачулія пацвердзіліся. Нешта з'явілася збоку ад берагу. У пустэльнай дагэтуль, змрочнай прасторы мора відаць было нейкі невыразны сілуэт. Каб гэта ўсё адбывалася на полі, можна было-б падумаць: воддалі ідзе чалавек. Але гэта было не на полі і Пачулія і Сімон, адразу зразумелі, што да іх ідзе парусны баркас, на якім можа аказацца

многа людзей. Сімон застагнаў і ўзяўся за жывот. Пачулія пабег да машыніста.

— Эй, кацо!—крыкнуў ён у люк.—Поўны ход!

— Ты што, на кані едзеш?—спытаў знізу машыніст.—Даў па хвасце і поўны ход? Я з грузам іду!

Пачулія ўспатнеў.

Баркас неўзабаве наблізіўся, ідучы наперарэз курсу буксіру. Сімон прыстыў да канатаў і паціху скомліў, так цяжка яму было дыхаць. Пачулія бегаў па палубе. Ён бачыў, што буксір ідзе цішэй і зразумеў, што ўсё прапала. Баркас абмінуў буксір перад самым яго носам, крута завярнуўся, нахіляючыся, успеньваючы за кармой невялікія, спакойныя хвалі і падышоў да буксіру з правага борту. На хаду з баркасу зачапілі багром буксірны борт, хлопнуў і апаў парус і Пачулія ўбачыў з дзесятак людзей з вінтоўкамі і без вінтовак. Нехта пераскочыў з баркасу на буксір.

— Стоп!—крыкнуў ён у люк.—Прыехалі!

Вінт за кармой сціх. Буксір стаў. Тросы саслабелі і з плёскам, цяжка падалі на ваду. Баржа пасоўвалася, ідучы па інерцыі. Усё гэта бачыў Пачулія як у тумане. Ён яшчэ больш спалохаўся, заўважыўшы салдатаў сярод тых, што сядзелі ў баркасе. Цяпер ён не ведаў, што думаць. Чалавек падышоў да яго.

— Хто тут гаспадар?—спытаў ён.

— Што за людзі?..—знайшоў у сабе яшчэ сілы Пачулія.—Дакументы свае пакажыце...

— Пасля!—сказаў чалавек.—Мы спакойныя людзі... Так сабе, прагулка на яхце, з паненкамі... А вы што, баржачку свіснулі з Батумі? Пахвальна! Чым яна гружана?

Тут Пачулія здалося, што ён разумее, з кім мае справу.

— Слухай, друг!—сказаў ён пасоўваючыся да незнаёмага.— Адступіся з трэцяй часткі. Табе—асобна... А?

— Калі вязеш соль, дык не турбуйся,—адказаў чалавек.— А калі што нібы такое нам здатнае, то прыдзецца нам, купцы, папсаваць дружбу.

Ён скочыў у баркас, крыкнуўшы машыністу, каб стаяў на месцы, бо страляць будуць і яны адпіхнуліся ад борту. Баржа прысунула зусім блізка і Пачулія бачыў, як яны лезлі на яе і як там кідаўся бядак Геху. Падзьмуў свежы досвітны вецер, хвалі плёскалі аб борт, палуба лёгка калыхалася пад нагамі. Пачулія прыкрыў вочы рукой.

— Што рабіць!—прашаптаў ён.—Што рабіць!

Раптам Сімон заенчыў на ўвесь голас і сціх. Яму страшэнна забалела ў жываце. Пачулія стаяў амаль што непрытомны, увесь час пытаючы ў сябе самога, што рабіць. Нічога рабіць не выпадала. Баркас зноў падышоў да буксіра, і ў ім, сярод узброеных незнаёмцаў сядзеў Геху.

— Пяць чалавек на буксір!—скамандаваў той, з кім ужо гаварыў Пачулія.—Астатнія хай павозяць купцоў. Эй, купцы! Сюды, калі ласка!

— Добрыя людзі—ужо без надзеі сказаў да ўсіх Пачулія, ледзьве не плачучы.—Адступіцеся з паловы! Мы яшчэ даплоцім...

— Не адступімся,—адказаў незнаёмы.—Злязай, купец, досыць лямантаў. Ты чуеш, што я кажу?! Хлопцы, дапамажыце купцу!

Пачулія не ўпіраўся, калі дужыя рукі перакулілі яго праз борт і спусцілі ў баркас. Гэткім-жа спосабам перасадзілі і абамлелага Сімона. Пачулія як праз сон чуў галасы, плёск вады—такая яго агарнула слабасць. Раптам ён убачыў, што баркас, на якім яны сядзяць—не адзін тут, што ля барта з усіх бакоў іх з'явілася шмат. У гэты час узняўся парус і скрыў усё з вачэй Пачулія. Баркас лёгка пайшоў наперад.

Перад купцамі сядзелі на лаўцы двое маўклівых, узброеных людзей. Яны выглядалі страшна, вусатыя, суровыя. Сімон енчыў і енчыў увесь час, не сціхаючы. Баркас пачало падкідаць, і ён з усіх сіл трымаўся за лаўку. Яму стала дрэнна зусім.

— Куды вы нас вязеце?—спытаў Пачулія.

Вусатыя моўчкі глянулі на яго і не адказалі. Потым нехта сказаў па той бок парусу:

— Так, праедземся.

— Выкуп!—падумаў Пачулія.—Абяруць да голай касці!

Але выкуп ніхто не патрабаваў. Пачулія, Сімона і Геху высадзілі на пусты, зарослы калючымі нізкімі кустамі бераг. Было мелка тут, і прышлося прабрысці да берагу сажняў з дваццаць. Вада была не цёплая. Калі купцы апынуліся на беразе, баркас быў ужо далёка. Напяўшы парусы, пад свежым ранішнім ветрам, ён ішоў у мора. Пачыналася світанне. Мора панура і аднастайна шумела ля плоскага берагу. Пачулія пабрыў праз кусты, сам не ведаючы куды ідзе. Геху пайшоў за ім. Ззаду, хістаючыся рушыў Сімон. Яму стала яшчэ горш, калі ён ступіў на цвёрдую зямлю. Але пасля ён памалу ачуняў.

— Соломо!—заенчыў ён, адышоўшы з вярсту.—Трэба сялення пашукаць, наняць падводу, у горад ехаць. Можа што нібы яшчэ выратуем, гора мне!

Пачулія спыніўся, і са злоснай усмешкай глянуў на яго.

— Ты зусім ўжо звар'яцеў, Сімон!—сказаў ён, крывячы губы.— Куды ты пойдзеш! Да каго? Хочаш, каб з цябе ўсё дашчэнту выцягнулі?

— А хто выцягнуў?—раптам закрычаў Сімон.—Ты і выцягнуў, таўсты квыр, сабака!

Пачулія, не валодаючы ўжо больш сабой, падышоў і штурхнуў яго ў грудзі. Сімон упаў на зямлю і завыў на ўвесь голас. Пачулія зморшчыўся, часта махаючы рукой, хутка пайшоў прэч, і за ім, след у след, падыбаў Геху. Яна адышлі далёка і спыніліся, чакаючы на Сімона, які доўга яшчэ качаўся па зямлі і роў нема. Так аплаквала Сімонава прагная і здабычлівая душа замшавыя мяшочкі з Руска-Азіяцкага банка.

Апаўдні буксір прывалок у Пацийскі порт пустую баржу нумар сем. Машыніст Захарыя Імедашвілі, ён-жа і капітан, далажыў партоваму начальству, што нейкія людзі напалі ўначы на буксір, ссадзілі купцоў, загналі каманду ў ліку трох чалавек у машыннае аддзяленне, адзін з тых, што нападалі стаў за штурвал і загадаў яму, машыністу, ісці поўным ходам. Баржу выгрузілі недзе далёка,

ні то ля берагу, ні то ў адкрытым моры, бо нікога не выпушчалі з машыннага аддзялення ўвесь час. Пасля, калі іх выпусцілі на палубу, аказалася, што яны зноў у адкрытым моры, і баржа пустая. Людзі пайшлі на баркасе ў кірунку да гурыйскага берагу. Больш яны нічога не ведаюць. Каманда пацвердзіла словы машыніста Захарыя Імедашвілі, і начальства, выслухаўшы іх, сказала што ўлады прымуць патрэбныя захады, і што няхай яны, матросы, пакуль што пра гэта нікому не расказваюць, каб не замінаць следству. Каманду пусцілі, але машыніст па невядомых прычынах, праз нейкі час быў зволены з работы.

На гэтым і скончылася гісторыя з баржай.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У сяленнях чыталі адозву штаба рэволюцыйных паўстанцаў імя Джапарыдзе.

„Надыходзіць час!—пісалася ў лістоўках.—Досыць памешчыкам сядзець на мужычым карку. Мы заклікаем у свае рады тых, хто гатовы ўступіць у бой за ўладу рабочых і сялян. Таварышы навабранцы! Ідзіце і вы да нас! Замест таго, каб гніць у казармах, цярпець здзекі і бяспраўе і потым сваімі-ж рукамі праліваць братнюю і бацькоўскую кроў, ідзіце з намі! Мы пераможам пад сцягам большэвіцкай партыі. Мы прагонім крывасмокаў з нашай зямлі і пад ясным сонцам новай вясны, вольны ўздыхне народ. Хто чуе ў сабе сэрца байца, хто мае сілу для змагання, ідзіце да нас! Няхай жыве Совецкая ўлада!“

У канцы адозвы паведамлялася, што ўсе, хто ўступіць у атрад, будуць забяспечаны адзеннем, абуткам і часткова—правіантам.

Назаўтрае больш за трыццаць чалавек з'явілася ў Сабокучаво. Праз некалькі дзён вялікі атрад рушыў у дальнюю дарогу, праз горы да лініі чырвонага фронту. У Сабокучаво засталіся недабудаваныя хаты.

Надыходзіў час... Ужо вісхрылі на вяршалінах гор снежныя завеі, набліжалася зіма. Большэвік Канстанцін Курыдзе спешным маршам вёў атрад патаемнымі горнымі сцежкамі. Цяжкая гэта была дарога... Але людзі былі апранутыя ў новыя шынелі, мелі цёплыя ватоўкі, добрыя боты, ніхто не адстаў і не захварэў за гэты цяжкі паход. І калі зіма сыйшла ўжо ў даліны, атрад Курыдзе ў поўным сваім складзе мінуў апошні перавал.

Надыходзіў час...

## V

Так, набліжалася развязка... Следам за Азербайджанам узняла сцяг совецкай улады Арменія. Меншавікі апынуліся тварам у твар перад грознай для іх небяспекай. Уся краіна дыхала як вулкан. Ні тэрор, ні красамоўныя ўгаворы не давалі ўжо ніякіх вынікаў. „Ноеў каўчэг“, акрываўлены і акрыты ўсенароднай ганьбай, нястрымна несла на грозныя скалы. Першыя месяцы зімы былі апошняй хвілінай перад бурай.

Андрэй Міхайлавіч бачыў некалі нямецкія войскі на вуліцах Тбілісі. Юнкеры з маноклямі шпацыравалі па тратуарах, ступаючы

сустрэчным на ногі, па вуліцах чотка грукала падкаванымі ботамі славутая вымуштраваная пяхота ў лабастых шлёмах. Андрэй Міхайлавіч бачыў каланіяльныя войскі Велікабрытаніі, урачыстыя парады, мітынгі са з'яўленнем „бацькоў народа“ і іх прамовамі. Ён мала звяртаў увагі на гэтыя ненатуральна пышныя і шумлівыя, выходзячыя за рамкі нармальнага жыцця, з'явы. Ён быў заняты сваёй работай і гэта яго не абыходзіла. Ён быў зусім абыякавы ў пачатку плавання „ноевага каўчэга“.

Але цяпер ён абыякавым не быў. Кожная заўважаная ім дробязь, якая гаварыла аб блізкім канцы меншавіцкай авантуры, радавала яго і акрыляла надзеямі. Чытаючы меншавіцкія газеты, ён навучыўся знаходзіць адрабінкі праўды ў гэтых горах хлусні, ён бачыў як кідаецца меншавіцкі ўрад у пошуках новых сяброў і падтрымкі. Сябры спачатку знаходзіліся. У кастрычніку ў Тбілісі прыехаў „вярхоўны камісар Францыі ў Грузіі“ Шэвалье, і ў Батумі—французскі адмірал Дзюменіль. Пакуль пан Шэвалье дыпламатнічаў з меншавікамі, адмірал Дзюменіль адпраўляў адно за другім у Францыю, з ведама і згоды меншавіцкага ўрада, захопленыя расійскія судны. Меншавікі звялі на нішто свае абавязацельствы перад Савецкай Расіяй у надзеі, што іх прыме пад крыло Антанта. Яны не прапушчалі ў Савецкую Арменію цягнікоў з хлебам, якія ішлі з РСФСР і Азербайджана. Яны спрабавалі блакадай задушыць савецкую ўладу ў Арменіі. Пан Шэвалье гаварыў пра тое, што Грузія „патрэбна Еўропе як вялікі і натуральны шлях на Усход“ і невыразна намякаў на тое, што меншавікоў, магчыма падтрымаюць. Узніклі праекты аб заняцці Батумі Англіяй пад выглядам доўгатэрміновай арэнды, ці інакш. Усё гэта і абмяркоўваў меншавіцкі друк з ідыёцкім аптымізмам, у якім адчуваліся страх і разгубленасць. У жоўтай гарачцы кідаўся „ноеў каўчэг“. Мільгалі ўсё новыя і новыя прозвішчы, праекты, планы, шмат надзей ускладалася на французскую эскадру ў Чорным моры, і на тое, што Англія зойме Батумі і на тое, што дашнакі звергнуць савецкую ўладу ў Арменіі...

Шнырылі шпікі, з перапоўненых цэнтральных турмаў, найбольш небяспечных для меншавікоў, людзей перасылалі ў засценкі Заходняй Грузіі. Цэлымі эшалонамі высылалі ў Азербайджан. Нічога не дапамагала.

...„Вы бачыце, што я дайшоў да таго, што хаджу ўжо без кашулі!“..

Стары рабочы быў дваццаць год меншавіком. На сходзе, у час выбараў у лістападзе, ён падаў свой голас за комуністаў, і калі меншавіцкія лідэры спыталі ў яго, чаму ён так робіць, ён расхінуў свой пінжак... „Вы бачыце да чаго я дайшоў?..“ Пінжак быў апрануты на голае цела. Вобраз гэтага ашуканага рабочага, шмат што сказаў многім. Гэта быў голас катастрофы, ад якой не маглі ўжо ратавацца меншавікі.

Гневам дыхалі вуліцы гарадоў, грозна гулі сяленні...

Ішоў час. Мінулі першыя месяцы зімы. Ужо дыханне вясны чулася ў паветры, хаця ўсё яшчэ кружыла над гарамі снежная

замецъ. У гэтую перадвясновую пару, падзеі захапілі і Андрэя Міхайлавіча.

Аднойчы цётка Елена ўвайшла ў пакой Андрэя Міхайлавіча, трымаючы ў руках маленькую картку і здзіўлена аглядаючы яе.

— Нейкі чалавек падаў, — сказала яна. — Па нашаму не гаворыць.

Андрэй Міхайлавіч узяў картку.

„Леон Рубо, камерсант“,—было напісана каліграфіяй, на французскай мове.

— Дзе ён?—спытаў Андрэй Міхайлавіч.

— Стаіць на кухні.

Андрэй Міхайлавіч усміхнуўся і выйшаў з пакою. Пасярэдзіне кухні стаяў сярэдняга росту, добра апрануты чалавек. У яго былі светлыя пушыстыя вусы, кучаравыя валасы, ружовы, малажавы твар і блакітныя вочы. Погляд іх быў спакойны і ўважлівы. Ён пакланіўся Андрэю Міхайлавічу.

— Калі ласка!—сказаў Андрэй Міхайлавіч.—Прашу вас!

Камерсант увайшоў у пакой, Андрэй Міхайлавіч запрасіў яго сесці і сеў сам.

— Я прышоў да вас,—аглядаючы пакоік Андрэя Міхайлавіча, на добрай французскай мове сказаў госць,—я прышоў да вас па даручэнню нашай фірмы. Мы цікавімся культурай цытрусаў і яшчэ некаторымі раслінамі, скажам—рамі. Ведаеце? Кітайская крапіва. Вельмі каштоўная расліна. Выдатныя ткані! Фірма даручыла мне падшукаць у Грузіі патрэбныя плошчы ў адпавядаючых, зразумела, нашым задачам мясцовасцях. Я застанавіўся на некаторых пунктах заходняга ўзбярэжжа. Вельмі спрыяючы клімат, нармальныя асадкі, якасная глеба. Але частка гэтых плошчаў забалочана. Я меў дачыненні з некаторымі дзяржаўнымі ўстановамі—мы можам узяць канцэсію. Шэфы параілі мне знайсці спецыяліста для кансультацыі і арганізацыі работ і ўказалі іменна на вас. Яны маюць падрабязную інфармацыю, акрамя таго, ваша імя добра вядома ў той галіне, дзе вы працуеце. Нам вядома таксама, што вы працуеце над вялікім праектам асушэння Калхіды, гэтай легендарнай краіны. Гэта смела і грандыёзна! Гэта захапляе!..

Госць памаўчаў, аглядаючы цеснае інжынерава памяшканне. Ён зрабіў спачуваючую міну, калі заўважыў пад канапай ля печы ахапак дроў. У Тбілісі крызіс з апалам і напэўна інжынеру не лёгка. Ён, не спяшаючы, перавёў погляд на Андрэй Міхайлавіча і ўсміхнуўся.

— Для таго, каб знайсці вас, прышлося звярнуцца ў адраснае бюро,—сказаў ён.—Аднак, далей. Мы як раз і маем на ўвазе канцэсію на невялікую частку гэтых балот. Такім чынам, для вас ніякіх асаблівых цяжкасцей гэта не ўяўляе. Умовы нашы: аплата па згодзе і акрамя таго, вам будзе выдадзены пакет акцый. Я чакаю вашага слова, мсье...

— Я не згодны,—адказаў Андрэй Міхайлавіч.

— Вам не падабаюцца ўмовы, ці самая работа?

— Ні тое, ні другое. У мяне зусім інакшыя мэты.

— Можа гэта не сакрэт? Можа гэта адпавядае і інтарэсам фірмы?

— На жаль, гэта не адпавядае інтарэсам фірмы,—адказаў Андрэй Міхайлавіч і ўстаў.

Француз узняўся таксама.

— Шкада!—сказаў ён ціха.—Мы не спадзяваліся, што вы адмовіцеся.

— На вялікі жаль...—адказаў Андрэй Міхайлавіч і злёгку пакланіўся.—Вымушаны адмовіцца.

— Прашу выбачэння...—так-жа ціха сказаў француз і, ідучы да парогу, зноў паўтарыў:—Шкада!

Андрэй Міхайлавіч праводзіў яго да парогу і пасля доўга хадзіў па пакоі, абураны.

— Дазваляюць сабе раскошу, замест дзесятніка наймаць інжынера!—бурчэў ён пра сабе.—Прахвосты.

Позна ўвечары зайшоў Вісарыён.

— Я на адну хвілінку, Андрэй Міхайлавіч,—сказаў ён адразу як толькі ўвайшоў.—Прышла пара нам развітацца.

— Што?—занепакоены спытаў інжынер, устаючы.—Выязджаеце? Надоўга?

— Праз гадзіну, не больш. А ці надоўга—хто-ж ведае!

— Дык сядайце, хоць на пару хвілін,—сказаў Андрэй Міхайлавіч.—Есці хочацца?

— Э, што есці!—Вісарыён сеў ля стала, ўздыхнуў.—Не хочацца, Андрэй Міхайлавіч...

Яны некаторы час сядзелі моўчкі. Было неяк няёмка. Вісарыён вельмі спяшаўся. Ён хацеў-бы пра што нібы пачаць размову, але нічога не выходзіла, толькі абрыўкі нейкіх думак праносіліся, дакучліва паўтараючыся. Ён мог цяпер думаць толькі пра тое важнае даручэнне, з якім выязджаў в Тбілісі. Андрэй Міхайлавіч моўчкі пазіраў на яго праз акуляры.

— Калі ён у акулярах, то выдаецца вельмі старым...—падумаў Вісарыён і тут убачыў на стале візітную картку француза. Ён узяў яе, пачаў разглядаць.

— Сёння, Вісарыён, прыходзілі мяне на службу запрашаць,—сказаў Андрэй Міхайлавіч.

І ён расказаў каротка пра француза і ягоныя прапазіцыі. Вісарыён выслухаў яго і паклаў картку на стол. Андрэю Міхайлавічу здалося, што Вісарыён раптам занепакоіўся.

— Светлыя валасы, кажаце?—спытаў ён.—Сярэдняга росту? І пышныя вусы такія, ён іх як-бы у зубах трымае... Ну, вось... Ён такі француз, як мы з вамі грэкі. Гэта шпік, Андрэй Міхайлавіч!

— Што вы!—Андрэй Міхайлавіч развёў рукі.

— Шпік,—пераконана сказаў Вісарыён.—Вышэйшага класа. Ён можа быць і французам і англічанінам і чортам з гарачага пекла. Ён раней служыў у паліцыі, у Пецербургу. Вось хто такі, ваш госць, Андрэй Міхайлавіч...

Вісарыён устаў.

— Мне трэба ісці,—сказаў ён.—Я за сябе не баюся, я не пакінуў-бы вас аднога ніколі, але ў мяне важнае партыйнае даручэнне, Андрэй Міхайлавіч! Вы пайшлі з намі! Ідзіце да канца! Мы

яшчэ з вамі ўбачым новую Калхіду! Калі-ж я не застануся жывым, то не забывайцеся, што мы абодвы з вамі пра гэта марылі. Успамяніце мяне, калі там вырасце першае дрэўца і гэтага будзе досыць.

Андрэй Міхайлавіч устаў, хацеў нешта сказаць, але губы яго задрыжэлі і ён, падаючы руку, адварочваў свой твар.

— Шчасліва...—сказаў ён.—Шчасліва...

Дайшоўшы да парогу, Вісарыён спыніўся.

— Слухайце,—ціха сказаў ён.—Калі ў вас ёсць што нібы такое...да чаго яны могуць прычапіцца—лепш спаліце, альбо выкіньце вон. Ён дарэмна не прыходзіў. Бывайце, Андрэй Міхайлавіч.

Вісарыён вышаў. Пачуліся ягоныя хуткія крокі на верандзе і ўсё сціхла. Інжынер стаяў, нахіліўшыся над сталом, камячыў у пальцах абрывак паперы. Так стаяў ён доўга, потым сказаў сам сабе, як прызвычаіўся ўжо ў адзіноце:

— Далёкая дарога ў Калхіду... Ох, далёкая, Вісарыён, дарагі мой...

Раніцой Андрэя Міхайлавіча арыштавалі. Праз дзень яго трымалі ў вялікай задымленай зале, у камісарыяце за драўлянай перагародкай, дзе поўна было такіх-жа, як і ён, арыштаваных. Надвечар яго выклікалі і павялі па даўгім калідоры. У прасторным пакоі на трэцім паверсе, куды прывялі яго, за сталом сядзеў тонкі, насаты чалавек з вельмі даўгой шыяй. Па тым, як каля яго завіхаліся чыноўнікі, Андрэй Міхайлавіч пазнаў, што гэта не малы чын.

— Прозвішча, імя і званне... ну, прафесія,—сказаў ён, і ўвабраў сваю даўгую шыю ў вузкі каўнер, што стаяў старчма. Андрэй Міхайлавіч адказаў яму. Чыноўнік падбег і паклаў перад начальнікам паперку і той яе прачытаў.

— Высылаецеся з Грузіі ў адміністрацыйным парадку,—сказаў чын як-бы цераз нос і падпісаў паперку.—Усё!

— Можна мне ведаць, на якіх гэта падставах?—спакойна спытаў Андрэй Міхайлавіч.

— На агульных. За дваццаць чатыры гадзіны.

— Выбачайце, у чым мая віна?

— Вы хавалі ў сябе дзяржаўнага злачынцу і, дзякуючы вам, ён пазбегнуў таго, што заслужыў. Гэта даказана.

— Я і не адмаўляю. Я не лічу гэтага чалавека злачынцам.

— Вось іменна таму вас і высылаюць. Наступны!

— Спадзяюся, мне можна будзе сабрацца ў дарогу?

Тут толькі важны чын упершыню ўзняў на Андрэя Міхайлавіча свае цьмяныя вочы.

— Не спадзявайцеся,—сказаў, ён, і адвіслая складка на ягонай шчацэ ўздрыгнула, азначаючы ўсмешку.—З канфіскацыяй маёмасці! Я забыўся вам сказаць.

Ён падаў чыноўніку паперку, на якой запісаны быў лёс Андрэя Міхайлавіча. Толькі цяпер інжынер усхваляваўся.

— Слухайце?—сказаў ён і зрабіў крок наперад, да стала.— Там-жа мае паперы, работа... Матэрыялы, якія я збіраў столькі год!

— Ваша работа, наколькі мне вядома, датычыцца тэрыторыі Грузіі,—холадна сказаў чын.—Тут—мы гаспадары. Будзьце ласкавы, не замінайце мне. Наступны!

— Слухаце вы, сатрап!—крыкнуў Андрэй Міхайлавіч, сціскаючы кулакі.—Вы разумееце, што робіце?'

Салдат схапіў яго за руку. Але Андрэй Міхайлавіч хутка авалодаў сабой.

— Толькі тады вы мяне пераможаце,—сказаў ён, адварочваючыся, ідучы да дзвярэй,—калі знімеце мне галаву!

— З ахвотай!—хіхікнуў даўганосы.—Пагаварыце тут яшчэ больш!..

Андрэй Міхайлавіч выйшаў з пакою пад гучны рогат чыноўнікаў.

На змярканні яго вялі ўжо ўздоўж таварнага эшалона, акружанага вартай, і пасадзілі ў цёмную цяплушку, поўную людзей. Андрэй Міхайлавіч, пачакаўшы, намацаў у поцемках нейкую негабляваную, калючую дошку і зразумеў, што ўпоперак вагона пастаўлены лаўкі. Тыя, што сядзелі, моўчкі пацісnуліся, даючы месца новаму пасажыру. Дзверы неўзабаве зачынілі і ў вагоне стала цёмна зусім. Агню паліць начальнік эшалону не дазваляў. Пачакаўшы, цягнік рушыў. У вагоне ўвесь час маўчалі, і калі хто нібы гаварыў, то, чамусьці шэптам.

Андрэй Міхайлавіч таксама маўчаў, думаючы аб страчанай дарэмна сваёй працы, успамінаў Гогіберыдзе, Вісарыёна, цётку Елену, якая ламаючы рукі, выбегла на двор, калі яго выводзілі; успамінаў свой цесны, любімы пакоік, ціхія хвіліны раздум'яў... Цяжка было на сэрцы.

Эшалон ішоў доўга, больш за суткі, бо часта спыняўся. Прышоў ён да Пойлінскага пагранічнага мосту, на світанні другога дня. Калі адсунуліся дзверы, у душны вагон дыхнуў халаднаваты, свежы вецер. Людзі з радасцю ўбачылі горы, светлую істужку зары, акрытую туманамі бурлівую Куру. Выходзячы з вагона, Андрэй Міхайлавіч прагна ўдыхнуў чыстае паветра, гор і тое, што засталося ззаду, выдалася яму цяжкім і трывожным сном, ад якога і пасля яшчэ цяжка на сэрцы. Гэтым днём, гэтымі пагодлівымі досвіткамі, пачыналася для яго новае жыццё, якое будзе праходзіць там, за акрытай раншнімі туманамі Курой. Калі Андрэй Міхайлавіч выбраўся з цяплушкі, яму давялося здзівіцца нямала, бо ён убачыў Гогіберыдзе, які стаяў воддалі, на ўскраі насыпу. Наставіўшы каўнер, пасунуўшы капялюш на лоб, ён курыў папяросу і наглядаў за тым, як вылазяць з вагонаў людзі.

— Ён ехаў у другім вагоне,—падумаў Андрэй Міхайлавіч, радуючыся і дзівячыся тым, што і гэты іспыт давялося ім прайсці разам. Страшэнна ўзрадваўся і Гогіберыдзе.

— Ба! Андрэй!—закрычаў ён і пайшоў насустрач.—Папаўся, разбойнік, у рукі судзей і вырвалі лютае сэрца з грудзей... Чаму ты хмурны такі? Гэта-ж не надоўга! За якія-небудзь два месяцы ўсё будзе скончана з імі.

— Яны забралі мой праект,—адказаў Андрэй Міхайлавіч.— І ўсе матэрыялы, усе запісы...

Гогіберыдзе спалохана глянуў на Андрэя Міхайлавіча. Але доўга ім гаварыць не давялося. Начальнік эшалону загадаў пастроіць высылаемых, пасля пераклічкі іх паставілі па чатыры ўрад і Гогіберыдзе апынуўся наперадзе Андрэя Міхайлавіча. Потым іх развялі па групах, і яны доўга чакалі пад нейкім баракам. Узышло сонца і схавалася ў светлую хмару, што нерухома стаяла над гарызонтам. Веяў пругкі вецер, цяпер ужо халодны. Андрэй Міхайлавіч заўважыў на маленькім кустку алычы светла-зялёную завязь: развіналіся першыя клейкія, кволыя лісткі. Надыходзіла вясна. Успомніўся Вісарыён, калі ён пазаўчора гаварыў пра першае дрэўца, якое вырасце ў Калхідзе. Недзе ныла зурна. Па той бок насыпу, перад домам, у садку, танцавалі асобаатрадчыкі, заканчваючы начную гулянку. Яны былі апрануты ў новенькія ангелійскія хакі, як і афіцэрык, што прыняў высылаемых ад эшалоннай варты, і прахаджваўся цяпер увесь час перад баракам. На ім блішчэлі новыя рамяні, ідучы, ён ступаў знарок на наскі, каб гучней звінелі шпоры. Афіцэрык гэты вельмі надакучыў усім. Многія глядзелі на той бераг Куры. Там, як і тут, узніміліся шэрыя, невысокія ўзгор'і, насып ішоў ад маста проста ўгору і воддалі відаць былі дахі станцыі Пойлы. Мост быў унізе.

Нарэшце скамандвалі ісці першай групе, у якой быў Андрэй Міхайлавіч. Адыходзячы, ён пашукаў вачыма Гогіберыдзе і не знайшоў. Той быў, напэўна, недзе ў іншым месцы. Іх вялі, акружаных канвоем. Асобаатрадчыкі кінулі танцаваць і нешта крычалі здалёк, рагочучы. Насмешак іх ніхто не чуў і не слухаў. Ішлі шырокай сцежкай, паўз палатно чыгункі і неўзабаве падышлі да моста. Поўнаводная Кура бушавала ўнізе. На сярэдзіне моста афіцэрык забег наперад, і, кланяючыся, паказваючы рукой на той бок ракі, з іроніяй, на якую толькі быў здольны, пажадаў усяго добрага.

На тым баку маста, у самым яго пачатку, стаялі двое: камандзір у кароткім кажушку і чырвонаармеец у даўгім шынялі.

* * *

З Гогіберыдзе Андрэй Міхайлавіч сустрэўся толькі ўвечары, калі скончыліся ўсе фармальнасці. Аказалася, што цягнік прыйдзе толькі заўтра раніцой, бо недзе рака размыла насып. Рабіць не было чаго і яны пайшлі сцежкай за станцыйны пасёлак. Вечар быў ціхі, халаднаваты. Рэдкія хмары ішлі невысока над зямлёй. Зара хутка загасла за ўзгор'ямі і стала цёмна. Ішлі павольна, моўчкі, гаварыць не было аб чым, і неўзабаве завярнулі назад. Калі ўнізе глянулі праз змрок цьмяныя агні станцыі, Гогіберыдзе сказаў:

— Не ведаю, што адчуваеш ты, Андрэй, пасля таго, як цябе так абрабавалі, але мне надзвычайна прыкра. І не таму, што яны забралі маю небагатую маёмасць. Не, тут інакшае пачуццё... Мне крыўдна, што мяне выгналі з Грузіі. Ведаю, што выгналі мярзаўцы, якіх ненавідзіць увесь народ, ведаю, што я не зрабіў нічога супроць народа, за які гатовы памерці ў кожную хвіліну, і ўсё-ж вельмі крыўдна і прыкра...

Гогіберыдзе не дагаварыў. Слуп агню раптам узняўся за пасёлкам, асвятляючы горы, хмары над імі, бліснулі зялёныя нейкія зарніцы, высока стрэліўшы ў хмарнае неба,—гэта было адно імгненне, і страшны выбух страсянуў усё навокал, задрыжэла зямля, цяжка ўздыхнулі горы, падаючы ў змрок, невыказнай сілы гул і грукат абваліўся на зямлю. Калі ўсё сціхла, наперадзе, у пасёлку пачуліся крыкі.

— Хадзем!—сказаў Гогіберыдзе.—Узарвалі мост.

Яны хутка сышлі ўніз, у пасёлак. Здагадка Гогіберыдзе пацвердзілася: узарвалі Пойлінскі мост, але хто гэта зрабіў, было яшчэ невядома.

— Ведаеш, нам не варта ехаць у Баку,—сказаў Гогіберыдзе Андрэю Міхайлавічу.—Мы паедзем напэўна, у Тбілісі.

Ноч прайшла ў станцыйным пасёлку трывожна. Усюды стаялі патрулі, у цемры чуліся словы каманды і тупат праходзячых чырвонаармейцаў. Інжынеры перачакалі гэтую ноч, разам з некаторымі высланымі пад нейкай паветкай і выйшлі на вуліцу як толькі пачало брацца на світанне. Іх сустрэў, напэўна спецыяльна пасланы чырвонаармеец і запрасіу на чай. На агародах стаялі паходныя кухні, кожны атрымаў па кубку засалоджанагв вару і па кавалку хлеба. Чырвонаармейцы аказаліся вельмі гасціннымі і ветлівымі. Стала вядома, што мост узарвалі меншавікі, бо ў Грузіі паўстанне. Паўсталі сяляне Борчалінскага павету, недалёка ад Тбілісі, паўстанне пашыраецца. Меншавікі выслалі надзейныя свае войскі. Гвардзейцы паляць сяленні, выганяючы насельніцтва ў поле, расстрэльваюць сялян, але паветы паўстаюць адзін за адным. Комуністычная партыя Грузіі ўзначальвае паўстанне і кіруе ім. Паўстанцы звярнуліся з просьбай да Чырвонай арміі дапамагчы ім у барацьбе, бо могуць умяшацца саюзнікі меншавікоў, войскі Антанты і затапіць у крыві паўстанне. Меншавікі збіраюць сілы ў раён паўстання, ідуць жорсткія баі. Можа ўжо сёння паўсталі гарады, і рабочыя Тбілісі б'юцца на барыкадах.

Такія былі хвалюючыя весткі з таго берагу. Гогіберыдзе глядзеў на дальнія ўзгор'і за Курой і ў ягоных шырока раскрытых вачах стаялі слёзы. Усхваляванасць ягоная перадалася і Андрэю Міхайлавічу, і нікога тут не было, хто заставаўся-б спакойным.

Надвечар прышоў першы вайсковы эшалон. Чырвонаармейцы размясціліся за станцыяй. Другую ноч ужо не спаў пасёлак, і Андрэй Міхайлавіч з Гогіберыдзе адсядзелі ў павеці на саломе, прыслухоўваючыся да таго, што дзеялася ўначы. Яны чулі, як яшчэ адзін цягнік прышоў на станцыю, чулі як войскі праходзілі вуліцай і пасля, цяжка грукочучы, пранеслася пасёлкам артылерыя.

— Чырвоная армія!—сказаў Гогіберыдзе.—Цяпер прышоў меншавікам канец...

На світанні яны заснулі і абудзіліся неўзабаве, бо на тым беразе застукаў кулямёт, пачкамі ірваліся вінтовачныя стрэлы. Гогіберыдзе выбег з-пад павеці, за ім Андрэй Міхайлавіч. Ранішнія туманы ахіналі Куру, паўзлі па ўзгор'і. Над берагам відаць былі цёмныя награмаджэнні скал, за іх чапляўся туман, узнімаючыся ўгору. Страляніна сціхла так-жа раптоўна, як і ўзнялася. За

пасёлкам рухаліся ў тумане постаці чырвонаармейцаў, яны ішлі ланцугом, адзін за адным знікаючы пад узгоркам.

— Наступленне?—спытаў Гогіберыдзе.

Андрэй Міхайлавіч паціснуў плячыма.

Яны пайшлі на станцыю. Там яны даведаліся аб тым, што Чырвоная армія і партызанскія атрады ідуць на дапамогу паўстанцам, што хутка пачнуцца работы па аднаўленні Пойлінскага маста, што чырвонаармейцы занялі пазіцыі над ракой, на той выпадак, калі меншавікі будуць абстрэльваць мост, і што з Баку неўзабаве прыязджае прадстаўнік ЦК партыі большэвікоў Серго Орджанікідзе, які узначальвае ўсе аперацыі.

— Ну, цяпер мне будзе што рабіць...—узрадваны сказаў Гогіберыдзе.

Апаўдні прышоў яшчэ эшалон. На гэты раз прыбылі сапёры. Пасля паціху падышлі адзін за другім два бронепаязды і спыніліся за станцыяй. Войскі прыбывалі ўсю ноч і раніцой разнесліся чуткі, што Серго Орджанікідзе і штаб ужо тут, і што неўзабаве пачнуцца работы. Гогіберыдзе пайшоў глянуць на мост, Андрэй Міхайлавіч застаўся на станцыі. Ён прысеў на лаўку ля паркану, бо страшэнна разбалелася галава. Міма пранеслася дрэзіна з ваеннымі. Усюды поўна было народу, стаяў незмаўкаемы гоман, грукалі колы павозак і артылерыі. Недзе за станцыяй выгружаліся войскі.

Гогіберыдзе прышоў вельмі заклапочаны.

— Няўдача!—сказаў ён.—Орджанікідзе толькі што аглядаў мост і паехаў назад на дрэзіне. Прыдзецца цяпер ісці да яго ў вагон, можа яшчэ будзе заняты, не прыме. Вагон, кажуць, недзе за станцыяй. Шкада, я мог-бы з ім там, на мосце, пагаварыць... А мост раскідалі такі, як мае быць!.. Узарваць то яны, аказваецца, умеюць!

Андрэй Міхайлавіч застаўся на лаўцы. Гогіберыдзе пайшоў. Воддалі ад станцыі, мінуўшы бронепаязды, ён убачыў на тым-жа запасным шляху, некалькі пасажырскіх вагонаў. Ён пайшоў туды. Падыходзячы, убачыў вартавога ля аднаго з вагонаў і двух чалавек, што прахаджваліся ля састава, аб нечым гутарачы між сабой. Вартавы здалёку зрабіў яму знак, каб ішоў проста да яго. Калі Гогіберыдзе падышоў і сказаў яму, хто патрэбны, вартавы паказаў на людзей, што ішлі па шпалах.

— Вунь, таварыш Орджанікідзе,—сказаў ён.—Калі па важнай справе, то можаце ісці, а не—дык пачакайце. Ён гутарыць з начальнікам штаба.

Гогіберыдзе сказаў, што можа і пачакаць. Ваенныя завярнуліся і ішлі назад. Апрануты яны былі ў даўгія шынялі, адзін з іх зняў шапку, і вецер раскідаў пышныя, цёмныя валасы.

— Каторы без шапкі—таварыш Орджанікідзе,—сказаў вартавы.

Гогіберыдзе чакаў, стоячы побач з чырвонаармейцам. Орджанікідзе ішоў, нахіліўшы галаву, адной рукой трымаўся за борт шынеля, у другой нёс фуражку. Начальнік штаба нешта даказваў яму, гэстамі ажыўлена падмацоўваючы свае словы. Калі яны

падышлі бліжэй, Орджанікідзе ўзняў галаву, убачыў незнаёмага побач з вартавым і нешта пацїху сказаў. Яны падышлі, Гогіберыдзе пакланіўся, назваў сваё прозвішча і сказаў, што высланы меншавікамі з Грузіі, што ён інжынер-маставік, і прапануе свае паслугі, калі яны патрэбны.

— За што яны вас выслалі?—спытаў Орджанікідзе.

— За тое, што мы з прыяцелем хавалі чалавека, які збег з-пад расстрэла. Ён быў большэвіком.

— Што яны, захапілі яго зноў?

— Не, таварыш Орджанікідзе...—адказаў інжынер.—Мы ўсё-ж такі яго выратавалі, яны пасля даведаліся.

Орджанікідзе раптам усміхнуўся вельмі вясёла. У кутках ля вачэй, азначыліся маршчынкі, і ад гэтага ягоныя вочы сталі надзвычай добрымі. Невялікія, чорныя вусікі ўздрыгнулі, верхняя губа смяшліва прыўзнялася і свежа бліснуў верхні рад белых, чыстых зубоў.

— А!—сказаў Орджанікідзе.—Дык усё-ж такі вы іх абгулялі, не яны вас!..

— Абгулялі, таварыш Орджанікідзе!—засмяяўся і інжынер, адчуваючы сябе добра і проста ў прысутнасці палкаводца, які нядаўна ўзяў Баку і цяпер вёў грозныя войскі на грузінскую контррэволюцыю.

— Што-ж датычыцца маіх ведаў і вопыту,—дадаў Гогіберыдзе,—то па думцы многіх, я не горшы за сваіх сабраццяў. Пятнаццаць год таму назад я скончыў з залатой медаллю інжынернае вучылішча ў Парыжы, пасля працаваў за мяжой і ў Расіі...

— Як вы думаеце, колькі часу патрэбна, каб аднавіць мост?—спытаў Орджанікідзе. І Гогіберыдзе заўважыў, што ён у гэтае-ж імгненне падумаў яшчэ аб нечым, і зноў звярнуўся да ранейшага, да размовы з ім.

— Я аглядаў мост,—адказаў Гогіберыдзе.—На маю думку, мінімум чатыры дні, максімум—шэсць. Пры вельмі інтэнсіўнай рабоце.

— Вось гэта лепш за ўсякую медаль,—сказаў Орджанікідзе.—Цяпер відаць, што вы сапраўды інжынер. А вы ведаеце, меншавікі разлічваюць на тое, што мы затрымаемся тут на сем-восем тыдняў...

— Мы іх можам прыемна здзівіць!..—адказваў інжынер.—Мы паставім мост за чатыры дні.

— Ідзіце да начальніка работ,—сказаў Орджанікідзе.—Мы яму паведамім. І працуйце! Памятайце, што мост—гэта ўсё!

Ён падаў руку.

— Да пабачэння... Жадаю поспехаў.

Адышоўшы, інжынер азірнуўся. Серго Орджанікідзе ўзнімаўся па прыступках у вагон.

— А з медаллю такі ён мяне падсмяяў...—усміхаючыся, падумаў Гогіберыдзе.—Пацягнула мяне за язык! Варта! Не хваліся ў другі раз медалямі!

Ён хутка пайшоў да станцыі. Ад гэтай хвіліны да той, калі першы бронепоезд узышоў на мост, Гогіберыдзе працаваў, не складаючы рук, не даючы сабе спачынку.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Калі атрад Курыдзе прыбыў на станцыю Пойла,—заканчваліся работы на мосце. Атрад пастроіўся і спешным маршам пайшоў да ракі. Блізка ля моста стаялі бронепаязды. Яны ўначы вышлі з-за станцыі і цяпер былі ў поўнай гатоўнасці. Жэрлы іх гармат грозна цямнелі, нацэленыя на той бераг. Узыходзіла сонца. На тым баку ракі грымелі гарматы. Меншавіцкая батарэя і іх бронепоезд, з-за гары абстрэльвалі мост і станцыю. Стралялі яны дрэнна: снарады батарэі ірваліся на камяністых берагах, паабапал мосту, і з бронепоезда—за станцыяй. Зрэдку ім адказвалі гарматы з гэтага берагу, і тады на нейкі час кананада сціхала. Тады пачыналі грукатаць кулямёты, гулка даносіліся вінтовачныя стрэлы. Бой яшчэ не пачынаўся. Меншавікі, якія спачатку зусім агалілі Пойлінскі ўчастак, бо спадзяваліся, што мост будуць рамантаваць не менш двух месяцаў, цяпер, сцягнуўшы сюды сілы, стараліся прарвацца да берагоў Куры. Іх стрымлівалі кулямётным агнём і зрэдку біла па іх артылерыя. Асаблівага напору яны, аднак, не праяўлялі.

Атрад Курыдзе абмінуў бронепаязды. Першым стаяў „Шаумян—Джапарыдзе“. Ідучы міма, партызаны, якія ведалі расійскую мову, голасна прачыталі гэтыя блізкія цяпер і знаёмыя прозвішчы.

— Зноў я сустрэўся з другам сваім,—сказаў усхваляваны Курыдзе, паказваючы Кверкведія на бронепоезд.—Ён памёр, але жыве ягонае імя, і сам я з гэтым імем іду на бой. Дык пакажам-жа сёння, Тэрыэл, нашым ворагам і сілу нашу і адвагу...

Прайшоўшы яшчэ некалькі, яны сышлі з насыпу, Курыдзе скамандваў рассыпацца і іх павёў чырвоны камандзір некуды налева, паўз бераг. Неўзабаве яны заляглі ў неглыбокім, наспех выкапаным, акопе. Па правы і левы бок ад іх ляжалі чырвонаармейцы, Курыдзе агляну́ў сваіх. Побач быў Тарыэл Кверкведія, за ім ляжаў Міхаіл Ганарджыя, Оція, стары Мітрафан Бокучава, Міха Коркія і ўсе астатнія. Яны аглядалі незнаёмыя горы, якія ўжо акрываліся першай светлай зелянінай, прыслухоўваліся да кананады, перагаварваліся між сабой, ажыўленыя і ўстрывожаныя.

У гэты час узышло сонца. Горы і зеляніна на іх прасвятлелі. Вецер зганяў апошнія абрыўкі туманоў. Халодная раса блішчэла на каменнях і кустах. Недзе высока ў небе звінеў самалёт. Варожая батарэя за гарой біла, не сціхаючы, снарады пачалі ірвацца недалёка ад акопаў. Агонь першай батарэі падтрымалі бронепоезд, яшчэ адна, якая была за гарой, недалёка ад яго і трэцяя, далёка злева. Чырвонаармейцы і партызаны шчыльней прыляглі да зямлі. Снарады са звонам і гулам праносіліся над імі. Узлятала ўгору зямля, ашчэпкі каменняў, недзе застагнаў ранены. Тады загрымела артылерыя з гэтага берагу. Аглушаючы ўсіх, ударылі гарматы „Шаумяна—Джапарыдзе“ і ўсе ўбачылі, як рушыў з месца бронепоезд і пайшоў уніз да моста.

— Серго... Серго Орджанікідзе... —пранеслася ў ланцугу чырвонаармейцаў.

Курыдзе азірнуўся. На ўзгорку, узбоч насыпу, стаяла група ваенных. Наперадзе іх быў чалавек у даўгім шынялі. Ён глядзеў у бінокль на той бераг. Вецер адкідаў полы ягонага шынелю, з-пад фуражкі кідаліся цёмныя валасы.

— Вось ён, Серго!—падумаў Курыдзе і ўбачыў, як Орджанікідзе зрабіў рукой гэст. Ён зразумеў, што гэта азначае, і зараз-жа ўчуў каманду. Яшчэ раз грымнулі гарматы „Шаумяна—Джапарыдзе". Бронепоезд узышоў на мост. Следам за ім рушыў другі—„Гром".

Курыдзе і партызаны ўсталі з суровымі, прасветленымі тварамі. Грузія, радзіма была перад імі за гэтымі ўзгор'ямі. Яна клікала сваіх сыноў, у цяжкую гадзіну барацьбы, амытая крывёй, ахопленая пажарамі... Надышоў час...

* * *

Уначы з 11-га на 12-е лютага 1921 года пачалося паўстанне ў Борчалінскім павеце. Праз пяць дзён, 16-га лютага комуністычная партыя Грузіі арганізавала ў гор. Шулаверы, таго-ж Борчалінскага павету Рэволюцыйны камітэт. Праз некалькі дзён паўстанне ахапіла гарады і сёлы Грузіі, войска меншавікоў цэлымі палкамі аддавалася ў палон і толькі аплот меншавіцкі—народна-гвардзейцы, люта абаранялі подступы да Тбілісі.

Горача сустракаемая насельніцтвам гарадоў і вёсак, ішла на дапамогу Чырвоная армія. У Тбілісі, на вакзале, сядзела на чамаданах уцякаючая буржуазія. Грымелі гарматы на Каджарскіх вышынях. Уціхлі дэманстрацыі хуліганствуючых „патрыётаў". Яны цяпер лезлі ў цягнікі, душачы адзін другога, стараючыся вывезці нарабаванае. Апошні цягнік з уцякаючымі адышоў пад раніцу 25 лютага. Пасля яго ў пpасторных залах Тбіліскага вакзала засталіся горы ўсемагчымых рэчаў, якія не змаглі захапіць з сабой уцякачыя паразіты. Ужо не было ім часу. На світанні перадавыя атрады Чырвонай арміі занялі апошнюю станцыю перад Тбілісі,—Наўтлуг. Ужо там іх сустрэлі першыя дэлегацыі рабочых з чырвонымі сцягамі. Больш Тбілісі ніхто не абараняў. Народна-гвардзейцы спешна адыходзілі на Батумі. Туды-ж імчалі гружаныя буржуазіяй і яе скарбам цягнікі. З гэтым збродам і нават крыху наперадзе, уцякаў Ной Жорданія і ягоныя зброяносцы, што ў пару пакінулі палубу „Каўчэга". На іх у Батумі чакала больш надзейнае судна,—італьянскі крэйсер, на якім яны ў спешным парадку і адбылі з Грузіі.

25 лютага 1921 года Чырвоная армія ўвайшла ў Тбілісі. Першыя атрады рухаліся па вуліцах, акружаныя радасным натоўпам. Людзі знімалі з плячэй чырвонаармейцаў паходныя мяшкі і беражліва неслі іх на руках. Гралі аркестры, развіналіся чырвоныя сцягі. Людзі спявалі, плакалі, абнімаліся, віншуючы адзін аднаго, крычалі „ура" і „вашá". Гэта быў радасны дзень. У гэты дзень вышаў з

Метэхскага замка Эліа Бокучава, у гэты дзень Вісарыён Коркія сустрэўся з Тарыэлам Кверквелія, а ўзрадаваная цётка Елена ўбачыла зноў Андрэя Міхайлавіча і Гогіберыдзе. Гэта быў радасны дзень для шмат каго з герояў гэтай хронікі і для ўсяго працоўнага народа Грузіі.

Радасць многіх тысяч людзей, біццё іх усхваляваных сэрцаў, бязмежнае лікаванне народа, узрушаючае і неабдымнае выразіліся ў словах тэлеграмы Серго Орджанікідзе, якая ўжо імчала на правадах у Маскву, у Крэмль:

„Лунае над Тыфлісам чырвоны сцяг савецкай улады. Няхай жыве Савецкая Грузія!“

*Канец першай кнігі.*

Ліпень 1936 г.—Люты 1938 г. Менск.

---

*Г. Няхай*

# ХУТКА НАВАЛЬНІЦА

Прагна коні п'юць ваду з крыніцы,
Звонкае разбіўшы шкло вады.
Хутка жнівеньская навальніца
Асвяжыць зялёныя сады.

Вецер душны ўсхваляваў навокал
Лён густы, аўсы і ячмяні.
Гэта подыхі пустынь далёкіх,
Дзюн пясчаных цёплай Ферганы.

Шалясцяць даспеўшыя калоссі,
Ї грукоча навальнічны гром.
Гэта наша радасная восень
Прывітаць прышла калгасны дом.

А вазы, нагружаныя жытам,
Цяжкі скрып разносяць па шляху.
—Каласы сухія не пакрыты,
Пачакаў-бы гэты дождж крыху.

Вось гумно. Паніклі азяроды.
Цішынёй пшанічнаю нясе.
Прамінуць вясёлкі непагоды,
Сотні сонц рассыплецца ў расе.

Снежань, 1937.

*Г. Няхай*

## ПА СОНЕЧНЫХ УЗГОРКАХ, ПА ЯРАХ

Густыя травы шалясцяць паволі
Па сонечных узгорках, па ярах.
Нясе дзяўчына маладая полем
Букет вялікіх кветак у руках.

Навокала рамашкавым узлескам
Хвалююцца далёкія вятры.
Па блізкіх і далёкіх пералесках
Дзяўчыны стройнай песні паплылі.

Як гімн жыццю, вясноваю паводкай
Яны плывуць на стромкія бары.
Магутным маршам нашай пяцігодкі
З-за гаю ім уторацць трактары.

Як дзеўчына, што ў будучнасць панесла
Букет вялікі кветак у руках,
Мая вясна прайшла з сяброўскай песняй
Па сонечных узгорках, па ярах.

Лістапад, 1937.

*Я. Казека*

# АПАВЯДАННІ ЎСЕВАЛАДА КРАЎЧАНКІ

Апавяданні маладога празаіка Ўсевалада Краўчанкі, што за апошнія два-тры гады з'явіліся на старонках перыядычных выданняў, звярнулі на сябе ўвагу чытача і літаратурнай крытыкі. У іх малады аўтар апісвае жыццё калгаснай вёскі, яе людзей, побыт і псіхалогія якіх карэнна змяніліся пры калгасным ладзе. Пісьменнік бярэ актуальныя тэмы. Імкнецца адлюстраваць пачуцці і інтарэсы калгаснікаў, народжаныя новым шчаслівым жыццём.

Нядаўна вышаў яго невялікі зборнік апавяданняў „На крутым павароце". У зборніку пяць твораў. Не ўсе яны пакідаюць аднолькавае ўражанне, напісаны з аднолькавым стараннем і прадуманасцю.

Добра напісана апавяданне „На крутым павароце". Яно сведчыць аб значных здольнасцях аўтара. Вельмі цікавая тэма апавядання: пераход цыганоў ад вандроўнага жыцця на аселае, пачатак іх новага жыцця ў калгасе.

Многа рознастайных эпізодаў цяжкага вандроўнага жыцця і быту цыганоў апісаў Краўчанка. У цэнтры апавядання вобраз маладога цыгана Алека. Праўдзіва паказана перавыхаванне яго. Алек першы зразумеў нікчэмнасць вандроўнага жыцця, вырваўся з яго і вывеў за сабой астатніх цыганоў свайго племені. Краўчанка малюе жыццё Алека ад самага яго дзяцінства. Сямігадовым хлопчыкам Алек зарабляў грошы губным гармонікам, вадзіў з сабой маленькага чырвонага лашачка. Вырас ён у табары і быў хітрым, зладзеяватым, удалым. Табарнае жыццё не задавальняла Алека, бо прыходзілася кожны дзень „дрыжэць за яго". Алек часта думаў: „Няўжо так яно і павінна быць, як вялося спакон вякоў, як звязалі жыццё старыя цыганы бідайі? Няўжо нельга парваць гэтую пупавіну?" І толькі ў Чырвонай Арміі ён пераканаўся, што можна і патрэбна парваць з старым жыццём, пачаць жыць пановаму, па-чалавечаму. Алек асмеліўся пайсці ў Чырвоную армію, хаця бацька Франэк і пагражаў: „Беражыся чужых — зацкуюць цыгана". У арміі Алека прынялі за роўнага, па-сяброўску. З гэтага моманту і пачынаецца пералом у яго жыцці. Алеку, якому „звесці з хлява каня, зламаць замкі—пустая справа", давяраюць казарму, усе рэчы чырвонаармейцаў. І ён з гордасцю „адкрыў у сябе новага Алека, дружнага, добрага, які не мог браць чужога". Крок за крокам раскрывае аўтар рост свядомасці свайго героя. Алек вучыцца, становіцца

комсамольцам. Вярнуўшыся ў табар, ён расказвае цыганам аб новым жыцці, раіць бацьку і ўсім астатнім пакінуць вандраваць, асесці, навучыцца працаваць на зямлі. Бацька абуран пераменай Алека. Жадаючы зноў вярнуць яго да цыганскага жыцця, бацька робіць апошнюю спробу: хоча ўцягнуць яго ў злачынства, пайсці разам красці калгасных коней. Алек спакойна адказвае бацьку:

— Не пайду я з вамі красці. Многа цыганоў жыло і жыве, не краўшы.

Бацька праганяе Алека з табара. Канфлікт старога, несвядомага цыгана з сынам—самая дынамічная сцэна ў апавяданні.

У Алека пачынаецца новае жыццё: ён разам з каханай дзяўчынай Атай ідзе ў калгас. У калгасе ён не адразу сказаў, што коней украў яго бацька: сыноўняе пачуццё стрымлівала яго. Але грамадскі доўг, адданасць справе калгаса перамаглі гэта пачуццё. Алек не змог мірыцца з тым, што разам з ім у калгаснай сям'і жыве злачынца конюх Нічыпар, удзельнік кражы коней. Ён выкрывае яго, пры гэтым расказвае і пра свайго бацьку. Вобраз Алека добра акрэслены, запамінаецца.

Удаўся Ўсеваладу Краўчанку і вобраз старога Франэка, алекавага бацькі. З вялікімі цяжкасцямі і сумненнямі адбываўся круты паварот у свядомасці Франэка. Апавяданні сына аб шчаслівым жыцці для цыганоў у калгасе запалілі ў ім іскру нездаволенасці сваім бадзяжным лёсам, жаданне знайсці лепшае жыццё. Франэк не адразу вызваляецца ад векавой цыганскай звычкі. Ён крадзе трох лепшых коней у калгасе. І раней Франэк краў, але не задумваўся, а на гэты раз у ім загаварыла сумненне. Успомніўшы ўсё сваё пакутлівае жыццё, задумаўшыся над словамі сына, Франэк пераконваецца пад уплывам бачанага ў праўдзе гэтых слоў. Вось што гаворыць ён цыганам:

> — Браты! Доўга я думаў. Думаў. Разважаў. І парашыў: можа і разумны сын мой Алек, можа і праўду сказаў ён. А сказаў ён такое: „Кіньма вандраваць, тата. Зямлю навучымся абрабляць". Чаму?
>
> ... — Таму, што цыган роўнаправны цяпер, стаў чалавекам сярод людзей. Я ніколі не слухаў чужых парадаў, калі яны здаваліся мне дрэннымі. І Алека я не слухаў-бы. Але, браты, на гэты раз я паспрабую паслухаць сына. Гэтых трох коней я завяду туды, адкуль мы іх звялі. Нас не абсудзяць, калі прызнаемся ва ўсім. Паспрабуем мы жыць інакш".

Франэк і ўсе цыганы яго табара прыходзяць у калгас, пазнаюць радасць жыцця.

Другое апавяданне „Радасць" недаапрацавана. Эпізод з уяўным пісьмом, якім канчаецца твор, зусім непатрэбны. Аўтар вычарпаў увесь свой замысел, апісаўшы адлёт Міколы і радасць старой Хрысціны. Эпізод-жа з уяўным пісьмом не ўносіць ні адной новай рысы ні ў вобраз Хрысціны, ні ў вобраз лістаносца, хлопчыка Грышкі. Пэўна, аўтар жадаў пабудаваць свой твор па кампазіцыйнаму прынцыпу кальца: пачаць і закончыць яго эпізодамі атрымання пісьмаў. Але для гэтага трэба было, каб Хрысціна сапраўды

атрымала ліст. У Краўчанкі тут была ўдалая магчымасць: Грышка мог прынесці пісьмо, у якім Хрысціну віншавалі са слаўным сынам пілотам. Радасць маці была-б яшчэ большай, паўнейшай.

Пісьменнік абмалёўвае ранейшае і сучаснае жыццё сям'і Хрысціны ў плане кантраста. Чатыры яркія эпізоды: нараджэнне Міколкі ў полі на жніве, смерць Захара і пахаванне яго, смерць дзяцей, будаванне хаты ствараюць тыповую карціну цяжкага, гаротнага жыцця беднай сялянскай сям'і да рэвалюцыі. Сціслае апісанне гэтых эпізодаў дазволіла Ус. Краўчанку падняцца да мастацкага абагульнення. Надзвычайна рэалістычна паказана смерць Захара. Прывядзем гэту мясціну з апавядання, як узор добрага мастацкага апісання.

„Уначы Захар паехаў у панскі лес. Меркаваў украсці адну хваіну на хату. Усё-ж менш прышлося купляць. У лесе нікога не было. Скінуўшы світу, ён смела пачаў секчы высокую хвою. Хвоя доўга не хацела падаць, не хацела пакідаць жыццё. Але калі ўпала, то рашыла жыццё і Захару. Ён спатыкнуўся, упаў і не паспеў адскочыць убок, як цяжкі камель хваіны падабраў яго. Ён напружваў астаткі сіл, каб вылезці з-пад дрэва, але не мог нават узняць рукі. Спрабаваў клікаць на дапамогу, але з грудзей вылятаў адзін крык. У лесе было ціха і па-асенняму холадна. Стромкія хвоі ўзнімалі свае вяршыні над лесам, нібы яны сябравалі з Вялікай Мядзведзіцай. У прагале паміж дрэў Захар бачыў толькі тры зоркі, але хутка яны патухлі“.

Мы адчуваем, бачым, што не адна толькі хвоя сваім камлём прыдушыла Захара. Яго прыдушыў, падабраў пад сябе цяжар пакутлівага жыцця і эксплаатацыі.

Усевалад Краўчанка знайшоў светлыя фарбы, каб намаляваць карціну цяперашняга шчаслівага жыцця Хрысціны і яе сына. Простыя, маленькія эпізоды і дэталі ўсё шырэй і шырэй разгортваюць гэту карціну. Вось Хрысціна атрымоўвае ад сына пісьмо, у якім сын абяцае прыляцець на самалёце ў госці. Яна вельмі ўсцешана, рыхтуецца да сустрэчы. Але не толькі адна Хрысціна чакае сына. Увесь калгас рыхтуецца дастойна сустрэць свайго земляка. Цесляры спяшаюцца дабудаваць Хрысціне новую, чыстую хату. Суседкі прыносяць пачастункі госцю. Усе раяцца з Хрысцінай, дапамагаюць ёй. Сустракаць Міколку вышлі і старыя, і малыя. І радасці жанчыны няма берагоў. Усевалад Краўчанка, на гэтых прыкладах паказаў сталінскія клопаты аб чалавеку, паказаў як вырасла Хрысціна, у мінулым забітая, бяспраўная жанчына.

Астатнія апавяданні зборніка напісаны слабей.

Асобна трэба спыніцца на апавяданні „Крывая сцежка“, якое напісана пазней за апавяданне „На крутым павароце“. Гэты твор— няўдача Усевалода Краўчанкі. Малады пісьменнік бярэ вельмі складаную праблему: будаванне сям'і, станаўленне савецкай маралі ў калгаснай вёсцы. Але гэту праблему ён не здолеў правільна паставіць і вырашыць. Неглыбокае, павярхоўнае веданне паасобных бакоў жыцця, узаемаадносін савецкай моладзі прывяло да скажо-

нага, фальшывага паказу калгаснай моладзі і росту новай маралі. У гэтым лёгка пераканацца пры аналізе зместу апавядання.

Рамантычны юнак, комсамолец, лепшы трактарыст МТС Сяргей Новак выведзен пісьменнікам як звычайны пашляк. Сяргей пакахаў шчырую і даверлівую дзяўчыну Ніну. „Ты мая, мая“,—шаптаў ён у забыцці. У Ніны павінна нарадзіцца дзіця. Але раптам Сяргей парывае з ёй, перастае кахаць. У чым-жа прычына гэтага разрыву? Бачыце... Яму ўспамянулі аб жаніцьбе, аб адказнасці за блізасць з дзяўчынай. Сам ён раней не задумаўся аб гэтым.

„Каханне да Ніны, ачорненае гэтымі практычнымі думкамі цяпер не мела ранейшай свежасці і губляла сваю пачатковую прыгажосць“,—піша аўтар. Ён няправільна трактуе праблему кахання. Жадаў ці не жадаў Краўчанка, але атрымалася ў яго апавяданні, што совецкая моладзь, быццам-бы, не можа шчыра, па-сапраўднаму пакахаць, будаваць моцную, разумную сям'ю.

Далейшыя паводзіны Сяргея ўсё больш акрэсліваюць яго як пашляка. Разлюбіўшы Ніну, не маючы да яе больш горнасці, не жадаючы сустрэчы, Сяргей піша такое „любоўнае“ пасланне:

„Ніна! Вельмі прашу выбачэння, але сёння прысці не магу. Мне не павязло—сапсаваўся трактар і сёння я буду дапамагаць у рамонце. Цалую. Твой Сяргей“.

Праз некалькі дзён ён усё-ж ідзе да Ніны, каб „унесці яснасць у іх адносіны“, як кажа аўтар. Не адчуваючы ніякай маральнай адказнасці, з спакойным сумленнем ён пакідае цяжарную дзяўчыну. Яго толькі непакоіць, што скажуць пра гэта сябры. Вось якая гутарка адбываецца паміж Сяргеем і яго лепшым другам Ляксеем:

— А як яна будзе?

— Хто яна?

— Ніна. Ты-ж з ёю жыў?

— А што там мне? Хай як хоча.

Тое-ж самае гаворыць Сяргей і дырэктару МТС:

— Ты што-ж гэта, Сяргей. А?—спытаў Нікалай Пятровіч.

— Што такое?

— Дзяўчыну зманіў нашто. Як гэта ты так кінуў яе?

— Ды так,.. Яна сама... Я-ж вам казаў, што не збіраўся на ёй жаніцца. Мала што: кінуў, ну і кінуў.

Хіба-ж можа так развазаць комсамолец, лепшы прадстаўнік калгаснай моладзі? Ніколі. Сяргея пакідаюць сябры і ён застаецца адзін. Краўчанка нават спачувае Сяргею ў яго пакутах пакінутага чалавека. А вобраз Сяргея павінен выклікаць агіду. Праўда, у канцы апавядання пісьменнік прыводзіць Сяргея да Ніны прыніжанага, з пакаяннем. Але-ж у гэта цяжка паверыць.

Меладраматычная лінія кахання Сяргея пераплятаецца з яшчэ адной сюжэтнай лініяй: соцспаборніцтвам Сяргея з лепшым трактарыстам Дрыбінскай МТС Боркіным.

Няведанне паасобных момантаў жыцця сучаснай вёскі, няўменне глыбока зразумець пачуццё чалавека і абумовілі творчыя памылкі ў апавяданні „Крывая сцежка“. Тут Краўчанка бездапаможны ў стварэнні вобраза. Спачатку ён піша рамантычны вобраз Сяргея:

„Гэта быў рамантычны юнак. Ледзь на золак ён выводзіў свой дванаццацісільны інтэр, станавіўся на край поля і выпрастаўшыся на ўвесь рост, аглядаў поглядам пачарнелае сырое поле“. Так пачынаецца апавяданне. Сяргей у рамантычным захапленні ўсклікаў: „Поле, поле!“—Вечарам ён з гармонікам блукаў па вёсцы, іграў „Забайкальскую“ ці „Пракаці мяне Пецька на трактары“. Песні любіў сумныя, кранаючыя павольнай, мінорнай мелодыяй. За рулём складаў вершы, у якіх гучэў „той самы, незразумелы сум“. Але хутка пісьменнік, не задумваючыся, разбурае створаны ўжо рамантычны вобраз, піша вобраз Сяргея пашляка. І невядома, каго хацеў паказаць аўтар: ці рамантычнага юнака, ці звычайнага пашляка. Такія дзве супроцьлеглыя якасці не могуць сумясціцца, ужыцца ў адным чалавеку.

Толькі адзін вобраз Ніны больш-менш акрэслены ў апавяданні. Ашуканая і пакінутая Сяргеям, Ніна знайшла сваё шчасце ў сыне. Яна верыць у жыццё, верыць у свае сілы.

У апавяданні „Прыкрае здарэнне“ паказан соцыяльны канфлікт паміж двумя братамі—Тамашом і Цімохам. У часы калектывізацыі іх шляхі разышліся. Тамаш стаў калгаснікам, а Цімох „крута рвануўся ўбок ад калгаса, на хутар, у прымы да заможніцы Юстыны“. Праз доўгі час браты сустракаюцца. Тамаш стаў заможным. У яго свірне поўна дабра і ён хоча паказаць брату цуда—радыё, сынаў падарунак. А Цімох застаўся такім-жа. Няўжо новае жыццё нічому не навучыла яго? Ён ад‘язджае ад Тамаша нездаволеным, не паверыўшы ў шчаслівае жыццё брата, як думае пісьменнік. Усё гэта атрымалася праз адно прыкрае здарэнне: дзеці адкруцілі гайку ў радыёпрыёмніку і Цімох не пачуў музыкі. Вельмі наіўна ўяўляе пісьменнік соцыяльныя ўзаемаадносіны на вёсцы.

Усевалад Краўчанка недастаткова працуе над сваімі творамі. У вочы кідаецца безуважнасць у адборы слоўнага матэрыяла. На старонках кнігі можна сустрэць такія „аздобы“ як „прашкандыбаў“, дождж „смыча“, „пацягаемся на трактарах“. (гэта азначае выклік на соцспаборніцтва), „эмтээсаўская чыталка“ (чаму не чытальня?) і шмат іншых. Ці не пара адкінуць гэту слоўную пацяруху? Часта сустракаюцца сказы, пабудаваныя стылістычна няправільна, непрадумана. У апавяданні „Крывая сцежка“ пісьменнік піша: „Расшпіліўшы рубаху, Боркін застаўся ў адных трусах і майцы, чорныя палосы якой ішлі папярок яго шырокіх грудзей“. Боркін-жа толькі расшпіліў рубаху, а не здзяваў яе. Нават у лепшым апавяданні зборніка „На крутым павароце“ трапляюцца неахайныя сказы, як „Мяшка-б успяў на галаву, дождж на дварэ сячэ“, або „Але скоро лашачка бацька, стары Франэк, прадаў і застаўся ў Алека толькі гармонік, губны, маленькі“. І невядомы чый жа Франэк бацька: Алека ці лашачка?

Творчасць кожнага маладога пісьменніка патрабуе асабліва сур‘ёзнай дапамогі. Ад гэтага ў значнай меры залежыць яго далейшы творчы рост. Крытычныя заўвагі, якія калі-ні-калі з‘яўляліся ў друку пра апавяданні Усевалада Краўчанкі, вельмі агульныя, не становяць канкрэтных творчых задач перад маладым аўтарам, часам нават не толькі не ўскрываюць істотных

недахопаў яго паасобных твораў, але заахвочваюць іх. Вось М. Клімковіч у артыкуле „Літаратура Совецкай Беларусі“ („Литературная учеба“ № 10—11, 1937) піша, што Ус. Краўчанка „з дастатковай паўнатой знае тое новае, што ўнёс калгасны лад у быт вёскі“, што ён „бачыць гэты быт, проста і бясхітрасна абмалёўвае яго“. Крытык нават раіць усім беларускім пісьменнікам ведаць жывое жыццё так, як ведае яго Ўсевалад Краўчанка. А якраз некаторыя апавяданні гэтага пісьменніка, як мы бачылі вышэй, носяць на сябе адзнаку павярхоўнага апісання, неглыбокага пранікнення ў сутнасць падзей, няўмення па-мастацку асэнсаваць і абагуліць апісваемыя з‘явы. Такое безапеляцыйнае сцверджанне крытыка можа толькі заспакоіць маладога пісьменніка, яно не садзейнічае яго вучобе, творчаму росту. У тым-жа артыкуле, ухіліўшыся ад канкрэтнага разгляду і ацэнкі, Клімковіч піша, што „У апавяданні „Крывая сцежка“ паказан рост новай маралі ў калгасе“. Дзе-ж там новая мараль? Наўрад ці патрэбна Краўчанку такая мядзвежая паслуга крытыкі?

Ус. Краўчанка здольны малады пісьменнік. Але яму яшчэ многа трэба вучыцца, вучыцца разумець жыццё ва ўсіх яго праявах, стала і ўдумліва працаваць над сваімі творамі.

# ХРОНІКА

**Указам прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, у сувязі з 40-годдзем літаратурнай дзейнасці, драматург Канстанцін Андрэевіч Трэнеў, за выдатныя заслугі ў развіцці савецкай драматургіі, узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцягу.**

## УДЗЕЛ ПІСЬМЕННІКАЎ У ВЫБАРЧАЙ КАМПАНІІ ПА ВЫБАРАХ У ВЯРХОЎНЫ СОВЕТ БССР.

Праўленне ССПБ арганізавала шэраг выступленняў савецкіх паэтаў і пісьменнікаў на выбарчых участках гор. Менска. На шматлюдных мітынгах выступілі пісьменнікі і паэты: Якуб Колас, Кандрат Крапіва, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, А. Александровіч, А. Кучар, М. Хведаровіч, Шапавалаў, Аксельрод, Камянецкі і інш., якія чыталі вершы, прысвечаныя таварышам Сталіну, Варашылаву, Молатаву, Ежову.

Акрамя гэтага, праўленне ССПБ камандыравала ўсіх пісьменнікаў па раёнах БССР для напісання біяграфічных нарысаў аб кандыдатах у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР.

## ВЕЧАР, ПРЫСВЕЧАНЫ „СЛОВУ АБ ПАЛКУ ІГАРАВЫМ“

31 мая Саюз савецкіх пісьменнікаў БССР і Акадэмія навук арганізавалі сумесны вечар, прысвечаны 750-годдзю з дня з'яўлення паэмы „Слова аб палку Ігаравым“.

З вялікім дакладам аб паэме „Слова аб палку Ігаравым“ выступіў прафесар М. Дабрынін.

З чыткай паэмы „Слова аб палку Ігаравым,“ у перакладзе народнага паэта БССР Янкі Купалы, выступілі тав. П. Броўка і Э. Агняцвет.

## ЗБОР ТВОРАЎ РОМЭН РОЛАНА

Ленінградскае аддзяленне Дзяржлітвыдата выпусціла 20 тамоў твораў Ромэна Ролана. Зараз збор твораў пісьменніка дапаўняецца падрыхтаваным да друку 21 томам, у які ўвойдуць палітычныя артыкулы Ролана. Намечаны таксама выпуск 22 тома. У яго ўвойдуць выбраныя пісьмы Ролана.

## АРХІЎ ФУРМАНАВА

Інстытут сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага пачаў навуковую распрацоўку 80 тысяч аркушаў рукапісаў літаратурнай спадчыны Фурманава.

У архіве маюцца дзіцячыя сшыткі з вершамі, якія адносяцца да 1903 года, пачатку літаратурнай работы пісьменніка. З 1910 года Фурманаў пераходзіць да прозы, запісвае свае ўражанні аб прачытаных кнігах, сустрэчах, асабістых перажываннях. Вялікую цікавасць прадстаўляюць дзённікі, якія ён вёў да апошніх дзён свайго жыцця.

Захаваўся і неапублікаваны твор Фурманава „Луша“. Вялікую цікавасць маюць паметкі Фурманава на пратаколах паседжанняў РАПП і ВААП, якія паказваюць барацьбу пісьменніка з трацкістамі-авербахаўцамі.

Усе гэтыя матэрыялы ў бліжэйшы час будуць выданы асобнай кнігай.

## КНІГА АБ Н. С. ЛЕСКОВЕ

Сын пісьменніка Н. С. Лескова, які жыве ў Ленінградзе—А. Н. Лескоў закончыў вялікую работу, прысвечаную жыццю і творчасці свайго бацькі. Аўтар выкарыстаў з вычарпальнай паўнатою перапіску Лескова, сямейныя дакументы і шэраг невядомых і неапублікаваных матэрыялаў.

Незадоўга да смерці А. М. Горкі азнаёміўся з першымі раздзеламі гэтай працы і даў ёй высокую ацэнку ў адным з сваіх пісем.

## НОВЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ АБ ПАЭЦЕ ФАФАНАВЕ

Дзяржаўны літаратурны музей набыў вельмі каштоўны архіў паэта К. М. Фафанава.

Наша крытыка да гэтата часу адносіла Фафанава да лірычных паэтаў, лічачы, што творчасць яго абмяжоўвалася толькі сугуба лірычнымі перажываннямі.

У набытым-жа архіве знойдзена да 300 неапублікаваных вершаў паэта, з якіх большасць рэволюцыйнага зместу. У іх аўтар выступае, як паэт некрасаўскага кірунку, ён апявае грамадскія пачуцці і заклікае да барацьбы. Знойдзен таксама вершаваныя эпіграмы на Плеве, Віттэ, Александра III.

Асаблівую цікавасць набывае невядомая да гэтага часу рэволюцыйная драма Фафанава „Железное время". Драма прысвечана рабочым стачкам 1905 года і была забаронена царскай цэнзурай.

Дзяржлітмузей прыступіў ужо да апрацоўкі архіва Фафанава. Усяго ў архіве маецца 5400 вершаў, 24 паэмы, 86 апавяданняў, 28 драм і да 1100 пісем.

## ЗНОЙДЗЕН РУКАПІС М. Ф. АХУНДАВА.

Інстытутам гісторыі, мовы і літаратуры знойдзены вялікі рукапіс (400 старонак) рамана на азербайджанскай мове, які напісаны рукой М. Ф. Ахундава.

Умоўная назва рамана—„Жан Блан альбо маленькі скрыпач". Раман напісан у духу твораў французскіх дэмакратычных пісьменнікаў 50—60-х гадоў мінулага стагоддзя.

## РУСКАЯ ЛІТАРАТУРА НА УДМУРТСКАЙ МОВЕ

Удмурцкі Дзяжлітвыдат і Саюз совецкіх пісьменнікаў падрыхтавалі да друку лепшыя творы рускай мастацкаії літаратуры.

На удмурцкую мову перакладзены казкі А. С. Пушкіна, „Муму" І. С. Тургенева, „Старуха Ізергіль" М. Горкага, „Паднятая цаліна" Шолахава, „Чапаеў" Фурманава, „Народжаныя бурай" Н. Остроўскага і п'еса „Любоў Яравая" Трэнева.

## КНІГІ СОВЕЦКІХ АЎТАРАЎ ЗА ГРАНІЦАЙ

Па дагаварах з літаратурным агенцтвам пры „Міжнароднай кнізе" заграні́чныя выдавецтвы выпускаюць рад новых выданняў твораў совецкіх аўтараў.

У Празе выходзіць раман А. Талстога „Хлеб", аповесць В. Катаева „Белеет парус одинокий", у Лонданскім выдавецтве „Рут-лэдж" раманы Первенцава „Качубей" і Панфёрава „Творчасць" (апошні выдаецца таксама ў Празе). У Парыжы выйдуць раманы Паўленка „На Усходзе" і „Педагагічная паэма" Макарэнка. Лонданскае выдавецтва „Барыс-вуд" і „Кассель" выпускаюць раманы Тынянава „Смерць Вазір Мухтара" і Каверына „Спаўненне жаданняў". Гэты раман нядаўна вышаў у Нью-Іорку.

## КАНФЕРЭНЦЫЯ МАЛАДЫХ ПІСЬМЕННІКАЎ

У Доме пісьменніка Арменіі адбылася скліканая Саюзам совецкіх пісьменнікаў і ЦК ЛКСМА першая рэспубліканская канферэнцыя маладых пісьменнікаў.

З дакладам аб творчасці маладых пісьменнікаў выступіў О. Мелікян.

Сакратар ЦК ЛКСМА тав. С. Мікаелян выступіў з дакладам аб комсамоле і задачах маладых пісьменнікаў.

Дакладчыкі ўказалі на зусім нездавальняючае кіраўніцтва маладымі літаратурнымі кадрамі. Ні саюз совецкіх пісьменнікаў, ні ЦК ЛКСМА сур'ёзна не займаліся літаратурнай моладзю.

Выступаўшыя ў спрэчках прыводзілі многа фактаў, якія сведчаць, што саюз пісьменнікаў па-бюракратычнаму аднёсся да літаратурнай моладзі, не лічыў патрэбным нават адказваць на пісьмы, якія атрымліваў з раёнаў.

У работах канферэнцыі прынялі ўдзел сакратар ЦК КП(б)А тав. А. Аруцюнян і намеснік старшыні Вярхоўнага Совета СССР, вык. абавяз. старшыні ЦВК Армянскай ССР тав. М. Папян.

На нарадзе прысутнічыла звыш 80 маладых пісьменнікаў.

## КЛІЧ У ГАРАХ

У выданні грузінскага выдавецтва „Федэрацыя" выйшаў у свет раман пісьменніка І. Ансашвілі „Кліч у гарах". Адначасова выйшла яго аповесць „Сонца Калхіды".

## ЗБОРНІК ЛІРЫЧНЫХ ВЕРШАЎ

Абхазскае Дзяржаўнае выдавецтва выпусціла зборнік вершаў на абхазскай мове маладога паэта Баграта Шынкуба—„Першыя крокі".

У бліжэйшыя дні выходзіць з друку зборнік апавяданняў пісьменніка Н. Мікава—„Макона".

## ТВОРЫ УКРАІНСКІХ ПАЭТАЎ

Дзяржлітвыдат УССР выдаў наступныя кніжкі совецкіх паэтаў Украіны.

**„Астап Горбань"**—новая паэма харкаўскага пісьменніка Ігара Муратава. Тэма твору—грамадзянская вайна на Украіне.

**„Ва ўсеўзброенні"** — зборнік новых паэзій Марка Зісмана. Зборнік мае тры раздзелы. У трэцім змешчаны пераклады паэзіі Гусева, Міхалкова, Фефера, Вейнерта, Гупперта.

**„Радзіма"** зборнік новых паэзій Паўла Беспашчаднага. Зборнік цалкам прысвечаны індустрыяльнай тэматыцы і жыццю працоўных вугальнага і металургічнага Данбаса.

## ПАЭЗІЯ ГЕРАІЧНАЙ ІСПАНІІ

Дзяржлітвыдат (Масква) выдаў новую кніжку—„Рамансера аб грамадзянскай вайне", якая складзёна вядомым рэволюцыйным паэтам Рафаэлем Альберці.

У „Рамансера" сабраны найлепшыя творы сучасных іспанскіх паэтаў Рафаэля Альберці, Радаэля, Фелікс В., Рамоса Хосе Ерэра Петэра, Артурс Серанно Пляхо, Мануеля Альтолягірэ, Хуана Парэдэса і інш. Гэтыя творы, прысвечаныя барацьбе іспанскага народа з фашысцкай інтэрвенцыяй за сваю незалежнасць.

## „ТРАГІКАМІЧНЫЯ НАВЕЛЫ"

У Дзяржлітвыдаце (Масква) выйшлі з друку трагікамічныя навелы французскага пісьменніка-рэаліста першай паловы XVII стагоддзя Поля Скаррона.

У зборніку змешчаны: уступны артыкул В. Блюменфельда—Поль Скарон; навелы: „Марная перасцярога", „Ліцамеры", „Нявіннае пралюбадзейства", „Больш справы, ніж слоў" і „Пакараная скупасць".

Пераклады зроблены А. Болдыровым і К. Ксанінай.

---

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ*.
РЭДКАЛЕГІЯ: *М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў, К. Чорны*.
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Совецкая, 68. Дом Пісьменніка. Тэл. 22-792.**

## ЗМЕСТ


*Стар.*

**Радасць беларускага народа** . . . . . . . . . . 3
**Радзіме і правадыру** *(вершы)* . . . . . . . . . 15
**К. Чорны**—Базылевічава сям'я *(драма ў адной дзеі)* . . . . . 27
**І. Гурскі**—На варце *(сцэна ў адной дзеі)*. . . . . . . . 36
**М. Клімковіч**—Ноч перад выбарамі *(п'еса ў адным акце)* . . . 49
**Н. Ільінскі**—Нашы старыя *(камедыя ў адной дзеі)* . . . . . 60
**В. Глазырын**—Выбары гарадскога галавы *(апавяданне)* . . . . 69
**А. Жаўрук**—Насустрач дню *(верш)* . . . . . . . . 76
**Э. Самуйлёнак**—Будучыня *(раман. Канец)* . . . . . . 79
**Г. Няхай**—Хутка навальніца *(верш)* . . . . . . . . 164
**Г. Няхай**—Па сонечных узгорках, па ярах *(верш)* . . . . . 165
**Я. Казека.**—Апавяданні Ус. Краўчанкі *(артыкул)* . . . . . 166
**Хроніка**. . . . . . . . . . . . . . 172


---




